ФЁДАР
ЯНКОЎСКІ

# І ЗА ГАРОЮ ПАКЛАНЮСЯ



# ФЁДАР ЯНКОЎСКІ

# *І ЗА ГАРОЮ ПАКЛАНЮСЯ*

*АПАВЯДАННІ, АБРАЗКІ, НАРЫСЫ*



МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1982

I

*Адно яно — полымя,*
*а другое — полымца.*
*Адно яно — спапялўе,*
*а другое — памілўе.*

З ананімнай паэмы «Бяда».
Глускі раён, вёска Клетнае

## ПЕРАД БАЦЬКАВЫМ ПОЛЫМЕМ

Студзень. Ад Глуска да роднага Клетнага сям'ёю ехалі на простых санях. Не на вазку́: вазкі, шкадую, звяліся на Глушчыне. І не на санях-лагожах, на якіх можна ўлегчыся тром-чатыром чалавекам у кажухах ды яшчэ абхінуўшыся сівымі доўгімі, з тоўстага саматканага сукна світамі, што хавалі ад ветру і ад дажджу,— бу́ркамі. Лагожы таксама зніклі. На ўсё свой час. Сёння — аўтобусы, легкавікі, якіх на Глушчыне стала ці не столькі, як было некалі, год шэсцьдзесят таму назад, валоў, на якіх аралі, вазілі вазы, усё рабілі. Дый не першы раз пасля вайны я ехаў на простых санях, на якіх накладзены дзве дошчачкі, тонкія і вузкія, падкінута салома, але не так і не столькі, каб мякка было ехаць, а толькі б не праваліцца між вязоў; ды, мабыць, той, хто едзе на санях, пільнуецца даўняга — баіцца добраю бояззю вока людскога: ехаць на голых санях сорам, убачаць людзі — не змоўчаць.

Перsucceeded

Пераступілі, трое нас, бацькаў парог. Прайшлі сені. Насустрач ніхто не выйшаў. Ніхто не азваўся.

Я расчыніў дзверы ў хату — нікога. Толькі зіхнула ў вочы, у твар печ. Яна глядзела на хату, на нас

яшчэ не густым, але ўжо гатовым полымем, глядзела, міргала, свяціла сваім непаўторным няўрымслівым каляровым рухам; бязладна і прыгожа спяшаліся адзін перад адным языкі полымя.

Толькі ж трывогі, бачу, не трэба: па́ліцца ў печы — то мама блізка, дзесьці выйшла ці, кажа яна, «выбегла з хаты на хвілінку-часінку».

У печы палалі дровы. Полымя — чыстае і зыркае.

Я пазнаю́... Чатыры гады, як няма бацькі, а мама паліць у печы і сёння «не сваімі, а *Яго* дрывамі». Улетку, вясною і ўвосень паліць прыкупленымі, а зімою — Яго. На селішчы нашым — пад павеццю, у падстрэшшах, паўз сцяну аж пад самы вільчык — заўсёды ляжалі нарыхтаваныя не на адну зіму, напілаваныя як пад мерку, коланыя, а не... шчапаныя дровы. Складзеныя ў сцірты, або, кажуць інакш, у кастры́ (назву касцёр, ведаю, любяць і берагуць на Міншчыне, дзе Узда, Каменка, іншыя суседнія мястэчкі, вёскі). Былі дровы, як было абавязкова, хоць і з вузкіх загонаў, у свірне-свіронку ці ў клеці запасу *самога* хлеба. Гаспадарны бацька ніколі не забываў народнага і патрэбнага: запас бяды не чыніць.

Стоячы, як прыварожаны, не распрануўшыся, толькі зняўшы шапку, я глядзеў на дружнае полымя. Багата разоў бачанае? Незлічона разоў разгледжанае? Не так і шмат разоў. Гадаваліся, жылі вялікаю сям'ёю, і ўсе былі занятыя і занятыя, не марудзілі, не мелі дрымоты пры полымі, што палыхала ў печы ці на камінку; не марудзілі і не драмалі пры полымі, як і за сталом, як і на сенаванні, на жніве, як і на малацьбе, на пашы-пастве, як і з кніжкамі.

Я глядзеў і не мог адвесці вачэй ад печы, ад полымя. Языкі падхопліваліся ўсё адно як у нейкім прыгожым танцы. Спяшаліся, нібы ў самай неадкладнай працы, нібы рупліва папраўлялі, і падганялі, і абганялі адзін аднаго, быццам рабілі тое, што трэба зрабіць, ані не адкладаючы.

Гарэлі ў печы добрыя сухія дровы.

Я паспеў ужо не адзін год пажыць не дома. Вучыўся, настаўнічаў, дзве вайны перажыў, знёс клопатаў і трывог, голаду і холаду, меў назаўсёды не адну страту, перажыў жахлівыя трагедыі. Вайна забрала і маіх крэўных.

Пяты год няма бацькі. Гляджу на полымя ў бацькавай хаце. Яно добра грэла і саграваля, цешыла і лашчыла, падказвала і падварушвала, непакоіла ўсю вялікую сям'ю і кожнага ў сям'і.

Шугае полымя, свеціць, грэе. Спяшаецца і руплíва прыспешвае мяне. Яно, здаецца, жывое; яно, здаецца, пытаецца ў мяне: А ты — самы меншы з пяцí брáтаў, з сямі мужчын у сям'і? Ці не вя́ла і ці не бесклапотна тупаў і тупаеш па зямлі? Ці не бясследна адлічваў і наадлічваў ужо за тры дзесяткі гадоў? І ўсё — вайна ж скончылася! — ідзе проста? А заўтра як? Як і што паслязаўтра? Хаты бацькавай сцураўся. З бацькаўшчыны з'ехаў. У свет пайшоў. Ну, а далей куды? А як далей? Проста служыць службу, толькі не быць апошнім сярод тых, з кім працуеш? Дзесьці не на бацькаўшчыне святлей і весялей? Забыць той ясень пад акном?

...Былі ў мяне няўдачы, была не раз горыч. Былі памылкі. Выпадалі на маю долю мае́ і не мае́. А ці ж акрэсліў, як далей ісці? Акрэсліў. Цвёрда і назаўсёды: на світанні ці змярканні, золкаю ці ве́дранаю ноччу, хмурным ці сонечным днём — заўсёды і ўсюды жыццё маё будзе не дзеля кавалка хлеба; найгалоўнейшае, ад чаго не адступлюся, хоць апынуся ці ў акопе, ці ў шпіталі, хоць буду галодны ці халодны,— маё роднае слова, родная натура вялікага краю, родная Беларусь. Вы — мая радасць і ўцеха, вы — мая скруха і боль, вы — маё шчасце, жыццё.

Гада́мі спела, выспявала задача, мацнеў клопат назаўсёды. Тут, пры бацькавым полымі, нібы акрэслівалася і фармулявалася не запланаванае кімсьці або ўстановаю. Трэба адважыцца і зрабіць (ці не наканаваныя?) спробы і крокі ў роднай філалогіі, выйсці з кніжкамі. Да гэтага рыхтавала мяне само жыццё, самі пазнаныя людзі, сам пазнаны край. Нібы прысяга і клятва вернасці сваёй *абранніцы-бра́начцы.*

Рыпнулі дзверы. Пачуліся з сенцаў мяккія і часцейшыя, чым бывала, крокі. Прыйшла мама. Пераступаючы парог з сенцаў, тлумачыла, куды, чаго і як хадзіла.

— Сюдою ж не прайду, цэлая гурба снегу... Ту-

дою пабегла, і чуць, бачыце, печ не выпалілася... Каб трохі — дровы б згарэлі, печ выгарала б.

Я стаяў перад *бацькавым* полымем.

Свяці ж і свяціся, *полымя!*

Як трэба яно, гэта святло! Сваё і на сваёй бацькаўшчыне. Дзеля самой бацькаўшчыны!

Душы неспакойна. Дастаў з кішэні цубкія і тысенькія лісткі-карткі (яны заўсёды са мной, пры мне, і ўжо з напісанымі сваёю рукою радкамі на іх: дзеля працы заўтра), аддаў маленькай Інусі, каб разам з алоўкам, ручкаю аднесла на стол. Не сходзячы з месца, выняў з кішэні нераспакаваны пачак неманінак (неманінка — цыгарка з гродзенскай фабрыкі «Нёман», некалі пачуў слова на гэтай фабрыцы) і, не шкадуючы, як і не злуючыся, кінуў пачак на полымя, за пачкам — запалкі. Паляцелі ў печ муштук, люлька... І тады, і пасля так і не дадумаўся: нашто? чаму? Так і застаюся без усякага асэнсавання таго — ці не драбнюткага — учынку...

У бацькавай хаце, пры бацькавай печы, пры Яго полымі. Тут выраслі Яго сыны, дочкі і пры жыцці Яго на свет прыйшлі дваццаць чатыры ўнукі. У хаце ніколі і нікога не душыў курадым, не пахла тытунём, цыгаркамі, у печы не сіпелі нявысушаныя ці мокрыя дровы. Толькі я, адзін, часова паддаўся нібы палёгцы ў пекле вайны, паліў махорку, цыгарэты.

Сябе падрыхтаваў ужо да працы, падрыхтаваў да працы і ў працы са словам. А з ім працуй вымытымі рукамі, адгортвай ад сябе ўсялякае мурзатае, здрадлівае, адгортвай пацеруху́, смецце.

## У далёкім маленстве

Яно цешыла, рухавіла, калі дзіцячым гуртам на ўзмежку раскладалі агонь-цяпельца, рабілі пясок гарачым і пульхным прыскам, пяклі ў тым прыску бульбу. Што тыя з халадзільнікаў і маразільнікаў розныя «штэксы», іншыя «бефы» і «строганавы»? Усё-ўсялякае, што падаецца «спажыўцу» пад джаз у сіняй смузе, а то і ў сіняй дымавой хмары, пад бразганне талерак, пад ціхі ці гучны звон чарак і шкрабанне відэльцамі, лыжкамі па сподках, талерках, патэльнях у тых вялікіх абозніх-рэстара-

нах (на сто, кажуць і пішуць, «пасадачных месцаў»... Трэба ж, мой божа!.. Гэтакае няўклюднае і сходнароднае гэтае «пасадачныя месцы»...), куды сходзяцца дзесяткі чалавек есці, запіваць, курыць. Не вельмі пагаворыш у тым тлуме.

Полымя на полі. Напрацаваўшыся (то вадзіў каня напіцца, то бульбоўнік сцягваў у кучу, то падносіў, загадвалі, глячок з вадою, то шукаў, як казалі, дрэўкаў — тонкіх і сухіх, каб гарэлі так, як сама сухая лаза), грэўся пры полымі, калі было холадна. І грэўся, калі яно, полымя, было адно, а я бегаў, хадзіў, нешта адносіў, прыносіў і быў не каля цябе, полымя, быў хораша заняты, у працы.

## З лаўцом і скваркаю

І сёння, пры тэрмасах, пры халадзільніках (нават у аўтамабілях, малых і зручных, сваіх), пры рэстаранах, сталоўках, буфетах, тая скварка, печаная-смажаная на агеньчыку, лепей над жарам,— не толькі смакатá. Смажылі-пяклі яе проста над полымем, а ўмельцы надчэквалі, калі полымя адшугае, адгуляе сваё, калі на вуголлі, гарачым і чырвоным, прабягаюць рэшткі полымя, невысокага і неязыкастага; яно толькі сцелецца па вуголлі. Такое полымя ледзь-ледзь падхопіцца, пакоціцца, нібы драбнюсенькая і кароткая хваля сіняга агеньчыку, і знікне. Тады і смажылі скварку. Яе бралі на ражон. Толькі ражон не зусім тое слова. Чуў з маленства і ведаў, што такое ражон і ражэнчык, ражончык. Гэта роўны, абгладжаны дубчык, самы кончык яго расколаны або з дзвюма ці трыма падкарочанымі галінкамі-рожкамі — як у відэльцах. Чуў і ведаў, але, як і сёння, не гэта слова раднейшае мне. Казалі *ражон* тыя старэйшыя людзі, што паслужылі ці наслужыліся на свеце і па свеце. І тады ў нас у вёсцы быложыло слова *лавéц, лоўчык*. Не імпанавала мне, як і не імпануе, «ражон» і за тое, што чуў: «А ражна яму!» Пагрозлівае і жорсткае. Потым яшчэ хлапчуком вычытаў больш жорсткае, не з маёй гаворкі — «папячэшся на ражне»..Вычытаў ці пачуў «не прыся на ражон», «не кідайся на ражон», «не лезь на ражон»... І яно, ражон, неяк касавалася без рэдакта-

раў, карэктараў, рэцэнзентаў. Касаваўся ражон, касаваўся словам *лавец, лоўчык.* Потым, пазней, чуў на Беларусі *вожаг, пажаг*, іншыя назвы...

Лавец (не забытыя ж і сёння, нібы сваякі, радня: дуб-ец, акра-ец), бо — лавец, бо — лавіў. Возьмеш, асцярожна ўзніжаш на лавец скварку, патрымаеш над ужо не мітуслівым і не вельмі прыкметным полымем, над жарам — скварка засквярэцца, засквірчыць, а ты не марудзь, пільнуй, каб і адна кропелька туку не капнула на вуголле, не гарэла. Лаві на падстаўленую скібку хлеба кропелькі туку. Пакуль спячэцца-сасмажыцца скварка, з'ясі, як малыя, аблізваючыся, тую скібку, цёплую цеплынёю туку. То мне і — не вельмі ражон... А лавец. Ды трэба, каб ён быў лоўкі і не залішне тонкі, не вельмі гнуткі. Лаві тук, не прамаргай, каб не ўспыхнуў падсушаны над агнём лавец-лоўчык.

І з гадáмі (ці не пры залішняй, як на меркі сялянскага сына, які недасыпáў і недаядаў, а многа шчыраваў і працаваў, сённяшняй сытасці) не раз сядзеў у гуртку знаёмых і сяброў пры агні-вогнішчы з лаўцом-лоўчыкам. Пяклі-смажылі, кожны сваю, скварку, пільна сачылі, рупліва і жартуючы лавілі на скібкі кроплі гарачага туку. Ні табе блакнота, у якім, нахіліўшыся над сталом, афіцыянт запісвае і хітра падлічвае рублі, ні табе недасолу ці перасолу, ні табе трывог, што парушаеш... меню. Добра ідзе з лаўца хоць каму, пры любой назначанай доктарам дыеце.

Чакаеш, калі яшчэ надарыцца выпадак, каб гуртком распальваць агонь, калі зноў будзе шугаць полымя, а тады без полымя гарэць жар...

## На камінку

Пры гэтым полымі пралі кужаль, воўну, кудзелю, трасцілі і сукáлі ніткі, снавалі аснову, вязалі, цыравалі, рабілі нераты, чыталі, расказвалі суровую праўду і вясёлыя, што ўсе за бокі-жываты браліся, здарэнні, гісторыі, казкі. Пры ім расказвалі ўсё чысценька пра таго, хто з вёскі натварыў нечага, пра людзей з суседніх вёсак. Расказвалася — нібы гэта была школа чалавечнасці, пашаны, любові і

ўмення ў працы дакладна сказаць, хораша паспяваць, пастарацца рабіць так, як рабілі самыя ўмелыя, дасціпныя, кемлівыя. Была тут і знішчальная ацэнка паўтатку, пустадомку, неўставаку, разяваку.

Ці раз...

Усе сціхлі, бо нехта, толькі адзін гэты нехта: «Пачытай ты нам. Хоць што». І без напамінку ці сігналу спыняліся самапрадкі-калаўроты, застывала верацяно, заставаўся ў аснове лапця спічáк-падплéтка...

Усе слухалі Коласава, Купалава...

Ярка на камінку смольны корч палае...

Маці ў службу выпраўляе родную дзяціну...

Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, божа,
Калі ты цар і неба, і зямлі!

Годзе пець песні нам сумныя, нудныя!

Ты не згаснеш, ясная заранача!..

Было цёпла, добра, хораша, разумна. Гаварылася, спявалася, жартавалася, сумавалася, ды не пры складзеных і не пры апушчаных руках. Без бутэлек і чарак. А ў працы, з працаю. З працаю абавязковаю, штодзённаю — як полудзень, як сон, як дыханне і радасць.

### Яшчэ з маленства

Вакол маёй роднай вёскі ўсяго было і ёсць: палі, сенажаці, балоты, лясы. Лясы? З дваццатых гадоў, добра памятаю, я ведаў тры лясы недалёка ад вёскі: вясковы, наш, другі — хутаранцаў, а не так далёка трэці — казённы. Яны, гэтыя два, часам заходзілі зарожкамі ў кляценскія лясы, сенажаці, палі. Калі мы, пастушкі, запускалі статак не ў наш, а ў хутаранцаў ці казённы лес, успаміналі і, мабыць, кожны раз крыху неспакойна гаварылі: «пускаем на хутаранцаў», «пайшлі на казённы». У вёсцы жыло тады зусім нармальнае: Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар! Вяскоўцы жывіліся і з хутаранцавага лесу, і, здавалася, нескончонага, што ішоў ад вёскі далёка на ўсход,— казённага.

Лясы чыстыя, не заваленыя, не закіданыя галлём: усё прыбіралася; не пакідалі на пні, як толькі хто ўбачыць, сухастоін, зразалі іх пры самай зямлі; падбіралі суччa, каб было — як на стале.

Неяк самаю сярэдзінаю лета ў святочны дзень вёска была як выгнаная: усе на лаўках, на прызбах. А гэтых *усіх* было! Толькі ў адной, з шасцідзесяці, хаце жылі двое. А то — і пяць... і дзесяць душ. Быў не фэст, не кірмаш, а на вуліцы — як на самы вялікі фэст. Пазней спалі, пазней усталі. Яшчэ было невысокае сонца, не апоўдні. Гама_нілі пра нешта сённяшняе, учарашняе. Спакойна расказвалі, яшчэ не разгаварыліся. Далёка было да песні, яна завітвала ў вёску звычайна пад самы вечар ці ўвечары. І гаварыла яна, славіла, рагатала, плакала, шчыравала, цешыла. Да самай апоўначы, да самых другіх пеўняў.

І раптам вёска падхапілася: хтосьці ўбачыў дым над лесам, сказаў адно слова. Не было каму камандаваць, але той хтосьці крыкнуў:

— А ну, маладзейшыя! А ну, дзеці!

Вёска панеслася. Спрытныя, юркія і нібы падсушаныя хлапчукі беглі сярод першых. Беглі, і ніхто не азіраўся. Быццам не было нічога іншага — бегчы! Нібы не было калі нават думаць пра што іншае.

А во і ён, званы ў вёсцы не пажар, а пожар (не адно, а два словы: пажар — гарыць будынак, вёска; пожар — гарыць лес, балота). Адкуль быў спрыт! Адкуль браліся ножыкі! Усе вяскоўцы — з жывымі густалістымі алешынкамі, асінкамі, лазінамі або галінкамі з алешын, асін. Збівалася полымя, адмяталася ад «лініі агню» ігліца (яе ў лясах нашых было мала: вывозілася, зразумела, не кожны год, на подсціл — на гной, пад хлябок), адмятаўся мох, дробнае галлё.

Патушылі. А вяртацца ў вёску не спяшаліся.

Успаміналі «бываляшні вялікі пожар». Расказвалася, як лячыліся апаленыя на пожары людзі.

Не спяшаліся разыходзіцца: а мо недзе яшчэ вінтом ці стужкаю пачне віцца ўгору дымок.

На разыходзе хтосьці са старэйшых:

— Хутарапцаў і казённы. Патушылі пожар не ў

сваім лесе. Няма, каб хто дзякуй, хоць сякі-такі дзякуй сказаў...

Спакойна ішлі дадому. Ніякі дзякуй нікога не трывожыў. Ні тым днём, ні заўтра, ні паслязаўтра.

## Брудна-чорны дым

Бачыў яго над хатаю ў сваёй вёсцы. Бачыў з такім страхам, што не забыўся і сёння: я́к гарэла хата, я́к над ёю клубіўся брудна-чорны дым, я́к чырвоныя языкі, нібы вельмі сілячыся, прабіваліся праз дым-чарноцце. Страшна было: а дзе ж падзецца той сям'і, чыя хата гарыць? Яе запаліў пярун. Грымнуў так, што здавалася: зусім-зусім побач са мною. Вар'яцеў над хатаю, ускідваўся, нібы копамі, дым. Ён круціўся, валіў кру́там-му́там і, радзеючы, пасвятлеўшы, ішоў у неба, аддаляўся, распаўзаўся. Было ўразуменне большага страху: пажар перакінецца на другую, на трэцюю хаты, а потым і на нашу... Я не ведаў, што рабіць. З сястрычкаю — яна меншая за мяне — бегалі, мітусіліся па двары ў роспачы, бездапаможныя. Плакалі. Заганялі ў хлеўчукі гусей, свіней, з прыгумення прывялі ў загародку паміж будынкаў цяля...

## Далёкімі часамі

У школе, на трэцім або чацвёртым годзе мае вучобы, расказваў мой першы і самы галоўны настаўнік пра войны. Пра войны на Беларусі. Пра знішчэнне, бязлітасныя пажары, што прыносілі нелюдзі-чужынцы. Называў настаўнік, недакладна памятаю сёння, цэлы кавалак гісторыі — цэлы перыяд, калі на Беларусі гарэла зямля, гінулі людскія набыткі, нішчыліся лясы, перасушваліся крыніцы, драсаваліся агароды, палеткі, скідаліся вобземлю з дрэваў вуллі... Цэлы такі перыяд, калі часцей, чым праз два дзесяткі гадоў (ці не праз семнаццаць), насілася па нашых палетках чужая конніца, калі прывозіліся і прыносіліся ў наш край кайданы, абра́за. Помніцца настаўнікаў боль, з якім расказваў, як урываліся няпрошаныя з войнамі. Прыгадаем

толькі нядаўняе (радкі ж гэтыя не гісторыя краю): у нашым стагоддзі аж двойчы прыходзілі на Беларусь з Нямеччыны — кайзераўцы і гітлераўцы. Прыходзілі і аб'яўлялі, расказвалі, пісалі... Руйнуючы, выпальваючы Беларусь, беларускае, забіваючы людзей, пісалі ў газетах, лістоўках, а на плошчах,назганяўшы людзей, расказвалі пра місію вызваленцаў, вызваляльнікаў, вызваліцеляў, вызвольнікаў.

## У дарозе

Ні дырэктарава ці лесвікова, ні прафесарава ці пастухова дзіця не ведае сёння сундучка дарожнага. Цвёрдага, няздручнага і нялёгкага. А яшчэ ў нядаўнія дваццатыя і трыццатыя гады з вёскі ехалі вучыцца з сундучком. З дошак нефарбаваных, з акутымі ці неакутымі ражкамі, з ручкаю — хораша выгнутаю тоўстаю драцінаю.

У напакаванай сенам і саломай драбінцы — мама і я. Пад сенам, у перадку, той самы сундучок. У ім ручнік, бохан хлеба і скварка. Далёка ад хаты Мінск, дзе ў тэхнікуме вучаць на архітэктараў, будаўнікоў. Трэба даехаць да станцыі Ра́цьмеравічы, «пераробленай» на картах у Ратміравічы. Аж дваццаць пяць кіламетраў глухой, больш лесам, з брадамі і брадкамі дарогі. Далей — поездам да Бабруйска. А там і пільнуйся і пільнуй — перасадка, і даедзеш да самога, як тады казалі, пісалі і друкавалі,— Менска.

Праехалі вёскі Пя́ценка, Бярэжкі, Бая́наў, Бярозаўка, Зубарэвічы. Блізка станцыя. Нас запыніла навальніца. З лясной сцежкі-дарожкі, нібы з калідора, не бачылі мы, як навальвалася хмара: пры дарозе дубы — як вышкі, са стайламі, пчалінымі хаткамі, хвоі — як потым убачаныя ў горадзе заводскія каміны. Загрымела, а праз колькі секунд гахнуў пярун. І адзін за адным. Адзін гучнейшы за другі. Кожны, здавалася, пасылаў стралу сваю ўсё бліжэй і бліжэй да нас. Мама, як толькі было жаночага ўмення і волі, паганяла каня. І мне крыкнула: «Паганяйма, сынок!» Секунды — мы на палянцы. Грукатала, малаціла, страляла, узрывалася. Мы стаялі на сярэдзіне нешырокай палянкі. Не дождж, а быццам рака, вялізная і без берагоў, лілася зверху на

нас. Калі грыміць, калі б'юць перуны, ведаў і я, не будзь пад дрэвам.

Гул, грукатанне, навальны дождж сціхлі так, нібы нехта спыніў іх, ірвануўшы на сябе рубільнік. І скора — сонца. Высокае, цёплае. Павесялела і нам. Трэба выкруціць адзенне, launched перанесці на возе сена, салому.

Пачалі дагледзець сябе і воз. Аж зноў няма сонца — новая хмара. Загрымела. Загуляла навальніца. Ехалі апошнія кіламетры да Рацьмеравіч, як возерам...

На станцыі, пакідаючы мяне, мама заплакала. Не слязіліся вочы — ліліся слёзы. Без слова і не ўсхліпнуўшы. Я нічога не казаў і не пытаўся. Чуў боль матчынага сэрца, боль матчынай трывогі. Перасільваючыся, вінавацячы сябе, сказала:

— Усё адно як адвезла і пакінула. Неабсушанага... Далёкая дарога... А там?..

На развітанне:

— Калі што не так будзе з вучобаю, хай сабе не прымуць, то каб не журыўся. Чалавеку й адной скібкі хопіць, толькі б з людзьмі. Толькі б не ўдодам, што нічога — ні чужога, ні свайго — не шануе...

На пероне людзі ўжо чакалі поезда.

Мне было цяжка: здарожылася мама і адна, стомлены конь, блізкая ноч... Страшна, жудасна. Але пра гэта і слова не сказаў. Не мог сказаць. Усё адно як адчуваў, што не гэтакае сустрэне мяне ў жыцці.

І адзін у дарозе.

Год праз трыццаць неяк апоўначы (мама жыла разам са мною ў Мінску) падышла ціхенька да стала:

— Каб яны, нашы пеўні, былі ў горадзе, то й другія праспявалі б. Позна так, а ты ўсё чытаеш. Багата пісаць стаў. А пішаш сабе, ці як? Мо чытацьмуць і людзі тваё пісанне?

Я нічога не сказаў. Нядобра, хоць і не зманіў, не правінаваціўся. Не ведаў, што буду мець з гадамі шчасце: маё пісанне, як мама казала, нібы сваёю хадою пайшло з друкарняў людзям, маім родным людзям.

— Ведаеш, што ў сне ўбачыла? — спыталася тады ў мяне.— Такія грымоты, такі пярун, як даўно на палянцы за Зубарэвічамі. Ачнулася і думаю: як ты знёс тады? А ты, бачыла я, усё адно як не збаяўся. Малы, худзенькі, толькі на чатырнаццатым. Нам цяжка жылося, а ты як бы шукаў цяжэйшага, ці што...

— То ж вы, мама, спадзяваліся на мяне, без слоў выладжáлі мяне ў людзі,— сказаў (можа каму незразумелымі) *мамінымі*, то назаўсёды і маімі словамі — выладжáць у людзі.

## З тае, амаль забытае вайны

Як тады трэба было добрае полымя! Пагрэцца, каб не скачанець, не легчы карчом. Дарагое яно, калі б можна было раскласці агонь (кажуць на Беларусі і так: агню накласці, агонь развесці, агонь распаліць, агонь раскласці, цяпельца распаліць, цяпла накласці, цяпельца развесці...) — там, на Карэльскім перашыйку, каля Выбарга, у марозны ваенны снежань 1939 і ў такія ж марозныя зімовыя месяцы 1940 года. Быў не які там марозік, а мінус 45° С, асобныя дні мінус 40° С. Не гадзіну, не дзень, а шэсцьдзесят сутак я «раскашаваў» у пульхным і сыпкім марозным снезе, а яго мясцінамі — якраз на мой, пехацінскі рост. Тады трэба было полымя. Ды каб такое, як некалі ў маленстве і калі быў падлеткам. Што грэла, лашчыла. Тое полымя свяціла, было радасцю, рабіла прысак пад бульбу; тады навыперадкі хлопчыкі і дзяўчаткі насілі, стараючыся назбіраць найсушэйшых такіх «дрэўкаў», каб не курэлі-дымелі, а свяцілі свечкамі, мы пускалі, налоўчана варухнуўшы дрэўкі, ланцужкамі і снапамі іскры, іскры, іскры... Неапісальную прыгажосць, дзіва, цуд. Ды каб полымя без дыму, без копаці, без паху балотам і сырызнаю.

Тады каля Выбарга на свае вочы бачыў абмарожаных і забітых марозам людзей.

Часам і там, пад Выбаргам, было полымя. Дзенебудзь у яме, між валуноў або ў крутабокім і вузкім рове, нібы ў сутачках між будынкаў. Яно там не грэла. Пастанем — выпадкам, выпадковаю і нечака-

паю гадзінаю — каля агню. Адольвае дрымота. Валёнкі — добры абутак, але добры ён тады, калі, пахадзіўшы колькі гадзін, высушыш або хоць падсушыш тыя валёнкі на печы за комінам ці, калі б сёння, пры батарэі, пры каміне. А там нявыспаных і знябытых асільвала пры полымі яна, дрымота. Ды гэта яшчэ не самае... Было на вачах не раз. Салдат стаіць на адной назе, другую грэе над агнём. Але нядоўга: полымя ж праз валёнкі не грэла, полымя прапякала валёнак, прапальвала яго. Пекане ў нагу — і войкне салдат... Абутая ўжо толькі адна нага, а пагрэтай толькі мерзнуць. Ці яшчэ... Засталіся пры негні-полымі два салдаты, грэліся, прыграваліся і непрыкметна апускаліся на снег. Засыналі... Станавіліся, божа мой каханы, карчамі. Агонь дагараў. Ля вогнішча ляжалі скурчаныя нестраляныя ахвяры пачвары-вайны.

## Дым і попел... Жахі

Шугала яно 24, 25, 26 чэрвеня 1941 года над Мінскам. Блізка ад яго і за дваццаць, а то і больш кіламетраў асядаў на зямлю попел — згарэлыя кватэры, мэбля, школьныя парты, кнігарні, аптэкі, бібліятэкі... Агонь не разбірае, не выбірае, што трэба пашкадаваць. За сто і больш кіламетраў людзі бачылі над Мінскам чорны дым. Агонь, полымя з'ядалі тады, здаецца, і зямлю, і каменне, і бетонныя пáлі, на якіх трымаліся масты. Не было такіх сутак, каб людзі не бачылі ў вайну на Міншчыне — на поўнач ці на поўдзень, на захад ці на ўсход ад сваёй хаты — і не казалі: «Зноў недзе гарыць... Зноў паліцца...»

З памяці сціраецца, хочаш ці не, пачутае, убачанае, адчутае. Хутчэй ці павальней. Час стварае, час і абкрадае чалавека. Кажуць — і лечыць. Я не пагаджуся з афарызмам — раны гояцца часам: засталіся і будуць да апошняга майго дня незагойныя раны. Не ў аднаго мяне. Такая вось... На першым годзе пасля вайны, і на другім, і... на дзесятым... дваццатым... на трыццаць пятым. Нават тады, калі чытаю не пра вайну, не бачу нічога такога, што нагадвае вайну,— мне раптам пачуецца пах спаленага двара,

спаленай вёскі; пачуецца пах спаленых у хатах, сонях, бакоўках, гумнах, школах, у царкве, у касцёле... пачуецца пах спаленых людзей. Бо чуў за вайну не раз. Не раз на маіх вачах людзі разграбалі вуголле, расцягвалі абсмаленыя і абпаленыя бёрны і выбаўлялі абгарэлых дзетак, жанчын, угортвалі ў што толькі траплялася і хавалі... Не па ўсіх пахаваных былі слёзы... Бо не з адной сям'і, не з адной радні не засталося нікога. Дый слёзы чалавечыя не ручаі...

Было такое пахаванне і маіх родных, блізкіх, калегаў, знаёмых...

Колькі жыць давядзецца, мабыць, будзе ўспамінацца, будзе прыходзіць нечакана і раптоўна невыносна цяжкі пах, што працінае душу і цела, што даводзіць да нематы язык, да нясцерпнага болю душу.

## «Хай яны самі паспытаюць полымя!»

Раніца. Туман, потым халодны вецер. Прыціхла. Пачала церусіцца імгла, пáдалі звадзянелыя сняжынкі: летучы, яны амаль раставалі яшчэ ў паветры. Цэлы батальён эсэсаўцаў у тую раніцу пракраўся паўз рэчку Удрá туды, дзе вёскі Слабада, Дворышча, Вожыкі, Слабодка, Дáшкі, Даўбарова, Прáльня, адкуль блізка да партызанскіх лагераў. Ледзь не ўвесь лістападаўскі дзень ішоў бой: асноўныя партызанскія сілы ноччу пайшлі на заданне далёка ад свайго, Манылаўскага лесу, а батальён фашысцкі — гэта... батальён, батальён салдат і афіцэраў, узброеных і налоўчаных на бандыцкія налёты.

Партызаны запынілі карнікаў, адагналі. Гарэлі Слабада і Слабодка, гарэў пасёлак Даўбарова... І плакаць па ахвярах не было калі: перавязвалі параненых, ратавалі хоць што-небудзь з пажару, прынесенага здзічэлымі звышчалавекамі. Да двара, які ўжо амаль дагараў, конныя разведчыкі падагналі двух высокіх і плячыстых са скрыжаванымі на рукавах касцямі — фашысцкімі знакамі. Падбегла заўсёды ласкавая і шчырая разведчыкава цешча, што абдымала і бласлаўляла не толькі зяця, а па парадку і ўсіх нас, разведчыкаў, калі выходзілі на разведку,

і прыгаворвала: «Дапамажы вам, божа, усім вярнуцца».

Яна падбегла і, разгневаная, паказваючы на прыгнаных двух:

— Мужчыны! Што стаіцё? Хай бы яны самі паспыталі полымя!

Невыка́зна добрай, непаўторна мілай нашай народнай маме прынеслі яны, праклятыя чужынцы, гнеў. Ды не брудзіць жа нашых рук.

## У сядле пад паветкаю

Я ўпершыню ўбачыў, узяў у рукі і пагартаў дзве першыя кнігі манументальнай манаграфіі «Беларусы» акадэміка Карскага. Не ў чытальнай зале, не ў прыгожа і з раскошаю зробленым вучоным кабінеце і не пры ціхай цішыні; тады то спакойна каціўся гром, то грукаў, страляў, пярун, а я, запынены навальніцаю, не злазячы з каня, пад паветкаю, у вёсцы Максімаўка, на мілай і непаўторнай Ра́дашкаўшчыне, гартаў гэтыя кніжкі. Глядзеў, чытаў назвы раздзелаў і баяўся хоць бы не страціць гэтых кніг, хоць бы ж засталіся на колькі дзён дасюль не бачаныя кніжкі яшчэ не чутага (так выйшла, так вучылі) аўтара! Яны — пазычоныя. Пад вялікаю таямніцаю, з перасцярогамі-просьбамі. Мне паказаў і, азіраючыся, пазычыў на нядоўга селянін з заходнебеларускай, некалі прыгранічнай вёскі Максімаўка Сяргей Рак.

...Партызан першы раз убачыў, узяў у рукі, гартаў акадэміка Карскага на той зямлі, дзе хадзілі ногі, засталіся назаўсёды сляды, чуецца дыханне, біццё сэрцаў Янкі Купалы, Антося Лявіцкага, Браніслава Тарашкевіча, Рака-Міхайлоўскага, юнага Максіма Танка...

На мілай Ра́дашкаўшчыне.

...Пад паветкаю, седзячы на кані. Калі не было фашысцкіх стрэлаў, а спачатку з дожджыкам лёгка вуркатаў, спакойна каціўся родны гром, тады пераходзіў ён у грымоты, сцебануў і гахнуў раз, другі, трэці пярун. Бліскавіцы-маланкі.

Тады Сяргей Рак паказаў і пазычыў мне з тузін «Маланкі» — нумароў заходнебеларускага часопіса.

## Было мала слоў

Мяне прывезлі ў бацькаву хату з Мінска ў мае трыццаць. Цяжкавата было дайсці да ложка ад лавы. Не слухалася левая нага, нібы чужая вісела левая рука. Левы бок твару быццам не мой. Зірнуў на сябе ў люстэрка. Я?.. (Застаўся з таго часу здымак, наклеены ў інвалідным пасведчанні, дзе на здымку, калі паглядзеў сёння, нібы не я. Шчасце: жыццё перамагло.)

Тады мне і ў хаце не хапала цеплыні, хоць на двары быў май. Мама паліць у печы. Бацька паднёс да печы табурэтку і паказаў на яе. Удвух глядзім без слова на полымя. Яно мільгала, насілася, залаціла і танчыла паленцы. Полымя пасылала нам цеплыню, сваю ласку. Яно і на самую макулінку не сунімалася, не прыпынялася. Бесперапынны, несціханы, неўтаймоўны рух. Такі — да самага попелу.

— Неяк будзем,— кажа бацька.

Я пачуў: ён не за тое, каб я паспрабаваў пайсці на службу ці думаў пра вучобу, бо не рабоцька ж, як кажуць на Глушчыне, Любаншчыне... А якое ж вучэнне без здароўя? Неяк будзе жыцца і без вучэння. І ці спяшацца? Ці перасільвацца ўжо аслабеламу, змучанаму войнамі і трагедыямі?

Былі словы, бацькавы і мае, а не сказы...

Паказваючы на полымя, я казаў: яму весялей... бо варушыцца, бо спяшаецца...

І бацькава. Пра імклівы ручаёк... вечна бяжыць: жыве.

## У родным лесе

Надумаўся і наважыўся вярнуцца ў аспірантуру. Марудна, па расінцы аднаўлялася сіла, працаздольнасць. Пакрысе ўчытваўся ў стараславянскія, польскія тэксты, чытаў граматыкі стараславянскай мовы і старажытнай латыні, завучваў па тры-чатыры на дзень яе даўнія і яркія, непаўторныя афарызмы. Ад *такіх*, як Пакуль будзеш шчаслівы, шмат у цябе будзе сяброў; Спяшайся павольна (марудзячы); Словы знікаюць (злятаюць), напісанае застаецца; Жыццё без волі — анічога; Нялюдская прага да золата!; Хутчэй, мацней, вышэй!; За сла-

ваю зайздрасць крочыць; Чалавек не хоча памыляцца, але памыляецца; Не забывай на смерць (Не забывай пра смерць); Хто здрадзіў адзін раз — той здрадзіць не раз; Вучань, які аднойчы здрадзіў свайму настаўніку, стане ворагам настаўніку да самага свайго скону... і *да такіх*, як Калі мужчына і жанчына застаюцца ўдваіх, то не будуць яны чытаць малітву «Ойча наш»...

Чытаў старонкі фармакалогіі, фармакагнозіі, фармакапеі... У кожным абзацы тых кніжак — лацынь: зёлкі, і хімікаты, і змаганне за паратунак. Адпаведныя словы.

Вычытваў. Багацеў. А карцела, рупіла, непакоіла найдаражэйшае з усяго мне — роднае слова родных людзей.

Як дзень белы — у лесе. Каб лягчэй і зручней, я ў лапцях, з прывычнаю яшчэ з маленства, з пастухоўства скваркаю, акрайцам хлеба, бутэлькаю малака ці вяршкоў са збанка (мама ж налівала!)... Шукаў паратунку на прыродзе, у прыроды. Не было тады і аднаго дня не ў лесе і без полымя. У родным лесе.

Распальваў агонь, перакусваў, глядзеў і слухаў. Чытаў. Чуў колькі разоў: недалёка трэснула галінка. Думаў: жывіна якая, мірная і баязлівая, не раз палоханая. Аж не...

Даведаўся пасля, гады праз тры. Была мне тэлеграма (я вярнуўся ў аспірантуру, вучыўся). Адбілі з дому: «Прыедзь». Расказалі...

Бацьку паклікалі пабачыць з вока на вока паліцая, уедлівага суседскага сына. Ад бацькі прасілі — суд жа — хоць прыблізна назваць час, калі служыў у паліцыі гэты, што з маленства любіў «укусіць, а не ўкусіць, то хоць угнюсіць». Паклікалі бацьку і больш за дзесяць вяскоўцаў — сведкаў, хоць следчыя ўсё ведалі з дакументаў, каб пачулі ад самога паліцая, які пасля вайны цэлыя гады хаваўся ў лесе, каля вёскі, начаваў пад стагамі, выварацінамі, недзе ў хлеве, што стаяў наводшыбе. Паклікалі, бо і паліцай дамагаўся, каб пачулі пры следчых вяскоўцы: ён бачыў мяне, тады слабога, хворага, пры агні ў лесе, быў з пісталетам... Прасіў гэты ў бацькі, у суседзяў заступіцца: без немцаў ён тут «ані ў кога, ані разу не стрэліў»...

## І такое

Коратка. Некалі напішацца асобна. І на вялікіх лістах.

Пра стрэл перуна міма, пасля якога застаўся на зямлі сытаю і праціўнаю жабаю той, каму імя гнюс, гнюсата (не звёўся ж на зямлі і пры полымі, і пры грымотах, перунах, і пры мудрых кніжках), што не ўчора здрадзіў бацькавай хаце і радзіме, мове, што здрадзіў матцы сваёй, якая ўсё аддавала яму як сыну, а ён, калі матка дажывала свае дні, вывіжоўваў, што ў яе ёсць дарагое, каштоўнае, падглядаў і выглядаў адным вокам; ён шныпарыў, шукаў і вышукваў у хаце, абмацваў нават пад падушкаю, калі ўжо матка не ўставала, калі пры ёй сядзелі дзень і ноч сваякі. Злаўчыўся абабраць матку. Пазнаходзіў, згроб і звёз усё запаветнае матчына — яе пярсцёнкі, яе талісман, бацькаву памяць... Абабраў, уцёк. І не прыехаў ён, гэты злодзей і нахабнік, нялюдскі хітрун, каб заплюшчыць матчыны вочы, каб зрабіць як людзі — скласці матчыны рукі на яе грудзях. Даўнавата на свеце няма маткі. Ён не завітаў і не завітае туды, дзе добрыя людзі, роўныя шырокія палі, туды, адкуль выйшаў ён гнюсіць на свеце, з'ехаў са здрадаю радзіме, краю, маме, мове, бацькавай хаце.

Не свяціла таму полымя. Не яму бачыць роднае полымя. Не яму, цёмніку, брыдоце, роднае полымя на роднай зямлі.

## Пры сцежцы-дарожцы

Хавалася сонца. Мы ўдвух на машыне лясною дарожкаю (шчасліваю, яна без глыбокіх каляін-ран) едзем павольна, хоць і спяшаемся, бо пазнавата; у вайну сцежкі і дарожкі ведаў, а прайшло трыццаць, адны сцежкі і дарожкі зараслі, другія папрарэзвалі машыны, нібы пракапалі дзве паралельныя траншэі, наперадзе будуць брады, завалы. Ды ў лесе ж: сонца хаваецца — сцежкі хаваюцца. Прыспешваем самі сябе. Толькі не вельмі разганішся.

Але сталі. Пры дарожцы хлопцы. Танклявыя. Пра такіх кажуць — як луты́. Іх сем. Ставяць па-

латку. Недалёка — лёгкае цяпельца. Такое, каб толькі было, каб толькі жыло. Загадка: распалілі — усё адно як ашчаджаючы дровы? У лесе ж — яго, відаць, даўнавата прыбіралі — многа галля, вывараціні, ляжаць пакінутыя з зімы адрэзаныя верхавіны. А цяпельца лёгкае, нібы і гатаваць на ім не трэба, нібы і святла яго не трэба.

Мы спыніліся, павіталіся. Адчулі, убачылі (не здалося): хлопцы не рады, што мы спыніліся каля іх, а што падышлі да іх. Але разгаварыліся. Я, хоць і пазніўся, не мог ехаць далей, не ўведаўшы, хто чаго... Чаму неспакойна і як на лішніх тут глядзелі на нас? Наша з'яўленне — перашкода ім? Не памыліўся. Ішлі хлопцы сюды не рабіць нешта, а толькі пахадзіць, пабыць тут, паглядзець, пабачыць сваім гуртком.

— А да Уладыкаў, хлопцы, колькі?

Усе яны нібы страпянуліся. Адзін ступіў да нас наперад.

Мы спыталіся — а яны перамяніліся.

Коратка, скупаслоўна, а таму хораша расказалі.

...Яны ведаюць пра Уладыкі, пра лясы... Пра полымя, каб не гібеў сялянін — калісь бядак пахілы; каб людзі збаўляліся ад няволі. У гэтым краі былі каліноўцы, цэлы атрад. Была тут трагедыя. Нехта падказаў і прывёў сюды мураўёўскае войска. Ідуць хлопцы на Уладыкі, дзе помнік войску атамана непадробленай мужыцкае праўды. Шукаючы і распытваючы, прыпазніліся, каб дайсці да помніка сёння.

Мой калега зірнуў на гадзіннік і пальцам паказаў на цыферблат: познімся, трэба ехаць.

— А вы, хлопцы, самі сабою пайшлі сюды? На паклон і каб ведаць? Прачыталі ў кніжках? Гісторыю ж вучыце...

— Не. Скончылі восьмы, а да беларускай гісторыі не дайшлі. А ў Маладэчне ёсць музейшчык маладачанскі — ён усё ведае. Нам расказваў. У школу да нас прыязджаў. У музей ходзім кожны год.

Я пакінуў хлопцам свой адрас. Пры адрасе прыпіску: «Скончыце дзесяты — якраз купалле і купальскія ночы будуць. І збяромся ва Уладыках пры полымі. Згаварыліся?»

Сядаючы ў машыну, мой сябар:

— А чаго ж, хлопцы, агню не падкорміце, каб полымя было, каб весялей стала?

Хлопцы пераглянуліся. Падказка нічога хлопцам не падказала. Ні адзін не варухнуўся: ім не трэба шырокага вогнішча, не трэба, каб шугала і смаліла ў вочы полымя.

— Тут, хаваючыся, ра́дзіліся і грэліся. А мы змовіліся нават гаварыць ціха.

Хлопцы збіраліся і сабраліся сюды. І, як кажуць, хараша падрыхтаваныя.

Што сказаць ім? Мабыць, нічога. Хлопцы не месяц жылі чаканнем сустрэчы з Уладыкамі. Памяць зямлі, памяць лесу-ратавальніка святая. Не пакрыўдзі яе нават громкім словам, нават шустрым полымем. Не пакрыўдзі святой памяці, не паруш вечнага сну сыноў тутэйшай зямлі. Каля Уладыкаў пад каменем ляжаць, мабыць, крэўныя гэтых лясных гасцей. Ляжаць пад плітою ў лесе пад дзвесце дзяцюкоў Кастусёвых...

Праз два гады паеду ў той лес. Паеду ва Уладыкі. Не гісторык я, але яшчэ вярнуся, каб сказаць хоць кароткае слова пра высечаную на шырачэзным камені-пліце каля Уладыкаў лічбу «1863». Не забыць толькі перад дарогаю яшчэ раз прачытаць радкі ў часопісе «Беларусь» (ці не 1968 год) сціплую публікацыю «Там, дзе спяць дзяцюкі К. Каліноўскага», напісаную тым «маладача́нскім музейшчыкам», прачытаць радкі ў вельмі чалавечнай кніжцы «Сейбіты вечнага», прачытаць радкі ў зборніку «Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.»...

Уладыкі... Акопы... Карпілаўка...

## Агеньчык

Пятнаццаць гадоў жыў недалёка ад плошчы, якую мінчукі напачатку ахрысцілі Круглаю. Штодзень не раз бачыў помнік, пры ім неапісальнае полымя. Глядзеў на агонь-агеньчык, бачыў яго як кветку цеплыні, радасці жыцця. Бачыў знак памяці, знак патрэбы добрага спакою і патрэбнага людскога і людскага творчага неспакою маёй зямлі, маім людзям. Да яго, агеньчыку на плошчы, і разу не працягнулася рука нават тады, калі на дварэ

было холадна, калі са мною ішлі даўнія сябры і якія першы раз былі на Круглай — на плошчы Перамогі. Ён святы-свяшчэнны.

Агеньчык — назвалі — Вечны. Сказаў гэта вечны, не раз падумалася, хтосьці вялікі, не меншы за адкрывальнікаў нават законаў развіцця, фізічных, біялагічных, іншых.

Я гляджу на агеньчык і нязменна, не падбіраючы слоў, думаю: агеньчык пасылае нам сама зямля, сама пакутніца, пасылае ад сябе, ад мільёнаў страчаных, ад сябе, здрасаванай, скапанай, вечна добрай і непараўнанай.

Свяціся, агеньчык, свяціся ты, *Вечны.*

## Ты свяці мне, полымя

Ты свяціла мне, полымя, ты адорвала мяне неацэннаю навукаю руху, жвавасці, жыцця. Я назаўсёды сагрэты Бацькавым полымем на Бацькаўшчыне. Даўно-даўно жахнулі мяне пярун і полымя над хатаю. Але не прынеслі перапалоху.

Я палюбіў цёплыя грымоты, стрэлы перуноў. Я любуюся імі. З кожнаю вясною чакаю вас, родных, веснавых і летніх, гучных і гулкіх, рэзкіх і хвосткіх, магутных і патрасальных. З імі — чысціня ў прыродзе, яе ажыўленне і асвятленне. Іначай — пасля іх — бачацца і свецяцца поле і сенажаць, сад і дуброва, чалавек і птушка. Тады яны — разбуджаныя і разварушаныя, памаладзелыя і ажыўленыя. Тады яны зусім-зусім іншыя!

Але грому — не ракетнага. Няхай ракеты спапяляць саміх тых, што збіраюцца цэліцца на маю зямлю.

Назаўсёды, да апошняга дыхання пасялілася ў маю душу любоў да хлебаносных камячкоў глебы на роднай ніве, да груш на ўзмежках і пры дарогах, да крыніц і ўзгоркаў. Да хлебароба і настаўніка. Да матчынага слова. Да найвялікшай, нашай, беларускай далікатнасці — ратаваць чалавека, калі яму цяжка, калі яму трэба спагада, кубак крынічнай вады. Супакоіць і прагнаць смагу, агледзець і загаіць рану, выратаваць.

Мая любоў гадавалася пры дарагім на Бацькаў-

шчыне полымі. Любоў маю гадавалі і мацавалі цяжкія гады жахлівага полымя, жахлівых грымотаў і перуноў над краем. Любоў дала мне сілы, волю рабіць, працаваць дзеля Радзімы, дзеля роднага; ці не яна нібы кампенсавала мне незваротныя страты, раны.

Яшчэ і яшчэ ўспомніцца, загаворыць простымі, непрыдуманымі — і толькі шчырымі — словамі перажытае, убачанае, незабыўнае, непрыдуманае.

Будзе і пра даўняе полымя на вуголлі ў горне маленькай вясковай кузні.

І пра тое полымя, якому стагоддзямі за́сцілі, якое тушылі, якому гнюсілі чужынцы.

І пра полымя Кастусёва і Францішкава, пра полымя Купалава і Коласава.

І пра тое вялікае, усемагутнае — дзеля чалавечнасці, чалавецтва, Чалавека.

**2**

*Добра,*
*калі сусед блізкі,*
*пералаз нізкі.*

Докшыцкі раён,
вёска Янкі

## НЕХТА Ў ЛЕСЕ ГУКАЕ

Тая шырокая і доўгая «лясная ніва» называлася Пад'елле. Яна ішла з захаду на ўсход, аддзяляла землі (як там казалі і кажуць: усе прыдобы; як сёння афіцыйна пішуць: лясныя ўгоддзі, палявыя ўгоддзі) дзвюх немалых, як для паўночнай паласы Палесся, вёсак Барбароў і Клетнае. Памятаю Пад'елле з маленства, з якіх поўных або няпоўных дзесяці гадкоў, калі пасвіў з суседавымі сынам ці з дачкою чараду тавару — кароў, валоў, цялушак, бычкоў. А мо з тых першых «падможаш, сынок», на воз падáць снапы або раскрыць мэндлікі-бабкі пасля дажджу, каб прасыхалі, або жменькаю зрываць на разорах дробненькую грэчку, што сярпом не возьмеш, а касою толькі саб'еш галоўкі,— бацька браў мяне з сабою і ехаў туды, дзе, нібы гарою, высілася тое самае Пад'елле. І поле кляцёнскае называлася Пад'ельскія, Пад'ельскія нівы, што ішлі туды, пад лес, упіраліся ў яго канцамі. І тады, бачачы лес, неяловы, нават без елак, думаў: ну, чаму ён, гэты лес, Пад'елле? За што яго так назвалі? Раслі там грабы, ясені, ліпы, клёны, асіны, дубы. Ды якія выгоністыя, што былі, здавалася, роўненька адной таўшчыні і ў

камлі, і на сваёй сярэдзіне, і пад шчытком-вершалінай; за гэтым лесам таксама не было ельніку. Хіба таму так звалі, што некалі, што калісь (гэтак кажуць у Барбарове і Клетным) недзе каля Пад'елля быў ельнік, раслі елі.

Такога лесу, як пад'ельскі, я не бачыў нідзе. Можа, толькі нагадваў гэта Пад'елле багаты лес над Свіцяззю, што і сёння здаецца казачным.

Па тым Пад'еллі пракідáліся лапіны-палянaчкі, на іх добра расла добрая трава. Зямля тут нібы падгнойвалася — спасеш чарадою траву, а дні праз трычатыры адскочыць атаўка, і зноў тут добра ходзяць каровы, валы, цялушкі, наядаюцца, становяцца круглабокія. На радасць табе, пастушку.

Яшчэ з даўнейшы тут не лес Пад'елле. Я добра памятаю, як інтэнсіўна, нібы нязмерна даўжэзнаю пілою, рэзаліся, здаваліся, усе падрад лясы. Трэба было будавацца, трэба была сыравіна хіміі, трэба было паліва, трэба было гандляваць з замяжою, трэба было...

На дарозе праз былое Пад'елле (цяпер яно завецца проста поле) убачыў гурток маладзіц. Прыйшлі сюды і стаяць гуртком. Пра нешта яшчэ не расказалі і не пачулі, пра нешта трэба дагаварыць і даслухаць перад тым, як рассыпацца па адной, каб рассцілаць лён. Падыходжу і, як вучань на экзамене, прыкідваю: што і пра што могуць спытацца, што і пра што скажу. І не таму, што ведаю: тут, на Глушчыне, як і на Старобіншчыне, Любаньшчыне, Капыльшчыне, Бабруйшчыне, Парыччыне, не любяць, калі нехта прасунуўся моўчкі каля гурту людзей ці каля аднаго чалавека і нічога не сказаў; не спытаўся, не прыпыніўся ці хоць крышку не запаволіў хады, а галоўнае — не прывітаў добрым днём. Хацелася загаварыць, пагаварыць, убачыць твары, пачуць гэтых людзей, паглядзець — а мо пазнáю каго па радні, па прыродзе тых, каму ўжо больш гадоў, чым гэтым саракоўкам, па тых, каго ўжо і няма ў Барбарове.

Не верылася: ніхто з іх, сараковак, не ведае, што Пад'елле — гэта лес, густалісты і высокі лес. Не ведаюць, што адсюль ішоў на Глуск, Бабруйск і далей клён, ясень, граб, дуб. Палазы, венскія крэслы, ваз-

кі, шафы... Тут ужо год сорак чыстае роўнае поле. Не абы-якое. Яно, сказалі, «за тры такія палі дае ці ў сухое, ці ў мокрае, ці ў якое хочаш лета». У наш час і сам ураджай не дзівіць людзей. Ёсць багата іншых дзівосаў — на яве, на тэлеэкране, на паперы. А жанчынам, здаецца, было дзіва, калі казаў пра Пад'елле. Задумаліся. І нават шкадавалі: ім трэба лён разаслаць, мне трэба — націкаў гадзіннік — ісці, каб ехаць сёння ж дадому.

...Пасвілі мы штук трыццаць — трыццаць пяць. Без брыгадзіра і адказнага; суседава Матруна большая за мяне на тры ці чатыры гады, яе і слухаў: яна лепей ведала, куды гнаць пасвіць, ведала, калі, пад поўдзень, ставіць на стойла статак, куды і калі гнаць, каб напаіць, калі трэба завярнуць статак дадому. У кожнага з нас свая торбачка. Былі такія дні, калі Матруну замяняў з сям'і нехта меншанькі, тады ўжо без «афармлення» Матруніны клопаты пераходзілі да мяне. Тады ўжо далёка, на Пад'елле, статку не гналі, пасвілі яго дзесьці паблізу ад вёскі, каб не згубіцца разам са статкам.

Апоўдні пайшоў дождж. Дружны, але ціхі. Пакупова ён прыпускаў гусцейшы, большы, «дажджэйшы». Пастуху дождж тады не быў перашкодаю. Каб удзень прыгнаць статак у вёску, у хлеў? Нельга. Пасі ад самага ранку да самага вечарочку.

Ужо ўсё мокрае. Напарніца то нешта скажа, то гукне, то паспрабуе заспяваць. Спыталася, і ці даеў свой хлеб: на дзень у торбачку клалі бутэльку малака, скварку сала і акраец хлеба; жаданых адносін «хлеб — сала» не было: скварка знікала, а на падвячорак заставаўся падсохлы акрайчык. «З'есці,— сказала,— трэба, бо размокне». Неба не паднялося, а дождж паменшаў, ішоў драбнейшы, радзейшы, але не цяплела. Матруна, падказваючы, што рабіць («Адвярні ад поля», «Падгані да чарады цяля, малое ж, возьме ды згубіцца»), як пасля зразумеў, глядзела чарады, глядзела і мяне. Было гэта ў жніўні, у лесе пракідаліся асовікі — падасінавікі, збірала іх Матруна, падказвала: «Убачыш, то не абыходзь. У торбачку!»

У жніўні ўжо раздолле пастухам — пасі і на полі. Але тым днём статка на поле не выганялі дый статак сам трымаўся лесу: у зацішку і нібы пад страхою, пад лісцем.

А потым, у нядзелю, калі і мне і Матруне была падмена, на нашай лаўцы, пад нашым частаколам, Матруна расказвала маёй маме і суседкам. Я гуляў у гародчыку.

— Рубца не было сухога, пахаладала. То бегаў, гукаў, крычаў: «Яшчэ адзін грыбок!» А то — радзей і радзей чую яго. Гукну — адгукнецца. Толькі штораз цішэй, памалей. І — сціх. Я гукаць, я крычаць! А божачка!.. А божа кахань!.. Не чуваць, не відаць. Ці адбіўся, ці мо якая бяда. Неба цёмнае апусцілася, і хмары, здаецца, на зямлі сцелюцца. Гукала, крычала — няма. Давай чараду, тавар, круціць там, дзе або чула, як азываўся, або на вока паказваўся. Гукаю, крычу. Песню заводзіла. Ды дзе ж тая песня пойдзе? Якая там песня!.. Прыцямнела ўжо — няма. Я тавар кручу на месцы. Думаю сабе: схамянуцца дома, няма нас, няма тавару, шукаць пойдуць, то хоць ведацьмуць, дзе шукаць. Ажно чую: бэкнула цялушка. Раз, другі. Я туды. Цялушка беленькая, стаіць, шыю выцягвае. Прыгледжуся — аж сядзіць падпасачак пад дрэвам. Спіць.

Я чую Матруніну гаворку. Голас яе пад канец змяніўся. Ці не заплакала. Я прытаіўся пад вяргіняю, каб і не бачылі, што я блізка, што чую... Сорамна. Адышоў, каб не чуць свайго сораму.

А тыя адвячорак і вечар усё адно як вярталіся да мяне. Усё ўспаміналася, усё ўставала перада мною. І тое, як чуў песню ў сне; Матруна гукала, клікала, а мне — чулася песня. Тая, што чуў ад мамы, што чуў не раз і ад некага; тая песня, што чулася і чуецца гадамі. Песня пра бацьку: памерла жонка, ён ажаніўся з другою, ліхадзейкаю; прыстала, каб страціў дзетак, і бацька звёз іх, двоечка дзетак, далёка ў лес. Звёз пад вечар і пакінуў. А сцямнела — не вытрымаў, у лес кінуўся. Чулі ў вёсцы людзі:

Не́хта ў лесе гукае —
Та́тко дзетак шукае.

Шукае, гукае і просіць: застаўся адзін:

Ідзéце, дзеткі, дадому,
Ой, трýдно жыці адному.

І тады, у маленстве, сціскалася душа і згортвалася цела. З жаху: «Бацька?..»

Праз гады на тых рэдзенькіх, лічаных уроках спеваў у Рагачове, у незабыўным і мілым Белпедтэхнікуме, пачуў песню Людвіга ван Бетховена. Настаўнік Уладзімір Біруковіч, што вучыў нас спяваць і хоць крышку хадзіць каля фісгармоніі, развучваў песню «Сурок». Настаўнік прайграў мелодыю на фісгармоніі, потым праспяваў страфу-куплет. Здзівіла мяне, схамянула: добра знаёмае, наша — і зусім незнаёмае, невядомае. Мелодыя кляценская, маміна, а словы — не. Мелодыя наша, з самага майго маленства і з таго вечара ў Пад'еллі, калі, зморапы, я заснуў і чуў у сне песню «Нехта ў лесе гукае».

Гады прайшлі і шмат. «Сурок» спяваюць па радыё чамусьці вельмі рэдка. А мне песня ўспамінаецца, памятаецца. З гадамі думаю другое: такія меладыйныя пераэовы! Што? У лясную палескую вёску, у якой не было ні школы, ні панскага кублá, дзе б гучала музыка і спявалася, у вёску, з якой у навуку і музыку пайшлі людзі толькі *нядаўна*, яшчэ *некалі* прыйшоў Людвіг ван Бетховен, яго мелодыя? Дакаціўся да жней, да нашых матак? Дакацілася да Клетнага Бетховенава песня? А можа дакацілася яна, мелодыя, адсюль да панскіх пакояў, адкуль ішла і пайшла далей, далёка? Пайшла — і пачуў ён, Бетховен? Калі так — то паздароў божа! Бетховен не паменшае з гэтай думкі і меркавання ні ў маіх вачах і ацэнках, ні ў знаўцаў музыкі. Геній не толькі стварае, умее ствараць,— геній умее ўбачыць, умее пачуць тое, што ёсць на свеце, у прыродзе, у людзях, на людзях. Геній чалавечнасці і ў Матруне. На тры ці чатыры гадкі старэйшая. Таксама, як і я тады,— дзіця. А сцяміла, скеміла. Не збаялася.

## ДОБРА, ШТО ЗАВІТАЎ

Жалобны дзень: не стала Якуба Коласа.

Я сустрэў Рыгора Шырму. І былі толькі два Шырмавы словы:

— Мы — осіроцелі.

Сказаў, і сцяліся вусны. Ні слоў, ні пытанняў, ні ўздыхання.

Дарагі наш голубе Рыгор Шырма двума слоўцамі, толькі двума, усё сказаў: і хто нам Якуб Колас, і што ўсім нам, самому Рыгору Шырму Коласава творчасць, Коласава дбайнасць, Коласава сіла.

Вялікі — пра вялікага.

На філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута адзначалі і семдзесят, і восемдзесят год з дня нараджэння акадэміка Браніслава Тарашкевіча — беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча, філолага, паплечніка Рыгора Шырмы ў змаганні з белапольскімі акупантамі. Абодва разы факультэту расказваў Рыгор Шырма. Уразіла мяне, усіх прысутных не толькі багацце інфармацыі, не толькі грунтоўнасць асвятлення дзейнасці Браніслава Тарашкевіча, беларускага падполля, усенароднай барацьбы за волю, за роднае слова, за родную культуру. Які ж непаўторны аратар выступаў перад залаю! Гэта былі прамовы магутнай ідэйнай і выхаваўчай энергіі, сілы. І не з ліста. Гэта былі ўзоры публічных выступленняў, дзе ўсё прадумана, дзе зместу адпавядае слова і інтанацыя, фразе — справы. Шырмавы.

— Молойчына, Яночка! Даўно з тобою бачыліся. Добрэ, што завітаў! — так сустрэў гаспадар пярэдняга з нас двух, калі мы, запрошаныя пасядзець і пагаварыць, пераступалі парог.

Гэтак, окаючы на родны, пружанскі лад, сказаў Рыгор Шырма бацьку ўжо дарослых дзяцей, бацьку — як на наш час — немалой сям'і, непаспешна, але няўчора прызнанаму адным з самых першых сярод сённяшніх беларускіх мастакоў слова, мажному, заўсёды і ўсюды сур'ёзнаму і несентыментальнаму Янку Брылю.

Нязменна сур'ёзны перад капэлаю на сцэне, часам суровы на рэпетыцыях-спеўках капэлы Рыгор Шырма сустракаў Яначку...

Была ў педінстытуце «Сустрэча з песняй». Паўнюткая і гэтым разам зала — яблыку няма дзе ўпасці. Песняю тады было Шырмава слова пра народную песню. Пра яе — душу народа — аднолькава наструнена слухалі Рыгора Шырму і студэнты, і пяць дзесяткаў выкладчыкаў музыкі і спеваў з літаратурна-музычнага факультэта, і столькі сама лінгвістаў і літаратараў, навукоўцаў-філолагаў.

І на гэты раз не з ліста, імправізаванае Шырмава слова.

Сказаў і пра Служэнне. Былы вясковы настаўнік, вялікі збіральнік, выдатны знаўца і прапагандыст песні — народнага слова, народнай мелодыі, ён сваім выступленнем паказаў аўдыторыі, пераканаў аўдыторыю: табе, будучы настаўнік, самае галоўнае — Служэнне чалавеку, народу, зямлі роднай!

Табе, філолаг, літмузавец, ёсць у што быць аддана і назаўсёды закаханаму. Ёсць на чым вучыць, гадаваць змену. Ёсць на чым выхоўваць людзей багацейшымі на самае дарагое, самае каштоўнае ў чалавеку — духоўную культуру!

І непаўторны ўрок роднага слова. На зразумелым і дарагім мне. На тым, ад чаго не раз балела.

Рыгор Раманавіч бярэ з паліцы кніжку, разгортвае яе з рашучасцю і нават суровасцю. Без слова просіць увагі. Чытае народныя і асобныя ненародныя, зняпраўджаныя мясцінкі ў надрукаванай народнай казцы, некім апрацаванай.

— Опрацова́ў... Вось, называецца, «опрацо́ўка»: «Табе трэба, ты і ідзі». Гэтак у казцы, у на́шой? Хіба опрацова́но? Прыпсова́но! Прыпсована досці́пная ка́зочка. Жанчына ў казцы не заіклівая, опрацова́льшчык зробіў яе заіка́стою. Послу́хаймо: «Ты-і-ідзі». Побач поставіў ы-і-і не сам казочнік, не пераказочнік... Заіканне бывае? Трапляецца. І ў наро́днай казцы. Гэ́то колі́ трэба з кого́сь пожартова́ць, посмея́цца. Або колі расказваюць, як хтось перэполо́хаўся, што заікацца поча́ў.

Адгортвае яшчэ адну старонку, вычытвае радок «Ён аб усім здагадаўся» і кажа:

— Допісаў сам опрацовальшчык «аб усім». Колі хтосьці здогада́ўся, то здогада́ўся. Не-не! Не трэба, недорэчное «аб усім».

Разгарнуўшы на стале кніжку, паказвае радкі і тлумачыць:

— Прыпісвае опрацова́льшчык, бо й не ведае, бо й не чуе. Во гэтакое: «пры прыгонным праве». Ну, колі мы ўжо начыталіся недорэ́чного прыго́нного пра́ва — нехай собе́, а ка́зочнік не будзе «прыпрыгоніць». Людзі скрозь казалі, до нас і за моею памяццю: *за паншчынаю;* казалі: *за панам, за панамі;* казалі: *як была паншчына.* Якое ж там было пра́во? Не было яго. Дзесь вычытаў — і нібы по-белору́ску...

Шырма чытае: «Пашапталася мышка аб нечым з лісічкаю».

— Додаў зусім непотрэбное «аб нечым».

«Мабыць, хваля выкінула рыбку ў час прыбою на пясок».

— Белору́скае «ў час»? Белорускае. Але каб не ў казцы. Гэто «ў час» тут «опрацова́льшчыково» ці яко́гось помо́чніка або рэда́ктора.— Вычытваў, паказваў радкі ў кнізе. І абураўся.

— То не майце,— казаў, звяртаючыся да абодвух,— крыўды, колі напрыдзіраўся...

Чуйнасць і веданне. Дарагі Чалавечы клопат. Шчырая Чалавечая руплівасць.

## І ГЭТАК...

Ужо трэці год, як лескаве́ц пазычыў у пераро́ўца грошай. Чакаў пераровец, калі той лескавец прынясе пазычку, а ён не нясе. Да Лескаві́ч кіламетраў з дзесяць, і пераровец парашыў пайсці, спагнаць сваё і сёння вярнуцца дахаты. Схадзіў, але з та́кам вярнуўся: з чым пайшоў, з тым прыйшоў.

Месяцы два, набіраючыся рашучасці, складаючы «план паходу», назапашваючы слоў, пераровец падбіраў дзень, каб зноў схадзіць у Лескавічы сказаць настойлівей, каб аддалі грошы. «Хто ж так робіць? Дзе бачылі? І як яно? Жывеш, пазыкі не вярнуўшы?»

І прыйшоў.

Лескаўцова жонка падмятала двор. Яна адразу прыставіла венік да плота, запрасіла перароўца ў хату, клікнула свайго Мікалая: «Людзі прыйшлі. Чуеш?»

«Трэба цвёрда, але каб не насварыцца, не аблаяць... Як тут мне?.. Не-не. Скажу ўсё! Я ж не якіх там слоў надумаўся. Аддайце. А што пераказвалі: яны адрабілі б мне за пазыку? Што яны рабіцьмуць мне? Самі з бабаю ўпраўляемся на тых дзвюх дзесяцінах. Якое адрабля́нне?» — настройваў сябе чалавек з Перарова, пераступаючы парог у лескаўцовы сені.

Ідзе за гаспадыняю пераровец, неспакойна на душы. І разам пачынае дзівіцца і дзівавацца: як яны, гэтыя лескаўцы́, ліпяць на бабыльскай паўдзесяціне?.. Усяго тут вельмі ж мала, усё іхняе як ёсць — а што ў іх ёсць? — навідавоку. «У мяне ж...» — і ўстала перад чалавекам з Перарова яго хата і тое, што ў хаце.

Прывітаў добрым днём хату, гаспадыню, гаспадара, што амаль адным крокам, следам увайшоў у хату. Гаспадары запрасілі чалавека сесці. Скупа і нясмела расказвалі, што дзе як... Сказаў слова, хоць не вельмі варочаўся язык, пераровец. Таксама скупа, ціха. На засланым стале неяк непрыкметна, нібы самі сабою, з'явіліся агуркі, проста на абрус леглі тонкія скібкі хлеба, на сподку тры яечкі і ўюны, акунькі печаныя, цыбуля. Стала і чарка, неглыбокая, вузкая, на тонкай ножцы, а пры чарцы тая, даўнейшая, сотка. Як сёння — то жарт: колькі ў яе нальеш? Якія з тае соткі чаркі?

Усе тры даўно немаладыя. То якое ў іх ядзенне? Ат, клюнулі па-дзядоўску. Нягуста гавораць, пакрысе ўспамінаюць. І на лета перайшлі. А яно цёплае, мяккае. Яно, «вялікі дзякуй госпаду, й на ягады, й на грыбы, па рыбу: яе й у рацэ, ў вазярынах». Казалі пра сваіх таварышаў і таварышак. Хто яшчэ

тупае, а каго «бог даў — бог і ўзяў, бог прыслаў — бог прыняў». Каго раней, каго нядаўна. Хто ліпіць яшчэ, ча́ўрае, як і гэтая па́ра...

Усё тут, бачыў пераровец, па-свойму, адно да аднаго: гэтак чыста — і гэтак пуста, самі хударлявыя, лёгкія, як выпетраныя — такія, што, здаецца, каб на полі нахапіўся вецер, панёс бы... светлыя з воласу і ледзь-ледзь прыкметна падружоўленыя з твару, чыстыя, як і тыя вузкія ручнікі на покуці, як чысты тонкі нешырокі абрус на стале; на абодвух саматканае адзенне; на нагах лапці і белыя-белыя палатняныя анучы, з нейкага, відаць, сподняга адзетку, нібы, як там кажуць, з мэрлі, самае таннае, вынашанае.

А на двары вечарэла. Пераpоўцу трэба дадому. Пра пазыку — няма і слова. Зірнуў пераровец у акно, а Мікалаісе і Мікалаю ўбачылася: меціцца чалавек падняцца з лавы. Азвалася Мікалаіха. Ды з просьбаю, ды раячы, ды ўгаворваючы:

— Не, чалаве́чэ. Не трэба йсці на ноч гле́дзячы. Гады ж вашые. Пяраначуеце, а вывіднее — пяракусіце й патупаяце.

Папрасіла.

Яшчэ цішэй, чым дасюль. Голас задрыжэў:

— Як падумаем, як згадае хто ці як самі ўспомнім, то душа абарвецца, ногі млеюць, вочы засьціць сьляза. Пазычылі, страціліса — купілі цялушку. Цялушкі німа, то кароўкі зь яе ні дачакаліса, пазыка засталаса...

Пераровец варухнуўся, але не ўстаў. Паслухаўся. Чаркі тае ў галаве не чуў: толькі дзеля прыліку памачыў губы. Як і Мікалай, гаспадар.

І зноў гаварылася — нібы і не было тых Мікалаішыных слоў. Хіба толькі яшчэ паменшала за сталом слоў, яшчэ паслабелі галасы. І мякчэў — хацеў або не хацеў — пераpоўцаў клопат, што гнаў з Перарова, з хаты. Яшчэ раз акінуў вокам Мікалаеву хату. У старых ні каня, ні вала, ні тае кароўкі. Яшчэ падумаў... і такія няхітрыя і на ўсё не вельмі ўмелыя...

Рашучасць, з якой выходзіў з Перарова, з дому, слабела. Яна мякчэла, аціхала, нікла.

А калі паслалі на лаве пасцель і пераровец прылёг, заснуць не мог. Зноў, хоць без болю, заварушыў

яго той самы клопат, паколвала крыўда. Хоць і сам з бедных, ды...

Паляжаў нейкую крыху, падняўся, узяў падушку з-пад галавы і... сабе пад ногі; галавою лёг на, лічы, голую лаву, засланую ў дзве столкі палатнянаю посцілкаю. І сказаў самому сабе, на сябе:

— Такая? То ляжы так!..

У Перарове, у Лескавічах, суседніх вёсках і сёння, праз дзесяцігоддзі, успамінаюць пра тую пазыку, пра тую падушку, што з-пад галавы лягла самому сабе... пад ногі.

Я чакаў сябра на пясчанай выспе, насыпанай самою ракою ў паводку. На выспу гэту лескаўцы выцягваюць і прымыкаюць да слупкоў свае лодкі. Хто прыйшоў з маторам і рыхтаваўся, каб некуды панесціся на лодцы, хто даглядаў, канапаціў лодку, у каго чарговае калупанне ў маторы. Бачу і чую нібы сабраных некім чалавек з дзесяць. На гады́ свае гэтыя сённяшнія лескаўцы — ці не праўнукі тых дзядоў. Хто з гэтых праўнукаў або немаладых унукаў гаворыць так, як і ўсе ў Лескавічах, хто — нібы падкультурыўся ў мове. Са смехам і жартам, а хто без смешак прыгадвалі тую пазыку, падушку пад нагамі. Прыгадвалі і казалі. Казалі — хто што. Казалі хто як.

Адзін малады — я пачуў, як ён гаворыць,— нетутэйшы. І сказалі, што ён аднекуль не з Лескавіч:

— Я прыўлёк бы! Атвецьсьцьвеннасьці! Я бараду вырваў бы... Браў — аддай! Баста! Точка!

Сказаў другі, трэці, чацвёрты...

— Вельмі такі! Разумец!.. Бачылі такіх. Швэндала... Судзіўся б? На кроў пайшоў бы? А жыў бы як?

— Не аддасі — не пазычай! А пазычыў...

— «Аддай, аддай»... Заладзілі! У бядноце ж. Стра́давалі. Цялушку... А там — кароўка...

— Што ты вінны — аддаць, вашмосць, павінны!

— Жылі ж адзін пры адным. Чуць што — дык і за горла? Ці ж бы так? Людзі ж! Жылі, а не басця́ліся, не круцілі і не круціліся...

...Не судзіліся. Як там казалі і кажуць, за́грудкі не хапаліся. На кроў не ішлі. І стаяць яны ўваччу. Бедныя. Але і не такія ўжо бедныя. Чалавек — не ў багацці.

Ні ў быва́ляшнім, ні ў сённяшнім.

## З ПЕСНЯМІ

На невялікую вёску — двароў, шэсцьдзесят, шэсцьдзесят хат — былі аж два мужчыны-гаспадары, якія за лета разы тры вярталіся з местачковага кірмашу-базару вясёлыя. Выпівалі не ў мястэчку, а ў дарозе. І выпівалі па два — не болей па тры — казубкí-чаркі. Бачыў даўно, і летась, і сёлета казубкі-берасця́нкі (не якія там ударныя, а грамаў так на дваццаць — сорак пітва). Не ўчора іх зрабілі. Яны не з ніткамі, не з дратваю, не з дроцікамі, нясклееныя і нясшытыя; бяроста, а каля бяросты пахадзілі рукі з вострым нажом. Бачыў казубкі-берасцянкі без трэшчынак, непадмалёўваныя, непадфарбаваныя; бяроста, нібы нядаўна здзёртая з бярозкі, бліщчыць без бляску, з нейкай мяккасцю, не з такою, як нешта лакам паведзенае.

Казубок-берасцянку Васіль і Максім везлі ў малой палатнянай, як пастухова, торба, а ў ёй нейкая крыха: акраец хлеба, нешта да хлеба. На выездзе з мястэчка спыняліся, налівалі і выпівалі тыя казубкі, цалавалі (ад людскога вока не ўхаваешся!) кожны свой казубок. Закусвалі тою крыхою.

Дзесяць кіламетраў язды да вёскі на шустрым і шпаркім, чорным, як крумкач, кані не астуджвалі дзядзькоў. Наадварот, пад вёску пад'язджалі падвяселеныя. Снеданне ж было даўно, прахадзілі не адну гадзіну на базары. Нешта прадалі, нешта куплялі і купілі. Васіль збегаў да рымара і краўца. Максім падскочыў да шаўца і ў валюшню; трэба сукно ў валюшні-сукнава́льні падваліць, каб цяплейшыя світы і штаны выйшлі. Сёе-тое куплялі ў дробных нэпманаўскіх лаўках, што стаялі адна пры адной у цэнтры мястэчка. То з мястэчка ехалі аж пасля паўдня. Вяр-

таліся дахаты добра натупаўшыся. Казубкі-берасцянкі пілі як нашча, на пусты жывот.

Ехалі да вёскі нібы з завучаным сцэнарыем... Васіль наструньваў лейцы, сцябаў раз-другі каня, цаляючы, каб кончык-вузéльчык пугі даставаў каля самага падсядзёлка. Конь кідаўся нáўскачкі. Васіль спрытна стрымліваў яго; разок ці другі хвасяне пугаю паўз аглаблю, але ўжо не сцябаючы каня.

Калі яшчэ далекавата было да вёскі, Максім пачынаў песню. Спяваў тую, што «сям'я, дзякуй богу, прыбавілася, матка маладая сынка прывяла», спяваў «дзякуй ды вялікі», «дзякуй ды з паклонам» куме і бабульцы, што... «на свет пайсці падмаглі». Але песні гэтай не даспёўваў. Максіма перабіваў Васіль:

— Другую. Вазьмі, кажу табе, другую.

Максім, кашлянуўшы і гэкнуўшы, пачынаў тую, што «Люлька мая чырвоная... я цябе курыла...». За гэтую песню мы, хлапчукі, не раз спрачаліся. Але так і не ведалі, «што за яна тая, што курыла»? Нават і адна жанчына ці дзяўчына з вёскі і з усяго нашага савета не курыла. Люлькаю пыхкаў толькі хто з дзядоў. Чырвоная? І аднае чырвонае люлькі ні ў кога ў вёсцы не было. Не разумелі тады, не разумею і сёння, хоць гэта і не клопат, не загадка з тых, адгадка на якія асветліць заўтрашняе, паслязаўтрашняе.

— Пачакай! Ну, пачкай! — спяшаючыся, Васіль скрадваў адно з трох «а» ў слове.— Нашто яна табе тая, што курыла? Каб на ёй галава курэла ды курылася...

Не так далёка сама вёска. Уся Васілёва ўвага — на каня! Кіраваў-фурманіў так, каб конь бег падтанцоўваючы, а не наўскачкі, каб не шпарка, а быццам на адным месцы перабіраў нагамі. Каб з выгнутаю, як дуга, шыяй! Каб як той лебедзь. Пасля не раз і не два бачыў я цыркачоў з коньмі, стройнымі і прыгожымі, сытымі і шырокімі, накормленымі і падвучанымі. Напаказ. Таго, Васілёвага, ніякі коньцыркач у маіх вачах не касаваў, не перакасоўваў. У Васілёвага была толькі аднюткая прывілея-скідка — яго не запрагаў Васіль у плуг, бо пасля плуга конь становіцца падобны на вала; цягне, але не сядзеш на яго, каб праехаць конна: спатыкаецца.

На лаўках і на прызбах, ведалі абодва, уся вёска.

Васіль вышэй падымае галаву, сядзіць як урыты. Не нокае, не цмокае і не тпрукае на каня, а толькі ледзь-ледзь падварушвае (не ўсякі, хто глядзеў, бачыў гэта) нацягнутымі лейцамі зацуглянага варанога. Во і вёска зараз, фурманка зробіць круты паварот са шляху на вуліцу. І Максім пачынаў песню. З вялікага — і ў вёсцы, і ў Максімавым, яго ўласным — рэпертуару спяваліся чамусьці не розныя, а толькі выбраныя, нібы з Максімавай анталогіі: «Ой, хадзіў жаўнер-саколічак па гары крутой, прычасаў ён косы (валасы) русыя праваю рукой», «А ў бары, бары тры дарожачкі. Гэй-гэй! Тры дарожачкі. Тудою ішлі тры жаўнерыкі (усе ў вёсцы ведалі: спяваў ён то жаўнерыкі, то, паўтараючы, салдацікі)»... Потым пра тую дзяўчыну, што «не выйшла», што «выйшла яе матка», што матка запрасіла: «Проша, калі ласка, у хату». Тады чулася: «Ой, хлопча-малойча, чаму зажурыўся? Ці валы прысталі, ці з дарожкі збіўся?» Пра таго, што зажурыўся, бо «памёр бацька й матка, ды не ажаніўся».

А калі была блізка Максімава хата, ішла «Доля»... Максім спяваў ці не пра сябе: «Ой, хаджу я, хаджу, пахаджа́ю ды па чыстым полі, ой, я сею, сею, рассяваю сваю горкую долю»...

Бачыць і чуе ўся вёска. Бачыць іх двух. Адзін у ботах, другі — у лапцях і на святдзень, у нядзельку. Адзін меў каня, як птушку, пры ім валы́, каб на іх араць, вазіць сена з гразкіх балацін, дровы з лесу, каб шкадаваць каня. У другога гаспадара былі толькі дробныя волікі, ці маладыя, ці з такой пароды. У першага быў хлеб, было і да хлеба. У другога як калі: жыў то з хлебам, то часам было і да хлеба, то — посніца, зацірка, неабіраная бульба (нашы пісьменнікі трывала ўчапіліся за, мабыць, вельмі гаваркія ім... «мундзіры» — «бульба ў мундзірах»...).

Я бачыў тую фурманку, чуў Максімавы і Васілёвы песні ў нядзельку, тры разы за лета, калі быў хлапчуком; шкадуючы, радзей — калі станавіўся падлеткам. Бывала едуць —і песня. Вытанцоўвае конь — і песня, і песні. І нікому нічога. Ані крыўды, ані абразы. Былі адзіныя-аднюткія два, на якіх зняважліва казалі ў вёсцы: п'яніцы.

## НАСТАЎНІКАВЫ РУКІ

Што ж *без цябе,* настаўнік? Хто ж *без цябе,* настаўнік?

Ты, настаўнік, быў у Скарыны і ў Гарыбальдзі. Ты, настаўнік, быў у Герцэна і Каліноўскага, у Карскага і Паўлава.

Ты, настаўнік, быў і ў таго печніка, якога спалілі фашысты,— у таго «адзінага, хто мог бы ў той дзень не згарэць. І ён жыве».

Касманаўт Кавалёнак, калі вярнуўся на зямлю з космасу, на першай хвіліне размовы з журналістам успомніў сваю школьную настаўніцу Людмілу Ермашкевіч.

Свет не ведае азалочанага настаўніка, мільянера.

Свет ведае: ні войны, ні землетрасенні, ніякая прапаганда ці забарона ніколі не сатруць з памяці чалавецтва засведчанай у легендзе здрады настаўніку: вучань пакляўся, што не здрадзіць настаўніку,— і прадаў настаўніка. Прадаў за трыццаць срэбранікаў. Прадаў, а сам навекі ажаніўся з асінаю, павесіўся на ёй. Навекі стаў сімвалам нявернасці, здрады, прадажніцтва, нялюдскасці; на асіне, ненавіснай людзям, заўсёды трымціць ліст; чалавецтва, чалавечнасць далі вечную ацэнку, вынеслі вечную недаравальнасць, вечны прысуд на ганьбаванне таго, хто здрадзіў настаўніку.

За мінулую восень і зіму не адну дэкаду не выходзіў з хаты. Не раз дакторка Людміла Цвірка, паслухаўшы сэрца і пагартаўшы кнігу дакторскіх радкоў, запісаных не за адзін год (то ў клініцы, то ў самой бальніцы, то дома, калі я быў на пасцельным «прыжыме») сказала: «Бальніца. Трэба стацыянарнае лячэнне». Находзілі і наступалі ўспаміны. Прыгадвалася такое, што ні разу за жыццё і на часінку не прыходзіла на памяць. Можа, гады...

Успомніліся песні «Нехта ў лесе гукае», «Ой, хаджу я», «Сям'я, дзякуй богу, прыбавілася», «Будзь мая каханка», «Не раз, не два выручала»... Успомнілася, як... Ды пра гэта, магчыма, калі-небудзь іншым часам, іншым разам.

Раскажу толькі пра адно. Гэта — вечар з маленства, калі вучыўся ў пачатковай школе ў Станіслава Бараноўскага. Успомнілася, я́к дзіцем рыхтаваўся да гэтага вечара, што́ было на ім, што́, разыходзячыся, казалі людзі. І кніжка...

Толькі не разбяру і не ўспомню: што́ ж нядаўнім днём было штуршком, каб успомніўся той вечар і тая кніжка: з чаго, з якога слова або з якога прачытанага ў кнізе радка вярнуўся першы раз у сталым веку вечар, што быў у мяне даўно-даўно.

Успамінанне — як стан ці як дзейнасць? — само сабою не можа цешыць: менш рухавасці, больш бываеш адзін. Кажуць: лепей крышку зрабіць, чым багата нагаварыць; лепей варушыцца, хоць паціху, чым аддавацца ўспамінам.

Але гэтае ўспомненае прынесла мне ні лішняе, ні горкае.

Настаўнік паклікаў мяне ў свой пакой, паказаў кніжку, абгарнуў яе газетаю, сказаў:

— Дома прачытаеш. Але чытай не адзін. Каб самому сабе не чытаў. Ці пачуў? Чытай тады, калі будзе нехта слухаць: тата, мама, брат, сястра. Чытай і не спяшайся.

Я чытаў тую кніжку і прачытаў, калі ў хаце быў не адзін.

У нядаўні тысяча дзевяцьсот семдзесят дзевятага года дзень мне ўспомніліся настаўнік і тая кніжка.

У гэтыя нядаўнія дні выручаў тэлефон, расказваў успомненае кніжніцам-бібліятэкаркам, бібліёграфам. Прасіў, не вельмі смела і не патрабуючы, шукаць кніжку. Набралася якраз жа дзесяць прыкмет — маіх дзесяць пытанняў, дзесяць на іх адказаў. Толькі ж тэлефон ёсць тэлефон. Тэлефон скажа, якая гадзіна, які будзе мароз, ці будзе дождж... Мне абяцалі і шукалі, а ніхто не званіў, што знайшлася прошаная кніжка,— яе пакуль што не знаходзілі. Дый не вельмі настойлівы быў: а што калі я знянраўдзіў і даў людзям лішнюю працу?

У галоўнай мінскай бібліятэцы з імем Леніна ішла апошняя гадзіна службы. На службе чатыры бібліятэкаркі, тры з іх — мае даўнія знаёмыя, што

не раз, шчыруючы, шукалі, знаходзілі і прыносілі мне патрэбную кніжку; не раз выпісвалі патрэбныя кніжкі з далёкіх гарадоў.

Расказаў бібліятэкаркам пра ўспомненае, пра кніжку, якую чытаў даўно. Пералічваючы на пальцах, назваў прыкметы кніжкі, сказаў, што адны памятаю добра, другія — горш. Даўно знаёмыя, нібы экзаменуючы мяне, слухалі і перапытвалі пералічаныя прыкметы.

І кніжка знайшлася. У бібліятэцы, у беларускім аддзеле, падала мне кніжку бібліятэкарка-дысертантка, шчырая і руплівая Валя Бігеза.

Была тады ў мяне, хоць і не выдатная, здача экзамену:

кніжка выйшла пад дваццаць першага студзеня дваццаць сёмага года;

на акладцы — не трыкутнікі, як тады мне, васьмігодку, здавалася, а два ражкі сцягоў; разумею: мастак намаляваў сцягі такія, якіх не бачыў я ў маленстве, калі на нашай школе, на нашым сельсавеце вывешвалі невялікія чырвоныя сцягі з няярка пафарбаванага школьнаю старожкаю паркалю ці кужалю; тыя сцягі не былі такія, як бачым сёння на шырокіх сцэнах, не такія, што ападаюць складкамі велічна, шыраказначна.

«Наш настаўнік Ленін» не кніжка, а брашура.

Была ў адказе недакладнасць такая: назву брашуры «Наш настаўнік Ленін» я змяніў на «Ленін — наш настаўнік».

Гэта была брашура Лілінай. Пра Уладзіміра Ільіча.

А той вечар з кніжкаю-брашураю?

Вялізны клас, у якім вучылася ўся пачатковая школа, перапоўнены дзядзькамі і цёткамі. Хто — сядзіць, хто — стаіць: не хапала месца. Спераду пастаўлены два, адзін пры адным, сталы. Мой настаўнік Станіслаў Бараноўскі вядзе мяне да ссунутых двух сталоў. Падымае з падлогі табурэтку і ставіць яе на стол, кладзе на табурэтку брашуру «Наш настаўнік Ленін», бярэ мяне ззаду падпашкі, ставіць пры табурэтцы і ціха кажа: «Адна ручка няхай будзе на табурэтцы».

Я прачытаў на вечары ўсю брашуру.

Выходзілі з класа дзядзькі і цёткі. Чуў: «Вот, брат, чытае!», «Але як званок!», «Ну й чытае!» Успомнілася і гэта, і што меў я ў пачатковай школе, апрача метрычнага, другое імя — Званок. Яно не знявага, не крыўда: у маленстве быў у мяне звонкі голас. А тыя ацэнкі чытання? У вёсцы жыло ўсіх душ трыста, а сталых пісьменных — толькі... чатыры ці пяць. То і зразумелая ацэнка. Яна без... прыпісак, без... завышэння.

Тая табурэтка.

Тыя, прыстаўленыя адзін да аднаго, два сталы.

Іх зрабілі настаўнікавы рукі. Табурэтка і сталы непафарбаваныя; як кажуць на Маладзечаншчыне — немаляваныя.

У школе на сценах віселі дзве вялізныя, адных памераў, карты. Не з фабрыкі яны. Адна карта — уся Беларусь. Другая — увесь Саюз. Карта Беларусі падзеленая: прыцемненаю фарбаю — тая Беларусь, дзе Свіслач, Кушляны, Астрына, Нава́градак, Ліда, Мастаўляны, Нясвіж, Баранавічы, Паставы, Пінск, Белавежа... Гэта Беларусь Заходняя, тады пад акупацыяй белапольскіх паноў. Абедзве вялізныя карты сваёю рукою маляваў наш Дзядзька Настаўнік.

Няма ўжо на свеце майго, як тады называлі і дзеці, і сталыя, Дзядзькі Настаўніка.

Больш як праз пяцьдзесят гадоў адчуваю цёплыя шырокія настаўнікавы рукі. Не ведаю, чые і якія рукі дагледалі — у апошнія гадзіны і хвіліны — майго Дзядзьку Настаўніка. Не ведаю, чые рукі (і ў казках, і ў песнях, і ў размовах з даўніх давён так казалі і кажуць на Беларусі)... чые рукі заплюшчылі настаўнікавы вочы, чые рукі склалі на грудзях настаўнікавы рукі.

Пішу. Чую настаўнікавы рукі. Чую: «Адна ручка няхай будзе на табурэтцы». Некаму здасца: словы гэтыя нібы нічога не абазначаюць. Не. Чытала ж дзіцця, чытала стоячы; наструненае, не на сваю сілу на-

пружана. І будуць — настаўнік ведаў — млець дзіцячыя ножкі, могуць падкасіцца.

Настаўнікавы рукі паднялі мяне.

Яны далі мне ў рукі, у душу кнігу.

## ПРЫЙШЛО САМО

Сустракаю прафесара Гілера Ліўшыца то на Ленінскай вуліцы, то каля Белдзяржуніверсітэта, то каля галоўнай нашай сталічнай бібліятэкі. Абавязкова спынімся. Кароценькая размова — і развітанне. Ён не спяшаецца і не трапечацца: «Ой, час ідзе!..» «Баюся — не паспею...» Не-не. Роўна і немарудна ідзе. Добра бачу, што працуе і па дарозе ў бібліятэку: думае.

Ён вучыў мяне. Даўно, да вайны. Тады, у 1937—1939 гадах, Гілер Ліўшыц быў проста выкладчык, без званняў і ступеняў, без кантоў на добра вынашаным — адным і тым самым зімою і летам, недарагім — гарнітуры.

Не чакай, шаноўны чытач, што буду пісаць біяграфію (разгарні том шосты БелСЭ — і прачытаеш) Гілера Ліўшыца, не спадзявайся, што буду «прасочваць» яго шлях у навуку, разглядаць яго, як пішуць па канцылярскі строй, «навуковую прадукцыю». Той, хто цікавіцца гісторыяй чалавецтва, той ведае ці ведаць будзе прафесаравы грунтоўныя кнігі «Кумранскія рукапісы...», «Сацыяльна-палітычная барацьба ў Рыме...», «Рэлігія і царква ў мінулым і сёння», «Паходжанне хрысціянства...», «Нарысы гісторыяграфіі...», іншыя. Той, хто не цікавіцца гісторыяй, духоўна, ведаю, не пабагацее ад майго «разбору» ці «разгляду» гэтых кніжак.

Вучыўся я завочна ў настаўніцкім інстытуце (лінгвістычна-літаратурны факультэт) пры Мінскім педагагічным. Слухаў тры курсы ўсеагульнай гісторыі; гісторыю старажытнага свету, гісторыю сярэдневякоўя, новую гісторыю (называю, мабыць, недакладна, але, спадзяюся, гісторыкі і негісторыкі разумеюць, якія гэта курсы; дарэчы, іх назвы ў наш час

мяняліся) чытаў малады і энергічны выхаванец таго самага інстытута Гілер Ліўшыц.

Яго лекцыі — не «кафедральнае» па радках і старонках «гладкочтение с листа», а жывое выкладанне гісторыі людскога жыцця, людскога змагання, гісторыі барацьбы прагрэсіўнага з тым, што павінна саступіць заўтрашняму дню, з тым, чаму непазбежна трэба адысці, адмерці. Лектар расказваў. Запісваў на дошцы (крэйды не хапала, і выкладчык іншы раз вымаў кавалачак, загорнуты ў паперыну) даты, прозвішчы, геаграфічныя назвы. І сёння, больш як праз сорак гадоў, я чую тыя лекцыі, бачу лектара.

Гісторык — я пачуў, паверыў — ведаў не толькі беларускую і рускую мовы. Ён расказваў пра тое, што такое *імперыя,* пра словы таго самага кораня, што і *імперыя*, як мянялася паняцце і сутнасць імперыі і імперый. Вялікая Рымская імперыя, памятаю з гэтых лекцый, узнікла яшчэ да нашай эры; была яна аж да сярэдзіны першага тысячагоддзя нашай эры. Была — у свой час — велізарная Іспанская імперыя,— тая імперыя, што заваявала сваю суседку Партугальскую імперыю. Былі іншыя імперыі.

З тых заняткаў у Гілера Ліўшыца ўрэзаліся ў памяць, увайшлі ў свядомасць словы, што ад лацінскага impera: імперыя, імперыялізм, імперыялістычны, імператар... Напісаў лектар на дошцы divide et impera, расказаў, што гэта, адкуль гэта. І калі ў мае ўжо сталыя гады, пасля другой сусветнай вайны, я чытаў, як рушылася велізарная, апошняя Брытанская імперыя,— адчуваў нібы агульначалавечае і маё, нібы ўсёй зямлі і маё *свята.* Людзям, усёй зямлі, чалавецтву не трэба імперый. Ні даўніх, ні больш позніх і з вялікім «стажам», як тая Брытанская, хітрых і падмаляваных, ілжывых і хлуслівых, што выдавалі сябе за сейбітаў асветы, культуры, што нападалі і заграбалі, што вучылі заваяваных, заняволеных прызнаваць сябе выратаванымі і падабраволі далучанымі да імперый, што кіравалі і мучылі нібы на правах роўнасці пры здзеках з яе — роўнасці. Неяк з трывогаю чую сёння пра тыя прэтэнзіі, пра тое нахабства перад чалавецтвам, якое акрэсліваецца, як і impere, словамі гегеманізм, гегеманісты — непатрэбнікамі гуманізму, людзям, зямлі.

Кароткія, але яркія курсы самой гісторыі, гістарычныя паняцці, асобныя даведкі лінгвістычнага зместу назаўсёды атрымаў я ад прафесара Гілера Маркавіча.

Непакоіць: мае сённяшнія студэнты-філолагі не вывучаюць гісторыі,— не толькі старажытнага свету, не толькі сярэдневякоўя.

Бачу істотную страту: мой сённяшні студэнт-філолаг не вывучае латыні. Вучыцца на філалагічным ці гістарычным факультэце і без латыні? А што такое — самі словы — інстытут і універсітэт? Што такое факультэт? Адкуль гэта слова? Як мянялася і змянілася значэнне яго? А гуманітарны, гуманізм? А літаратура? А такія нібы звычайныя — філолагу незвычайныя — аўдыторыя, лабараторыя, лабараторны (метад), лабараторныя (заняткі)? А словы мемарыяльны, аспірант, студэнт... І іншыя, і іншыя, і іншыя.

Адразу пасля вайны я меў клопат: вучыўся да вайны, з дваццаць экзаменаў здаў за настаўніцкі інстытут, а на руках — ніякай паперыны. Хоць бы без пячаткі! Прыехаў у Мінск, прачуў, дзе працуе Міхась Ларчанка (я слухаў у інстытуце яго курс «Уводзіны ў літаратуразнаўства», тады называўся курс «Тэорыя літаратуры»), пашукаў — не знайшоў, распытаўся пра лёс некалькіх выкладчыкаў, што да вайны працавалі ў Мінскім педагагічным інстытуце. Першы, каго сустрэў,— былы дэкан завочнага аддзялення. Пазнаў ён мяне, нават успомніў і сказаў, што з вайны з Фінляндыяй, з Карэльскага перашыйка, я вярнуўся параненым, што ён параіў мне летнюю сесію 1940 года прапусціць, каб я падужэў, зняў падвязку, на якой насіў руку. Расказаў мне і спагадліва растлумачыў: ён вучоны сакратар, яму не падыходзіць даваць пацверджанне, што я быў студэнт, што я вучыўся ў настаўніцкім, што мяне перавялі на трэці курс педагагічнага інстытута.

Як не — то не! Я не прасіў. Пачуў, пагадзіўся: нельга.

Тым самым днём у Мінску ўбачыў Гілера Ліўшыца, адразу пазнаў яго і паспеў падумаць: прасіць на-

конт дакумента не буду, трэба спачатку распытацца, хто я выкладчыкаў мае права падпісваць пацверджанні, хто падпісвае іх; сустрэча з былым дэканам неяк і не пакрыўдзіла мяне, толькі насцярожыла: успомніў, паспагадаў мне і спаслаўся на... службовае становішча.

Вы, Гілер Маркавіч, далі мне пры той сустрэчы незабыўны прыклад. Нібы не ўзіраючыся, не спыняючыся, сказалі: «Я вас пазнаў. Два экзамены мне здалі. А ваш той, круглаваты такі, жыве? Выйшаў з пекла, з вайны? Я помню: сядзелі на лекцыях з сябрам побач. Экзамены здавалі разам».

І ў руках — пацверджанне: Ф. Янкоўскі здаў экзамены за настаўніцкі інстытут, залічаны на трэці курс педагагічнага. Даў мне ў рукі лісток з завераным сваім подпісам (настаўнік сам, без мяне, знасіў гэты лісток у аддзел кадраў Белдзяржуніверсітэта, дзе працаваў).

Дзякаваў я і дзівіўся: памяць!.. І сказаў гэта. А ён:

— Настаўніку нельга інакш. Вучыць і не памятаць, каго вучыш? Вучыць, экзаменаваць і забыцца?

Дзякуй вам, мой настаўнік. І я навучыўся не забываць сваіх былых вучняў, студэнтаў.

Выкладчык прыходзіў на лекцыі без партфеля, без папкі. Я ўжо сам тады настаўнічаў і бачыў, што лектар заўсёды падрыхтаваны. З пустымі рукамі, але з поўным — у галаве — курсам.

З першай яго лекцыі. Сказаў, колькі ўсіх лекцый прачытае, калі будзем здаваць экзамен, як трэба рыхтавацца да экзамена. Канкрэтна, лаканічна, сур'ёзна. І тады ж:

— На экзамене расказвай, што ведаеш. Выкарыстай у адказе засвоенае. Сплануй выклад сваіх ведаў так, каб відаць было: што ведаю, тое ведаю. І не трэба, як здараецца, бéднячыся, рабіць агаворак: «Гэта было... забыўся год...» «Пра гэта пісаў гісторык... не ўспомню...» Больш і лепш ведаць! Без гэтага няма настаўніка. Расказваць — ці на сваім уроку, ці на маім або чыім экзамене, які здаеш,— дык рас-

казваць тое, што ведаеш. І ў школе, і ўсюды. Няцвёрда ведаеш — вазьміся, пабагацей. А сёе-тое, прыблізна?.. Ні ў якім разе.

А чатыры гады таму назад я ледзь-ледзь не атрымаў... двойку ад свайго настаўніка. Гілер Маркавіч амаль таямніча расказвае мне і майму калегу, якога таксама добра ведае, што збіраецца выйсці на абарону доктарскай дысертацыі,— ён даўні доктар гістарычных навук, а будзе абараняць другую доктарскую дысертацыю, спадзяецца атрымаць яшчэ доктара філасофскіх навук.

Пачуў — і ці не заспяшаўся я, выказваючы меркаванне: а ці трэба? Даўно прызнаны гісторык, аўтар-кніжнік, выдатны педагог, гады ўжо, не хапае здароўя. І... збіраецца абараняць дысертацыю, другую?

Выручыў знаёмы, што стаяў пры нас:

— Мабыць, не так,— кажа ён.— Прафесар не збіраецца пісаць: ён не толькі напісаў, а ўжо навуцы падараваў манаграфію «Вальнадумства і атэізм у старажытнасці і сярэдневякоўі». Гэта — навука. Гэта — доктар філасофіі, толькі без дыплома. Не плануючы, не збіраючыся стаць доктарам філасофіі, выказаў такое і так, што прафесар становіцца яшчэ раз доктарам навук.

Прыгадалася з гісторыі мастацкай літаратуры: пішы, калі не можаш не пісаць. Званне доктара філасофскіх навук прыйшло само, яно само знайшло доктара гістарычных навук прафесара кафедры ўсеагульнай гісторыі Белдзяржуніверсітэта Гілера Ліўшыца. Пісаў і напісаў. Бо не мог не пісаць, бо меў што напісаць!

## ЛЮДЗЯМ ТРЭБА ЛЮДЗЬМІ ЖЫЦЬ

Дзесяць разоў за два тыдні верасня ён ездзіў у грыбы. Збіраў адзін, гатавалі — смажылі, салілі, марынавалі — удваіх з жонкаю. Адпачынак яшчэ не скончыўся, а ўжо грыбоў поўна: бочачка на

два вядры салёнікаў, слоікаў з дваццаць смажаных, столькі сама марынаваных. Ехаць і збіраць, каб аддаць камусьці,— не выходзіць і не таму, што шкада: восень вельмі багатая на грыбы, усе яго добрыя людзі, усе яго сябры ўжо назбіралі сабе не меней за яго. Хіба каб паехаць на новыя, нязведаныя мясціны? Нешта новае ўбачыш, грыбоў не надта прывязеш, жонцы не трэба будзе паўночы стаяць каля пліты. І Стась паехаў кіламетраў за сто пяцьдзесят — туды, дзе ў вайну партызаніў. Ехаў не спяшаючыся: дзе ўспаміны, а дзе змены і перамены прытармożвалі яго.

А вось і Бара́нічы — невялікая заходне-беларуская вёска, дзе не раз быў за вайну. Амаль пры самай вёсцы — баравіковы лес.

З вёскі, убачыў Стась, ішла з кашом жанчына. Спыніўся прапытаць, пагаварыць.

— Я ўжо сёння другі раз іду. Цэлы кошык шчырых і асовікаў прынесла. Дык мы ж дома. І ведаем: дзе знайшоў грыба — абыдзі, імшок белы шукай. А вы, мусіць жа, аднекуль з горада? Паўвыкалі спаць позна. Ідзіце во гэтак, там ці баравіка, ці асовіка, ці кабылку, ці ку́рачку, ці што другое... Будзе нешта. Штось знойдзеце.

— Туды, кажаце, пад Вожыкі?

— То вы ведаеце? І нетутэйшы, здаецца...

— Вайною быў.

— Вайною? Я ж усіх партызанаў — іх шмат было — ведала. І ў сне часам бачу. А то заплюшчу, бывае, вочы і бачу: здаецца, ідуць, едуць, толькі звацькаго як — пазабывалася. Нядзіва: часу кавалак які. Ужо мае дзеці дзяцей выгадавалі, галава ссівела і зрашэцела,— гаварыла і гаварыла жанчына.

— Сядайце, калі ласка, разам паедзем.

Падзякавала і села ў машыну.

— А вас ніяк не прыпомню. А мо перамяніліся, што і свае вас не пазнаю́ць? І яшчэ во. Быў такі чарнявенькі, невысокі, хударлявы і ціха гаварыў; што тут ні робіцца, чаго ні наробіцца, а ён не закрычыць; не большы, але нейкі начальнік, на сівым, як зайчык, коніку ездзіў. Дык і яго не прыпомню, як звалі. А ў нас у Баранічах не забыліся, як ён Паў-

лючыка вы́спаведаў. Учора сядзелі мы на прызбе і ўспомнілі. І дзецям, як толькі што, расказваю.

Роўная дарога пайшла ўніз. Стась скінуў газ, машына пакацілася лёгка і мякка. Старая ўспамінала:

— Ой, сібе́рны быў час: то блакада, то самалёты насылалі, то з танкамі ўляцелі. Там спалілі, там забілі. І германец не адзін тут галаву пакінуў. А тады ацішылася, паспакайнела. І партызанам палягчэла... Раз неяк сустрэў Паўлючык чарнявага гэтага і давай яму расказваць, і давай пад'юджваць ды на людзей наю́джваць. «Памацайце, кажа, гэтага Шарамэта, у іх тужурка (а то ў ватоўцы такой!..) хромавая, блішчастая, на чатыры кішані і з паскам, у іх боты афіцэрскія з польскіх ча́саў, у іх бялізны на ўсю разведку пераменка будзе, мёд ёсць закапаны». А тады на загорцаўскага Клемуся, нібыта Клемусь казаў: «Усё адно партызаны верху не возьмуць, абкру́жаць іх і пераб'юць, будуць валяцца, бароды пазакіда́ўшы...»

Машына спынілася. Гаварка́я бабуля спяшалася закончыць:

— Слухаў гэты чарнявы, слухаў, а тады — на Паўлючыка: «А ты што? Ты ўсё ведаеш? На добрых людзей падтыкаеш? У такую калатне́чу, у такі галавасек ты на сваіх людзей ідзеш? (А які ён свой? Перад вайною аднекуль, кажуць, не вельмі здалёк, да нас прыехаў, сцяга́ч нейкі). У цябе ж дзеці гадуюцца, і табе і ім жыццё жыць, а ты што? Як узяў, як узяў ён Паўлючыка, дык яму хоць зямля расхініся, хоць у зямлю праваліся. У мяне, кажа, аўтамат — і ўсё са мною, ён мне і жонка, і пасцелька, і набыткі мае ўсе. А ты? Ты ж негадзівец! Як, кажа, хадзіць з табою па сцежках, па дарожках людзям? Сёння я тут, а заўтра за Вілейкаю, за Докшыцамі буду... Не пераменішся, то загінеш нізашто».

Схамянуўшыся, нібы вінаватая, жанчына сказала:

— Надта ўжо я пусцілася за языком, а языком грыбоў не назбіраеш. І вы знайдзіце сабе на здароўе, і я, можа, знайду. Ды чамусь я не прыпомню вас...

Пакуль Стась зачыняў і замыкаў дзверцы ў машыне, хаваў антэну, старая бы растала; яна знікла, як умеюць знікаць і адрывацца ад кампаніі старыя

і ўмелыя грыбовікі. Ён адышоўся ад машыны, але грыбоў не шукаў, быў як у забыцці. Напомнілі пра сябе самі грыбы, дакладней — белае, як сялянскі сыр, карэнне грыбоў, што ляжала на ўзгорку, усланым мохам. Акінуў вокам узгорак — амаль на кожным метры корань. І зноў забыўся на грыбы. Ішоў апанаваны, узяты ў палон успамінамі. А яны, успаміны, віхрыліся, падкочваліся, находзілі і налятал на Стася.

«Так-так, была сустрэча з Паўлючыкам. Як зараз, успомніўшы, тады было непрыемна. І Шарамэт устаў перад вачыма... Ідзём разам. Прыселі на прызбе з ім, гаспадарным, разважлівым, памяркоўным. Чую ад самога Шарамэта пра схаваны мёд («Трэба будзе на лекі хлопцам — забярацё хоць і ўвесь...»). Быццам вырас перад вачыма стол, на ім — накрыты абрусам хлеб. Пачуўся, як тады, пах яго, чыста жытняга, свайго печыва. А потым панесліся трывогі, трывогі... Мукі людскія. Пахаванне — і не адно — разведчыкаў. А гэты... А потым «гэты» баяўся на вока паказацца, а сустрэўшыся, згінаўся (і так прыгорблены) і, вільнуўшы, знікаў...»

«Чакай, чакай... Адкуль жа людзі ведаюць размову? Ён сам хіба расказаў? Збаяўшыся, жонцы паспавядаўся? Я, здаецца, нікому не расказваў».

У Стася былі яшчэ вольныя дні. Спаткаў былога разведчыка, запрасіў з'ездзіць разам у грыбы, і неўзабаве яны хадзілі ўдвух у бара́ніцкім лесе. Адны сцежкі зараслі, другія сталі дарогамі.

Завіталі і ў Баранічы. Ужо трэць стагоддзя, як хадзілі, ездзілі, ваявалі тут. Адных бара́ніцкіх ужо зусім няма, а хто пераехаў у горад, у мястэчка.

Былі і сустрэчы. Знайшоў грыбовіцу бабку Марылю.

— А ці пазналі мяне?

— Чаму ж! У грыбы на тым тыдні прыязджалі. Адны пенчукі-карэньчыкі перакуленыя бялелі ў лесе.

— А таго «чарнявага», што «на сівым, як зайчык, коніку ездзіў»?

— То гэта вы будзеце? Як адышла ад вас, мне і

цюкнула нешта. Але ж той, думаю, быў лёгенькі, чарнявы, а тут... Матка мая каханенькая! — заікнулася, але не сказала, што мала́ды (было тады гадкоў дваццаць пяць), чарнявы стаў светленькім, а лёгкі хлопец — круглым і прысадзістым, хоць і не старым, дзедам.

І, як некалі, частаваліся малаком, мёдам, але хлебам — гарадскім, не тым, што круглы, шырокі, як кола, і з блішчастаю скарынкаю.

— Не спазнала. Грэх мне, беднай, дальбог...

— Папытаюся я вас: адкуль жа ў вёсцы ведаюць пра тую сустрэчу з Паўлючыкам? Нікога, здаецца, і блізка не было...

— Скуль, пытаецеся? Во, чалавеча! У лесе крадзеш — поле ўбачыць, на полі крадзеш — лес убачыць. А то як? Кася, калі не забыліся, якраз у гародзе калупалася (ці гарбузы папраўляла, ці пер'е часнаковае звязвала, ці што ёй там трэба было), аж бачыць: едзеце вы — і Паўлючык з-за хаты выйшаў. Мы ж яго ведалі!.. Кася як была ў гародзе — нібы ў густым сваім лесе: сланечнікі, кукуруза, квасоля — так і засталася. І ўсё — да слова да беднага — чула. Чалавек ён быў крывотны, а язык — не раўнуючы як сабачы хвост. Але як правучылі, як пастрашылі, то і дажыў каля людзей.

— Вы і цяпер усё гэтага Паўлючыка га́ніце?

— Ды не. Але няма Паўлючыка. Няма і Касі ўжо. А Паўлючыкавы з'ехалі. Кажуць, туды, адкуль да нас прынесла іх. А людзі ж засталіся. А людзям трэба людзьмі жыць.

## ДЗЕД ТАМАШ

### Шукаюць дудачку

Усёй вялікаю сям'ёю шукалі: ну, дзе тыя дудачкі?

А той, хто рабіў дудачкі, хто прыхоўваў і прыхарошваў, хто выштукоўваў на іх яку́ю хочаш песню, які́ хочаш танец — абы толькі разок пачуў! — ужо

два гады служыў у салдатах, чырвонаармеец. Знойдзеная — рассохлася, а іншыя, нібы глухія і сляпыя, не азываюцца, ляжаць дзесьці ў хаце або ў клеці, у каморы. Знаходзілі яшчэ адну, другую, але не лепшыя. З-пад бэлькі вынялі — патрэсканая, дасталі з шуфляды — перакошаная і ўжо сцямнелая. А той даўно няновай, самай любай салдатавай пакуль няма.

Знойдзеных дудачак несці дзеду не спяшаліся: мусяць знайсці або якую лепшую, або тую, самую патрэбную!

А ў суседняй хаце чакаў дзед Тамаш...

## Жыві, брат драбяза!

— Рыбы, кажаце? Ды ў мае дачкі Маланкі... смажанае, й варанае, й сушанае, й так кускамі! — акрэсліваў дзед Тамаш рыбны дастатак у хаце.

Калі прыходзіла пиліпаўка і ментузы (іх дзед зваў мянькамі) нескончонымі чародамі ішлі ў канавы і вузкія пратокі, тады снеданне ў Тамашовых было толькі з адных ментузовых пупкоў (ментузовай малокі) ці з аднае ментузовае ікры; тады дзед гамоніць за сталом, нібы ідзе з крыгаю ды з двума памагачáмі, весела і так гучна жартуючы, што чулі суседзі. Падахвочваў унукаў:

— Прыцiскай смялей, Алеська, прыцiскай пупок лыжкаю да беражку! А ты, Рыгорка, усё каб ікру? Ты яе паціхеньку ды памаленьку, каб не раздушыць. Ікра й пупкі — усім наедкам наедак!

Далёка чулі дзеда, калі ён крыгаю ці комлем абмацваў берагі і зелле ў рацэ. Не любіў перабіраць кожнага яе метра: паціху падкрадаўся да мясціны, дзе, пачуўшы неспакой, стаіць рыбіна настрыўшыся, лоўчыцца, каб даць у палатно так, што здрыганецца ўся снасць, і пайсці далёка ад страху і жаху. Заставіўшы належным чынам сетку, дзед камандаваў:

— Ну, брат хлопцы!

А калі падхоплівалі той жа комель або крыгу і бачылі на палатне добрую штуку ці штукі, дзед не хаваўся і не прыцiскаў здабычы ціхенька ў торбе,—

чулі аж у вёсцы, за кіламетр: «Акунь — як конь! Сом — як калода! Мянькі, брат, як пачы́нкі! Не лінь, а цэлы парсюк!»

— Жыві, брат драбяза,— спагадліва казаў, калі ў сетцы трапяталіся дробныя рыбкі.

Быў дзед на рыбе і ціхі,— гэта калі чыры́ў вола-кам. Тады беражыся, таварыш падручны: нельга ні крыкнуць, ні сказаць, нават шэптам выціснуць сло-ва. Ды былі і тут неспадзеўкі. Калі нацягнуты шнур сігналіў, што ў кулі́ вялікая рыба, дзед, крыкнуўшы: «Падхапілі!» — не даваў апамятацца шчупаку-пале́-ну ці таму завале — сому. І тады далёка чулі: у дзе-да добрая ўдача.

Хадзіў Тамаш і адзін, з падса́каю, ці, як называў яе дзед, падхва́ткаю. Тады ён быў спакойны. Дый паляваў з такім начыннем не на якія добрыя штукі: «Схаджу, можа, і трапіць сёе-тое». Удачы было менш: рыба — драбнейшая, небагатка яе.

Адмысловы рыбак, дзед вяртаўся з ракі заўсёды з рыбаю. Можна было і не пытацца ў дзеда, зірнуў-шы на торбу: калі не набітая поўна, то з паўторбы ёсць. Суседзі, праўда, сустракаючы дзеда, калі ішоў з рыбы дахаты, не праміналі паглядзець на дзедавы ногі: рыбацкі гонар не даваў права вяртацца з пу-стымі рукамі, і ў торбу трапляла рачное зелле, а то і лапці з анучамі. Дзед ішоў тады босы...

## Каб аж яблычкі завіваліся

Дзед араў, скародзіў, вазіў дровы, да Глуска на базар ездзіў — на валах. Калі ж быў за-прошаны ў якую вёску на фэст, ішоў пеша.

Не было сакрэту: Тамаш збірае на каня. Хто ве-рыў, а хто і не вельмі даваў веры: гадоў з дзесяць прайшло, як цара скінулі, як волю ўзялі людзі, а ў Тамаша каня так і няма.

Тамаш прыцэльваўся і прыглядаўся. Не раз ка-заў: «Каб купіць ды лоўкага каня!» Пыталіся: «Та-кога, як у Пе́шчура?», «Каб як у Кіпеля?», «Каб як у ..?» Дзед на гэта нічога не казаў,— то змоўчваў, то вёў размову на іншую сцяжынку. Ды яно ж так: не гань чужога, калі свайго не маеш. Пе́шчураў конь дужы, але цяжкаваты. Кіпелеў стройна ідзе, прыго-

жа бяжыць, а пакуль грэблю пераедзеш на ім, то ў яго лапаткі задрыжаць, закалоцяцца. А Васілёў? Грошай на такога Тамаш не збярэ.

У той дзень, як мы з Тамашовым унукам Алесем завучвалі перапісаныя ў сшытак радкі пра «дзесяты падмурак», пра тое, як «Нёман гамоніць, сярдзіта шуміць», як «падаюць сняжынкі — дыяменты-росы», перад акном спыніўся Тамаш, ён трымаў на абрытніку худаватага, але шустрага і зграбнага каня. Мы выбеглі на двор. Але ўжо і без нас вакол каня быў жывы пояс: збегліся паглядзець з усяго канца вёскі.

— Худы, кажаш? Што худы?! Адпасу. Дагледжу, каб аж яблычкі завіваліся.

Прайшоў час. Мы не маглі налюбавацца на тады «мурзатага», а цяпер чыстага сівага.

Тамаш ездзіў на кані. Усё рабіў, каб на ім яблычкі завіваліся, каб крыж раздвойваўся, каб дарогі не чуў пад нагамі.

А пазней на сходзе цяжкай і даўжэзнай зімы (другой такой доўгай тут ніхто не памятаў), у злыбедную бяскорміцу, сусед пытаўся ў Тамаша:

— А ў цябе, Тамаш? Твой сівы негалодны?

— А чаго? Трэба ж карміць...

Ды дні праз два дзед зайшоў да нас, суседзяў, акінуў вокам усіх, хто быў у хаце, і паклікаў бацьку на двор. Ціха папрасіў пазычыць ці прадаць пудоў колькі сена і яшчэ сяго-таго, каб не апусціць сівага.

Шкадаваў і даглядаў, любіў першага, як памятаюць суседзі, на гэтым селішчы каня. Пугу вазіў, але ў дарозе нават не паказваў яе сіваму. Перад выездам з двара толькі лясне пужкаю збоку, дадасць шустрасці сіваму, каб бачылі суседзі, як ён, Тамаш, выязджаючы, стрымлівае зацуглянага каня, а той, выгнуўшы дугою шыю, перабірае нагамі амаль на месцы, пакуль гаспадар не паслабіць лейцаў.

— Бяжы, сівы, бяжы, пакуль вол жывы. А ў плуг, брат, пойдзеш — цішэйшы станеш!

Мучыўся дзед, але амаль год не збываў валоў, каб лягчэй было сіваму, каб не запрагаць яго ў плуг. Але каня і пару валоў на трох дзесяцінах не ўхаваеш.

## Панскае ігрышча

Дзед чытаў на памяць верш «Панскае ігрышча». Не раз пыталіся і дапытваліся, адкуль і як ведае верш, якога нават тыя, што ў Глускай школе вучацца, нават і тыя, што ўжо скончылі Глускую школу, не чыталі, не ведаюць.

— А сам! Прыдумаў, каб складна, як у добрай казцы, казалася.

— Не жартуйце, дзедку, я напраўду ў вас пытаюся: ну, хто вас навучыў вершык такі смешны расказваць? — прыставаў унук Алесь.

І дзед:

— Ездзіў у Глуск да каваля. Ру́чы й разумны каваль Бобрык! Сяджу ў яго, чакаю. У хаце два хлопцы, так што большыя й на рост за цябе, й на гады большыя. Ву́чаныя абодва. Пачытаюць — і рагочуць, аж пупы́ іх покаюцца. Заліваюцца!.. Слухаю — вясёлы вершык. Кажу: «Перачытайце яшчэ». Перачыталі. «А каб яшчэ, хлопчыкі: глухі ж я». Яны, у паперку гледзячы, мо пяць разоў мне перачыталі, а толькі не ўвесь, а мо ■ паўаршына якога. Еду тады дадому, бубу́каю, дуду́каю сабе — хоць бы не забыцца! А дадому прыехаў — мо на пяць гадоў вылецеў з галавы. Тады неяк з нашым настаўнікам, з Бараноўскім, разам з лесу ішлі. Пытаецца ён у мяне:

— А ці вы, дзед, вучыліся чытаць і пісаць?

— Не, кажу. Крыжыкаў хоць на ўсю паперу ўмею наставіць, а больш нічога. Ды, кажу, ведаю вершык пра йгрышча. І даў божа добрую часіну: успомніў я верш, давай настаўніку шпарыць:

Каб ты ведаў, куме-браце,
Што заўчора бачыў я,—
У паноў было ігрышча
Ды якое ж: ай-я-я!
Ну й ігрышча, ну й ігрышча!
Не такое, як у нас...

— І тут што? Настаўнік нязгоду мне дае: «Хораша, кажа, чытаеце, а трошку не так».— Давай ён сам чытаць. І праўда, чую, я крыху перайначыў. Я й кажу: «Як хачу! Хіба грэх гэтак, каб крышачку перайначыць? Я песень ведаю, што даедзем з вамі да Слуцка і назад вернемся (сто туды, сто назад),

а ўсіх не перапяю. Пяю, бывае, тады вазьму й трошку перайначу. То за мае песні й аднаго разочку ніхто мне слова кепскага не ўзычыў.

## Падорвы цэлыя

Прыходзіў у вёску юр'еўскі фэст — і ў дзеда былі госці.

Пасля адной-другой чаркі дзверы і вокны ў дзедавай хаце шырока расчыняліся. Дзед спяваў, дочкі падпявалі. Хлапчукоў і дзяўчынак набівалася поўная хата, а дарослыя, дзе б ні былі — на лаўцы сядзелі, у сябе ў хаце,— не-не і наводзілі вуха на песні з Тамашовай хаты.

Пачынаў Тамаш спяваць не адразу, а са сваім традыцыйным рытуалам. Ён прасіў вялікую кужэльную торбу (сямейнікі ведалі: торба каб была чыстая-чыстая), надзяваў яе на плячо, глыбока засоўваў у торбу правую руку, «набіраў поўную жменю песень» і са словамі «зарадзі, божа» шырока «сеяў песні па хаце»: «Ішоў Тодар з Тадораю», «Люлька мая чырвоная», «Ой, хадзіў жаўнер-саколічак», «Ой, хаджу я, хаджу, пахаджаю ды па чыстым полі, ой, я сею, сею, рассяваю сваю горкую долю»...

Спевы «пераходзілі» ў тэатр. Людзі слухаюць, глядзяць, хоць не раз чулі і бачылі. I нехта скажа, абавязкова скажа:

— Цэлыя, дальбог, ціятры ў хаце!

А Тамаш спявае. Тамаш вырабляе. Во, калі ласка, як «ён іграе, вусамі маргае»; і тут жа ад самога спевака — самае шырокае здзіўленне: «Чорт яго бацьку знае, на каго маргае!»

Усе чакаюць дзедавай «Бяды». Спачатку як бы нясмела, а далей усё настойлівей просяць, каб дзед Бяду пахаваў, каб тая «памерла і ногі задзе́рла». Без каманды ўсе адыходзілі ў куты, ускоквалі на лавы, услоны, а хто і на печ, каб даць больш прасторы — сцэну. Дзед выходзіў на хату, папраўляў кароткія вусы, гладзіў нізка абстрыжаную бародку, стаяў нейкую часіну сур'ёзны і пачынаў:

А хто бяды не ведае,
Хай у Хамы абедае,

А хто бяды не знае,
Хай у Хамы спытае...

А потым, далібог,— «цэлыя падорвы», «цэлыя ціятры!». Узрываўся рогат. Сціхаў, здавалася, толькі каб гледачы і слухачы маглі набрацца духу на чарговы выбух смеху.

«Бяда» дзедава нескачоная, як нескачона цэнем ішла бяда праз усё жыццё з працоўным чалавекам. Дзед добра ведаў: ніхто з прысутных не чакаў канца «Бяды», але недзе яшчэ на яе пачатку пытаўся:

— А бяду якую? Кароткую ці караткаватую? Доўгую ці даўжэзную, каб аж да Слуцка, на ўсе сто вярстоў?

Усе ў адзін голас:

— Самую доўгую!!!

А яна, паганая Бяда, нават у старцоў «украла торбу з сухарцамі». Ды старцы, паказваў дзед, здагналі і абабралі Бяду, потым палажылі пад возам і «малацілі палозам».

Калі ж дзед даходзіў у паэме-фантазіі да карціны, што рабілася ў Слуцку на месце — у горадзе, ён пераставаў спяваць, а дэкламаваў і пераходзіў на скокі. Скакаў так, што хата хадзіла хадуном. Здавалася, што танцаваў не адзін ён, Тамаш, а ўсе тыя, пра каго было ў паэме:

Крупадзёры, цеслі...
Пілі яны ды гулялі...

Дзед спяваў з мігамі, заляцаннем і любошчамі на твары, калі ішлі словы «пілі яны і гулялі», «чарнаброўку падмаўлялі».

Адна з тераінь «Бяды» мае «шырокую» геаграфію:

У Тураве нарадзілася,
У Нясвіжы хрысцілася,
У Вільні расла,
У Гародні дарасла,
У Слуцак замуж пайшла...

А то раздзельчык: калі гаспадыні дома не было, карчмар прыйшоў гаспадыню за доўг «грабава́ць»:

Мяне дома не было,
Узяў лыжку й памяло,
Каб я дома была,
І таго б не дала.

Бо

Піла я не вашу (кажа карчмару́-пагане́чы),
А піла я за той сыр,
Што мой пеўнік нанасіў...

Інсцэніравалася і як «бяда памерла і ногі задзе́рла»...

Госці клаліся ад смеху.

Прыходзілі песні і журботныя, трагічныя. Я раз бачыў, як дзед, заўсёды весялун і жартаўнік, лоўкі штукант, плакаў разам з песняю: спяваў пра тое, як нехта ў лесе гукае,— то татка дзяцей шукае, бо вельмі «цяжка жыці аднаму», адзін ён застаўся праз другую жонку — мачыху дзецям; праз яе адвёз бацька дзяцей у вялікі густы лес. А цяпер гукае — дзетак шукае:

«Ідзе́це, дзеткі, дадому, няма жыцця аднаму...»

## А палкі чорт не ўзяў

— О, дзед! — казала Тамашова суседка.— Ён кацяняці чужога за свой век не спалохаў.

Другая суседка дадае:

— Неяк у нядзелю ідзе Тамаш у двор і кажа да мяне: «Ляцела, Улянка, твая курачка, і палка ляцела, нага курыная пераляцела, а палкі чорт не ўзяў. Дык вазьмі нашу, любу́ю чубатку, якая на цябе зірне, ці тую, якую ўпадабаеш. Ды ўжо не хавай гэтага на памяці». Сказаў ён гэтак, а я й думаю: бач, два чалавекі ў хаце, цесць і зяць — Аляксейка: сама ж бачыла, як зяць пусціў па́пліскаю й ножку перабіў. А цесць сябе за вінаватага ўзяў.

— Во як, божачка ты мой!

## Крыўда на зяця

Усе ў вёсцы ведалі: не ўмеў ні скардзіцца, ні жаліцца, ні жалавацца дзед Тамаш. Ведалі і гаварылі. Але аднойчы вынеслася крыўда і скарга старога. Скардзіўся на зяця і ўпікаў яму. І чулі суседзі:

— Я ж з бацькам тваім тавар пасвіў, на вечарынкі хадзіў, у салдаты нас у адзін дзень здавалі. І дзеда твайго як жывога бачу. То людзі не чулі ні маць тваю, ні перамаць ні ад бацькі, ні ад дзеда. А ты? Што ж думаеш? З тых мікалаеўскіх салдатаў навёз... Плешчаш... І калі? Пры дзецях, пры цешчы... Гэтак жа й селішча звесці можна!..

## Загаварыла дудачка

Дзед быў хворы. Гара́чка такая, што губы патрэскаліся, вочы глядзяць, але не свецяць, не пазнае́ нікога. То кідаецца ўцякаць, то даганяе кагосьці, то просіць, каб скацілі з яго калоду, што адна за адною некім ускочваецца дзеду на грудзі. Адною раніцаю прачнуўся, агледзеўся і паклікаў:

— А хто ў хаце?

Дзеду палягчэла. Выпіў малака, нават прысеў і ўсё чакаў, калі Алеська прыбяжыць са школы. Як абвальвала дзеда хвароба, Алеська чытаў яму кніжку пра Янку, хлопчыка-музы́ку. Тады дзед успомніў суседавага сына, пра яго дудачкі, прасіў схадзіць прынесці.

Суседавага Архіпа дзед вучыў круціць з гонкай хваінкі дудкі, прапякаць шэсць ці восем дзірачак, вычыняць і выхарошваць дзюбку, ці носік, у дудцы: праразаць, а тады жыгалам папраўляць галаснік, рабіць і ўстаўляць «сэрца». Вучыў іграць Архіпа, а тады ўсім расказваў: «Гэтак лоўка вывучыўся Архіп! Але — ой, не! — хоць мае пальцы і сталі цвёрдыя, а я не паддамся яму!»

Прынёс дудку Алесь, падае́ дзеду, а ён:

— У вядро, унучак, у вядзерца ўсунь, тады яна не так нам загаворыць.

І дзед з перадышкамі і перапынкамі іграў на дудачцы. Наўрад каб хто з вёскі не ведаў: так цяжка ляжаў Тамаш, а сёння на дудцы іграў.

Засынаючы, папрасіў, каб дудкі ад яго не забіралі: няхай тут, пры ім, будзе.

## Нібы чакае дзедавых рук

Хвароба адпусціла ненадоўга. Зноў непрытомны дзед. Гарэў, стагнаў і кідаўся, ад некага адбіваўся. Так было яшчэ трое сутак. Тройчы ў непрытомнасці браў дудачку, пачынаў мелодыю, але хутка збіваўся з ладу, слабеў. Дудка заціхала...

Не стала дзеда.

Усёй сям'ёй мы зайшлі ў хату. Ён ляжаў, здавалася, нямёртвы: такі ж спагадлівы, такі ж, здаецца, вясёлы, як бачылі, калі ён сустракаў унукаў ці пытаўся ў нас, суседскіх, пра тое, ці назбіралі цыляткам травы, ці не ўкралі каты нашых кніжак...

З-пад падушкі глядзела на хату, на людзей крыху абсмаленая дзюбка, нібы чакала яго — дзедавых — рук...

3

*Без людзей
ні нараджацца,
ні будавацца,
ні паміраць.*

Глускі раён,
вёска Барбароў

## І ЗА ГАРОЮ ПАКЛАНЮСЯ

Пішуць — Навагрудчына, а ў Якуба Коласа, а ў Янкі Брыля — як і там, на іх роднай, на іх прыгожай, багацюшчай на ўсё зямлі,— Нава́градчына. Там і Нава́градак. Еду каля Завосся, каля Свіцязі, Шчорсаў, Загора-Загор'я не першы раз. На гэты раз не адзін. Не спяшаемся. Сябар — вялікі яму дзякуй! — чытае, мабыць, па мне, што не трэба ані яго пытанняў, ані яго падказак. Міша ведае: дарогі мне тут знаёмыя, ёсць у мяне тут, ёсць у мяне і родам адсюль сябры, што паказвалі мне край і расказвалі пра яго; у мяне ў памяці — прачытанае пра Нава́градак, Нава́градчыну, ёсць ужо і накіданыя да часу запіскі, нататкі, пачутыя і пакладзеныя на паперу словы. Я ў палоне ўзораў, сцежак, у палоне ранейшых і новых уражанняў. Карціць запісаць.

...Улетку 1964 года з тым самым Мішам едзем у Любч — Любчу, мястэчка над Нёманам. Усё яно ў садах і ў цішыні. Падгаварыў Міша завітаць і да яго цесця; там яблык поўна, не пашкадуе, насыпле зяцю, насыпле госцю. І пад'ехалі. Пакуль я змахваў з вокнаў, з нумароў-знакаў дарожны пыл, Міша нырнуў у веснічкі, чую несакрэтную размову на двары:

— З машынаю. Возьме й ён. Толькі, казаў, каб за грошы. Смеючыся: «Першы раз і гасцінец?»

— За грошы? Хай за грошы. А я рады, што з машынаю. Сыплюцца ж. Усё чы́сто: сад, двор, гарод... Усё чы́сто завалілі яблыкі, грушы. Каля хле́ва поўныя цабрэ́ карове й цялу́шца. А што з машынаю, то гэ́то — о! За плату, кажаш? Душа баліць: прападае. То ўчорай дактарэ́ й сёстры бралі. Як з дрэва, як самі сваёю рукою любо́вая абіраюць, то дзесяць капеяк кілё, а як насыпа́цьму я сам — шэсць. Можна так: восем капеяк і пяць капеяк.

Дзесяць, восем, пяць... Што? Жартачкі?

Веснічкі расчыніліся. Паказаўся Міша, за ім — цесць.

— Ну й машына! Я думаў... Хоць бы са дзьве ці са тры тоны. Машына...— і ацаніў яе Мішаў цесць так, што не паўторыш... Ацэньваў ён мой легкавічок-масквічок крытычна, насмешліва. Як сейбіт і касец, як гаспадарны гаспадар багатае зямлі.

А што восем і пяць капеек — ніякія не жартачкі таго, 1964 года!

Завіталі ў Радагошч, і ў Ва́леўку, і ў Міра́тычы, і ў... Яны блізка ля Свіцязі. Шукалі і знайшлі настаўніка, што казаў аднойчы, каб «не звалі яго па... бацьку, а толькі Валодзя. Як дома». І гэты раз Валодзя ўгаварыў нас падскочыць перад палуднем на Свіцязь. Просіць пачакаць не болей як хвілін пяць; збіраючыся на возера, ён абавязкова мае клопат: ногі памыць, шкарпэткі перамяніць: пыл жа, пот...

Падумае нехта: «Дзіва?»

Такая настаўніку і краязнаўцу Свіцязь. Бачыць чалавек па-над ёю сцяжынкі і дыханне былых гадоў і стагоддзяў. Чуе свіцязянскі водар і пахі казачнага лесу Свіцязі, самой казачнай Свіцязі. Не забывае і, ведаю, не забудзе Міцкевічавага, самога Адама Міцкевіча пра «найбога́тшэ і найчы́стшэ» слова Нёманскага краю.

Скрозь адна пры адной шматлікія багатыя вёскі. Між іх Заполле, Лозкі, Нягневічы, Скры́шава... На бязлесіцы, чыстаполлі.

Ну, хоць бы адзін лапік зямлі абсеяўся нейкім

недарэчным выпадкам! Хоць бы адзін шматок — ну, хоць такі, што толькі дзіцяці сесці — абышоўся плугам! Узаруць шырокае поле трактарам, а потым падпраўляюць, падштукоўваюць на заваротах звычайным плугам, на парцы коней. Архітэктары, што вычэрчваюць на паперы, ці што?!

Спыняўся паглядзець на рунь. На толькі што пасеянае жыта. На толькі што зжатую і змалочаную пшаніцу... Глядзеў у 1962, і ў 1963, і... у 1967 гадах. Бачыў людскую любоў — не якую гаварыльню! — да зямлі, да зямелькі, да зямліцы. Дагледжаная, педабраная ў пальцах, ачышчаная, сагрэтая, урадлівая. Я ніводнага разу не бачыў у тым краі парослай на полі збажыны, не бачыў прыплясканых дажджом і пабялелых або пачарнелых пракосаў на лузе, на полі.

Нахлынулі, калі сеў пісаць, адно за адным уражанні,— абразкі з Наваградчыны. Стрымліваюся: баюся лішніцы. Хіба каб толькі лічаныя радкі. Да часу.

...Ад Карэліч ехалі пад Нёман. Праязджалі вялікія Нягневічы (мабыць, не вёска — мястэчка!). Праязджалі дарагое сваім мінулым, вельмі даўнім і нядаўнім, мястэчка Шчорсы, якому так трэба (і ўжо даўно!) стаць музеем Нёманскага краю, музеем нашай гісторыі, нашай культуры, нашага побыту, нашай прыгажосці, нашага харастваі І шумець бы каля яго, як і спрадвечна шумела, дуброве! Завіталі ў гістарычнае Ла́ўрышава. Былі ў тым Скры́шаве, дзе амаль пры кожным двары «свая вежа» — свая вяндлярня. Ці не сама і выразная ацэнка? Не аб'ектыўная самаацэнка?!

Ехалі. І калі адчулі, а потым і ўбачылі, што блізка Нёман: паветра, зеляніна, шырачэзная абалонь, а на ёй вялізныя чароды пярэстых і чарнарабых — спыніла нас нечаканае: на траве пры дарозе хлопчык. Ці то сядзіць згорбіўшыся, ці то ляжыць. Нават не зірнуў у наш бок. Маглі б праехаць, але затрывожыла. Дзіця і адно. Каля дзіцяці — не ў ручках — вудка, побач — торбачка; дзіця не толькі не ўскочыла, пачуўшы машыну, а галавы не ўзняло. Дзіця —

а вудка не ў руках? Спыніліся, паглядзелі. Хворае, стагнала. Ручка на жывоціку. Калі неслі ў машыну, толькі нібы паказала, куды везці.

Сустрэла нас маці. Узяла з рук дзесяцігодачка. Стрымліваючы слёзы, сказала:

— Я й за гарою вам пакланюся. Які вам дзякуй! Вялікі вам дзякуй, людцы.

Нашай дапамогі дзіцяці, сям'і не трэба было: доктар і сястрыца — суседзі, багатая і дагледжаная сядзіба, сад пры ёй; як стой прыбеглі памагатыя. У суседнім двары затарахцеў матор.

З Нёманавых берагоў мы вярталіся праз чатыры дні. Завіталі ў двор, куды прывезлі таго рыбачка. Праз шырозныя вокны бачылі ў хаце два, амаль да столі, стажкі падушак. Матка пазнала нас і клікнула з хаты Алеська, паказаць яго... Запрашала ў хату, у сад. І запрашала:

— Сваё ж усё ў нас. Захочаце на тыдзень — на тыдзень, на два — на два.

А калі сядалі ў машыну, сказала зноў тое матчынае, шчырае, тое народнае, незабыўнае:

— Я й за гарою вам пакланюся.

Дадала:

— Гладкае вам дарогі. Хай будзе гладкая ваша дарога.

## ГАННІНЫ, З ЛЕКАРАЎКІ

Вясёлка і бліскавіца, згода і Мілавіца (зорка Венера), журавіны і парэчкі, смачны і смаката, цукроўкі і папяроўкі (яблыкі), гароднiна і садавіна, вяселле (вяселлейка) і немаўляткі, рунь і Руневіч, араты і Роліч... вёскі Жывунь і Збажынка, Аснежыца і Крыніца, Янавічы і Свяцілавічы, Турэц і Ліпень, Галубіца і Славінск, Дуброва і Ясень, Гасцілавічы і Гасцілаўцы, Рэкта і Расна, Рось і Ратамка, мястэчкі Клічаў і Жыткавічы, Любань і Любча, Ружаны і Пружаны...

Можна скласці цэлы слоўнік *гаваркіх* слоў, беларускіх экзатычных слоў. Іншы раз «смакату» самога слова адчуеш, калі пранікаеш у яго паходжанне, у яго этымалогію або хоць паставіўшы побач з гэтым словам іншыя (ці хоць бы іншае, адно) слоўцы ад таго самага кораня. Пачуе аўдыторыя (цэлых сто дзяўчат і хлопцаў), што даўняе слова *шлюб* ад люб-ы (і люб-іць, і ў-люб-ёны, і люб-овы, і люб-ата, і люб-асць, лю́б-енькі і люб-е́нькі...), што шлюб — з былога съ і люб-ъ, і выкладчык спыняецца на нейкую хвіліну, не расказвае; студэнтка паўторыць сама сабе ці суседцы за сталом, паўторыць — «возьме на слых» гэта слова. Разбяруцца студэнты, што *досыць* з былога, вельмі даўняга до-сыт-и — і гатовы пагаварыць, паўтараць слова, нібы пабыць з ім, з гэтым словам, разам...

Можна скласці цэлы слоўнік. Толькі ж ён наўрад ці для друку. Бо тое самае «смачнае» слова можа набыць такое «суседства» — спалучыцца з такім словам ці словамі, што «смак» слова ўжо не той: Дзень вяселля назначылі, а вяселля не ўбачылі. Досыць мучыцца... Бо тое самае слова можа выклікаць розныя асацыяцыі нават у двух чалавек. І яшчэ. Калі ажыццяўляць ідэю стварэння слоўніка гаваркіх і «смачных» слоў, тады што? Тады — і «нясмачных», «шорсткіх» (Порсткая, як сена, шорсткая — пра чалавека капрызлівага і нядружнага, без мяккасці душэўнай)? Цяжка, мабыць, знайсці чалавека, які чытае, піша (і не толькі той, хто піша мастацкія творы), каб ён не «адсоўваў» ад сябе «нясмачных» слоў, «нясмачных» зваротаў. Ёсць, папраўдзе, такія і ў мяне. Не вельмі чытаецца тэкст — ці гэта кніжка, ці гэта брашура, ці гэта артыкульчык,— калі на першай ці наступнай старонцы ўбачыш «тычыцца» або «датычыцца», «тычыць» або «датычыць», «абвясціць аб сабе як паэту», «аб паэтыцы» («ап па...»), «аб неабходнасці» (аб неаб...»), калі разане вока «хатняя жывёліна» ці — не лепей — «дамашняя жывёліна», калі ўбачу «прадстаўнік прадстаўляе з сябе (ці сабою)», калі ўбачу «(па) блату», калі ўбачу «напаўразбураная» ці «напаўглухая», або «напаўголая» ці «напаўзбудаваная», «узыходзіць да...». Няма як і гартаць такую граматыку,

у якой аўтар вучыць(?) скланяць: «гаварылі аб чым? аб попеле»; казалі аб чым? аб пні...» (Апрача ўсяго, хіба нармальна вучыць, каб «гаварылі... *аб пні,* каб гаварылі аб *попеле»*? Гэта — штучна, «скляпаны» месны склон. Параўнаем з жывым, людскім: золата *і ў попеле* бліпічыць; *на пні* сядзела птушка, *у пні* завяліся мурашкі).

Каля Мінска, дзе Ле́караўка і Ма́славічы, Папе́рня і Лу́скава, Буцавічы і Жукаўка, Саломерычы і Угля́ны, Шапялі́ і Камянец, Шаршуны́ і Дворышча, Беларучы і Вяча, яшчэ да вайны пачуў я слова *шайморы (шаймора).* Пачуў — і нібы адчуў на губах сухую асаку, нібы адчуў жарству ў роце, нібы ўбачыў зморшчкавы і брыдкі твар самой бабы Ёўгі, якою палохалі дзяцей, пра якую чуў у маленстве «страхапудлівыя», жахлівыя казкі.

Пачуў слова шайморы — і забылася б яно. Ажно не. Ажно... і памірыўся з гэтым словам; ажно і цяпер чытаю яго два ці тры разы за год у пісьме, што прыходзіць здалёк, што пішацца і без чырвоных радкоў, і без прыгожага выкладу, а просценька; аўтар піша, нечакана перакіда́ючыся з аднаго на другое, вяртаючыся ў адным лісце да таго самага здарэння ці ўспаміну не раз.

Шайморы — гэта бульба, не выбраная з зямлі ўвосень, а тая, што праляжала ў зямлі ці на зямлі ўсю зіму і перамерзла. Гэта — бульбіны-гнілкі, нібы мяшэчкі з крухмалам. Мяшэчкі зморшчаныя, якіх сёння нават не стане падфутбольваць школьнік, калі яны, шайморы, валяюцца на сцежцы, на дарозе.

Шайморы ведалі каля Мінска і раней. Расказвалі ў вайну, што збіралі іх неяк і мірным часам. А ў першую ваенную вясну, у тысяча дзевяцьсот сорак другім, людзі хадзілі па калгасным бульбянішчы з каробкамі-сявенькамі, з кошыкамі, карзінамі, вёдрамі, збіралі шайморы, пакуль бачылі іх наверсе, а тады га́чкамі, рыдлёўкамі перакопвалі бульбянішча, вызбірвалі і самыя дробныя, як журавіны, шайморы. Людзі былі галодныя.

Шайморы мылі і перапалосквалі не ў адной вадзе, абіралі тоненькую і празрыстую скурку, нібы

яна з танюсенькага поліэтылену-павуцінкі. Пяклі з шаймораў аладкі ці блінцы, рабілі клёцкі, локшыну, гатавалі зацірку.

У партызанскай зямлянцы доўгім зімовым вечарам спаць не хацелася: атрад пасля засады, на шашы, меў трое спакойных сутак — выспаліся і вы́лежаліся. Хто сядзеў, хто ляжаў на нарах. Расказвалі, і жартавалі, і плялі абы-што. Гаварылі і перагаворвалі. Была і спрэчка, што такое смачна, што такое смачнае. Прывычна маўклівы і скупы на словы Георгій — хлопец родам аж з-пад Уфы, перахрышчаны намі, беларусамі, у Юрку,— спакойна, нікога не перамконваў, казаў як пра свае свята: ён еў шайморы!.. У зямлянцы добрая палова партызанаў — так званыя акружэнцы-прыпіснікі, людзі з далёкіх земляў, тыя вайскоўцы, што не паспелі адысці ў тысяча дзевяцьсот сорак першым на ўсход, што знайшлі прытулак і ратунак у беларускіх сем'ях. Жылі, працавалі нейкі час азіраючыся і насцярожана: па беларускіх дарогах гойсалі на машынах і матацыклах, часам конна акупанты.

Ганна Роліч, кабета з вёскі Ле́караўка (Якое ж гаваркое яно, гэта слова! Якое дарагое яно — Лекараўка! А ў Лекараўцы — Роліч!) распытвалася ў людзей, узіралася ўдзень туды, адкуль ішлі да Лекараўкі адна, другая, трэцяя дарогі, адкуль беглі да Лекараўкі з дзесяць сцежак; Ганна прыслухоўвалася ўночы: ці не пачуе Ігнасёвых і Базыльковых крокаў. Сыны перад вайною, спачатку першы, а потым другі, пайшлі служыць у войска. Іх не было. Не было ні чуткі ні прачуткі... У Рагаве́, Масюкоўшчыне, у Трасцянцы і Уруччы былі лагеры. У кожны схадзіла двойчы, кожны абышла не раз. Сынкоў сярод палонных не ўбачыла. І трэцім разам завітала ў Рагаву, разглядала худых, знясіленых, згаладалых і сасмяглых, узіралася. І калі да яе падышоў здаравіла з аўтаматам, яна кінулася да дратоў, за якімі былі палонныя: «Сыночак! Базылёк мой!» Выбавіла, двое сутак вяла яго да сябе, двое сутак ішлі дванаццаць кіламетраў. Вяла дахаты няроднага сына.

Раставаў снег. Беглі на ўзгоркавай Заслаўшчыне

незлічоныя ручаі. Пакуль жылі са старэнькаю маткаю толькі ўдзвюх, неяк кідаліся, перабіваліся. А трэба ж яго — толькі чалавечы цень! — вылюдскаваць. І яна, сама ўжо немаладая, прыносіла з бульбянішча два, а то і тры разы ў кашы шайморы, адразу мыла і перамывала іх. Гатавала зацірку, пякла тонкія — не на тоўсты стос — блінцы.

Юрка расказваў і паўтараў. Ні разу ніхто не здзівіўся з таго, што паўтарае; не было так, каб нехта ўпікнуў: «Чулі ўжо!» Расказваў Юрка пра чужую маці, якая стала роднаю, самым дарагім чалавекам на зямлі. Рызыкавала, ратавала. Не казаў, а шкадаваў: «Рукі́ яе не пацалаваў, не прытуліў свае ратавальніцы да сябе. Гэтая мая цемната, прастата вясковая. Пасаромеўся».

...Толькі і сказаў, калі ішоў ад яе ў лясныя салдаты: «Ніколі не забуду».

Не раз пасля вайны прыязджаў Юрка ў Лекараўку, завітваў па дарозе да мяне, і аднастайна, неяк не па-нашаму пачынаў з таго, куды едзе; казаў гэта не па-башкірску і не па-руску, а так, як кажуць на Заслаўшчыне, у Лекараўцы: «Да маткі». Дадаваў: «Да Ганны».

Дажывала некароткі свой век Ганна адна. І калі доўга не было з-пад Уфы пісьма, уздыхаючы, і з трывогаю думала і казала: «Няўжо і яго, трэцяга, няма? Нешта зрабілася і з трэцім?..» Чакала, пакуль сама была на свеце.

Юрка зрэдку піша і шкадуе, што вучыўся толькі тры зімы. Піша мне, але выходзіць, калі чытаеш,— піша, каб пачытаў я каму з былых лясных хлопцаў пра Ганну.

Не падгладжваючы, а толькі пераклаўшы, запішу Юркавы радкі з Юркавых пісьмаў — пісьмаў з далёкай башкірскай вёскі. Таго ціхманага Юркі, што ўжо выгадаваў дачок, глядзіць унукаў.

> ...унукаў вучу гаварыць сталаму і старому Вы. Насваруся, дзягу пакажу, калі што не так. Вазьму і скажу: «У Ганны так не казалі».
>
> ...Напішы мне, ці жыве Ганніна сястра Юля. Раз прыйшлі з Ганнаю. Нічога такога не

было. Толькі Юля казала сваім дзецям: «Не съешь один всего вола, нехай всем потрошки будет». (Успомнілася: я запісаў у Юлінай вёсцы прыказку: «З'еж хоць вала — адна хвала: хай (лепей) пакрысе, але каб усе!» Юрка, здагадваюся, толькі пераказвае сэнс). Як тады на рацэ Удра паранены быў. Ганна зноў забірала мяне. «Ганна толькі адна на ўсім, на ўсім свеце?» — дапытваюцца ў мяне ўнукі.

...прачытаю, што руская кніжка ■ беларускай кніжкі, то куплю. Чытаю, унукаў падганяю: «Чытай, чытайце. Не пачытаеце — грэх мне будзе».

...раз пасадзіў вясною сваіх і суседавых унукаў перад акном, паказваю на поле, дзе летась бульба была, і кажу: «Збегаць і назбіраць бульбінак». Яны адзін, два — усе збегалі марш-марш (значыць — хутка). Нанеслі шаймораў. Расказаў, як ратавалі людзі мяне. Чулі — Беларусь?

Вось табе і «шорсткае». Вось табе і «нясмачнае» слова шаймары. Ганніны, з Лекараўкі, шаймары.

## ПАЧВАРА ЯНА

Яе назваў пачвараю ў размове са мной мой добры знаёмы, былы партызан, у юнацтве крыху паэт, а сёння — вучоны, гісторык партызанскай вайны на Беларусі. Званю гэтаму знаёмаму, кажу, што часам пакрысе пішу радкі новай кніжкі, у ёй — і старонкі пра вайну.

— Толькі пра гераізм? — спытаўся ён.— Толькі пра тое, што мы былі смялейшыя, адважнейшыя і мацнейшыя за ворага?

Схамянула мяне такое нечаканае і не зусім зразумелае пытанне. Што азначае гэта?

На мае секунды маўчання пайшлі такія самыя і сябравы секунды.

— Вайна ж — пачвара. Пачвара, браце, яна. Ды якая пачвара! — гучна і неспакойна казаў мне былы партызан.

А спытаўся я: ці не дапаможа мне знайсці хоць скупую вестку пра выратаваных у вайну хлопчыкаў?

Каб атрымаць ад сябра падказку, як і дзе адшукаць патрэбную даведку з вайны, расказваю... Сябар дадае адразу ж:

— Пачвара. Хіба ж не гэтак з тваіх пытанняў і клопатаў? Хіба ж не гэтакая яна, вайна?

Што было? Паклікалі ў штаб партызанскай брыгады начальнікаў атрадных разведак, расказалі: ёсць просьба (яе перадалі па рацыі) вывезці з Мінска, выратаваць двух хлопчыкаў і бабулю, ім пагражае смерць.

Чакаўся самалёт, на якім мелася эвакуацыя выбаўленай з Мінска сям'і.

Ішлі дні. Вывезці сям'ю з Мінска даручалі аж дзвюм, спачатку адной, а тады другой, атрадным разведкам. Не ўдалося. Паклікалі ў брыгадны штаб, але не ўсіх начальнікаў, трэці раз, і выпала на маю долю задача ратаваць з Мінска сям'ю, не дапусціць трагедыі. Хлопчыкі, бабуля...

Трое сутак спатрэбілася, каб разведаць: дзве разведкі спрабавалі зрабіць адно, тое самае, а без поспеху. Асцярожная бабуля, набачыўшыся жорсткасці, наслухаўшыся, як і якой хітрасці вывучылі фашысцкую разведку, як вачыма і рукамі нягоднікаў вылоўлівае гэта разведка антыфашыстаў, іх сяброў, блізкіх,— не давалася нават гаварыць з пасланцамі. Абедзве спробы — марныя.

Радыё напомніла яшчэ раз: просьба вывезці, выратаваць.

Думалі, што і як рабіць, каб бабуля паверыла нашым пасланцам.

...Тры мяшэчкі бульбы, торба цыбулі, рукаўчык часнаку, буракі, морква, яшчэ сёе-тое. Наладавалі някідкі ў вочы воз,— усё нібы на продаж, на гандаль. У двары, дзе жыла тая сям'я, пасланцы будуць таргавацца, сцаноўвацца і... прыглядацца, шукаць, каб, пачуўшы і ўбачыўшы ўнукаў, чапануўшы іх

шчырым словам, знайсці давер у бабулі. Возьмеш, кажуць, дзіця за ручку — возьмеш матку за сэрца. Або: возьмеш у палон бабулю.

Няхай будзе напакаваны воз, хоць і не вельмі багаты. Можа, давядзецца і адкупіцца ад якога нягодніка са зброяй. Можа, фунтаў колькі солі выменяе ці яшчэ чаго.

І едзе Юля Трушкевіч, гаспадыня з Углян, з дачушкаю Зінаю ў Мінск, дзе тады быў страшны кожны крок, кожны паварот і позірк ледзь не ўсякага незнаёмага. Мінск кішма кішэў нягоднікамі і з далёкіх, і нават вельмі далёкіх зямель...

Без слёз і дамоўленасці «а што, калі?..» Юля развіталася з Тодарам і сынам, пачула Тодарава «З богам!»

Магла вярнуцца Юля тым самым днём, але не прыехала і на сходзе другіх, на пачатку трэціх сутак. Паляцела без тэлеграфа, па ланцужку, просьба да падпольшчыкаў: разведаць, ці не здарылася бяда.

Трывожна было. І з кожнаю гадзінаю — цяжэй. Станавілася роспачна. Няўжо? І чаму я так зрабіў? Было заданне, была абяцана ўзнагарода брыгадзе і атраду — цэлы груз на парашуце: аўтаматы і патроны, тол і бікфордаў шнур, біноклі і ракетніцы з ракетамі, лёгкі кулямёт... Зразумелае першае — выканаць заданне, зразумелае другое — атрымаць як узнагароду зброю, розныя ладу́нкі. Мучыла — з кожнай гадзінай мацней — трэцяе. Як жа так? Паслаў цётку Юлю, а яна — матка двух (таксама двух) дзетак, яна — жонка, гаспадыня; жывуць Трушкевічы пры самай шашы; зусім побач — адзін злева, другі справа — два нямецкія гарнізоны. І калі, хай бог сцеражэ і бароніць, якая неасцярожнасць або што іншае, то схопяць не толькі самую, а і Тодара Трушкевіча, і сына, Трушкевічавых і Трушкевічышыных сваякоў і суседзяў... Ставілася задача, ды прапанова і просьба да Трушкевічыхі не чыясьці, мая. Паслаў яе — маму, жонку, сястру, цётку, суседку... на рызыку не хто.

Павінна была прыехаць, ды не відаць. Свідрава́ў душу грэх: паслаў выручаць чужых дзяцей, ну, а яе — свае? А сама, яе Тодар? А сваякі, суседзі?..

Толькі на зыходзе трэціх сутак мы, тры разведчыкі, з ускрайку лесу ўбачылі падводу. На тым самым кані ехала Трушкевічыха з Зінаю. На возе, у перадку, сядзелі не ўсе трое, па каго пасылалі, а толькі хлопчыкі. Бабуля: «Старая ж. Клопату людзям... Дзякуй вялікі за ўнучкаў. Едзьце шчасліва». Згаладалы і схуднелы конь, што і не пазнаць, ледзь перастаўляў ногі, ішоў з апушчанаю галавою і абвіслымі вушамі. Як толькі фурманка павярнула на палявую дарожку да нас, не стрымаліся: выйшлі насустрач, усё адно як забыліся на небяспеку,— па шляху несліся машыны, ехалі немцы.

Вярнулася, дзякуй богу. Не асірацілі дзяцей. Першы раз у жыцці пацалаваў я тады руку. Жаночую, Юліну. Матчыну руку. Было цяжка сказаць ёй і адно слова: паслаў, усё адно як забыўся, што Юлю проста магла напаткаць смерць, магла быць жахлівая смерць Юліных дзетак, гаспадара, сваякоў, суседзяў... жылі ж між двух фашысцкіх гарнізонаў, як у пачварыных лапах...

Тою ж ноччу, як толькі самалёт сеў на Вялікай зямлі, партызанам прыйшла радыёвестка: «Усе параненыя ў шпіталі. Хлопчыкі накормленыя, дагледжаныя. Заснулі».

Бег час. Адлічваліся гады. Бачыў Трушкевічыху.

Колькі сустракаў яе пасля вайны, кожны раз, хоць і не тымі, іншымі словамі і не на пачатку сустрэчы, пыталася: «Мо вам аказваліся хлопцы?», «Не азываўся хто?», «Не чуваць нікога? нічога?», «Голасу не ўказалі?»...

Аднойчы ўспомніла і расказала, як у сям'і, дзе чакалі тыя дзеці прылёту самалёта, штодзень казалі, вывучалі, навучалі: «То хто вас вывез з Мінска?», «Як завуць тую цётку?»

Паўтаралі, каб дзеці засвоілі. Бо паперку даваць (а раптам падаб'юць, пасадзяць самалёт?) нельга: вайна вучыла і на асцярогу, і... боязі.

Калі б адно дзіця, разважала Юля, то магло забыцца. А двое? Каб двое, каб хлопчыкі чыста забыліся?

Юлі Трушкевіч няма ўжо.

Чакала тых, што ўжо мужчыны, што ўжо, мабыць, і з дзеткамі сваімі...

Ці ж не пачвара яна — вайна?

## У ГАСЦІНАХ

Брат з жонкаю (ці, як называюць на тым Палессі, дзе Рудабе́лка, Глуск, Парэчча, Харомцы, Згода, Ка́тка, Калюга, Слаўкавічы, Любань,— з брацiхаю) адвіталіся і дзякавалі. Брацiха дзякавала і паўтарала:

— Дзякуй вам! У гасцінах пабылі, нагасцяваліся. Рукі нашы як памякчэлі тут. І нагледзеліся.

Дзякавала і паўтарала:

— У нас жа не ў вас: ве́дамна, вы ў горадзе. У вас хораша вельмі. Але прыедзьце. Пабудзьце й у нас на гасцінах.

...У гасцінах, на гасцінах, на гасціны... Пачуў і не абышоў: і тым, хто любіць слова, і тым, хто абыякавы да яго, крыўды не прынясу, узяўшы ў радок гэтыя «ў гасцінах», «на гасцінах».

Двое сутак у мяне ў гасцінах брат. Яму ўжо, як брацiха кажа, восьменькі. Ужо ён паспеў... паменшаць і ссівець, сталі павальнейшыя яго крокі, жэсты. І жонцы — маёй брацiсе — гадкі́.

Гляджу на іх, слухаю. І, здаецца, маладзею, слухаючы і ўслухоўваючыся, гледзячы і ўзіраючыся.

У свой першы клас я пайшоў, калі мне было шэсць. Завіруха, снегу навеяла, а да школы — мне так проста! Я або за плячамі, або захінуты крысом кажуха сяджу як у бога за пазухаю: брат нясе мяне ў школу, гэты самы брат.

— Снег жа, бачыш, у пояс, то яшчэ...— кажа, але не ўсё выказвае.— У такую завіруху-мяцеліцу, калі й рысламу цяжка прайсці...

Прыходзіла вясна — у нас у хаце былі новыя ду-

дачкі (не з кары́, каб толькі на дзень ці гадзіну, а хоць на стагоддзі!). Скручаныя хваёвыя. Рабіў іх брат. Сам і «граў на дудачку». А яго пастухову трубу людзі чулі ў суседніх, за два кіламетры, Байлюках, у суседніх, за чатыры кіламетры, Вайцяхове, Барбарове, Малінаве, Адэлі, Зарэччы, Бярэжках...

Брат і брацiха расказвалі.

— Карова, кажаш? Нам, старым, дзве чаркі таго малака — то й досыць. Але ўнукі ж. Усіх у нас шэсць. Пяць — у Глуску, за дзесяць ад нас кіламетраў. Дык мы па чарзе: раз я, раз яна. Чатыры бітончыкі купілі. Рана надоім малака, адзін бітон у адну руку, другі ў другую — ды аўтобусам у Глуск. У адну хату адзін бітон, у другую другі. Пе́це на здароўе. З малаком бітоны пакінем, а пустыя, вымытыя й высушаныя, а то й так, дадому павезлі. А калі няўпраўка якая, самі дзеці, а то ўнук ці ўнучка падскочаць і забяруць. Глядзіш — у Глуску чарга па малако на два чалавекі меншая, а дзецям, унукам малако незбаўта́нае й непадсіненае. Дзесяць кіламетраў аўтобусам спрытна — то й не астыне. Сырадойчык.

— Што прывядзе кароўка — ці бычка, ці цялушку — гадуем. Грэх рэзаць малое. Няхай будзе. Грошы? Дзве пенсіі, хоць і невялікія, але маем. Нехта хоча мець кароўку, а гадаваць або няма як, або не ўмее. Падгадуем. Двое парасят растуць пры карове. Як луты́, доўгія, чыстыя. Аж свіцяцца.

У брата і сваё, толькі яго.

— Пчолка ўецца каля хаты. Толькі ёй, беднай, у нас не вельмі што. Мёду слаба носіць. І нейкая кволая, нічогая. Як на маю галаву, дык вінаватая хімія. То ўгнаенне-мінералка, то абсыпанне, то абтручванне, то апырскванне. Пчолцы каб чыста, каб без пылу, а не бензін ёй. Я, каб далі мне ў горадзе дзве, а то й тры мае пенсіі, каб хату далі, сказалі жыць у горадзе, не жыў бы. Не-не. І на адзін месяц не паехаў бы. У горадзе й дыхаеш, здаецца, бензінам; п'еш, здаецца, з бензінам.

Раніцаю яны ўдваіх стаялі каля паліцы з падараванымі і падпісанымі кніжкамі, бралі ў рукі іх, гарталі, чыталі, хто і што на кніжцы «пяром прыпісаў». Спыталіся, ці бачуся я з Сяргеем Грахоўскім, ці ўсе свае кніжкі мне дорыць.

Шкадуюць: не вельмі маюць часу, каб чытаць і чытаць. Вачам цяжкавата.

Узяўшы па томіку Сяргея Грахоўскага, селі не зусім побач. Чыталі. Толькі было гэта не проста чытанне. Чыталі ўдваіх, кожны сваю, а чытанне было калектыўнае: чыталі не толькі сабе, чыталі адно аднаму. Чыталі, перачытвалі строфы, мясцінкі, радкі.

— Паслухай, баба:

З гадáмі і ў мяне — усё менш сяброў...
Найбольш сяброў пад соснамі бароў,
Пад плітамі з кароткай эпітафіяй...

Брат прачытаў. Брацíха ні слова. Памаўчалі.

Брацíха:

— Ішоў пазней на клас за мяне. Такі... стройны, чарнявы быў. Сярод хлопцаў высокі такі. Любілі яго нашы дзяўкі. Нават крыўдавалі... І тады, у школе, пісаў. Ласкава ўсміхаўся.

— Колькі, братка, быў нядома Грахоўскі, а хадзіў і ездзіў па свеце? Гадоў з дваццаць?

Сядзяць задумлёныя нейкую хвіліну. Зноў чытаюць.

— Які малайчына! Пачуй, чалавеча:

Гляджу на ўсё разважліва і проста,
Хоць страчанага болей не вярну,
І ўсё ж не веру пашпартнаму ўзросту...

Брацíха просіць і маёй увагі, хоць чытае яму, свайму старому, свайму чалавеку:

Мы з табою жылі
У бядзе і нястачы,
Ды ў суровыя даўнія
Тыя гады
Я не чуў ад цябе
Ні папрокаў, ні плачу,—
Ты сябе і мяне
Суцяшала заўжды.

Дачытала і змоўкла. Адгарнула новую старонку, прачытала сама сабе, зірнула на брата, на радкі...

Ты, мабыць, добра ведаеш сама,

— чытае брат,—

Што ні ў дарозе, ні ў сваім пакоі
Мне без цябе ні радасці няма,
Ні шчасця, ні ратунку, ні спакою.

А прыйдзе ж дзень,
і нехта з нас дваіх
Адзін ў адзіноце застанецца...

— Чытаю, то як слухаю разумнага з разумных і найдаражэйшага з дарагіх. Мы не якой там высокай навукі, прачытаць прачытаем і напішам пісьмо ці якую заяўку. А гэтакае, што піша Сяргей? То яно — усім-усім! І такім, што вучаць, і такім, што самі людзям кніжкі пішуць. Я нясмешна думаю? Нясмешна з мяне?

— А ты,— пытаецца браціха,— ужо дачытаў увесь гэты спішок? Не?

Брат чытае — дачытвае:

Але пакуль жывецца — будзем жыць...
І ўсё, што трэба выказаць,— сказаць,
Нічога не забыцца, не адкласці.
Сустрэчнаму дарогу паказаць,
А час надыдзе — на хаду упасці.

Дачытаў. Браціха без паўзы:

— Па свеце нахадзіўся. Любіць. Ды не каб адзін, каб не аднаму. А як яго ўбачыць? Убачыць яго з ёю?

І яшчэ чыталася. Супыняліся, перачытвалі радкі, строфы, цэлыя вершы. Казалі, скупа разважалі, безэпітэтна і нетраскуча раіліся.

— А во! — усміхнуўшыся, нібы памаладзеўшы гадкоў на дваццаць — трыццаць, чытае два радкі і мякка ўсміхаецца браціха:

Завары мне ліпавага цвету
І старую казку раскажы.

Я прынёс гасцям яшчэ па кніжцы Грахоўскага, з серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». Але госці не адклалі тых, што трымалі ў руках, усё адно як непакоіліся, што я забяру абодва томікі. Чыталі, толькі не пераносілі чытанага на саміх сябе. Чыталі пра Сяргея, пра добрых, знаёмых і незнаёмых, людзей. У абодвух хапіла вытрымкі-такту, каб не перанесці і аднаго Сяргеевага радка на сябе. Бо, мабыць, недалікатна...

...Я гляджу на цябе,
Я дзіўлюся і сёння,

Чым я жыў без цябе,
Як я жыў без цябе?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшлі гады. Мы пасівелі самі.
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Цяпер сказаць ужо няма каму.

Чытач хоча ўбачыць канцоўку, прачытаць мае заключныя радкі. Прабач. Заключных радкоў не шукаў і не будзе. Хай будзе пісьмо без іх — без заключных слоў. А пісьмо — Сяргею Грахоўскаму. Папрашуся ў яго толькі даравац мне: не ўсё, што хораша чыталася, што добрае казалася ў той дзень, пераказаў я ў гэтым лісце-згадцы.

## ДОБРА. І НЕЯК ЗАЖУРЫЛА...

Унуку шэсць гадкоў. З дзядулем удвух кухмараць: пятнаццаць па другой гадзіне, абодвум хочацца есці.

Зазваніў тэлефон.

— Бяжы, унучак, спытайся, хто звоніць. Пачуй, што скажуць.

Дзядуля ж — пры пліце. Каб з двара цяля не выбегла — зачыні вароты. А каб з каструлі не «пабегла» зацірка ці клёцкі з малаком, дзвярыма не стрымаеш.

Унучак падняў трубку. Секунд праз колькі чуе дзядуля:

— Бабуля з базару не вярнулася.

Паўза. Потым:

— А дзядуля дзелам заняты.

Зноў паўза, унучак слухае. І зноў адказвае камусьці:

— Я перакажу. Я ўсё яму скажу.

Унучак прыбег у кухню і кажа:

— Званіла цёця Маня. Я сказаў: бабулі няма, а дзядуля дзелам заняты. Цёця Маня сказала, каб я не замінаў вам, дзядуля, каб не зваў вас гаварыць,

каб перадаў вам паклон. А прыйдзе бабуля з базару, каб і ёй паклон.

Хараша, добра: унучак падбег, пагаварыў, нават вялікі дзякуй цёці сказаў і цёцін паклон перадаў.

Толькі... гэты ўнукаў «даклад»...

Ці не зажурыла дзядулю.

Шумá єлоў, нейкіх чужых у сям'і, у радні. Нібы ад няпраўды, а калі і з праўдаю, то як яно гэтае «дзелам заняты»?.. Гатаваў зацірку з малаком, смажыў яечню просценькую (як казалі і кажуць: «яечню з малаком», «яечню на малацэ», «босую яечню»; замест тых, што часам вычытваеш, нібы выжабраваныя з торбаю, нібы пазычоныя «амлеты», «глазунні»...).

Яечню падсмажыць — і «дзела»... у шасцігодачка...

## З ДЗЯДУЛЕВЫХ УРОКАЎ

Аднойчы дзядуля сказаў мне:

— Дзянёк падабраць трэба. Зьбірацца нам ня вельмі што: запрэглі каня, узялі пілу, узялі сякеры — дый марськанýлі ў лес. Ты будзеш дапамога мая. За дапамагатага паедзяш. Аднаму, хоць каму, хоць бы дзе,— ня тоя.

Падумаў і далей:

— Нам цялешыкаў зь дзесяць, а ляпей каб двана́ццаць. На стаўпцэ́ трэба. Каб роўныя, каб гладкія й лёгкія. Назнаходзім, нарыхтýям удваіх.

— Мяне вы возьмяце? — не верылася.

І я — чакаў.

Чакаў таго неназначанага, нявы́значанага дзянька, які ў дзядулі быў бы вальнейшы, каб конь не быў у запрэжцы — не ў бацькавых руках. А мо падказаць дзядулю? Падшпарваць?.. Не-не! Чакай. І не пахваліцца анікому.

Я ж буду ехаць з дзядулем, я сядзецьму на цялешыках, даўжэйшых за воз. А каб сказаць дзядулю «Едзьма»? Возьме ды загневаецца? Ён сказаў узяць — а пераменіць... Бацька ці раз браў мяне ў лес: завозіў цэбар, новую кадку, высокую і вузкую,

другую — шырэйшую і нізкую, ставіў пад бярозамі на сок; ездзіў па дровы, па мох, па ігліцу, але ўсё рабіў тата, рабіў адзін. Я толькі глядзеў. Яму і гаварыць не было калі.

Прыйшоў той дзень.

Толькі ж ехалі павольна, нібы — непакоіўся я — і справы ніякай. Конь? Ат, ледзь ногі перастаўляе. Нокне дзядуля, а Шпак (які ён шпак, калі гультай-гультаéча і маруда?) крутне, як венікам, хвастом, нібы засведчыць: «Пачуў жа»,— і шлэпае, як на заўтра трэба. Карціць мне: хутчэй бы ў лес. Карціць і рупіць. А я што рабіцьму? Які я дапамагáты буду? Можа, дзядуля толькі так сабе сказаў гэтыя «за дапамагáтага паедзеш» і «дапамога твая»? Можа, як і раней з бацькам, толькі і будзе ў мяне, што на возе ехацьму ў лес, ехацьму з лесу — і ўсё? Можа, дзядуля і мне сказане, як аднойчы брату: «Не хачу твае дапамогі». Возьме і... ссадзіць з воза.

Непакоіўся, пабойваўся.

А ў лесе дзядуля прывязаў каня, узяў з воза пілу (праўда, не тую, бачыў я, якою пілавалі дровы пад павеццю і перапілоўвалі калоды, калі перасыпалі хату, стопку, клець, свіран, а куцую — зломак, з доўгае і вузкае, з прыкляпаным у кузні вухам; была некалі доўгая, але зрэзалася, пераламалася).

Мне пашанцавала. Першы раз у жыцці пілавацьму ў лесе,— не тое, што пад павеццю! Будзе што пааасказваць! А што я ў лесе з сякераю?! Хай сабе з маленькаю, якую бралі ў лес, калі ішлі насекчы кіёў на фасолю, кійкоў памідоры падвязаць, пáлак на цэўкі, вудаўё якое... Буду сякераю церабіць, абцярэбліваць!..

Дзядуля ішоў ад хвойкі да хвойкі, лёгка пастукваў па іх абушком, па адной — раз, па другой — два ці тры. Абстукаў больш за дзесяць, роўных і нятоўстых. А мне хіба ходзіцца? Як матылю на крылах. Гляджу на тую хвойку, якую дзядуля азірае другі раз. Гляджу на дзядулю. А ён без слова, моўчкі. Ён ведае, што робіць і што рабіцьмем. Шкада, што мне нават аднаго слова не кажа, анічога ў мяне не пы-

таецца. Але гэта не бяда і не клопат. Як я з пілою буду? Як церабіць? А як на воз? Ці вялікі воз нагарýсцім? Ці дагаджу?

— Ну, дапамагач, бярэмся за пілу. Толькі не зачапіся за паляня́ку. Пад ногі глядзі. Піла ж. Не што...

Дзядуля стаў на адно калена. Мне сказаў, што я малы, магу ці на калена стаць, ці толькі прыгнуцца:

— Табе й сагнуўшыся можна.

Гледзячы мне ў вочы, тлумачыць:

— За ўсю пілу грошы плацілі? За ўсю. То й цягаць трэба на ўсю пілу.— Сказаў і яшчэ вучыць:

— Не старайся, каб хутчэй пярарэзаць. Не-не, хлопча. Не сьпяшайся. Глядзі, каб піла роўнянька хадзіла. Ня трэба са мною напярагонкі, а каб піла роўнянька йшла.

Што за ўсю пілу плоцяць, калі купляюць яе,— гэта адразу зразумеў, уцяміў. А каб піла «роўнянька хадзіла», гэта... Калі ж пачалі спілоўваць дрэва, мяне ўсё адно як штосьці падганяла, падштурхоўвала, каб я мацней цягнуў на сябе пілу і ціснуў на яе, каб хутчэй рэзаўся мой бок. Дзядуля прыпыніўся:

— Ты куды бяжком? Не прыціскай пілы, а каб лёгка йшла. І мне, й табе будзе лягчэй, ляпей. Каб не ната́лаваць аднаму аднаго. Бо сам ната́луясься, мяне ната́луеш.

Пілавалі. Нішто не магло адарваць майго вока ад пілы. А яна, калі цягнуў на сябе, станавілася нейкаю нядобраю, неяк шкандыба́ла, уядалася і зрывалася. Спацеў, пакуль спілавалі. Хвоя ляснула на прагаліну, расцягнулася на ўсю сваю доўж. Хацелася мне, цягнула і падбівала мяне кінуцца па сякеры (яны ж абедзве блізка), сабе і дзядулю, каб церабіць хвойку, каб, абцярэбленую, перарэзаць так, як пакажа мне дзядуля: на цялешыкі. А дзядуля з пілою пайшоў да другой хвойкі. І зноў: «Цягайма на ўсю пілу». І зноў: «Не пярагання́й мяне і ня цісні на пілу, а лёгенька, то хутчэй будзя». Зноў, каб не «наталаваць», каб не «заталавацца»...

І ляглі на зямлю хвоі. Нятоўстыя, роўныя, стрункія.

Дзядуля, не сышоўшы з месца, па чарзе акінуў вокам спілаваныя дрэвы,— болей не трэба.

Цяпер у нас, цешыўся я, самае-самае! Церабіць, абхарошваць, перапілоўваць, на воз падымаць...

Ды нічога гэтага рабіць не сталі, нават не пачыналі.

Дзядуля яшчэ раз паглядзеў на хвоі:

— Хай паляжаць мо дзён з дзесяць — пятнаццаць. Выдыхаюцца, палягчэюць. Сукоў не чапацьмем, пярапілоўваць ня будзям. Хай. Едзьма, унук.

І пайшоў, каб падцягнуць падпінак, адвязаць ад дрэўца лейцы, ехаць дадому.

Хацелася мне тады папрасіць дзядулю абцерабіць, перапілаваць хоць адно дрэва... Я, здаецца, стаў моцны, гатовы падымаць на воз целяшы.

Перад тым, як сесці на воз, дзядуля паглядзеў на мяне і паўтарыў амаль тое самае:

— Хай ляжаць, хай добра вы́дыхаюцца. Хай выдзьме зь іх цé́жар — сырыну́. Палягчэюць. Тады мы, брат, іх, нібыта якія кача́лкі... Іх тады на воз, на воз, на воз... Лёгка будзе. Хай вы́дыхнуцца.

«Хай выдыхаюцца»... «Хай выдыхнуцца»... «Палягчэюць»...

Выязджалі з лесу, калі хавалася сонца. А ў хату зайшлі — якраз усе, усёй сям'ёй, сядалі вячэраць. Было ў мяне чым пахваліцца: спілоўваў жа! І пахваліўся: «Спілавалі дрэвы, а як выдыхаюцца, а як выдыхнуцца, забіраць паедзям».

— Выдыхаюцца? Што «выдыхнуцца»? — спытаўся брат.

Ці не сам гонар стрымаў ад адказу. Дый не вельмі ведаў, што... выдыхаюцца, што... выдыхнуцца...

Як яны палягчэюць не на пні стоячы, а на зямлі лежачы?

Уцяміў — з часам.

Прайшло з таго даўняга лета гадоў з трыццаць. Я ішоў са станцыі праз той самы лес, дзе яшчэ зусім малы меў невыка́зную радасць — я дапамог дзядулю, быў яго, дзядулевым, памагатым. Успомнілася ўсё. І словы дзядулевы, і ра́ды яго, і... Не было яшчэ сілы, вывучкі, то і... цягай на ўсю пілу, бо за ўсю пла-

цілі (як куплялі); не рві пілы, не цягай так, каб яна шкандыбала, кулялася, а роўна і лёгка цягні на сябе: лягчэй абодвум, спорна праца пойдзе, хутчэй будзе. Каб піла ішла як вада, а не ўпівалася і жыватоў не надрывала. Не наталаваць, не заталаваць, не заталавацца...

Прыгадаўся тут, на лясной дарозе, другі, наступны дзядулеў урок, на якім давучваў працаваць (не шарварку адрабляць), калі прыязджалі забіраць і забралі тыя — цэлы воз! — стаўпе́чыкі.

Выдыхаліся і выдыхнуліся хвойкі. Дзён, мабыць, праз дзесяць абцерабілі і парэзалі на цялешыкі, на воз ускінулі (праўду сказаў мне дзядуля: як качалкі, лёгенькія і лёгенька), пахарашылі пні (гэта кару з пнёў знялі), галлё пазносілі на палянку, дадалі да «свайго» галля назбіранага па лесе па́сушніку, спалілі.

— А я, дзядуля, ўмею ў лесе? Я дапамага́ч вам? Мяне вы возьмеце другі раз?

— Умееш, унучак, умееш. Вазьму й другі раз, вазьму й трэці раз, вазьму.

Павольна, як і тады, калі ехалі ў лес з пустым возам, ступаў конь. І сваім, і дзядулевым рытмам. Не рвучы і не шкандыбаючы, лёгка і спакойна. Выехалі з лесу — дзядуля дадаў незразумелае тады мне і нечаканае, як загадку:

— Абы ўмеў та́нчыць, а гараваць, хлопча, гора на́ўчыць.

Думаў я: што гэта? Дзядуля хвілінкі-часінкі не мог пасядзець рукі склаўшы ці пастаяць рукавы звесіўшы, а сказаў як найпершае: «Абы ўмеў танчыць»?

Даўнавата былі тыя ўрокі.
— А ці ўрокі? Не перабольшваю?

З аўтобуснай станцыі іду дадому-дахаты праз той самы лес. Не адзін. Са мною зямляк, маладзейшы за мяне чалавек. Расказвалі мне: ён вучыўся ў Мінску і за Мінскам, сам нешта пісаў. Дарога да вёскі нядоўгая, не вельмі нагаворышся. Але я паспеў успомніць і расказаць, як некалі быў «за дапамагача», «за дапамагатага», расказаў пра тыя «цягай на ўсю пілу»,

і «цягай роўненька», і «не рві, каб не заталаваць, каб не наталаваць», і «рабі не бяжком», і «абы ўмеў танчыць», і «выдыхаюцца, выдыхнуцца...». Былі пад успаміны — удвух жа — нашы разважанні і тлумачэнні. Выдыхаюцца, выдыхнуцца зрэзаныя неабцярэбленыя дрэвы. Ясныя — як дзень божы — тыя выдыхаюцца, выдыхнуцца, палягчэюць.

А праз нейкі час (можа, праз год ці паўгода) чытаю артыкул з надзагалоўкам «Рацпрапанову — у жыццё!». Пад артыкулам — знаёмае, землякова прозвішча. Той самы, з кім ішоў праз лес са станцыі, каму расказвалася.

Артыкул, як піша аўтар, «выносіцца на грамадскае абмеркаванне», гэта — «рацпрапанова на змяншэнне працаёмкасці і выдаткаванняў на нарыхтоўцы драўніны», «на эканомію сродкаў, якія выдаюцца на нарыхтоўку драўніны», увага на «яе інтэнсіўную і ў тэмпе транспарціроўку». І іншае. Толькі няма ў артыкуле тых «выдыхаюцца», «выдыхнуцца». На месцы іх — вялікія, доўгія сказы, а ў сказах — на цэлы аршын кожны — навуковыя тэрміны, запазычана-пазычоныя, кніжныя; артыкул аўтар напісаў нібы «падбетоненым» стылем, нават з формуламі, з апісаннем «кантрольных абгрунтаваных эксперыментаў» — праверкі, дзеля пацверджання, як неабцярэбленыя дрэвы, паляжаўшы з галінамі, лісцем або ігліцаю, становяцца лягчэйшыя, як «забяспечваецца больш эканомная транспарціроўка драўнінных піламатэрыялаў на дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы».

Артыкул немалы. Толькі не было ў ім дзядулевага,— таго, што ўзяў дзядуля ад дзядулевых дзядуляў. Простага, існага, істотнага: «выдыхаюцца, выдыхнуцца, палягчэюць».

Былі ў мяне дзядулевы ўрокі.
Успомніліся яны, успамінаюцца.

Успомнілася і даўжэзная сыры́чная, або сырамятная, пуга-дратаванка, што вісела на сцяне ў сенцах. Невядома, адкуль і калі яна ўзялася. Сам дзядуля (сказаў аднойчы) не ведаў гэтага. Вісела на яловым сучку-кручку.

Ніхто з сям'і і разу не браў яе ў рукі. Ні на пострах, ці «выхаванне», ні на пасту, ні на ворыва.

Вісела нібы ў музеі,— ці што?

## З ПАЛЕССЯ

Расказваю, што сёлета я не прывёз з Палесся рыбы. Ні сушанай, ні салёнай, што з лёкам, ні вэнджанай, ні якой іншай.

— Што-што? — пытаецца ў мяне мой знаёмы чалавек, які шмат дзе быў, багата чаго бачыў, многа чаго чуў і гатовы заўсёды паслухаць пра невядомае з невядомых мясцін; чалавек гэты ведае цану слову, надрукаванаму радку, не толькі... рыбе ці заробленаму рублю. Дапытваецца:

— Нават слова і нечага за тым, пачутым словам?

Расказваю яму сёе-тое — і не камічнае, і не трагічнае, і не дзівоснае — з таго, што бачыў, з таго, што чуў, з таго, *як* казалася (запісваў не толькі, *што* казалі, а і *як* казалі).

...На Палессі, дзе Петрыкоўшчына, Тураўшчына, Жыткаўшчына... і сёння можна ўбачыць, хоць нягуста, пчолы на дрэвах. Не хаткі. Як і пчолы — гэта «кавалачкі» самой прыроды. Стаіць у лесе шырокая хвоя. Недзе на чацвёртым, а то на пятым, нават шостым ад зямлі метры магутнае дрэва раздвоілася, яно нібы з двух ствалоў. Гэта — ра́лы. На ра́лах — вулей; як там кажуць — вулле́, вуллё... Вулей — з тоўстай калоды. Зверху накрыты; у стараннага і, скажам, традыцыйнага бортніка — бяростаю ці дошчачкамі, а ў «падкультуранага» ці ў маштабна падгультаенага, каб хутчэй і лягчэй... нечым гатовым з будоўлі ці з завода: толлю, шыферам... Не купляць жа. І лёгка: хлоп зверху — накрыта. Вулей прывязваўся гужбою, вераўчынамі, чым іншым. Сёння інакш: дратоў, гаек, іншых жалязя́к можна мець не купляючы. Вулей звычайна ставіўся на рыштунку, што зваўся і завецца няхітра

і зразумела: ста́йла (там, па-над Прыпяццю,— ста́йло). Стайла — гэта і ўсё разам: рыштунак і вулей...

Вулей — чуваць добра — стаіць на стайле.

*Ралы, стайла, бортнік...* Дарэчы, шмат дзе на Беларусі жылі і жывуць людзі з прозвішчам Бортнік; ёсць і вёскі з назваю Бортнікі.

...*Астрова* — роўная і гонкая нятоўстая елка, адзін бок яе абчасаны, абгладжаны, каб яна, астрова, была лягчэйшая; на другім баку так абсечаны сукі, што яны тырчаць сантыметраў на дзесяць — пятнаццаць. Астрова — бортнікава лесвіца, лёгкая, зручная, хоць напашэўку. Падхапіў астрову пад пахту, данёс, прыставіў да стайла і давай... як кот па драбіне.

— Чаму ж яна, гэтая лесвіца,— астрова?

— Сукі на ёй, сухой яліне, вострыя, нібы ячменныя асцюкі на коласе.

Вось яны, сваякі! *Астрова і востры, восці і асцюкі...*

Едзеш па лесе і ўбачыш — стаіць астрова, то ведай: блізка пчолы, блізка борць.

А было так з астроваю.

У вёсцы ўсе ведалі, калі нехта хоць раз узяў не сваё. Людзі не чакалі і не шукалі выпадку — адразу і проста кідалі ў вочы ганьбаванне. Дваццаць пяць гадоў назад нехта падхапіў і кінуў на воз чужы сноп, каб мякчэй было сядзець, а на сноп гэты людзі не забыліся. І новыя пакаленні ведалі: чужы сноп аўса ўзяў! Сеў на сноп... Каб табе села... Сесці на сноп і ехаць?..

Расказалі мне. Пасвілі пастушкі ў лесе статак і ўбачылі пры стайле астрову. Зірнулі ўгору — аж нехта прытуліўся, прыліп, нібы слімак, да вулля. Бачылі, што не сам гаспадар-бортнік, а нехта нейкі. Хлопчыкі, нават не згаворваючыся, падхапілі астрову, аднеслі за гоні ці двое. Прыставілі да дрэва (хай не гніе). І страшнавата стала дзецям. Яны адагналі статак далей ад таго стайла, на якім быў невядома хто.

Да зямлі ад стайла метраў з пяць. На зямлю можна хіба толькі скочыць.

— Узьлез на ста́йло, прытаіўса...

Ды ці пра такога весці слова? Пакаленні змяніліся, а людзі памятаюць, расказваюць без спагады: скочыў са стайла, кульгаў да смерці, хадзіў на скрыўленых нагах. Яго і пятае калена мае, як там кажуць, *на́ймя* — пчаладзёры.

Навекі «наймя пчаладзёры».

— Малые булі, а ўбачым скаль — воччычу спавесцім. Бежком бежым.

— Каму? Каму раскажаце?

— Воччычу. Казалі й пчаляр, казалі й воччыч, казалі й бортнік. Тое самае воччыч, што й пчаляр. (А то пішуць, успомніласо, «пчалавод»... Абы каб не па-на́ску, як не сваім людзям). Пчаляр — то й гонар, то й харашэ. Бо — пчаляр!

Умелы рыбак і дасведчаны пчаляр расказвае пра воччыча:

— Пасом (пасём) ці так гуля́ям, воччыч (ну, той самы пчаляр) пчолак падгледа́е, м'ёду берэ́. А дзеці ж ек дзеці! Стаім недале́чко. Дагле́дзіць пчолак, возьме м'ёду ці сабе й нам або толькі нам. Пачастуе. Адыдзе трошку ад нас — мо на екіх паўганечок, а мы, ек на сцэне сёні, давай усім сваім гуртам:

Воччыч, воччыч,
Даў нам м'ёду,—
Каб вашы пчолкі
Дачакалі году!

Паста́нам і два, а то й тры разы: «Воччыч, воччыч...»

Іншыя былі апошнія тры радкі, калі воччыч, злезшы са стайла, нават не зірнуў на дзяцей. Было гэтак рэдка.

— Раскажэ́це, дзедку, пра скаль. Расказвалі ж некалісь.

І дзед...

— *Скаль* — пчолчына разведка; перад ро́ям (перад вылетам рою) леціць, шукае, каб дзе не занятае пчолкамі вуллé. Круціцца й круціцца. Не ўвесь рой, а толькі кучка, прыгаршчы ці жменька пчолак.

Расказваў, як выходзіць рой, як ляціць рой, як садзяць і абіраюць рой у каробку.

— Як толькі пачына́ласо рае́ньне, то ўсе чы́сто на бок: пільнуй і пільнуйса, каб рой не зьлецеў. Хоць былі ў бацькі пчолы, хоць не, каб кожнае дзіця ўмело рой пасадзіць!

Як сейбіт на засе́ўкі, як жнейка на зажы́нкі, воччыч, калі ішоў надглядаць пчол, апранаў чыстае адзенне. Улетку, вядома, усё яно палатнянае. Анучы белыя, аж свіцяцца... На плячы, на почапцы, каробка ці лазьбе́нь.

— Пчала не любіць мурза́таго, якого там неўмы́цька.

*Лазьбень!* Ладзьбень? Загадкавае слова. Сустракаў я прозвішча Лазьбень, Лозьбінь, Лазьбінь, Лозьбін. Мабыць, крэўныя гэтыя прозвішчы з лазьбянём. Пчаляровым, бортнікавым, воччычавым...

Успомнілася надрукаванае, што лазьбень... бочка(?), бочачка(?), што лазьбень... карзіна(?), што лазьбень... кадушка(?), што лазьбень... скрыня(?) і скрынька(?), што лазьбень... «яшчык»(?)...

Яго, лазьбе́нь і ладзьбе́нь, рабілі і робяць не з калоды, не з кары. Лазьбень — каробка з лубу, сшытая просценька, бо з майстэрствам-умельствам; так сшытая, што мёд, сам цяку́чы мёд, і кропелькаю не прасочваецца. Лазьбень насілі на саматканым, нават далікатным, як спавівач, поясе ці папрузе, часам (ат, няўдака які!) — на вяроўцы. Лазьбень вельмі трывушчы; ён рабіўся не на адзін век, хоць і не меў на сабе меткі пра сваю богвед якую якасць. Не ставілі лазьбяня на падлозе,— яго падвешвалі ці, калі часова, на нядоўга, ставілі на чысты ўслон.

— Не за мае́ю па́мецццю, мама расказвалі мне. Тады шчэ, за спадніцу ўзяўшыса, бегаў за мамаю. Злавілі пчаладзёра. Зьбегліса ўсе Лескаві́чы, ўсе да душы. А пчаладзёру надзелі на шыю лазьбень, каб на грудзях вісеў; усе стаяць, гледзя́ць, аж пакуль со́нцэ выйшло з-за аблачы́ны. Засьвеціло — павелі таго па вуліцы. Скуль ены толькі й браліса — пчолы. Божухно! Сьветы́ божухно! Назьлета́ліса, ек увесь, ек цэлы рой. Ідзе пчаладзёр, людзі маўчаць. Таму воч нема́ дзе падзець. Правелі так з аднаго канца ў дру-

гі, назад. На суд не падавалі, ніхто рукі не ўзьняў на пчаладзёра, ніхто й не плюнуў у его́ бок...

Лазьбень. Трывалы і лёгкі, проста і мудра зроблены — на стагоддзі. Каб жа не тыя пажары-войны, што з'ядалі і людзей, і працу людскую, і хараство на нашай зямлі...

Прыгадаліся пачутыя сёлета, і летась, і даўно палескія *скаль, скаляванне, скаляваць, скаль скалюе...*

Успомніў на Палессі дзеда з-пад Дзятлава, з-за, як там кажуць, Нава́градка. Расказаў палешукам.

Дзеду пачаўся дзевяты дзесятак, калі паказваў маім сябрам і мне па́секу, начынне сваё, мёд. То іскрысты светлы, то крыху цямнейшы, то проста цёмны. Частаваў. Прывёў нас на калгасную пасеку — цэлае мястэчка пчаліных хатак; сказаў і паказаў на практыкантаў — студэнтаў, што збіраюцца стаць пчалярамі.

Не сказаў, што яны будуць... «вадзіць пчол» або «пчалаводзіць»...

Пачаставаў дзед мёдам і дзівамі з пчалінай біялогіі, з пчалінай біяграфіі. Пачаставаў тады і словам. Запрасіў («Ну, вы, хоць на развіта́нейка») выпіць чарку-расхаду́ху і прысесці пасля тае расхадухі перад дарогаю. Прысесці, каб пчолкі сядалі, каб пчолкі садзіліся.

— І што? — спытаўся ў мяне сябар, калі яшчэ былі за сталом, але ўжо збіраліся развітвацца.— Не лавіў ты рыбы? У жывой, не ў каламутнай вадзе!

## ТОЛЬКІ АДНА ЦЫТАТА

Канспект сваіх першых заняткаў са студэнтамі яна пісала і дапісвала, папраўляла і ўдакладняла, прачытала ўвесь і перачытала. Змяніла на ярчэйшыя не адзін з тых прыкладаў, якія павінны былі аналізавацца студэнтамі. Нядзіўна: заняткі будзе праводзіць яна — толькі аспірантка. Калі вучылася, была студэнткаю, бачылася ўсім на

кафедры і факультэце будучаю перспектыўнаю і выкладчыцаю і даследчыцаю-лінгвісткай. Хораша склаліся на кафедры адносіны да аспіранткі, яны абавязвалі: трэба прайсці практыку, так правесці свае першыя і ўсе наступныя спробныя заняткі, каб пры выкладчыках пацвердзілася, што ацэнка ёй — працавітасці і ведам, руплівасці і шчырасці — не выпадковая, што надзеі яе настаўнікаў не памылковыя. Ажно два яе артыкулы, напісаныя, калі была студэнткаю, надрукавалі ў навуковых зборніках.

Паказвала заўтрашняя настаўніца свой канспект сяброўцы, што працуе ў школе, свайму настаўніку з кафедры, а сёння яе навуковаму кансультанту; паказвала двум з кафедры супрацоўнікам. Усе казалі адно і аднолькава: добра, хораша.

Пасля ж заняткаў іх аналіз быў карацейшы, чым трэба. Аспірантцы хацелася знікнуць з інстытута, а не толькі не ісці на кафедру: на адных-аднюткіх занятках, не за дзве гадзіны, а за дзве хвіліны-часіны, амаль на пачатку, яна... Нечаканая недарэчнасць. Аспірантка замяніла ў канспекце, не раз прачытаным і пахваленым, старанна дагледжаным і засвоеным, толькі адну цытату — адзін сказ. Замяніла іншым, новым сказам з артыкула, пацверджанага аўтаравым званнем.

— Я вычытала ўчора сказ і ўзяла яго, запісала ў канспект. Лаканічны, па-свойму, здалося, змястоўны і зразумелы; як і трэба было, ён не з мастацкага твора; ёсць у сказе якраз словы патрэбнага тыпу, структура сказа такая, што можна было паказаць шмат чаго лінгвістычнага; у сказе ёсць і навуковая інфармацыя. Я закрэсліла адзін, даўно знойдзены і запісаны, зверху напісала другі, гэты самы...

Дзявочы голас задрыжэў. Во-во сыпанецца сляза за слязой. Баялася: «Хоць бы ж не яшчэ адна ганьба: жартам названы яе настаўнікам слезапа́д...»

Напружыла волю. Стрымалася.

— То, калі ласка, адкуль жа? — спыталіся.— Пакажыце надрукаваны тэкст.

Аспірантка не адказвала. Балюча было адказваць, не хацелася казаць пра *сваю* няўдачу. Няўдача, разумела аспірантка, не чыясьці, яна *свая*, уласная і такая горкая. Настаўніца не можа звальваць ніякай

памылкі на аўтара артыкула або на кніжкі, бо не ён, той аўтар, вучыў студэнтку, не аўтар вёў заняткі.

На дошцы аспірантка старанна вывела самою прадыктаваны сказ: «У мове ёсць сотні хімічных элементаў, назвы якіх ужываюцца з канчаткам -й: натрый, калій, кальцый, берылій». Сказ сапраўды невялікі, сказ сапраўды стройны. Але такім ён здаецца толькі на першае вока, з першага позірку. Ды гэта — не сказ. Не ўсё, што скажацца,— сказ... У гэтым кароткім і, здаецца, зладжаным тэксце памылка. Не адна тут. Хімічных элементаў не сотні, сёння навука ведае іх крышачку больш за сто; элементы запісаны ў табліцы Мендзялеева, і наўрад ці ёсць сёння на Беларусі такая школа, у якой не было б гэтай дасканалай, разумнай і простай табліцы, складзенай геніяльным чалавекам.

Хіба ж -й — канчатак у назоўніках натрый, калій, кальцый, берылій (натрый-у, калій-у, кальцый-у, берылій-у)? Канцавы -й — гэта апошні гук асновы, не частка. Яшчэ. Няма ў беларускай (як і ў рускай, і ўкраінскай) мове і аднаго слова з канчаткам *й* (*j*).

І стараннасць, і шчырасць, і дасведчанасць — усё ёсць у маладой настаўніцы. Ёсць і не вельмі даравальнае. Убачыла ў артыкуле сказ і ўзяла без добрага простага правіла: думай, рыхтуйся, бяры і гатовыя факты са скептыцызмам, з патрэбнаю прыдзірлівасцю.

Толькі адна цытата.

І не адна памылка.

## КОСКА

«Коска? Тая — заплеценая ў дзяўчынкі? Тая, што ставіцца паміж слоў у кнізе, у пісьме? Тая, што на кіяху-кукурузе? Ці нейкая іншая?» Такую задачу (сам не заўважыў) задаю чытачу сваім першым словам — загалоўкам.

Мне — таксама задача. Мне, праўда, з іншаю коскаю.

Можа таму, што на радзіме ў мяне мурожнай сенажаці не было, касіць выходзілі неабавязкова з расою і нібы не спяшаліся: наперадзе доўгі дзень, намахаешся; асака ды іншая травіца на роўных забалочаных сенажацях касілася і ўдзень, без расы. Так што мы, дзеці, хоць уставалі пазней за дарослых, звычайна бачылі, як ідуць на сенажаць не толькі грабцы, насільшчыкі коп, кідальшчыкі стагоў, а і касцы. Бачылі, якая сям'я ішла цэлым кагалам, якая — нібы з «незапоўненым штатам». Косы, граблі, вілы, насілы, торбачкі з полуднем за плячамі... Мне было сумна гэта бачыць: усе пакідалі вёску, у ёй заставаліся толькі малыя, самыя малыя; старыя, няможлыя таксама сыходзілі з вёскі, недзе недалёка растрасалі пракосы ці падварушвалі іх, паварочвалі «на другі бок». З сенаваннем супадалі іншыя клопаты. Гароднінныя: калупаліся ў градах, не першы раз палолі іх, прарывалі лішняе, густа насаджанае ці насеянае. Бульбяныя: палолі і абганялі ці капаніцаю-гачкаю акопвалі бульбу. Бортніцкія: раенне, вылятаюць раі, не прапусці; пчала з марудамі, як і з мурзатымі, не сябруе. А ты пільнуй двор, хату, тыя маленькія два гароды, што ў двары і пры двары... Маркотна. Пайшлі сенава́ць, а ты напаі́ цялят-сысункоў, нарві ім на ўзмежках травы, накармі свіней, куранят... А там, на сенажацях,— усяго і ўсялякага! Неяк, на тым тыдні, выкасілі чмялінае гняздо, паспыталі ўсе, хто быў бліжэй, чмялінага мёду. А то Антон Баўтушка касою адрэзаў гадзюцы хвост, а то... Багата чаго бачылі, чулі. Не тое, што тут, у апусцелай вёсцы.

Аднойчы раніцаю, калі сям'я за сям'ёю ішла на сенажаць, я ўбачыў такое, што зайздрасць мяне ўзяла. Міша Пешчур, мой аднагодак, ішоў побач з бацькам, вясёлым Максімам, і з братам, ужо сталым хлопцам. Ішоў Міша, як і бацька, як і брат, з граблямі на плячы, з белаю-бялюсенькаю торбачкаю, у ёй — на Мішу, на яго аднаго, полудзень. Ён грабец, ідзе грэбці сена! А граблі? Такіх ні ў кога не было, ніхто з вёскі не бачыў: малыя, новенькія. Прыпыніўся каля мяне Міша, даў пагладзіць рукою грабільначка, а яно слізенькае, блішчыць.

— Тата зрабіў мне. Грабільначка, стаўпец і зубы шклом абгладзіў, пахарашыў. Пачапа́й пальцам,— сказаў, паказаў і шпарка пайшоў (не пабег!..), дaганяў бацьку і брата.

— Стрэнь, сынок, каровак і цялушак,— папрасіла мама.

На заходзе сонца з пашы гналі статак. Я выбег на вуліцу. Тое самае дзіва: трох ідуць з граблямі. Сталыя і Міша. Не было як пагаварыць: трэба жывое ўсё пусціць у двор, загнаць у хлеў, кожную «таварыну» — у свой куток, у сваю загародку.

Надвор'е перамянілася. Пайшлі дажджы. Разнягодзілася. Самыя гаспадарныя, сустрэўшыся, казалі, што касіць не трэба: згніе, прападзе. Якая там кошля? А дзён праз колькі зноў з двароў выходзілі, пакуль не вельмі дружна, касцы. Неба яшчэ было «мурзатае», але ўгадвалі: стане добрае надвор'е. Я ўбачыў на вуліцы другое, новае дзіва: Міша ішоў, як і тады, з бацькам і братам, на плячы ў Мішы была *коска*. Ён не спыніўся, не паказаў сваёй касы, не расказаў, адкуль яна ў яго.

Да вечара ўсе дзеці з вёскі ведалі: пакуль былі непагодлівыя дні, бацька зрабіў Мішу «са скошанае касы» коску, асадзіў яе... «не касу, а брытву: не бярэ, а брэіць».

Максімаў Міша меў *сваю* коску і *свае* грабелькі. Хадзіў з касцамі і грабцамі касіць і грэбці. Ніхто з нас, яго равеснікаў, не быў яму раўнёю.

Няма Максімавай хаты, Максімавага двара. На Максімавым селішчы буяе трава з крапівою, быльнягом, пырнікам. Побач з гэтым селішчам, над выкапанаю і абсаджанаю вербамі сажалкаю,— новы двор. У ім вялікая на нямецкі, або гладкі, вугал хата, прыгожа памаляваны частакол, традыцыйны ў гэтым краі. Хто ў хаце жыве — не ведаю. А зайсці, распытацца трэба. І зайшоў. Гаспадар з гаспадыняю адразу сказалі, што яны наезджыя, а «пазналі мяне па радні». Нават, бачу, зарадаваліся. Расказвалі, што робяць, як жывуць. Большы сын канчае дзесяць («Ой, клопат які!»). Другому — завуць яго Міша — шосты год. Прывяло мяне ў хату, перш за ўсё, пытанне: ці

не прыязджаў той, Максімаў Міша; жыве ён, прачуў раней, недзе далёка яшчэ з даваенных гадоў. У Максімавай хаце доўга жыла сям'я, пакуль ліпела хата; потым сям'я пераехала ў новую, гатовую і вельмі добрую.

Быў тут, у маіх новых знаёмых, на цэлую гадзіну прыпынак.

Было тут нямала расказана. Паказалі мне кніжкі, сярод іх два — чамусьці толькі два, а не дванаццаць — тамы энцыклапедыі, «мінскаю» яе назвалі. Паказалі мне «ўсю хату», немалую і нябедную; сям'я — гаспадар, гаспадыня — вясковыя інтэлігенты. Паказалі пакой свайго меншанькага, што ў Мішавым пакоі. А ў ім машына, хоць на Венеру — сама даедзе. Штук з пяць самазвалаў, зялёных і сініх, малых і большых; не меней легкавікоў, два веласіпеды: адзін карыстаны ўжо, другі — «навырост». Малакавоз, бензавоз, гармата, аўтаматы, кулямёт. Там... багата машын, машынак. На некаторых не хапае кола ці двух. Адзін аўтамат з ражком, два без ражкоў, танк без гарматы. Там чырвоныя, аж гараць, гілі; там качкі, гусі, буслы, жабы пластмасавыя. Жалезныя і пластмасавыя пажарнікі, пажарныя машыны, лесвіца. Малпа, воўк, ліса, вавёрка... Там, сярод усяго гэтага, розныя кніжкі, таўсцейшыя і танчэйшыя, вялікія і маленькія; яны і на цацках і тырчаць з-пад цацак.

Дзіцяці, мабыць, не ўсё дарагое дорага.

Прыкінуў: а ці вучыць усё гэта Мішу-шасцігодка? Ці ўсё, ці столькі ўсялякага-рознага трэба Мішу? А мо не хапае... грабляў? Хоць бы тых, маленькіх і выштукаваных? Каб выграбці — пакуль што — усё, чым завалілі пакой.

## ЗДЗІВІЛІСЯ, ЖАХНУЛІСЯ...

Як на сённяшнія меркі, то гэтакае жыццё нецікавае: у вёсцы жылі адны, толькі свае, людзі; не прыязджалі сюды новыя, не з'язджалі ад-

сюль тутэйшыя; возьмуць хлопца ў салдаты, адслужыць (казалі і кажуць: адбудзе войска) і назад вернецца; падзея (і якая!) у вёсцы, калі нехта бярэ за жонку дзяўчыну з далёкай вёскі. Бярэ не ведаючы... Так і жыла вёска. Тыя самыя людзі сеялі, жалі, касілі, малацілі, на лаўках сядзелі, гаманілі, жартавалі, прыдумлялі, пацяшалі ці засмучалі, фэсты спраўлялі, часам, гады ў рады чаркавалі пакрысе і не ўсе. З 1920 аж да 1938 года ў школе быў адзін настаўнік, без змены і перакідвання, то і без павышэння ці паніжэння. Вечарынкі спраўлялі толькі ў суботу і на святдні.

Ніхто не пакідаў свайго селішча ў вёсцы, то не знаходзіўся новы гаспадар на чым-небудзь селішчы. Раптам у 1929 годзе запуставала хата. Пуставалі і двор і хата, праўда, нядоўга: прыехала нейкая зняблізку сям'я: дзядуля і бабуля, бацькі і дзеці — сем душ. Хата і двор тыя стаялі наўзбоч ад вёскі. Хоць гэта не хутар, але звалі — хутар. Вёсцы было дзіва: новыя людзі! Карцела пагаварыць: хто і што, адкуль і як?.. Але мала казалі. Не толькі таму, што не ведалі наезджых, а і трымала загадка: першая, як усе памятаюць, у вёсцы чужая сям'я!

Ніхто не кідаўся вывіжоўваць, выведваць. На ўсё свой час. І ўбачыцца нябачанае. І пачуецца нячутае.

Прайшло з тыдзень. І, як сёння, перад вачыма: сышліся святднём, прыселі на лаўцы, пры частаколе, жанкі (так кажуць на Бабруйшчыне), тры мужчыны. Гамоняць пра тое, другое. Аж прыходзіць канцавы Андрэй: ён жыў найбліжэй да таго хутарскога двара, што за адну вясну і запуставаў і заняты людзьмі, якіх і пра якіх ніхто ў вёсцы і слова не ведаў. Прысеў Андрэй і расказвае:

— Учора цяля, сысунок яшчэ, выскачыла з хлеўчука́, вароты расчыненыя (ведама, дзеці, забыліся зачыніць). Яно і панеслася. На вуліцу, на выган, на хутар, за хутар. Пераняў цяля, павадок на шыю, вяду паўз хутарскі двор. Што — думаеце? Ідзе той новы з хаты, замкі ў руках нясе. Адзін хлеў замкнуў, другі, трэці.

— А ў хлявах?

— У адным конь, у другім — век вяком быў раз-

гароджаны на два хлеўчукі — карова і свінчо, у трэцім нечага, мабыць, наскідаў, накладаў.

Андрэй ніколі не жартаваў. Заўсёды мала, скупа і дакладна казаў, то ніхто ніколі яго не перапытваў, не распытваў. Ён не надта і «распытваўся»... А тут не стрымаліся, быццам не Андрэй расказаў. Пыталіся:

— Хлеў замкнуў?

— Карову пад замок браць?

— Каб на адрыне замок вешаць?

Насцярожыліся. За дарослымі панацэльвалі вушы дзеці, хоць, здаецца, не слухалі, не чулі, пра што ішла мова. Здзівіліся вяскоўцы: каб нанач карову замыкаць? Ну, кладоўку, ну, клець або свіран-свіронак. А каб хлеў, адрыну з сенам ці дровы?

Без трывогі, але здзівілася вёска.

Праходзячы каля хутарскога двара, вяскоўцы кідалі на яго вокам.

А дзён праз пяць — сем той самы Андрэй расказваў, што «чуў з хутара на свае вушы»:

— Малое на матку: «Ты йдзі!» Малое на дзеда: «Ты сам вазьмі!» Бацькам — ці бацьку, ці матцы — «ты!». Дзеду з бабаю — «ты!». На бацьку: «пень ты глухі!». А як ён, гаспадар, на жонку... Хай бог крые ды бароніць... Адно аднаго словамі пераматваюць.

Калі першая вестка здзівіла вёску, то ад другой вёска жахнулася.

Хутара таго ўжо няма. Селішча перарэзала дарога. Ацалеў ясень, стаіць пры дарозе. Пад ім успомнілася. Тое з маленства.

## НУ, А ЧАМУ ТАК?

У вёсцы, недалёка ад яшчэ вузкага і не глыбокага Нёмана, жыве мой былы студэнт — настаўнік. Я абяцаў завітаць да яго, у грыбах разам пахадзіць, паспрабаваць, а мо і зловім галаўня, ці, як завуць там, галавача, пад'язіка ў Нёмане або ў Нёманавай прытоцы. Пазваніў і паехаў.

Настаўнікава мама за сталом ледзь не з жальбою і скрухаю пытаецца:

— Ну, чаму ж так?.. Чаму, скажыце?..

Мы не ведалі, што здарылася, чаго нарабілася.

— Уключылі яго,— паказваючы на тэлевізар,— лато круцілася й насілася, грукаталі шарыкі з музыкаю. Тады й кажа,— як яго? — Ну той, што расказвае, што перадаваць будуць... той што аб'яўляе перадачы, аб'яўляльшчык: «А зараз — пісніры». Што, думаю, такое? Не скемлю: што такое? Што за «пісніры»? Хіба з дудкамі, хіба дудкі, якія пішчаць будуць? Мо што другое...

Спыталася.

Паскардзілася.

Яшчэ схадзіла ў кладоўку, яшчэ нешта паставіла на стол.

Села і, пасвятлелая, ажывілася. І так пачала расказваць, што, перамяніўшыся, памаладзела. Яна расказвала, не вельмі падбіраючы адно пад адно словы, а паўтараючы іх. Пайшлі са словамі і загаварылі яе інтанацыі і інтанацыі.

— Слухаем. Божа каханы! Божухна ласкавы! Не наслухацца! Каб гэтак хораша! Ды каб гэтак лоўка! Песьні, й песьні, й песьні. Як узяліся, то песьня за песьняю. Гэтак мякка, гэтак далікатна. Вельмі скла́днымі, найболей тонкімі галасамі. Далікатнымі галасамі. Хораша. А той жа нейкі папярод, пакуль пачаліся песьні, сказаў: «Пісніры»... Ды ў яго нейкае «сы» выходзіла, як цьвёрдым языком. Пра тую сьпявалі «вярбу нахілёную», «пра дзяўчыну заручоную», пра Аляксандрыну і пра Алесю, што «пайшла яна, не вернецца ніколі», пра Яся — «касіў Ясь канюшыну»... Былі й такія песьні, якія самі ведаем. Толькі ў нас ня гэтак сьпяваюцца. Былі й такія, якіх не стала. Як тыя песьняры пялі! Як яны сьпявалі!..

Настаўнікава мама прымоўкла, перамянілася.

— Каб лепей умела пісаць, каб у вашым Мінску нясьмешна было з майго пісання, то напісала б на таго, што ўсё адно як пастрашыў нас: «Пісніры».

— Ну, а чаму так? — падагуліла жанчына сваім пытаннем, сваім дакорам і «двойкаю» таму «аб'яўляльшчыку».

## ВЫХОДЗЯЧЫ СА СХОДУ

Немалады франтавік з вайны сорак першага — сорак пятага гадоў на гэтым вечары так проста і шчыра сказаў кароткае слова да саміх ветэранаў. Слова пра іх дарагі, і каб штодзённы, клопат — увагу пасівелым ці пабялелым галубкам, што ў цяжкае ліхалеццве замянілі мужчын каля станкоў, на полі, на чыгунцы. Дзе толькі хочаш. Чакалі сваіх сакалоў з акопаў, са шпіталяў. Выпраўлялі — да вайны і пасля вайны — у далёкія і блізкія камандзіроўкі. Чакалі і сустракалі з тых далёкіх і блізкіх нялёгкіх камандзіровак...

Як толькі прамоўца сеў на сваё месца, сусед справа павярнуў да яго галаву і шапнуў:

— Вы гэтак пад'ехалі... з гэтаю далёкаю камандзіроўкаю... пад самога... Ён некалі вярнуўся з камандзіроўкі не дадому, не да жонкі... Ці варта...

Праз хвіліны дзве сусед злева:

— Можа, не трэба чапаць тае камандзіроўкі... Вы не ведалі? Пабыў у камандзіроўцы і вярнуўся... на другі адрас...

Гэтыя тры падняліся і выходзілі з клуба разам. Левы і правы па чарзе кінулі вокам на нядаўняга прамоўцу. А ён — ці то з адказам, ці то з пытаннем — адразу да левага і да правага, да абодвух, прыкметна маладзейшых за яго:

— Што? Каб выступаць і нешта сказаць, то спярша начальнікаву біяграфію трэба вывучыць? Тады ўжо, асцярожнікі мудрушчыя, будзе правільненька?!.

## У НАЧНОЙ ЦІШЫ

Сяржант міліцыі, ці, інакш кажуць, сяржант службы парадку, убачыў: на плошчу выйшлі, пабраўшыся пад рукі, тры немаладыя мужчыны. Ішлі і гаварылі няціха. Гадзіннікавая стрэлка пачала ўжо круг на першую гадзіну, і дзяжурны сяржант спачатку стараўся ўлавіць, ці не пасля застолля дзе-

ляць нейкую спрэчку гэтыя трое, а потым парашыў выйсці насустрач і напомніць, што ўжо ноч...

А трое спакойна павярнулі і папраставалі па плошчы да шчодра асветленага помніка цяжкай вайне і вялікай перамозе. Дзяжурнаму, добра ўбачыў, ні спыняць іх, ні гаварыць што-небудзь не трэба было. Ішлі, спыніліся каля помніка. Паздымалі шапкі і, здаецца, не зважаючы ні на кога і ні на што, ціхаціха заспявалі:

Адышлі тыя годы,
Адгрымелі паходы...

Перад чатырма быў толькі помнік. Трое з іх нібы знарок аднекуль прыйшлі да помніка. А чацвёрты, сяржант, адчуў радасць, якая бывае ў шчырых людзей, калі яны ў нейкай сітуацыі ледзь-ледзь не памыліліся, але — не памыліліся. Яму хацелася падысці да гэтых трох, зірнуць у іх твары, загаварыць. А можа, яны — бацькавы сябры? З аднаго атрада, у якім быў і бацька?

...Толькі помніку і сабе ледзь чутна праспявалі куплеты песні, надзелі шапкі і без аднаго слова пайшлі, куды ім трэба было.

Хацелася сяржанту здагнаць іх і, каб мог знайсці адпаведныя словы, сказаць гэтыя словы ім, былым партызанам, падзякаваць за непаўторнае парушэнне начной цішы. Належныя словы не прыходзілі, і грэх было перабіць тое маўчанне, з якім пакідалі плошчу трое.

## МЯККАЯ ТРАВА

Дзед сам ужо не піша. Кантузія і раны з вайны, калоцяцца рукі. Яму ўжо цяжка і пасядзець. Напісаў мне пісьмо ўнук. Удвух — былыя, як і гэты дзед, партызаны — прыехалі пабачыць хворага, распытацца, сказаць слова. Убачылі, гаварылі — грэх ці не грэх — і не верылі, што кажам праўду. Казалі: «Будзем жыць. Не спяшайся бедаваць».

Дзед не цешыў сябе надзеяй; ні на кога і ні на

што не наракаў. На пасцелі ўспамінае з вайны, вайну. Сказаў, як чуў ён; сказаў, як кажуць недалёка ад беларускага Заслаўя: «Не жыток, братка, на гэтым сьвеця».

Успомніў, як добрыя людзі падабралі яго, параненага, на пачатку ліпеня 1941 года, як яшчэ двойчы лячылі раны, як замаўляла з-пад Вялейкі варожка кантузію...

— А у вас,— пытаецца,— теперь, как и тогда, в августе зеленая земля? Такая же густая, как воўна на овце, как трава-атавка на лужайках? У нас об эту пору какая зелень? Юг ведь, пожелтело. Вот, кажется, залетел бы в Беларусь на ковре-самолете, лег бы на той мягкой земле — прошла бы хворь. Трижды, три раза, спасали меня *мягкие* руки на той *мягкой* траве и земле...

## ЦЁЗКА

Адзін за адным пераказвалі мне разведчыкі, каб я заехаў у Малыя Бакшты да «вусатага». Расказвалі, што «вусаты Янкоўскі» — былы панскі парабак, што з 1939 года ён засявае шырокія загоны добра дагледжанае панскае зямлі, што стомлены партызан, вяртаючыся з задання, у любы час дня ці ночы можа завітаць у хату да «вусатага» і падсілкавацца, выпіць чарку бакштанскай.

На Маладзечаншчыне ў мяне не было ні сваякоў, ні даўніх знаёмых, усё жыццё ў мяне адна цана і саматужнай, «як агонь і крышталь», і казённай... Праз гэтыя дзве акалічнасці я і не спяшаўся ў Малыя Бакшты. Але неўзабаве мы сустрэліся. Здзівілі і ўразілі пытанні вусатага і барадатага, павольнага і флегматычнага, не зусім ахайнага і, здалося, цынічнага чалавека. За гады працы ў школе я звыкся з тым, што ніхто з сялян са мною не абыходзіўся на «ты» (дарэчы, скрозь на Беларусі — ні вяскоўцы, ні засцянкоўцы, ні мястэчкоўцы — не гаварылі настаўніку «ты»). А гэты, не зважаючы на маё «начальніцтва», пачаў на «ты».

— Ты Янкоўскі?
— Дык паляк ці беларус?
— Які ж беларус, калі такі чарнявы?
— Каталік ці праваслаўны?

Пасля адказу, што я з праваслаўных, не засцянковец і не з парабкоў, вусаты махнуў рукою:

— Разбярэшся з вамі!..

І кінуў жонцы:

— То ён, баба, ніякі не сваяк.

Сказаў і пайшоў.

Непісьменны, усё жыццё служыў у паноў, толькі тры разы за свае шэсцьдзесят пераехаў з маёнтка ў маёнтак... Адкуль жа яны, гэтакія пытанні?!

Мы не спяшаліся: чакалі дазорных. Я разглядаў прысады, закінутую і недагледжаную сажалку з тысячамі драбязы-карасікаў, падмурак спаленых пакояў, дзе жыў пан, свіран, з якога можна зрабіць не адну хату, высыпаную дарогу, дарожкі і сцяжынкі на сядзібе.

Гаспадыня паклікала нас. На голым стале ляжалі амаль авальныя нятоўстыя скібкі хлеба, агуркі, цыбуля і стаяла бутэлька мудрагелістай формы, яшчэ «з польскіх ча́саў». Гаспадар не сядаў за стол.

— Поўны?

— Што? — не прыкідваючыся, спытаўся я.

— Ды кілішак! (Я ўпершыню пачуў гэта слова замест глуска-бабруйскага «чарка»).

Я прыгубіў.

— Што — не ўпадабаў? Хм!..

Другая сустрэча з вусатым была самая нечаканая. Дазорныя расказалі: каля мігаўскіх хутароў, дзе некалі жыў грамадовец і нашанівец Уласаў, і каля Сярэбранкі гойсаюць на конях і на веласіпедах немцы і паліцэйскія. Трэба было ведаць, што ў іх там за рух, што там робіцца, пабыць на месцы таго руху. Разведчыкі не зводзілі вока, але толькі здалёк. Пасылаць іх на мігаўскае і сярэбранскае чыстаполле было горш чым небяспечна. Мала што ўбачаць і наўрад ці вернуцца.

Мой памочнік Тарасенка надумаўся папрасіць вусатага.

Просьбу сваю Тарасенка расказаў вусатаму коратка і проста. А той зірнуў з-пад густых навіслых броваў і павольна, падбіраючы словы, так загаварыў, што...

— Сам баішся? Баішся, што калашыну мыць трэба будзе! А куды спрыт свой хаваеш? Табе каб ордэн, а мне... Мне арданоў не трэба. Мяне, брат...

Мне не хацелася ні слухаць, ні чакаць яго дапамогі...

А вусаты тым часам зняў з цвічка на сенцах пугу, пайшоў, рэдка падбубніваючы словамі, такімі ж, відаць, няласкавымі і непрыветлівымі, як і тыя, што мы чулі. Ён павольна ўзяў на аброць кабылу з мецінкаю на лобе, гэтак павольна запрог, падкінуў у драбінку сена; не перастаючы бубніць, сеў на воз і, не зірнуўшы на нас, паціху выехаў з двара, быццам з'ехаў ад нас куды вочы глядзяць. А праз нейкую часіну вярнуўся і, не злазячы з воза, кінуў, нібы не чакаючы адказу, адначасова ацэньваючы яшчэ раз Тарасенку і яго хлопцаў-разведчыкаў:

— Дык што там твае бачылі?

Тарасенка коратка паўтарыў, што данеслі разведчыкі. Вусаты махнуў перад тварам рукою — ці то перахрысціўся, ці то муху адагнаў — і, ні слова не прамовіўшы, паехаў туды, на Сярэбранку. Ён сядзеў на возе як корч. І, пакуль не схаваўся ў хмызняку, ні разу не паварухнуўся, не глянуў набок.

Побач з загадкаю, што робяць немцы на Мігаўцы і на Сярэбранцы, стаў другою загадкаю сам вусаты. Гадзіны праз дзве ён вярнуўся. Выпрагшы кабылу, прайшоў каля нас, павесіў на цвічок пугу і, відаць, пакрочыў бы, куды яму трэба было, ані не збіраючыся «набівацца» сваімі навінамі. Трэба — спытаюцца...

Яго весткі пацвердзілі і ўдакладнілі паведамленні разведчыкаў. Пакуль стары расказваў і адказваў на пытанні, я, уважліва слухаючы, неяк механічна зняў з цвічка пугу, разгледзеў вузельчыкі на ёй, путца, якое злучае пугу з пугаўём, тонкі, пякучы кончык пугі і гэтак жа механічна ссек адну за адною з дзесяць травінак, што рэдкараслі ля плота на двары. Стары без слова ўзяў у мяне з рук пугу і здзіўлена, з ацэнкай:

— Бач! Гэтак умееш?!

Мне прыгадаліся трэніроўкі ў дзяцінстве, на шляху пастухоўскае «кар'еры»... ад чарады гусей, праз «ступенькі», да статка кароў.

Неўзабаве мы ўтрох праязджалі праз Бакшты. У свірне ці то сварыліся, ці проста даказвалі адзін аднаму сваё. Дзверы свірна прачыніліся, і паказаўся дзесьці ўжо бачаны і крыху знаёмы партызан. Выходзіў ён чамусьці задам і спыніўся на парозе, так што адна нага заставалася ў свірне, а другая за парогам, на ганку.

— А качаргі з качарэжніка пакаштаваць не хочаш? Гарэлкі захацеў паспытаць!..

Потым са свірна выйшлі два партызаны і з імі — вусаты. На наша вітанне ён толькі сказаў «дзень добры» і павёў партызан у хату, а нас быццам тут і не было. Мы паехалі сваёю дарогаю. А калі вярталіся назад, сустрэлі тых двух партызан, якіх бачылі ў вусатага. Адзін з іх — сімпатычны і вясёлы хлопец родам з-пад мястэчка Ілі — расказаў, як «пайшоў у атаку» на іх вусаты Янкоўскі. Ідуць, значыць, яны на заданне пад чыгунку. Па дарозе сустрэліся са сваімі землякамі, тыя і папрасілі завітаць да вусатага, перадаць паклон і пабыць у яго нават гасцямі. Сказалі, дарэчы, што партызаны далёка ведаюць былога бакштанскага парабка, які ніколі не пашкадуе пачаставаць, але толькі тады, калі паверыць, што ідуць яны не на поўдзень, дзе шаша і чыгунка, дзе варожыя гарнізоны, дзе на кожным кроку чакае небяспека, а на поўнач — у сваю, партызанскую зону, дзе Манылы, Янушкавічы, Руднянскі лес, Бясяды... Маючы такое даручэнне і атэстацыю, юнак пачаў з жарту, каб як паспытаць бакштанскае гарэлкі.

— А ты куды? — папытаўся вусаты.

— Куды? На заданне, на фашыста!

І вусаты захадзіўся. Ён стаў гнаць незнаёмых, нічога не тлумачачы, але абяцаючы знаёмства з качаргою, яшчэ з чымсьці, што заўсёды на ўзбраенні ў гаспадыні каля печы. А калі завёў у хату — без слова накарміў; ці то папрасіў, ці то загадаў, каб, вяртаючыся назад, зайшлі да яго, ён перадасць паклоны.

З часам разы два ці тры мы спрабавалі прапытаць у вусатага, што за «шорсткая» размова была ў свірне. Але ні разу нічога не сказаў, быццам не ў яго пыталіся, быццам ён і не прабіраў нікога і ніколі не частаваў разведчыкаў і мінёраў, якія, ноччу гучна заявіўшы пра сваю справу, шчасліва вярталіся на базу.

Ішоў час. З вусатым была не адна сустрэча. Аднойчы ён зноў вярнуўся да свайго дыялога-допыту:

— А што ж да вайны рабіў?

І калі я адказаў, што я — настаўнік, то ўлавіў хуткі і загадкавы позірк на мяне. З таго дня, памятаю, ён ні разу не сказаў мне «ты». А неяк раз, пасылаючы дзяцей растрэсці пракосы, казаў: «Сына́м за настаўнікаў ужо не выйсці. Каб хоць адзін унук стаў за настаўніка».

Дыялог ішоў далей.

— А як дома завяцёся?

Я расказаў. Ён падумаў і дадаў:

— Мяне дома ўсе, і сваякі мае ўсе завуць Язэп, а ксёндз і пан звалі Юзаф. А царскі пісар (значыць, вайсковы пісар рускай царскай арміі) запісаў, і звалі мяне Восіп альбо Осіп — хто як... А ці бачылі хоць раз Тарашкевіча?

Гэтага таленавітага грамадскага і партыйнага дзеяча, на жаль, я не бачыў і ведаў пра яго тады мала.

— Неяк ён, гэты Браніслаў Тарашкевіч, з другім адным выступалі ў мястэчку на базары. Людзей-людзей! Шапкі паскідалі. Увесь базар сабраўся, і гандаль усякі стаў. Тарашкевіч доўга расказваў, праўду рэзаў.

Потым казаў, што адны беларусы — праваслаўныя, а другія — каталікі. А я з таго часу думаў, ці раз... Хто гэта паблытаў людзей? І нашто? Мусіць, цары ды каралі, панеча ўсякая. Блыталі людзей.

Былі сустрэчы і пасля вайны.

Я выйшаў з аўдыторыі (гэта быў снежань 1952), і хто б ні сустрэўся, падказвалі: «Вас каля прафесарскай чакаюць». Падказка была не проста падказка: нешта ж ёсць такое...

Каля прафесарскай стаяў натоўп студэнтаў, стаяла і некалькі выкладчыкаў, а збоку — стары чалавек штосьці гаварыў. У доўгім кажусе, падпяразаным шырокім саматканым поясам, з шапкаю пад пахаю і з доўгім ялаўцовым пугаўём, на якім вісела кароценькая (тая самая! яшчэ з вайны!) чорная і на вузельчыках пуга. Барада была ўжо не рыжаватая — пабялела, вусы, як звычайна ўзімку, прыкметна пасекліся, парадзелі і паменшалі. Гэта быў пастарэлы вусаты Янкоўскі. З тым самым спакоем, быццам з абыякавасцю і без слова парукáўся, палез за пазуху, працягнуў мне амаль поўны капшук самаробкі-махоркі, потым складзены ў кніжачку кавалак газеты і сказаў адсыпаць у кішэню са жменю...

На нас глядзелі стрымана, чакалі, што будзе далей. Зазвінеў званок на лекцыю, і я прашу, каб дзед пачакаў толькі 50 хвілінак, тады пойдзем да мяне.

А ён падвёў мяне да акна і паказаў: на двары інстытута, пад высокім гмахам, асветленая з шырокіх вокнаў дзесяткамі лямпаў і лямпачак стаяла фурманка; нераспрэжаны, накрыты дзяружкаю конь папасваўся, з аброчнае доўгае торбы тырчалі толькі вушы.

Уся няпрошаная «аўдыторыя» сыпанула да акна, глядзела на дзіва ў горадзе. Было дзіва і другое: дзе тая Пярэспа, куды ўліваецца дарога, калі ехаць, як там кажуць, з-пад Маладэчна, а дзе Дом урада! Неяк жа праехаў.

— Не. Пабачыў во, што ў паны берацёся і чалавекам астаяцёся, дый патрухаю сабе на ноч гледзячы. Пакуль даехаў, пакуль знайшоў, пакуль дачакаўся — во і цямнее. Ехаць.

Але гэта былі не апошнія словы развітання. Я ўбачыў, што ён мне не ўсё сказаў. Такога твару, такіх вачэй у яго я не бачыў за дзесяткі сустрэч у вайну.

— На вясне — як жывы буду — пад'еду. Можа, да вас і дахаты адскочым. Пляшку падгатую. А каб на радзіве пласцінак? — сказаў стары нечакана.— То ж у кнігарнях маіх песень няма (тады яшчэ рэдка траплялiся ў продажы пласцінкі грамзапісаў беларускіх песень). У хаце баян, акардэон. Каб чулі, як рэжуць мае рыштанюгі! Ведама, у дабры. Але

пласцінкі — гэта яно так сабе, ат, трава на дарозе! Не бярыце сабе да галавы.— І без паўзы дадаў:

— А сыны мае ніколі парабкамі не будуць хадзіць.

Развіталіся. Трымаючы ў адной руцэ шапку, у другой пугу, стары ціха і мякка пайшоў.

Потым спыніўся.

— А пуга? Першая ў мяне свая, не панская. І пуга ж тады была панская, не свая.

Ні разу дасюль, за многа сустрэч, ён не сказаў мне столькі.

Да мяне прыехаў переведацца аж з Украіны былы начальнік штаба Грыша Астрамуха. Дзянёк пагасцявалі, і абодвух пацягнула праехаць сцежкамі вайны і пакут. Завіталі ў Малыя Бакшты.

Не здзівіла старога Янкоўскага, што прыехалі на сваёй машыне. Не сказаў ні «пастарэлі», ні «пераменіліся».

— А ў хату зойдзеце? Ці — пайшла мода — толькі пад хатаю пасядзець?

Сказаў, што і махорка-самаробка ёсць, і чарку ма́е, і да чаркі знойдзецца. І што нядаўна пайшоў у калгас, дзе ўсе. А сёння нядзе́лькуе, як і ўсе.

— Што? Толькі нядаўна пайшлі?

— Ды дзе ж! Якісь тут воўну збіраў, інспектар ваўня́ны. І што ён надумаўся? Як толькі калгас зрабілі, прывёз ён аднекуль кавалак рэйкі і сказаў, каб званілі, каб у рэйку грукалі: «На працу ідзі!» Каб табе, шыбэтнік паганы, у галаве званіла ды не перасціхала! Я не пайшоў. Аж тую рэйку знялі й звезлі. Загадалі разумным словам. Нашто ж той звон, тая рэйка нам?

— А вы што? Звону баіцеся? — спытаў госць, якога ведаў і гаспадар.

— Звону... Дзед мой быў вечны парабак-батрак, бацька таксама, і я парабкаваў ды батрачыў. Названілі і названіліся. Нашто цяперашнім часам тая рэйка?

Стары паўтарыў запрашэнне зайсці ў хату. Але наперадзе была яшчэ дарога, наперадзе былі яшчэ сустрэчы, трэба ехаць. Грыша дастаў з багажніка і падаў дзеду скрутак.

— Ґасцінец.

— Хіба за махорку-самаробку, ці — як той Філіп, ваш памочнік, казаў — за карашкі, што часам адсыпаў вам?

А потым з Малых Бакштаў прыйшло пісьмо. Пісалі вучні з шостага класа, каб я прыехаў перад святам у школу.

Сустрэча з вучнямі адбылася, і я адразу ж пайшоў да хаты старога. Ён стаяў на дарожцы, а недалёка ветрыла фасолю старая. Яшчэ больш пасівелы. Паменшаў. Нейк падсох. Глядзіць, але мяне не бачыць. Я падаю руку, а ён ні рукою, ні вокам, ні словам не адказаў. Вочы глядзяць, але мяне не бачаць. І ніякае рэакцыі.

На дапамогу прыйшла старая:

— Цяжка, пакуль што ўцяміць. Гавару я, гавару, а ён які дзень і слова не скажа. А калі пачуе, тады і сам нешта скажа. Якраз восемдзесят яму.

І яна пачала ўталкоўваць. Успаміналa і паўтарала, паўтарала словы іх размоў, паўтарала словы «вайна», «партызаны», «начальнік», «разведчыкі»...

Стары крышачку перамяніўся, яго вочы ледзьледзь завільгатнелі і сталі напаўняцца слязою. Але сляза так і не скацілася...

## ТРЭБА Ж ДАПРАДАЦЬ

Тысяча дзевяцьсот дваццаць сёмы ці дваццаць восьмы год. Зімовым вечарам у нашай хаце аж два агні: на камінку смольны корч палае, а над сталом — на покуці, пад абразáмі — адзінокім вокам глядзіць лямпа. Пры камінку — там і светла, і цёпла — мама прадзе воўну, бацька вяжа нерат. Пры лямпе нас трое, вучым урокі: хто піша, хто задачкі рашае, хто чытае. Гэтым вечарам, як і дзень пры дні, як і штовечар і штораніцы, як і ўсю-ўсенькую зіму, круцяцца кола самапрадкі. Калаўрот-самапрадка, як цяпер пішуць, «працуе» мякка, ціха, нястомна. Да вясны маме трэба спрасці і сваю, і прыкупленую воўну, трэба заспаваць аснову, зматаць маткі ў клуб-

кі, паставіць кросны і выткаць сукно; ґубак з дзесяць павінна выйсці.

Калі вячэралі, то ўсе — бацькі, дзеці — кідалі па слоўцу, па фразе пра тое, што ў каго было на дні. Сказала і мама: яна села прасці, як толькі праспявалі другія пеўні. Так што прала цэлы кавалак былой ночы, увесь дзень і сённяшні вечар...

Ужо двойчы за вечар мама прасіла нас адскочыць і прынесці ў карцы халоднай вады, з лёдзікам, з халодных сенцаў; каб не драмаць, каўне глыток, чуць-чуць змочыць скроні, губы.

Нам, дзецям, бацькава непарушнае і цвёрдае: калі хоць адзін з нас урокі вучыць, то двум ні дурэць, ні нават гаварыць. І я пазіраю, пазіраю моўчкі то на аднаго брата, то на другога, карціць і рымсціць расказаць самае-саменькае з прыгожай новенькай кніжкі «У краіне райскае птушкі». Ды гэтыя маруды, гэтыя паваля́кі, гэтыя неўстава́кі яшчэ ўсё са сваімі ўрокамі... Вунь колькі наці́калі ходзікі, а яны, адвячорак прабегаўшы, позняй позніцай і пазяхаючы пішуць, лічаць, чытаюць.

Чакаю двух. І пачулася: цішэй «гаворыць» самапрадка-калаўрот. Зірнуў на маму, яе галава павольна, ледзь прыкметна нахілялася, апускалася, самапрадка спынілася,— мама задрамала. Але толькі на часіначку. Ачнулася, нешта сказала сама сабе ціха (ці не сваё «А няхай цябе няхай!», «Ах, каб яго каб!») і павяла, павяла далей сваю, здавалася, на векі вечныя нескончоную нітку і незабыўна і непаўторна заспявала:

Вочкі ж мае чарнявыя,
Вы хочаце спаць.

Спявала, каб прагнаць дрымоту, сон.

Не ведаю, ці бачыў бацька, як сон спыняў самапрадку, як мама клюнула, як прахапілася і схамянулася, як пачала спяваць. Але як толькі праспявала другі радок песні, ласкава і няголасна, быццам каб не вельмі пачулі мы, бацька сказаў:

— То няхай бы вочкі твае чарнявыя заснулі. Прыляж вазьмі.

А мама, нібы і не драмала толькі што, нібы і не чула, што казаў бацька, вяла сваю нітку і песню:

Хоць хочаце — не хочаце,
Трэба ж дапрада́ць.

## 4 І слова няма.

Дзятлаўскі раён,
вёска Трахімавічы

### НА ХЛЕБЕ...

Былы франтавік успамінае і расказвае. З вайны з белафінамі ў канцы тысяча дзевяцьсот трыццаць дзевятага — пачатку тысяча дзевяцьсот саракавога года:

— Пад Выбаргам. Холадна. Галодныя мы. Чацвёртыя суткі, як елі. А перад намі яны, ліхадзеі. Гляджу — аж знаёмы чалавек, зямляк, з мястэчка нашага. Паздароўкаліся, сказалі, як і што ў каго. Пазнаў ён, што галодны я, і пабег. Недзе расстараўся бохан хлеба. Я клікнуў яшчэ чатырох з роты, паказаў той бохан. А ён змёрзся, хоць у гармату ды ў тых злыдняў бі. Паспрабавалі кроіць нажом на скібкі,— не выходзіць. Нехта кажа, каб сякерай рассекчы, а другі:

— Куды? На крошкі ж рассыплецца.

Трэці:

— Давайце пілою.

І сам схамянуўся:

— Не, хлопцы. На пілавінне багата пойдзе.

Пасталі ўкружка, адзін грызане, другі, трэці... Абышоў бохан усіх, дайшоў да мяне. Гляджу — жывая, браце, на тым хлебе кроў. З дзёснаў.

Гады прайшлі, а ўспомніш — здрыганешся, скалане́, сцяне́ цябе.

Яна, людская кроў, у вайну і на хлебе была...

## НЯМА СЛОВА

Конь не азваўся сваім тонкім і звонкім «і-гі-гі-гі». Не застрыг вушамі і нават не зірнуў у мой бок.

Конь стаяў запрэжаны.

Здавалася, не ён трымае на сабе збрую, аглоблі, а збруя і аглоблі падтрымліваюць каня. Мокры — хоць выкручвай, худы — скура ды рэбры. З абвіслымі і як бы не з яго вушамі. З нібы выскубленай грывай і рэдкім хвастом (кажуць, пасеклася грыва, пасекся хвост: яны зрадзелі, пакарацелі).

На возе сядзела дзяўчынка. Дзве кабеты і хлапчук-падлетак зрывалі леташнія спятрэлыя травінкі, што нядаўна выйшлі з-пад снегу. Стараючыся, утраіх падносілі жменькі травы-сухастою і з рук давалі каню. Ён еў, але вяла; не чулася запомненага з маленства энергічнага конскага хрумстання — рашучага знішчэння. Ніхто з чатырох не ведаў мяне, а ўсе як бы застылі, калі падышоў да каня, пагладзіў яго па шыі і персях. Я пада́ў крышку наперад хамут, прыпадняў яго. І нібы пачуў на целе сваім раны. Абмуленыя, сцёртыя — жывое мяса...— конскія плечы.

Жанчыны, прытомленыя, абсіверaныя, цёмныя ў тварах, стаялі з апушчанымі рукамі, глядзелі на мяне вачыма вінаватых.

Гэты конь ці раз нёсся да мяне на кліч або свіст ці на рэзкае пляскание рукою па халяве. Нёсся і спыняўся нібы ўрыты; спыняўся так, што якраз даставаў хра́паю мае́ грудзі. Спыняўся і цёрся, як дзіця. Ён не раз іграўся, ішоў першы, калі ехалі групаю на разведку. І не раз вынес конніка з агню. Не раз здавалася мне, што конь адчуваў, дзе бахнецца і бахне міна.

Сіўчык быў з незаменных і шчыраверных сяброў. Я не проста пазнаў Сіўчыка,— я ўбачыў яго там, дзе былі з ім разам у вайну, дзе служылі зямлі, людзям гэтай зямлі; калі ж бы трапіўся недзе далей, відаць, прайшоў бы, толькі зірнуўшы з болем і шкадобаю: які ж худы, які змучаны конь...

Усе чацвёра глядзелі на мяне. Без запытання ў іх і без іх слоў бачыў: не яны вінаватыя.

Жанчыны расказвалі. Проплач і коратка:

— На ўсю вёску ён адзін. Параненага забралі пасля бою. Партызана, маладзенькага хлопца (на гэтым кані ляцеў), пахавалі. Вязём сяго-таго з насення. Сваякі і так людзі назбіралі. Араць на сабе будзем... Каб нам як, бедным ды страдным, дабавіць каня і крыху гэту, насенне, дахаты. Каб з ног, барані божа, не зваліўся. Яшчэ з пятнаццаць кілямэтраў...

Пакуль расказвалі, стала яшчэ больш відаць не зморанасць, а знясіленасць Сіўчыкава. Ніжэй апусцілася яго галава. Мне стала вусцішна: здавалася, вось-вось падкурчацца ногі, конь на вачах асунецца на зямлю.

Разам і спяшаючыся мы зрывалі травінкі-цявінкі — па́сушнік, подбегам падносілі каню. Падкормлівалі яго, што а д з і н т о л ь к і на ўсю вёску. А вёска? *Толькі была* вёска. Стаяць толькі печы. І тыя — разбураныя...

Немцы адступалі. Праўдзівей — немцаў гналі. Аскірзаліся азвярэлыя. Разведка наша мела пабольшаны клопат. І выпрасіў у мяне маладзенькі Базылёк-разведчык: «Ну, хоць раз мне пранесціся на вашым Сіўчыку... Дайце. А?»

Тады загінуў Базылёк. Асірацenne...

Адагналі яе, вайну, на захад. А тут, на полі, пры дарозе, яна так жудасна падзьмула на мяне. Жахам, смерцю. Ані не заслужанаю ка́раю маткам, дзеткам, жывому ўсяму...

Няма слова.

## РАНА НА РАНЕ

На дваццаць пятым кіламетры, калі ехаць з Мінска на Ра́дашкавічы паўз Папе́рню, пры дарозе справа, на ўзгорку, стаяў хутар, а злева, усё адно як прыхаваўшыся ў лагчынцы ў густой мяккай траве, струменілася крыніца, бегла ў Чарну́шку. Хутар зваўся Вераснёў, або, казалі часцей,— Юлікаў: жыў тут Юлік Верасень з вялікаю сям'ёю; крыніца — без назвы. Іх, крыніц, багата на цэнтральнай Міншчыне, і звычаііна не маюць яны сваіх назваў-на́ймяў. Гэта крыніца — Юлікава, Вераснёвых: Юлік глядзеў крыніцу, праз колькі гадоў вымаў з зямлі пачарнелую старую бочку-сту́дзеньку, што збірала крынічную вадзіцу, ставіў новую; над крыніцаю быў зруб — чатыры пятоўстыя дубовыя слупкі, абабітыя абгладжанымі лёгкімі плашчака́мі; на зрубе — шчытная, з паза́мі ў дошках накрыўка; на гладкім камені пры зрубе стаяў Вераснёвых гліняны кубак. І смяццінка не трапляла ў крыніцу.

...Няма з вайны хутара. Няма з вайны саміх Вераснёвых. У пералік фашысцкіх злачынстваў запісалі хутар, запісалі сям'ю Вераснёвых.

Няма і крыніцы. Расказваюць: улетку тысяча дзевяцьсот сорак першага пры дарозе, і каля крыніцы, стаяў шалёны д'яблаў табун — гітлераўскія танкі. Танкісты пілі як не ў сябе крынічную ваду. Капалі і акопваліся, хавалі, заганяючы ў шырокія траншэі, танкі. З таго часу няма крыніцы, як і Юліка Верасня, усіх Вераснёвых.

Рана на ране.

Няма крыніцы ў несканічона доўгім спісе злачынстваў вайны.

## ЗАЙЧЫК

Начальніку разведкі Антосю Міхасёнку нібы не шанцавала на каня. І хлопцы жартавалі, а то і пакеплівалі з начальніка. Пасміхваліся, хто як, нават свае ж разведчыкі.

— Ну й конь!..— не раз чуў Міхасёнак. Яму ці не хацелася, ці не выпадала расказваць, і ён не расказваў хлопцам, што вялікі конь яму не гадзіцца; адна рука ў Міхасёнка здаровая, а другая балючая: параненая на самым пачатку вайны, то сілы-моцы не мае. То я́к сядаць на вялікага ды шустрага каня? Не прасіцца ж: «Падсадзіце»... А што калі небяспека? Калі трэба хутка ўскочыць на каня, ехаць па трывозе?

Антосю прывялі разведчыкі лёгкага і порсткага на высокіх нагах. Такога, што не паспееш нагі закінуць, каб сесці ў сядло, а конь — ірвануў і панёсся. Непрыкметна абмяняў гаспадар гэтага высокага і шустрага на невысокага і ціхага.

Міхасёнак не раз ехаў на такім кані, які ішоў з нізка апушчанаю галавою і неахвотна пераходзіў на бягу, такога крыху ажыўляў і рухавіў бізун, але не вельмі. Конь трухаў слаба, на ім толькі снапы, сена ці дровы паціху вазіць. Калі конь часта спатыкаецца, коннікі пазнаю́ць, што на ім аралі і ўзаралі не адзін загон. У плузе слабеюць конскія ногі. На такім не вельмі паедзеш, не вельмі наездзіш. Разгоніцца, спаткнецца — і можна паляцець праз галаву. Упасці — бяда, брат...

Аднойчы начальнік ехаў з навінамі ў штаб. Насустрач — камісар суседняга атрада. Пад камісарам конь — прыгожы і шпаркі, сыты і з выгнутаю, як у лебедзя, шыяй. Пад камісаравым ардынарцам конь меншы, спакайнейшы і худаваты. Ва ўсіх атрадах партызанскай брыгады ведалі, што камісар да вайны служыў у кавалерыі і лічыўся прыроджаным спрытняком-кавалерыстам: не зносіў ён, каб пад ім ці пад яго ардынарцам быў малы або няшустры. Міхасёнак гэтым разам ехаў на рысаку, што нібы ў белых панчохах на яго задніх нагах. Толькі тры дні назад самы юны яго разведчык пракраўся ў нямецкі гарнізон і... «памяняўся» з ра́дашкаўскім камендантам: камендантавага каня забраў сабе, а сваю худую кабылку прывязаў да таго слупка каля камендатуры, да якога прывязаны быў камендантаў рослы рысак.

Зірнуў Міхасёнак на ардынарцавага каня — і ўпаў яму ў вока гэты конь. Не хаваўся камісар, сказаў слова пра начальнікавага каня. І... ардынарац

неўзабаве прыгнаў Міхасёнку свайго сівага. Памяняліся. Камісар ведаў Міхасёнкаву бяду з рукой — раненне.

Адразу ж, тым самым днём, падкоўвалі вы́меняннага. Капыт у яго не крохкі, не лішне цвёрды і не лапцяваты, а круглы, як кубак, без трэшчынак. Цешыліся разведчыкі. Бачылі, што жвавы і невялікі, адначасова рахманы і патульны конь прыйшоўся Міхасёнку даспадобы. Паспрабавалі праехаць. Як толькі нацягнеш абрытнік — насцярожыцца, настаўіць вушы. Адпусціш абрытнік — пайшоў. Сівы ўмее ўзяць з месца. Умее — што і трэба конніку — рэзка набіраць хуткасць і доўга не збаўляць яе, не сцішвацца. А добры капыток таксама дарага. Паспрабаваў новы гаспадар праехаць на сівым праз лес, па лясной сцежачцы — да чаго ж варушкі конь! Нібы разумеў, што коннік можа зачапіцца за сук, можа выцяць калена аб дрэва. Сівы, як тая пчолка, абыходзіў дрэвы, пні, сукі. Калі наперадзе вынікала галіна, сівы, здавалася, прыгінаўся, прысядаў ледзь не да зямлі.

Конь падкаваны ўжо. Яго накармілі і вычысцілі. Знайшоўся лёгкі патнічок, каб не намуляць, не сцерці сядлом конскай спіны. Меў конь з тыдзень ці больш перадышкі. Падхарчоўваўся, лягчэў на бягу, харашэў. Дагледжаны, падгладжаны і не раз ласкава пагладжаны, ён праз колькі дзянькоў пачаў ці не сумаваць па волі, па дарогах і сцежках. Час і пад сядло. Начальніку ж і яго коніку — ні свя́тдня, ні будняў. Пад сядло — кароткая перадышка — зноў пад сядло...

Сівы стаў Міхасёнкавым слугою, і памочнікам, і сябрам. Конь адчуваў настрой конніка: калі гаспадар сядаў з трывогаю, конь утульваў вушы і аж трымцеў. Ірваў адразу з усіх чатырох капытоў. Не бег — ляцеў.

Аднойчы з таго боку, куды паехаў партызанскі раз'езд, данёсся трывожны сігнал: стрэл і кароткая паўза, другі стрэл — і кароткая паўза, яшчэ адзін, трэці стрэл. Разведчыкі ў такім разе імчалі туды, дзе трывога, туды, адкуль пачуліся адзін за адным стрэлы. Тры радавыя і начальнік ірванулі з месца.

Толькі ж разам ішлі нядоўга — разведчыкі пачалі адставаць.

Гадзіны праз дзве ўсе чатыры вярнуліся ў вёску, з якой выязджалі. Калі прывязалі коней да плота, хлапчукі акружылі сівага, кожнаму хацелася пагладзіць яму шыю, расчасаць пальцамі грыву або хоць дакрануцца рукою да персцяў, да лапаткі. Хлапчукі, стараючыся адзін перад адным, зрывалі за плотам траву і падкармлівалі ўсіх чатырох коней: сіваму, праўда, аддавалі самыя лепшыя жменькі, што з каліўцамі канюшыны, дзяцеліны, пырніку.

— А ведаеце, як на вашага каня казаў дзед? Ён сказаў: «Чысты зайчык! Шэранькі, і вушы стаяць». Толькі, дзед казаў, конік ваш як бяжыць, то да зямлі прылягае, аж кладзецца, а зайцы — тыя падскокваюць,— расказваў адзін хлопчык.

— А вы як завяце свайго каня? — спытаўся ў начальніка другі.— Зайчык? Ці мо йначай?

І прырасло да сівага з таго дня і той размовы імя Зайчык.

Міхасёнак сам даглядаў Зайчыка: карміў, паіў, амаль кожны дзень падыходзіў да каня са скраблом, шчоткаю. Конь выцягваў і падстаўляў пад скрабло ці шчотку шыю, сцягняк. Любіў Зайчык, калі хадзіў каля яго добры новы гаспадар, і пазнаваў, калі гаспадар яшчэ толькі падыходзіў да хлева: ледзь чутна храпане, нібы затанцуе на месцы і на дзверы пазірае. А ўбачыць гаспадара, стрыжэ вушамі, мяцеліць хвастом, і нібы вітае сваім нягучным «і-і-гі-гі-гі!»! Перш чым накінуць сядло, Міхасёнак даваў Зайчыку скібку хлеба.

На крыжы Зайчыкавым з'явіліся яблычкі.

Я добра ведаў таго начальніка, да вайны — школьнага настаўніка. Не раз мы, разведчыкі, збіраліся, раіліся, выручалі адзін аднаго на разведчыцкай службе.

Вясна зганяла з зямлі зіму. Сустрэліся мы неяк ужо на чорнай, без снегу, дарозе. Чулі і бачылі па ўсім: з вясною тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года будзе новае наступленне, будзе выгнанне з Беларусі акупантаў.

— Ты, кажу, у войска не пойдзеш: паранілі,

кантузія. Станеш дырэктарам школы. То не аддавай нікому Зайчыка. Пры школе будзе накормлены, напоены, падгла́джаны, паглé джаны. Няхай ён будзе і твой, і школьны. Дзецям расказваць будзеш, колькі разоў і дзе ратаваў ён цябе, як служыў ён, як любілі адзін аднаго. Гаспадарка ж пры школе будзе...

— То пэўне ж. Грэх пакінуць або аддаць.

Разведчыкі вярталіся з задання. Ім трэба было пераскочыць шашу, якую акупанты ахоўвалі і ўдзень і ўночы. Праз кожныя тры-чатыры кіламетры пры самай дарозе збудавалі яны бункеры. Узброеныя гарматамі, мінамётамі, кулямётамі немцы вартавалі дарогу; яны нярэдка вылазілі, адыходзілі ад бункераў, рабілі засады ў зараней выкапаных акопах, рабілі засады на партызанаў.

І здарылася... Чатыры разведчыкі нарваліся на нямецкую засаду. Немцы не адважыліся абстраляць разведчыкаў зблізку. Ці не збаяліся. І толькі тады, калі разведчыкі, перасекшы дарогу, ад'ехалі ад яе, пырснулі фашысцкія аўтаматы. Як толькі застралялі, Міхасёнак адразу адчуў, што Зайчыку — бяда. Ні разу гэты гаспадарны чалавек не сцебануў Зайчыка, нават не крыкнуў на яго. Не стаў падганяць і тут. А Зайчык хістануўся, і з кожным наступным метрам звужаўся яго крок. Міхасёнак скочыў на зямлю. Разведчык кінуўся на выручку начальніку, падхапіў яго да сябе на сядло. Некалькі секунд — і разведчыкі ў ельніку.

Зайчык стаяў на чыстым полі адзін, глядзеў на лес. Пачулася яго слабае, кволае «і-гі-гі-гі»...

Дзесяткі два немцаў раскінуліся ланцугом і павольна пайшлі на лес: яны ведалі, што лес гэты, пры самай дарозе, невялікі. Партызаны таксама не паспяшаліся адыходзіць: лясок пераразае глыбокі роў, які ідзе далей полем, у рове выбітая сцежка, так што вышмыгнуць адсюль коннікам лёгка. Пастаўшы за елямі, хлопцы бачылі Зайчыка. Бачылі, як ворагі, нібы на ватных нагах (мабыць, ад боязі), ішлі на лес.

Зайчык стаяў адзін... Ніжэй і ніжэй на вачах у начальніка павісала Зайчыкава галава. Конь меншаў з кожнаю секундай. Нібы нядобрая сіла падкурчвала

яму ногі, скурчвала яго. Зайчык не апусціўся — рухнуў на зямлю. Ніхто і нічым не мог дапамагчы.

Бліжэйшы да каня немец пусціў у яго, ці не мёртвага ўжо, адну за адной аўтаматныя чэргі, падышоў, падняў сядло. З-за елкі бачыў Міхасёнак: матляліся два канцы сядзельнай папругі...

Фашысты падыходзілі ўжо да самага лесу, як адтуль затрашчалі чатыры аўтаматы, хвасянулі кулі. Каго з чужынцаў адразу прышылі да зямлі, а хто сам кінуўся на зямлю. Туліліся, прыціскаліся да яе.

Ні адзін непатрэбны гэтай зямлі.

## 5

*Не частуй*
*мяне ты піўцам,—*
*прывітай*
*ты шчырым слоўцам.*

Скідальскі раён,
вёска Бандары

### БАЦЬКА

Павольна і ціха, але шырока расчыняюцца дзверы, і парог пераступае бацька. Які б ні быў у мяне занятак, а не магу працягваць яго і ўстаю, гатовы слухаць. А ён, усё адно як баючыся забыцца на штосьці або з чымсьці спазніцца, хуценька і старанна разгладжвае свае русыя багатыя вусы і, не адыходзячы ад парога, пытаецца:

— А ці запісаў ты сабе такое слова? (Дарэчы, у бацькі ўсё было слова: і прыказка, і кароткі дыялог, і жарт). Пра лісу... Ліса й пад барану хавалася: то ў зуб, то ў прут, а ўсё міма! — Надчэкваючы, каб усё было запісана, ён настройваўся сказаць яшчэ нешта — прыказку, кленіч, ласкавае і далікатнае прывітанне («Дзякуй табе, хлопчыку!», «Вялікі расці!», «Здаровенькі бегай!») ці жорсткае і, як джала, пякучае зламоўнае пажаданне («Каб нашыя варагі ды выкаціла да нагі»).

Другі раз:

— А такое? Яе (маленькую чырванатварую і вельмі рухавую жанчынку з куслівым языком) завуць *жагляўка*. Чаго так? Малюсенькія, спрытныя, але вельмі куслівыя мурашкі — жагляўкі, а боль-

шыя мурашкі не такія. І не так баліць, як укусіць. *Пічбгенькі* — дык слабенькі, нядужанькі, кволы... *Тэпае?* Рабіць — дык не, от, каля хаты трохі тэпае, хіба толькі курэй з град спудзіць...

Ці яшчэ:

— А чаго там?.. Не шкадуй, рана ажаніўшыся й рана ўстаўшы... Каб у навуцы проста было, то й казлы́ б у настаўнікі выходзілі... І бога ашукае, і ў чорта адхопіць... Кажуць, што й масла хлебам мажуць... Дачакалася Знайда (клічка сучкі) помачы: сама ляжыць, а дзеткі брэшуць...

Не два і не дваццаць разочкаў прыносіў мне, ужо настаўніку і сакратару рэдакцыі газеты, гэтыя найдаражэйшыя гасцінцы. І рабіў гэта толькі тады, калі не было сведкаў; а калі ў хаце хтосьці з сямейнікаў пачынаў казаць, што «ўсё піша й піша», «запісвае й запісвае багата чаго», бацька рашуча, без ніякіх тлумачэнняў і разважанняў перапыняў размову. Я бачыў: мая праца здавалася бацьку незвычайнаю, мае клопаты — не ўсім зразумелыя, мой занятак — далікатны і нейкі святы. І нельга, каб «абы-хто ведаў». «Чаго там!..»

Калі я бачу партрэт Францішка Багушэвіча ці чую гэтае імя, побач устае вобраз бацькі. І наадварот. У абодвух былі амаль такія самыя вусы. Абодва хударлявыя, энергічныя, няўрымслівыя і, здаецца, нястомныя. Абодва дарагія мне. Адзін — родны бацька, другі — той, хто, як ніхто да яго, сказаў свету пра Беларусь і беларусаў, каго ў савецкім друку не раз называлі Бацькам.

## СПРАЧАЛІСЯ

Чытаю, пішу ў тым доме, дзе за нятанную пуцёўку маеш утульны пакой, смачны і хоць распеража́ся стол. Людзей усе тры тыдні ў гэтым доме небагата. Так што працуй, колькі змогі, зрабі, чаго дома не змог. Не звоніць тэлефон. Вакол толькі лес.

Ёсць (каб толькі... суроцы не ўзялі) што пісаць, і пішуцца непрыдуманыя кароткія радкі.

Аўтобус падвёз да адзінокага ў лесе дома цэлы гурт хлопцаў, чалавек пятнаццаць. Акінуў вокам — ці не студэнты? Пачуў: семінар. З'ехаліся ўчарашнія і сённяшнія студэнты, што спрабуюць пяро; гэта пачаткоўцы: і паэты, і празаікі, гэта сённяшнія і заўтрашнія газетчыкі, рэдактары. Усе яны, хто дзе, пакрысе друкаваліся. У мяне — проста клопат і праца. У іх, бачу,— вялікія ці багатыя надзеі. Хто неспакойна носіцца са сваімі яшчэ не шматлікімі старонкамі, хто думае і плануе, «цэліцца». Ім не вельмі сядзіцца. Не як вераб'і, што чародкамі, а па два-тры ідуць на рэчку, клічуць другіх. Ды праз дзень пацішэлі: занятак.

Пайшлі дажджы — пашумнела ў самім доме. Ужо не па два-тры, а вераб'інымі гурткамі часцей і больш асядаюць у фае, дзе тэлевізар, дзе, седзячы ў крэслах, добра пагаварыць. Гамоняць, а то — заспяваюць, чытаюць, спрачаюцца. Спрачаюцца часта. Аднойчы...

— Ты — пачуйце ўсе, ну, паслухайце — як пішаш? Ты ж забыўся на сваё жывое слова, а падхапіў з газеты, дык і... «узвёў хлеў», «разбіў сад».

— А ў цябе? Нашто ў вершы пішаш «нясець»?

— Калі ў цябе дома кажуць «наш Паўла», то абавязкова і пішаш «прыехаў наш Паўла»? Ці ўсё, што пачуеш, добрае? Ці ўсё яно добра?

— Не памятаеце? З паўгода, як у адным артыкуле,— казаў чацвёрты,— «пабудавалі дарогу-гравейку». Не правялі, а пабудавалі!..

Чуў і той прыгожы клопат, тую патрэбную трывогу, без якіх не развівалася і не развіваецца ні адна мова на свеце,— называлася не адно жывое і яркае слова, якое чамусьці ў друку іншы раз замяняецца запазычаным або непаваротліваю і невыразнаю калькаю. Часам ужываюць цэлыя слоўныя звароты на месцы спрытнага народнага слова. Вычыталіся з тэкстаў: «Тут было некалі шмат ветраных млыноў» (чаму не ветракоў?), «Збудавалі каля вёскі, хоць і невялічкае, штучнае вадасховішча» (мнагавата чаго штучнага заўважылі хлопцы ў гэтым сказе: і «збуда-

вайне», і «вадасховішча», і само «штучнае», а інфармацыя просценькая — *выкапалі сажалку*), «Забілі кабана вагою (то ні на кіламетры, ні на кубаметры кабаноў не мералі і не мераюць!) у пятнаццаць (чаму, нашто, дзеля чаго «у»? Хіба па-беларуску?) пудоў» (звычайнае: *на пятнаццаць* пудоў; без «вагою» і без «у»)...

Мне ўспомніліся паведамленні па радыё і прачытаныя наступным днём радкі ў газеце: «Трава паўз раку ў гэтым годзе пасля такой паводкі будзе добрая — густая і ў пояс», «Закончылі сяўбу ільну. Засеялі ў агульнай складанасці плошчу ў 140 га»... На месца ў «гэтым годзе» (падказваюць самі размоўныя трава добрая, трава ў пояс) просіцца і ці не павінна было стаць слова *сёлета*. Лепей, мабыць, без слова «плошчу» (140 га — не даўжыня, не вышыня, не шырыня, не аб'ём); недарэчная тут «складанасць» (ды яшчэ «ў агульнай складанасці»)... Пры двух фанетычных варыянтах: лёну і ільну ці не аддаць перавагу першаму; гэтага просіць і сам сказ, само спалучэнне слоў *сяўбу лёну*; у тым (сяўбу ільну) з'явіліся непажаданыя і нязручныя, не толькі немілагучныя, спалучэнні двух галосных у+і («сяўбу ільну») і двух зычных л+н («іл'ну»).

Прыгадвалі хлопцы і моўныя знаходкі, і «блэнды» ў публікацыях, у паказаных — адзін аднаму — сваіх рукапісах. Пакеплівалі, падцінвалі адзін аднаго. І, хоць нягуста, хвалілі аднаго, другога. Раіліся, як лепей сказаць, якое слова ці зварот лепшы, дакладнейшы, стрыйней гучыць у радку, абзацы.

Мне трэба на гадзіну перадышка. На двары вельмі сыра. Пасядзець у фае? Якраз прынеслі газеты. Прысеў прачытаць: што дзе як... Наляцелі на газеты адразу за мною і «семінарысты». Чыталі нядоўга: неяк сам сабою пачаўся незапланаваны нібы ўрок пісьменнасці і крытыкі. Светлы невысокі хлопец (чую па гаворцы, што ён аднекуль з поўдня Беларусі, з-пад Нароўлі ці Брагіна) пайшоў з прапановаю: «Колькі будзем на семінары — нікому не дараваць і аднаго не таго слова ці сказа. Увесці або штраф які, або тут жа «прафельетоніць», або што іншае».

— Няма мовы,— сказаў другі (здагадваюся па тым, як гаворыць, што ён аднекуль з-пад самога Наваградка),— то няма й гловы.

— Ці ж змаўчаць? — сказаў паляшук.— Ён вунь піша: «Успамінаў аб тым, што на Міншчыне багата крыніц». Чаму тут, нашто ў сказе «аб тым»? Хіба не лепей: «*Успамінаў, што* на Міншчыне багата крыніц»? Лепей і правільна! Наце другі сказ: «Бацька расказваў аб тым, што амаль усе мужчыны з нашай вёскі ўмелі вязаць плыты і сплаўляць іх, добра зараблялі на плытах». Трэба тут «аб тым»?

— Падцікавалі! — казаў хлопец з-пад Капыля.— І праўда ж! Што, скажыце, за «мым», «ным», «нім»?

— Занадта пайшлі ўжо... Так можна і слова кожнае, так можна і фразу кожную, так можна і ўсё... Абсміхачамі становіцеся.

— Абсміхванне? Чытаю — наце вам! — радкі: «Віця, як першы раз спаборнічалі, дабег самым апошнім, сёмым», «У сям'і з васьмі братоў ён быў восьмым». Хай бы без «мым», «ным». Калі ласка: «Шлях быў знаёмы (а не «знаёмым»). У сям'і ён быў *восьмы* (а не «восьмым»). З разведкі *вярнуўся галодны, стомлены, знясілены*». Не трэба гугнявасці — «ным», «мым»...

Слухаў жывое, цікавае, не кафедральнае «гладкочтение»...

Успомнілася хрэстаматыйнае, з аднае нашай выдатнай аповесці: Поле зрабілася *шэрае, нуднае.*

Ужо чатыры дні, як з'ехаліся хлопцы на семінар, я пазнаёміўся з некаторымі. Паклікалі на размову і мяне. Пра жывое і няўмелае, пра дакладнае і выпадковае, пра гаваркое і халоднае, трапнае і неасцярожнае слова.

— Як,— спыталіся,— з гэтакім: «Усім трэба вучыцца, трэба вучыцца мове і самім пісьменнікам, журналістам»?

Праўда? Няпраўда?

Ведаю і даўно: адказваць на пытанні, вучыць не спяшайся. Дый не вельмі бярыся вучыць хоць каго. Не на ўсё навучыш. Пісьменніка, журналіста мове вучыць, калі ён не вучыцца сам? Папраўляць тое няправільнае, што бачыць ці павінен бачыць сам аў-

тар, але не направуляе? Калі ў яго відавочнае — абы радкі, абы іх больш?

Успомнілі, знайшлі і паказалі: у кнізе — прозе — двойчы напісана «паводка вялікая», а трэці раз — у таго самага аўтара, але ў другой кнізе — «павадак вялікі»; гэты, трэці раз не ў прозе, а ў вершы; «не лезла ў рытм і рыфму» *паводка*, то выручыў... «павадак вялікі». Якое ж тут вучыць? Як вучыць таго, хто піша то *паводка* (як і ў Коласа, як і ў Купалы, як і ў Брыля, як і ў Лужаніна, як і ў Танка, як і ў Скрыгана, як і ў Юрэвіча, як і ў Чыгрынава, як і ў Сачанкі, як і ў Лобана, як і ў Марціновіча, як і ў Місько...), то... «знайшоўся» «павадак»? І вучыць? Ці ж трэба вучыць, што нельга падліваць у малако вады, што нельга падліваць вады і падсыпаць крухмалу і цукру ў мёд і хваліць на базары такое за мёд?

Разважалі, думалі хлопцы, ці добра і ці правільна: «былі абутыя ў боты» і «былі абутыя ў ботах», «былі абутыя ў валёнкі» і «былі абутыя ў валёнках», «апранутыя ў шынялі» і «апранутыя ў шынялях...» Адзін даказваў адно, другі — другое, трэція то меркавалі, то здзіўляліся, паціскалі плячыма.

Я пазіраў на хлопцаў — тых, што з-пад Брагіна ці Нароўлі і з-пад Капыля. Не чуў, што казалі яны адзін аднаму, але відаць было: у іх не пярэчанні і не сварка, яны нешта ўдакладняюць сабе, ціха кідаючы адзін аднаму слова, другое. Яны і спынілі спрэчку. Першы з іх, спакойна падняўшыся:

— Зноў, мабыць, нехта запярэчыць мне. Як і ўчора, нехта будзе супраць аналогіі, супраць пераклічкі моўных зваротаў. Таму скажу крышку інакш, але не адмоўлюся ад паралелі, ад аналогіі. Хто пісьменны сёння напіша: «Хлопец глядзеў на возера вачамі»? Хто пісьменны скажа: «Хлопец слухаў жаўранка вушамі»? Недарэчнасць — не здаецца! — відавочная.

— «Дзяўчаты былі абутыя ў валёнкі», «Дзяўчаты былі абутыя ў валёнках». Не гэтаксама «абутыя ў валёнках», як і «глядзець вачамі», як і «слухаць вушамі»? «Бывала, збіраліся ў хаце, сядзелі доўгімі вечарамі апранутыя ў кажухі»? «Сядзелі доўгімі вечарамі апранутыя ў кажухах»?

Адзін з прысутных азваўся: «А як?»

Пасля паўзы і, не спяшаючыся, назвалі фразы, нібы радкі з табліцы множання:

— Дзяўчаты былі ў *валёнках.*

— Дзяды паехалі (сядзелі, стаялі) у *кажухах.*

— У грыбы ездзілі (хадзілі) у *кедах.*

— Нашы рыбакі ў гумовых *ботах* і *плашчах.*

І без «абутыя» ці без «адзетыя». Без «апранеными» ці без «апранутыя»...

То адзін, то другі неспакойна згадвалі з недзе напісанага такое, як «заданне выканалі ў (за!) два дні», як «не працуе страўнік», як «інспектар працуе над сабою», як такое, што «ў гаворках шырока прадстаўлена слова сякера, нярэдка бытуе і тапор», як вульгарная непатрэбшчына «ляпы парасхлябешчваць»...

Цешыла найболей, калі загараліся ў семінарыстаў вочы ад свежага і «не змайстраванага» на ўзор слова ці звароту, ад падкінутых дзеля размовы гаваркіх слоў-вобразаў. Цешылі спрэчкі і роздум пра мудрую і загадкавую паэтыку жывога народнага слова, пра нечаканасць спалучэння ў мове слоў, фразеалогію...

Мой апошні дзень у гэтым лясным доме. Заўтра на семінары пачнуцца лекцыі, даклады. Пра тое, што і як пісаць. Будуць творчыя парады. Шкадую, што не паслухаю і не пабачу хоць некаторых з гэтых хлопцаў на дакладах, на абмеркаванні. Толькі былі б там — да самага развітання і нават на развітанні — жывыя добрыя спрэчкі. Як былі яны ў тыя дні, калі хлопцы чыталі, пісалі, рыхтаваліся тут, у Доме творчасці, да чаканага семінара.

Я слухаў маладых. Слухаў і нібы адчуваў прысутнасць Канстанціна Паўстоўскага, Карнея Чукоўскага, Уладзіміра Салавухіна, Льва Успенскага... Успаміналіся кнігі гэтых дарагіх сучаснікаў, гэтых Настаўнікаў літаратурнай мовы. Як дорага, што ёсць такія дасведчаныя аўтары, такія адукаваныя дарадчыкі, падказчыкі. І тым, хто піша ўжо, і тым, хто вучыцца ці будзе вучыцца пісаць. Перад вачыма

ўсталі старонкі «Живого как жизнь», «Поэзии прозы», «Слова живого и мертвого»... Вучаць яны не толькі рускай літаратурнай мове, не толькі яе культуры.

## МІХАЙЛОВІЧ З ПОЛАЦКАГА «СВЕТАЧА»

Дзядзьку Грышу Міхайловіча з горада Полацка я ні разу не бачыў. Наўрад ці ведае ён, дзе я працую, што раблю: не было патрэбы, не было і выпадку пісаць яму пра гэта. Ведаем адзін аднаго толькі з перапіскі. Мая паштоўка Міхайловічу: «Прашу Вас даслаць мне... Усё выкуплю ў мінскім чацвёртым паштовым аддзяленні». І — Міхайловічава паштоўка мне: «Сёння пасылаем Вам кніжку...» або «Сёння пасылаем Вам кніжкі...».

Так ужо не адзін год. Атрымаў пяць (сабе і сябрам) зборнікаў «Выбраныя творы» Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), «Пад белымі крыламі» Ул. Караткевіча, «Агні партызанскай дружбы», «Сучасную беларускую літаратурную мову», зборнічак апавяданняў аршанчука Міколы Воранава... А ўсіх — больш за пяцьдзесят.

Міхайловічаў адрас даваў сябрам. Некаторыя дзякавалі і мне: напісалі на Міхайловічаў адрас, у «Светач», кнігарню ў Полацку,— атрымалі прошаную кнігу.

На некаторых Міхайловічавых паштоўках я чытаў прыпіску: «У «Светачы» не было. Купілі, каб вам паслаць, у суседзяў...» А суседзі — гэта полацкая, наваполацкая, ветрынская... кнігарні. На кожнай Міхайловічавай паштоўцы чытаў: «Дзякую за добрую просьбу. Усё, што маем, усё, што папросіце, знойдзем, дашлём».

Выйшаў з друку зборнік — апавяданні, аповесці — Лукаша Калюгі. Выдалі прыстойна. З патрэбнымі і шчырымі радкамі прадмовы маладога даследчыка літаратуры і празаіка Яўгена Лецкі. У тых мін-

скіх кнігарнях, дзе заўсёды купляю кніжкі, мне сказалі: «Раскупілі...»

Добра, што даўно, доўга працуе ў полацкай кнігарні «Светач» дзядзька Грыша Міхайловіч. Ён прыслаў мне і кніжку Лукаша Калюгі «Ні госць ні гаспадар». У «Светачы» яе ўжо не было, знайшоў кніжку руплівы гаспадар гэтай кнігарні ў суседнім з Полацкам маленькім гарадку.

## ЧЫТАЮЧЫ КАСТУСЯ ВАШЫНУ

Лукаш Калюга — Кастусь Вашына. Нават у шчаслівыя аспіранцкія, ужо і даўнія, гады (так багата было часу майго, на сябе!) я не прачытаў і аднаго Кастусёвага твора, і аднаго радка пра яго, аўтара. Не чытаў — то і не ведаў.

...Дзённік ёсць дзённік. І выпісваю з яго мясціны, нічога не падраўноўваючы, не выраўноўваючы.

У кнізе «Ні госць ні гаспадар» ёсць партрэт Кастуся Вашыны. Убачыў партрэт і застыў. Думаў і аддаляўся ад партрэта. Вочы. Разумныя. Прыгожыя. Пільна глядзяць. Добра бачаць. І не супраць чалавека. Сціплы. Складзеныя на грудзях немалыя і няслабыя рукі. Кашуля... Яе шыла не краўчыха-швачка. Шыла або мама, або цётка, свая ці чужая. Тая, у якой кожны круглы дзень і ўвесь кожны круглы год праца і клопаты, занятак і няўпраўка. У якой і наперадзе праца, праца, праца. Каўнер у кашулі не проста знаёмы, яго адчуваю на сваёй жа шыі. Шво? Форма? Мода? Не, абы... трымалася на плячах.

Я пазваніў людзям, якія хоць раз бачыліся з Кастусём. Знайшоў такіх, што сустракаліся з ім, размаўлялі, памятаюць яго ўсмешку. Расказалі: у кнізе партрэт не хлапчука Кастуся Вашыны, а пісьменніка Лукаша Калюгі, калі ён ужо друкаваўся, жыў клопатамі, праблемамі, спрачаўся. Юнак. Прыехаў з вёскі.

Атрымаў з Полацка кніжку, але ў той дзень не

паспеў пагартаць, нават прабегчы вачыма прадмову. Спяшаўся. Трэба было трапіць на нараду: будзе абмяркоўвацца, як быць са скланеннем *два* і *дзве*. Двух сталоў і дзвюх дошак, двух братоў і дзвюх гадзін. Тут усё і ўсім зразумелае. Свой род, свая «форма»: *два* сталы — *двух* сталоў, а *дзве* дошкі — *дзвюх* дошак. Далей жа пытанне: дзвюх ліній, але двухлінейная? Дзвюх гадзін, але двухгадзінная? Тое самае становіцца ўжо нібы... не тым самым. Спрачацца тут як бы няма чаго, няма за што. Сама элементарная логіка магла спыніць спрэчку.

Еду, а перада мною Кастусь, яго вочы. Я не ведаў яго, а толькі партрэт убачыў. Праўда: вочы — люстэрка душы.

Падумаў: каб лёс прыслаў такога Кастуся да мяне на кафедру. Не грэх было б аддаць яму не адну скрыньку выпісак-картачак, збіраных доўга і пераборліва, сабраных даўно і нядаўна. «Бяры, браток, пішы. З богам». І не падказваў бы, а шукалі б і знайшлі б удвух з ім тэму, не якое там перасыпанне... са збанкоў у слоікі.

Чытаю «Талент, які многа абяцаў» — Лецкаву прадмову да кнігі. Прадмову сціслую, патрэбную. Не забудзем: мала хто з мінчукоў — толькі адзінкавыя адзінкі — памятаюць, бачылі аўтара Кастуся Вашыну, што ўзяў сабе псеўданім Лукаш Калюга. І запісваю Лецку свой вялікі дзякуй, сваю падзяку.

Так-так. Кастусь Вашына — «пісьменнік... і не абы-які пісьменнік... Богам дадзены талент...» (с. 7).

Аповесць «Ні госць ні гаспадар». Пасля тэксту пазначана «1928»: аўтар паставіў кропку ў канцы аповесці, калі яму ішоў толькі дзевятнаццаты. А пачынаў і пісаў калі? Не проста шкада, што гэтага не ведаю. Прачытаў і аповесць «Нядоля Заблоцкіх». Аўтар закончыў пісаць, калі яму ішоў дваццаты. Аналізаваць, ацэньваць ні першай, ні другой не буду. Не таму, што не маю чаго сказаць. А таму, што і без мяне ёсць каму гэта зрабіць: у нас ўзвод крытыкаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры.

Аповесць «Нядоля Заблоцкіх» чытаў з алоўкам, сэрца ў алоўку з графіту, мяккае, няломкае; на палях — маé значкі. Іх потым лёгка і проста сцерці.

Прачытаў кніжку. Перанёс адзначанае і запісанае на палях у дзённік. Частка з дзённіка — гэтыя мае старонкі-накіды.

Прачытаў кніжку і ўбачыў: Лукаш Калюга — «пісьменнік... і не абы-які пісьменнік... Богам дадзены талент...». Успомніў гэтыя словы Кузьмы Чорнага — нашага сумлення — на пытанне: «Хто такі... Лукаш Калюга?» (Янка Скрыган. Выбраныя творы, том 1. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1975, стар. 205).

Набралася пра Лукаша Калюгу і яго кнігу ў маім дзённіку старонак з трыццаць. Ужо хацеў аднесці, каб надрукаваць. Аж пачуў у адной рэдакцыі: Максім Лужанін піша пра мову літаратурных твораў, цешыцца з яе здабыткаў і набыткаў, неспакойна піша пра выпадкі малапісьменнасці або неахайнасці са словам сёння. Дачуўся, што будуць надрукаваны Лужанінавы радкі пра Калюгу. То мне — пачакаць, не спяшацца адносіць сваіх старонак у рэдакцыю.

Зусім нядаўна выйшла з друку і дружна пайшла з кнігарняў у людзі і на людзі кніга Максіма Лужаніна «З ранку да вечара». Прачытаў у ёй на 316—326 старонках пра мову Лукаша Калюгі. Зноў успомніліся рускія пісьменнікі К. Паўстоўскі, К. Чукоўскі, Ул. Салавухін, Л. Успенскі, Б. Цімафееў... Успомніліся рускія філолагі А. Югаў, Л. Баравы, Б. Казанскі, М. Шанскі... З добраю зайздрасцю ўспомніў гэтых і іншых аўтараў, іх кнігі; прыгадалася высакародная іх злосць і нераўнадушнасць да выпадкаў неахайнага абыходжання з рускім словам. Добра, правільна і па-гаспадарску. Якое гэта яркае сведчанне ўзроўню братняй нацыянальнай культуры!

Лужанінавы старонкі пра мову Калюгі — цікавыя. Нібы старонкі арыгінальнага філалагічнага слоўніка. Лужанін чытаў і падказвае: глядзі і бач, чуй слова, знаходзь яго.

Прачытаўшы згаданыя і Скрыганова эсэ, і Лужанінавы старонкі пра Калюгу, я не затрывожыўся. Не стаў глядзець, што ж выправіць у маіх запісках або што дадаць: кожны з нас пісаў і напісаў па-свойму, сваё; пісалі мы ўтрох не ў адным месяцы, а нават у розныя гады.

Багата з адзначанага мною ў тэксце знаёмае, вядомае, звычайнае беларускае.

Хоць бы ў назвах-загалоўках: *гаспадар, нядоля, швагер...*

Хоць бы ва ўрывачках-адцінках, хоць бы самі гэтыя кавалачкі пісьменнікавага тэксту:

> Калі вы, таварыш чытач, нікуды ні на які сход не спяшаецеся, ніякага дакладу, справаздачы, спрэчак не маеце на гэты час, давайце ад Заблоцкіх, ад Філончыкавых пойдзем далей у канец. Баркаўцы́ (назва вёскі. Тут і далей заўвагі, запісаныя ў дужках, мае.— *Ф. Я.*) паглядзім.
>
> ...Вы бачыце тую трэцюю ад канца хату. Старэнькая, ледзь у духу, ліпіць от, пакуль ветрам не знясе. Па-даўнейшаму з прычолкамі, без закотаў. На погляд добрага хлява не варта гэта хата, а жыве ў ёй... (с. 272)
>
> ...Меншы Юстапаў брат... зваўся... Вінцэсь... Дзе толькі чулі што пра нашы Баркаўцы́, там і Вінцэся зналі. Здалёк ездзілі па яго, каб на вяселлі ці на якой іншай вясёлай бяседзе пайграў. Не было над Вінцэся здатнейшага музы́кі, ні лепшага чалавека.
>
> ...Надта ж мяккі... на далікатнае слова. Не можа ён нічога чалавеку наперакор сказаць... Гатоў кінуць сенажаць някошаную, сена нязгрэбенае, кінуць жыта нязвезенае, а ўкруціць цымбалы ў абрус, сесці чалавеку на воз, калі здалёк той па яго прыехаў, дый махнуць з Баркаўцоў (с. 229—230).
>
> ...Любіў наш музы́ка гэту работу (грыбы збіраць). Да самага змроку па́даў ён па гушчарах, абыходзіў аднаму яму вядомыя грыбныя мясціны (а не месцы), дзе баравікі...

Ва ўзятых, як кажуць, на хаду радках адчуваеш, бачыш, паўтару, вядомае, ужыванае і ўжывальнае.

Толькі ж яно не ўсіхняе, а — Кастусёва, Калюгава. Належыць яму.

Яшчэ крыху тэксту:

> ...абыходзіў (Вінцэсь)... грыбныя мясціны, дзе баравікі, *як рэшатам накрыць і каралю сваіх шапак зняць не хочуць*: смела і горда трымаюць іх, з густога моху (а не імху) наверх на віднейшае месца павылазіўшы. З аднымі толькі баравікамі нізкімі паклонамі вітаўся... Усякімі варыстымі (!) грыбамі: суравежкамі, зялёнкамі, лісіцамі, апенькамі — не паганіў свайго кашаля і баравіковага таварыства. Не браў і казлякоў, махавікоў, бабак, падасінавікаў.
>
> Да самага змроку забавіўся ў лесе музыка. Шараю гадзінаю выйшаў ён у шчыры бор з маладняку.

Убачым, як абыходзіцца Кастусь са словам, каб выказаць грамадскую думку, ацаніць падзеі. Нашто тая японская вайна 1904—1905 гг. беларускаму цымбалісту, беларускаму селяніну?

> Шараю гадзінаю выйшаў ён (Вінцэсь) у шчыры бор з маладняку. *І не шум баравы* яму ў гэтым *бары* па *японскай* вайне.
>
> ...Як пайшоў тады ў графчыну... дык там, у грыбах, *траха японскае вайны не прахадзіў.*

У вайну 1904—1905 гг. ажывіўся і, мабыць, як ніколі, «загаварыў» вядомы і гаваркі фразеалагізм *закідаць шапкамі* (пра выхваленне, пра беспадстаўную ўпэўненасць): рускі ўрад спадзяваўся лёгка і хутка перамагчы (закідаць шапкамі!) невялікую Японію, да вайны не падрыхтаваўся. І паражэнне.

> Валасны старшыня прачытаў загад «людзей браць у войска японцаў біць... Самае ж галоўнае — пра шапкі».
>
> ...цару,— як пісар казаў,— хацелася японцаў шапкамі закідаць, а то яму перад другімі царамі будзе не гонар. Ці тыя шапкі будуць казённыя ў войску даваць, ці свае з дому браць трэба — не ведалі.
>
> ...Ажно тут і па вайне было. Не сабраў рускі цар шапак, колькі яму трэба было. Паглядзеў на японцаў — шмат падлаў сабралася... Не да-

памаглі краўцы... шапачнікам і не пашылі шапак, колькі на вайну трэба было.

— Бярыце,— кажа тады рускі цар на японцаў,— што вам трэба, ды сядзіце на сваіх высспах сціхатою. ...Унь ужо *дома ў мяне самога папорваць пачалі* (с. 238).

Дакладна разумеем, бо дакладна разумеў гэты дасведчаны аўтар: *антынародны* характар вайны з Японіяй, паражэнне рускага імперыялізму ў гэтай вайне спрыялі развіццю рэвалюцыйных падзей у 1905—1907 гг.

Вернемся да фразеалагізма *закідаць шапкамі.* Аўтар аповесці сутыкае гэты фразеалагізм (у ім кампанент «шапка» не мае значэння асобнай лексемы, тут шапка — зусім не шапка) са словам *шапка* з яго звычайным прадметным значэннем, у выніку — каламбур, іронія.

Адчуваў і чуў Кастусь роднае слова. Вось ён бярэ за эпіграф гатовы маленькі дыялог. Даўні і сённяшні, беларускі:

— Такі ж нешта робім?

— Каб не ведалі, што мы робім, дык мы б не рабілі (з даўнейшых каза́лаў).

Няма тут — дарэчы — лішняга для мастацкага тэксту «аб тым».

Падумаў пра пачатковае *такі ж.* Пашукаў адпаведнікаў у рускай, балгарскай, славацкай мовах. Простае і няпроста...

Чытаеш аповесць — і ўвесь час эпіграф з табою. Эпіграф ідзе з пісьменнікам, з героямі аповесці, з малюнкамі, падзеямі, з хронікаю багатырскай сям'і Заблоцкіх (дарэчы, багатыр і ў Кастуся Вашыны — багаты чалавек; рускаму *богатырь* адпавядае *асілак*, беларускаму *багатыр* — рускае — *богач*, богатый человек).

Не адзінкавыя ў кнізе прыклады: звычайнае, вядомае слова становіцца *гаваркім*, характарыстычным; не толькі нешта называе, абазначае, а і малюе, само гаворыць, стварае вобраз. Усім зразумелае слова палягчэць — стаць лягчэйшым. У Кастуся: *палягчэць на язык* (с. 106) — смялей і вальней загава-

рыць, развязаць язык, знаходзіць словы, выказваць думку, меркаванне.

За Кастусёвымі *клышаногі* язык і *лёгкія* ногі прыгадваюцца *Бураўкінава* акуратненька маўчаў (калі маўчаць не меў права і нельга было маўчаць) і *Брылёвы* бязлобая галава, пераспелы жаніх, пытляваная праўда, сцюдзёная праўда, прычасаная ралля, малады смех, нішчымная паўза, нахабны пах...

Словы!

Нібы пытаецца Кастусь Вашына: «Можна забыць словы *зарасіцца* (каб не зарасіцца, мусілі падкасаць крыху калошы) (с. 113), *падсябрычы* (с. 178), *прычынец* (с. 239, 261), *загоджаны* (падкуплены абыходжаннем, паслугамі, хабарам) (с. 221), *строі* (шыць, выштукаваць) (с. 259)?»

Крыху пра апошняе з толькі што пералічаных слоў.

Энергічны і руплівы кандыдат мастацтвазнаўства з нашага тэатральна-мастацкага інстытута Міхась Раманюк чытаў лекцыі студэнтам-філолагам Мінскага педагагічнага інстытута. Называў у лекцыях і раз-другі паўтараў слова *строі*, ён паказваў адлюстраваную на слайдах сваю багатую цудоўную калекцыю народнага ўмельства: вытканае, вышытае, звязанае... зробленае сялянкамі пад Туравам, Ляхавічамі, Клецкам, Слуцкам, Вілейкаю... Слова *строі* гаварылася, як прывычнае,— як і хустка, стужка, ручнік. Я ведаў і памятаў гэта слова, хоць ні разу не напісаў яго, не ўжыў і ў вусным тэксце.

Пачуў на Раманюковай лекцыі слова *строі* мой сусед — за адным сталом. Шаптаў: «Строі? Што? Запазычанае? Можа, прыдуманае? У слоўніку няма такога».

Не тое, што здзівілі пытанні, але размовы не было тады.

Запазычанае... Прыдуманае...

Калі я пачую выраз, слова, якое ведае мой калега-філолаг, а я не ведаю,— мне на часіну стане ніякавата і будзе не на адзін дзень клопат. Падумаць, пашукаць — дадумацца, дайсці: што яно такое — незнаёмае мне слова, незнаёмы выраз? А ці ёсць хоць адна славянская, хоць адна цюркская, хоць ад-

на раманская мова без запазычаных слоў і выразаў? А што сказаў бы мне мой сусед, каб падумаў або прачытаў ці пачуў, што ў беларускай мове ёсць запазычаныя, іншамоўныя словы хлеб і плуг, касцюм і маска, армія і музыка, літаратура і хор, што польская мова запазычыла прозвішчы на -іч (параўнаем: беларускае Хадкевіч, польскае Ходкевіц)?

Ці не знявага, калі, не ведаючы, скажам: «прыдуманае»?

Праседзеў некалькі вечароў. Знайшоў у сваіх запісках з Любаншчыны, Глушчыны, Бабруйшчыны: *строілася* (маладзіца) — прыбіралася, прычэсвалася, умывалася; *выстраілася* — прыбралася лепей, чым звычайна, гэта хораша (харашэй) апранулася і дагледзела сябе. Знайшоў яшчэ некалькі слоў ад таго самага кораня. Не хочацца абысці:

> Не́што нашы дзевачкі́ *строіцца* ўзяліся. Куды ето так *строіцеся?* Ці не на вечарынку? А мо на вяселле? (1951, вёска Прусы Старадарожскага раёна).
>
> Куды-то так *выстраілася?* Дальбог, не пазнаць! Я й не бачыла на табе такого. Хораша, й як хораша! (1946, пасёлак Янкі Купалы Глускага раёна).

Пазваніў Міколу Лобану — знаўцу беларускай лексікі, грунтоўнаму пісьменніку. Ён не толькі пацвердзіў, што сустракаў слова *строі* ў народнай мове, а нават назваў, дзе — у якіх раёнах — ведаюць гэта слова. Міхась Раманюк, як і Лукаш Калюга,— з Дзяржыншчыны, Койданаўшчыны. Год назад я спаткаў двух чалавек — Міхасёвых землякоў, што сказалі (праўда, кожны па-свойму) такое: «з даўняй даўніны шылі *строі*», «рабілі *строі*», «любілі прыгожыя (харошыя, лоўкія, далікатныя, самаробныя, не наглéдзецца) *строі*».

Ні Лукаш Калюга, ні Міхась Раманюк, ні хто іншы да іх слову *строі* ў народную мову пуцёўкі не выпісваў.

То што ж? Няхай багацеюць і прыгажэюць беларускія *строі*.

Чытаем у Лукаша Калюгі: *ёмкае* ў саломе, *ядранае* ў коласе жыта (с. 126), няскладны, *клышаногі*

язык (с. 233) (непаваротлівы язык; пра няўмелага «на слова» чалавека), *варыстыя* грыбы...

А сустракаў я ў друку і выпісаў: «прыгодныя да ўжывання ў якасці ежы», «прыгодныя да ежы», «ужывальныя ў страву», «грыбы, якія можна ўжываць у ежу», «грыбы, якія можна спажываць, як ежу», «не атрутныя, а прыгодныя да ежы» і інш. Варыстыя грыбы — як і *добрыя грыбы* (так кажуць не толькі на Случчыне)!

...Ішлі хлопцы дамоў на *лёгкіх* нагах. Гаманілі. Смяяліся (с. 168). Ніякіх тлумачэнняў і разважанняў да «на лёгкіх нагах» не трэба.

Яшчэ пра слова, гучанне яго. У адной кнізе вычытаў такое: «Многага гаспадар сам не бачыў...» Вазьмі і прадыктуй на ўроку вучням такое «гага-га» (нават не з трох, а толькі з двух «га» — многага), пачуеш сам, пачуюць дзеці і ўбачыш па дзецях: «негоже эдакое». У Лукаша Калюгі (і не толькі, зразумела, у яго) — без «гага-га»: Тады і пачуць і ўбачыць можна будзе *шмат чаго*.

Бачыш у тэксце: (звыклі) павекі... позна *плюшчыцца* і рана *расплюшчвацца* (с. 224), грэчка... буйная, ядраная. *А чыстая ж! Як вока* (с. 222), не абы-які той пояс быў: *зялёнымі завушніцамі па белым полі выткаты* ён (с. 225) — бачыш беларускае, роднае, вядомае; бачыш, што яно адначасова толькі яго, пісьменнікава, Кастусёва.

Зноў прыгадаўся Кастусёў партрэт, яго вочы.

Здаецца, пырсне і ляжа на паперу гумар яго: ...языком бліны мазаць (с. 261), украсці сабе дня ў раніцы (с. 258), вялікі пан у сваіх людзях (с. 264)...

Аўтарскія словы-наватворы — даўно на ўвазе ў пісьменнікаў, лінгвістаў, літаратуразнаўцаў, стылістаў, адукаваных чытачоў: *Нямала* слоў творыцца, *небагата* прыжываецца. Кепска гэта? Не, натуральна. Прыжыванне (знікненне) наватвораў залежыць ад іх вартасці, ад іх адпаведнасці самой мове, ад іх «мацунку» ў кантэксце, ад таго, як яно, новае слова, успрымаецца тымі, хто чытае, слухае.

Старонка пра валачобнікаў, пра велікодны вечар у Баркаўцах. Там і страфа з песні:

— Ды ляцела пава ды павістая.
Вясна-красна на дварэ.
Пагубляла пер'я залацістыя.
Вясна-красна на дварэ...»

А далей — не пра песню:

Дармо, што тая пава,— піша аўтар,— ніколі не лятала тут, што толькі ў гэтай песні і чулі *пра яе* (а не аб ёй). А можа і ляцела калі праз Баркаўцы, але за сном бачыць яе не давялося. Ды, такі, пяюць, так смела пяюць... Чуваць у голасе надзея: а ну, можа!.. Можа калі і на наш гразкі, *скапытаваны* двор згубіць пава залацістае пяро.

Чытачу ўбачацца, пачуюцца аўтаравы адносіны да *нашага* двара, аўтаравы надзеі: не згасла ясная заранaчка, будзе і ў *нас* наша залацістае пяро нябачанай і нязнанай тут Павы. Слова *скапытаваны* я не сустракаў (а можа — прагледзеў, прапусціў?) ні ў кога з нашых пісьменнікаў. Незразумелае, невыразнае слова? «Тырбулшчы»? Не. Аўтарава знаходка. Тая аўтарава нібы дробненькая ўдача, без якой (без якіх) не развіваецца, не багацее ні адна літаратурная мова.

Дзесяцігоддзі стараюся не абыходзіць фразеалагізмаў, прычым з галоўнаю ўвагаю — фразеалагізмам беларускім: пра казла адпушчэння або пра адстаўной казы барабаншчыка, пра вавілонскае столпотворение або пра кудыкіну ці растудыкіну гару, пра шмат-шмат іншых багата разоў пісалася і напісанае не раз надрукавана, прычым не на адной мове.

Здзівіў Кастусь Вашына. Вылушчыў бы нехта фразеалагізмы з яго твораў — быў бы дарагі слоўнічак. І з якой бы цікавасцю разгарнула гэты слоўнічак не адна тысяча чалавек.

Не прыгадаць з кнігі нейкі дзесятак фразеалагізмаў — проста грэх. Хоць бы:

*жадункі бяруць* (с. 81), *бяду бедаваць* (с. 168), *крутам-мутам, ад тых дат* (Ад тых дат стаў на яго просьбы і бацька ўвагу

браць — с. 157. Наняў муляра, зрабіў печ і пачаў ад тых дат у варывеньцы жыць... Заблоцкі пачаў хатаю сваю будку зваць — с. 229), *выдаць баль* (сінонім да фразеалагізма *даць лазню*) (с. 246), *моду паняць* (зрабіць нешта прывычным, звычайным, заўсёдным) (с. 243), *распусціць га́лы* (с. 244), *адбыць ра́ту* (с. 241), *вярзці лухту* (с. 81) (параўнаем з іншымі беларускімі варыянтамі: вярзці вярзу, малоць лухту, плесці лухту, лухту лухціць і інш., і інш.), *сесці куццёю* (с. 81), *холаду задаць* (с. 135), *трасца носіць* (с. 135), *пусціць дзе́йкі* (с. 140), *павесці ладьі* (с. 155). (Толькі давядзецца яму з шкляным богам павесці лады, дык... мякчэй пакачанай анучы робіцца), *зубы паз'ядаць* (с. 253), *у зямлю пайсці* (с. 273)...

Варыянт перыфразы *рагатае войска* (статак) не раз прыпісваўся то аднаму, то другому аўтару. Чытаем яе ў аповесці «Нядоля Заблоцкіх»: І выйшла ў Юстына, што... над сваім рагатым войскам ён палкоўнік (пастух). Параўнаем: «рагаты сыты полк» у Янкі Купалы («Пры скаціве»), «рагатая парафія» ў Якуба Коласа («На ростанях»), «рагаты транспарт» у Рамана Сабаленкі («Іду ў жыццё») (апошнія тры прыклады з калекцыі дацэнта Г. Малажай).

Літаратурная мова і норма. Тут клопаты і спрэчкі. Іншы раз нечакана і беспадстаўна, але нібы афіцыйна сцвярджаецца не тое (тыпу «аба ўсім»), што трэба. Радыё і тэлебачанне, газеты (з naзіраннеяў у 1977—1978 гг.) падаюць у аб'явах: «прымаем па серадах і па пятніцах», «пункт працуе па панядзелках і па пятніцах», «у кожны аўторак». А былі і ёсць у беларускай мове: штодзень (штодня), штотыдзень, штораз (лепей), штотыднёвік, толькі ў аўторак, толькі ў панядзелак...

Празаік Лукаш Калюга не прыдумляў, калі пісаў: штосерады, штонядзелі... (с. 192 і інш.).

Ды хіба па-беларуску «па нядзелях прыязджае»?

Чытаем непрыдуманае: глядзець гаспадаркі (гэтак кажуць і ў вёсцы Калюга на Глушчыне, у Рудабелцы, Капаткевічах, Старобіне, Любчы, Турцы, Ракаве... Не пералічыш), (прыехаць) па нядзелі (зна-

чыць пасля нядзелі; параўнаем: *па абедзе* госць едзе, *па гэтай тармасе́* мы разыдземся ўсе), *Па чым* (а не «па чаму») вы пазналі? — А *па ўсім* (не «па ўсяму») пазналі; *па ўсім аддаць* (не па ўсяму аддаць), зваўся дзед... Савэрын (с. 238), зваўся — Пархім (не Пархімам) (с. 218), брат... зваўся Вінцэсь (с. 231). Грыбныя *мясціны* (не месцы) (с. 232), моху (не імху) (с. 232)...

Часам чытаем «засупярэчыў»: «Ты не супярэч мне»... «Старшыня засупярэчыў брыгадзіру і сказаў»...

А чаго ж тут быць прыстаўцы су-? Прыстаўка су- з даўняй даўніны была паказчыкам і засталася паказчыкам, «знакам» сумеснасці. З таго і *су-седства, су-седні, су-седзі* (сядзяць побач — *су-седзяць*), *су-польны, су-месны, су-ладны, су-вязь*... Некалі саштукаванаму «засупярэчыць» адпавядае натуральнае, даўно і сёння жывое *запярэчыць (пярэчыць)*: без су. Яно — і ў рускай мове: перечить.

— А вось і няпраўда,— *запярэчыў* гаспадар,— напісана ў Калюгі на с. 89.

Кастусь Вашына чуў і адчуваў слова, ведаў мову не ад якіх там падгалоскаў. Ён чуў і ведаў мову роднай вёскі, родных вёсак, мову Я. Коласа, Ядвігіна Ш.— А. Лявіцкага, Ц. Гартнага, К. Чорнага, мову казак-запісаў А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага.

З радыё- і тэлеперадач, з перыядычных выданняў, з прозы апошняга часу (у 1976—1978 гг.) у мяне сабралася больш за дзесяць прыкладаў тыпу «карысна і прыемна праводжу выхадны нядзельны дзень», «патраплю па-святочнаму арганізаваць свой выходны (і выхадны) дзень нядзелю», «добра выкарысталі выхадны нядзельны дзень», «добра правялі ўвесь дзень нядзелю — выходны».

Няма патрэбы ацэньваць, «разбіраць» такія моўныя звароты, не ўсякі кантэкст прыме іх.

Прыгадаю пачутае і запісанае з народнай мовы:

Нядаўна пайшоў, дзе ўсе (у калгас). А сёння *нядзельку*. Як і ўсе (1951 год, Бакшты Маладзечанскага раёна).

— Стары казаў: у нядзельку трэба *(ня-*

*дзелькаваць*, рукам спачыну знайсці. А я разважыла й наважыла. Не. Што там *нядзелькаваць?* Ехаць. Даедзем да Слоніма, а там і да Мінска, да дзяцей, нешта й дапамагчы (1968 год, Шчара, Дзятлаўскі раён).

І зноў жа. Хіба трэба расхвальваць слова *нядзелькаваць?* Чалавек, пазбаўлены «языковай глухоты», пачуе, засвоіць яго. І не адгорне гэтага слова, як адгортваюць ад сябе шкарлупкі раструшчаных арэхаў. Параўнаецца — само сабою, без задання — з гэтым *нядзелькаваць* такое: «карысна і прыемна праводжу выхадны нядзельны дзень», «я патраплю па-святочнаму арганізаваць свой чарговы выхадны дзень нядзелю». Такім зваротам можа быць і ёсць месца ў мове, але далёка не ва ўсякім тэксце.

Кастусь Вашына ўжывае роднае народнае *нядзелькаваць*. Было і ёсць у народнай мове на радзіме не аднаго нашага празаіка, драматурга, паэта, літаратуразнаўцы і крытыка *нядзелькаваць, паднядзеліцца, прынядзеліцца...*

Цурацца іх не трэба.

Шкодна бяднець.

Тым больш: ёсць цэлае гняздо слоў ад *нядзелі.*

Чытаем у Калюгавым тэксце:

> Там, у другім пакоі... сядзеў, крыху *паднядзеліўшыся...* настаўнік (с. 168), ...ездзіў Савоста (вучань гарадскога вучылішча) *нядзелеваць* у Баркаўцы (у родную вёску).

У вёсцы Калюга (не на Койданаўшчыне, адкуль родам Кастусь Вашына — Лукаш Калюга, а на Глушчыне) я запісаў (1950 г.):

> — Ну во! *Панядзеліла*, называецца... У каго нядзеля, а я клопаты клапаціла. Бяду, як дзень цэлы, бедавала. Хай яго няхай...

У Кастуся Вашыны, дарэчы, таксама ёсць *бяду бедаваць* (с. 168): Так і так скардзяцца хлопцы. Дапамагай, значыцца, ім бяду бедаваць. Просяць рады якой. Паперы паказваюць.

Нячутае і нечаканае ці вядомае, але асвежанае параўнанне — залацінка ў тэксце. Яно не толькі ажыўляе тэкст, нешта абмалёўвае, малюе, характарызуе:

Як прыйдзецца за стол садзіцца, дык *галоў*, як *качаноў на капуснай градзе*.

*І рассыпаліся* яны, як *гарох на сто дарог* — хто куды віда (с. 220).

Чутыя і прывычныя беларускія выслоўі са словам гарох. А тут — нечаканае: кожная гарошынка коціцца... сваёю дарожкай.

У кнізе Л. Калюгі неадзінкавыя мясціны, з якіх бачу аўтара — стваральніка характарыстычнага каламбуру.

Што за гаспадарок — *Дзірванок!* Нізенькі ён такі, шэранькі, як верас, што на *дзірванах* расце. Не шавец, не кравец ён, а *закройшчык*: *кроіць* хлеб на лусты, калі ёсць на стале (с. 234).

На старонцы 271 — гатовая, без дапрацоўкі сатырычная замалёўка, завучы і, калі ўмееш, чытай са сцэны пра тое, як зіму пааціраўся хлопец каля «мудрэйшых вяшчэй» у мястэчку Хлюпск, прыехаў дадому, начапіў сінія акуляры і, бачачы каровак, пытаецца, што яны... «за звяры такія»?

...Чытаю «Нядолю Заблоцкіх», іншыя творы. Гэта добра засеянае поле. Яно не такое, як тое, што «маўчыць, бы з волава вылітае ці намаляванае на паперы» (с. 118).

Не скажу, што мова ў Лукаша Калюгі — толькі ўзорная, што ўсё ім напісанае — бездакорнае. Але я ўбачыў: ведаў ён родную лексіку, фразеалогію, ведаў спалучальнасць слоў у роднай мове. Ведаў мову.

І нібы меў ён сваю, добрую і разумную картатэку, складзеную не абы-абы.

## ГАВАРКОЕ, НЕАСЦЯРОЖНАЕ, «НЯТОЕ»...

Гаваркое, або характарыстычнае, слова не толькі абазначае нешта, а і характарызуе тое, што абазначае, адразу дае штрышок вобраза ці нават вобраз. Хоць бы: *вясёлка* і *бліскавіца, знічка,* родныя

*ліпень* (ліпа цвіце), *жнівень* (жніво ідзе), *верасень* (верас цвіце), назвы вёсак *Жывунь* і *Збажынка, Гасцілаўцы* і *Гасцілавічы.* Хоць бы: *трубіла* (хутка, многа і ўсё падрад есць), *смятаннік* (лізун), *лізікі* (ласункі, калі смяюцца з хлопчыка, які толькі і просіць цукерак, марожанага; не з'есці хлеба, капусты, скварку, а толькі «палізаць»), *баба* (пра мужчыну). Хоць бы: і з *ветру вяроўку саўе* (пляткар), *з твару хоць напіся* (вельмі прыгожая), *травіца брат-сястрыца, не фігуруйся, Грышачка!..*

Самы просценькі прыклад. На поўдні ад Бабруйска, каля Глуска і Рудабелкі, на Слуцкім Палессі, на Койданаўшчыне-Дзяржыншчыне жыве жывое слова *напарозніца.* Яно лёгка гаворыцца, прамаўляецца, добра чуецца. Яно не прыдуманае. Мастаку-празаіку ўспрыняць, зразумець — як дыхнуць.

І ўсё ж прачытайма радкі з адной невялікай кніжкі:

«...Не ведаю, як дзе, а ў нашай вёсцы так: прыйдзе чалавек у хату, прынясе расказаць цікавую навіну, але загаворыцца дый забудзецца пра яе.

— Ах няма часу! — скажа.— Трэба ісці.

— Пабудзь, пагуляй.

— О не! Дзе вы бачылі?! Трэба ісці.

Стане ў парозе, возьмецца за клямку. Дагаворвае сваю распачатую мову».

Ва ўрывачку — пра напарозніка, напарозніцу.

Слова *напарозніца* — «сваячка» слову *пахáтуха,* хоць яны і «някрэўныя», ад розных каранёў. А сэнс, значэнне? Пахатуха — жанчына, якая не шкадуе часу, «мае» час, любіць завітаць у адну суседнюю хату, у другую, суседнюю і не суседнюю, а то і далекаватую, каб нешта расказаць, пра нешта ці нешта паслухаць, пачуць. Пахатуха — з «пахат-ах»; утварылася з дапамогаю суфікса -ух- (параўнайце: дзеўка-векав-ýх-а, рагат-ýх-а, скак-ýх-а, пяй-ýх-а — пяюха). Напарозніца — ад слова парог? Не зусім дакладна. Яно — ад «на пароз(е) -ніц-а».

Учора вычытаў у аповесці У. Паўлава слова *стрэльба.* Вычытаў — прыпыніўся. Пачуў, неяк нечакана і не ад няведання, новае ў гучанні, нават у напоўненасці даўно знаёмага і стылістычна нейтраль-

нага слова. Яго іншым разам замяняюць ружжом (ружжамі).

Дзіва! Прачытаў, і звычайнае, з самага маленства вядомае, багата разоў самім сказанае «спакойнае» слова стрэльба пачулася ў радку аповесці гаваркім, характарыстычным. Нескладаная загадка: пры двух словах з адным значэннем — стрэльба і ружжо — названае нейтральным стрэльба пажывела, ажывілася, набыло характарыстычнасць. Не што-небудзь, а слова ружжо, якое цiснуць у старонкі аўтары, падкрэсліла, пабагаціла тое першае, якое аднаго гнязда са словамі страляць, стрэл, страляніна... Слова стрэльба пераклікаецца, «жыве перазовамі» з бахнуць, бабахнуць.

Прывычнае і негаваркое, як і стол, як і двор, як і нож, як і слуп, як і поле, слова *стрэльба* з дапамогаю... ружжа атрымала пэўную акрасу, стала гаваркім.

Вычытаў у Паўлава слова стрэльба, прыпыніўся, падумаў. І прыгадаліся (можа, не ўсе дакладна) дзесяткі «кавалачкаў» — родных тэкстаў.

Радок з верша Якуба Коласа: «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!» Давайце зробім маленькі (хоць паэтычны радок і не любіць гэтага) нібы эксперымент: заменім у радку адно слова другім, але абавязкова двухскладовым, абавязкова з націскам на першым складзе і з тым самым значэннем: стрэльбы — ружжы: «Ружжы, хлопчыкі, бяры!» Замянілі, і адразу прыйшоў на памяць другі Коласаў радок, адразу прыйшла ацэнка такой падстаноўкі. Ацэнка Коласавым радком: «Ну, як на смак?»

Яшчэ з Якуба Коласа: «Узяўшы стрэльбу, ляснік з каморы яшчэ ўдзень пайшоў пільнаваць (крышку адхілюся: не ахоўваць, не каравуліць — пільнаваць) капцы, якія сам і пастаўляў».

І яшчэ з Якуба Коласа:

— Ты адзін? — запытаўся асцярожны незнаёмы чалавек.

— Адзін і не адзін: са мною стрэльба.

З дзесяць Коласавых сказаў, урывачкаў прыйшлі да мяне, вярнуліся з гадоў маленства і юнацтва, калі добра чыталася і слухалася, цвёрда запаміналася.

З Янкі Купалы: «Калі стрэльбу ў цябе адабралі тваю, ты з застрэшку вазьмі касу востру сваю!»

Такім чынам: руж-ж-о (руж-ж-аў, руж-ж-амі, на руж-ж-ах) вярнула мне пасвяжэлым і даражэйшым, чым было, слова стрэльба.

Могуць запярэчыць: у некаторых беларускіх гаворках было і ёсць слова ружжо, то яно мае права на жыццё ў літаратурнай мове. Могуць. Магчыма і мае слова такое права. Толькі ж і другое: не ўсё, што ёсць у гаворках, можа і павінна ісці ў літаратурныя творы.

Ёсць, напрыклад, у беларускіх гаворках «перря» (пер'е, Гарадоцкі раён), «набуць» (мабыць, Глускі раён), «азёў» (узяў, Маладзечанскі раён)...

Ці «валачы» такія ў аўтарскую мову літаратурных тэкстаў? Відаць, не трэба.

«Мне,— казаў учора знаёмы,— патрэбна вырашыць клопат па гаспадарцы. Трэба вырашыць клопаты па дачы». Прыгадалася і з кніжак, і жывое, размоўнае: «клопаты ёсць», «сёе-тое дома зрабіць», «нешта дома зрабіць», «клопат гэты з мэбляй», «ніяк не давяду да ладу», «на дварэ спарадкаваць», «дачы не дагледзеў», «сабраўся дагледзець» і іншае, і іншае, і іншае. Такое і падобнае.

Успомнілася, пасля тых «клопатаў па гаспадарцы» і «клопатаў па дачы», знаёмая і незабыўная прыказка: Хоць горшае, абы іншае...

Ці добра, ці трэба: «патрэбна... па гаспадарцы», «работа па гаспадарцы», «клопаты па дачы»?

Чалавек пры сустрэчы паказвае звязаныя вяровачкаю тоўстыя і тонкія кніжкі і кажа: «Неабходна ліквідаваць мне маю бібліятэчную запазычанасць. Патрэбна разлічыцца». І гэта не якім-небудзь жартам і неіранічна. Не-не!

Прыкіньма: нашто ў такім выпаду «Неабходна»? Якое тут «Патрэбна»? Дзеля чаго тут «ліквідацыя» ці «ліквідаваць»? Чаго тут быць «запазычанасці» і «разлічыцца», «ліквідаваць мне», «мая запазычанасць»?

Звычайнае і простае, ва ўсіх адносінах людскае: нясу ў бібліятэку кніжкі, даўнавата ўзяў; аднесці трэба; што вінен — аддаць павінен; з бібліятэкі ўзяў

з дзесяць; аднясу, некаму таксама трэба, нехта ж чакае... Не паралічыць!

Ці ж натуральная ў размове такая закончанасць фразы: «Неабходна ліквідаваць мне бібліятэчную запазычанасць. Патрэбна разлічыцца з бібліятэкай»?

А каб проста — як праўда? Так проста, як сёння ўзяць кніжку ў бібліятэцы. Так проста, як, прачытаўшы, аднесці яе ў бібліятэку.

Толькі ці не правінаваціўся я? У загалоўку ж не пра штампы, не пра «канцылярыт», не пра набор зваротаў, нішчымных і халодных, як чыноўнікава душа часоў Багушэвіча і Каліноўскага...

Але, мабыць, не. Не правінаваціўся. І я ж чытаю, слухаю. Бачу і чую слова. Яно бывае халоднае, абыякавае, штампаванае.

Трэба сказаць і пра «іншае» слова.

Прачытаў: «На тэму барацьбы з п'янствам сёння выступае лектар т. Н...» Ці ж чуваць тут належная за чалавека трывога? Ці ёсць клопат пра таго і спагада да таго, хто збіўся з ладу, ва́ліцца з ног і гіне? Не проста холадна і золка. Ці па-людску: «На тэму барацьбы з п'янствам выступае...»?

Не хоча мая рука запісваць тлумачэння: як жа гэтакім пісаннем «забяспечваецца» золь, холад, абыякавасць.

Вычытаў аднойчы і такое (ды яшчэ падкрэсленае прыгожаю лініяй і з выклічнікам): «П'янству бой!» Прачытайма, таварыш, яшчэ раз словы, сказ: «П'янству бой!» Што такое «п'янства» і што такое «бой»? Можна на цвярозы розум спалучыць гэтыя неспалучальныя словы? І што ў гэтым «п'янству бой!»? Заклапочанасць? Не. Гульня ці забава са словам. А то і рогат зубаскалу.

У нібы фельетонах разы тры пісалі смакуючы пра «паклоны зялёнаму змію», пра «вялікае сяброўства з зялёным зміем», пра «адданасць зялёнаму змію». На Беларусі расказвалі пра Каваля-вярнідуба, пра асілка, Волата, пра Вяля і пра *паклоны* ім; пра Іваньку, *вернага* і *адданага*, кемлівага і гуманнага, знаходлівага і сяброўскага.

А чаму — «змій»? Чаму спалучылі пазычонага «змія» з родным *паклонам* і вялікім *сяброўствам*?

А няхай бы — цвярозае і строгае чалавечае і чалавечнае: «Выратавалі», «Вылечылі», «Прымусілі вылечыцца і вылечылі», «Пакаранне за п'янства». Ці іншае, іншае і іншае. І не п'янству бой, і не «пакланенне змію», не «адданасць змію». Апрача ўсяго, «п'янству бой!» — непісьменнасць, як і ў вычытаным неяк «атакуем безгаспадарчасць!» (не раўнуючы, як «напад на... мерцвяка»).

Чытач (і я ў ліку чытачоў) не можа патрабаваць, каб усе, хто піша, каб усе журналісты, пісьменнікі пісалі толькі так, як вялікія мастакі, так, як умелі пісаць Колас, Багдановіч, Гарэцкі... Не ўсім, хто піша, быць «чародеями слова», не ўсім, хто піша, быць мастакамі слова. Але чытач, грамадскасць чакае і мае права патрабаваць, каб не пісалі, скажам па-народнаму, чорт ведае як.

Прывяду яшчэ прыклады, сустрэтыя зусім нядаўна. «На працягу адной гадзіны (нашто, дарэчы, гэта «на працягу»?) ён (футбаліст.— *Ф. Я.*) галавой апрацоўваў футбольны мяч...» І далей: «На гэты раз (быў устаноўлены рэкорд у «апрацоўцы мяча».— *Ф. Я.*) акрамя галавы ў ход пайшлі рукі і ногі» (футбаліставы.— *Ф. Я.*).

У той самай газеце аб'яўляюць: «Кінастудыя... купіць *рэчы, якія датычацца* 1938—1945 гадоў». Калі б такое, падобнае і горшае выпісаў толькі з аднаго нумара, давялося б заняць цэлую старонку.

...Аўтар цэліцца выдаць двухтомнік і піша: «Я распачаў аўтарскую працу над падрыхтоўкай да выдання свайго збору апавяданняў у двух тамах». Не яго бяда, што пішам, паўтараем «у двух тамах», «у трох тамах». Але нашто нібы літаратурнае, нібы «особенно достойное» і высокае: «аўтарская праца» (а яе, працу, «распачаў»!), «праца над падрыхтоўкай», «свайго» і «збору», «у двух тамах»? Нібы эпідэмія (нашы дзяды і бацькі называлі яе словам мор) пустаслоўя. Бескантрольнасць за фразаю, за спалучэннем слоў збядняе думку, а то і пазбаўляе думкі надрукаваныя тэксты.

Давайце вызначым, што збіраўся сказаць той, хто «распачаў аўтарскую працу над...»?

Відаць, вось што: Збіраю (або складаю, або рыхтую...) двухтомнік сваіх апавяданняў.

Аўтар жа «мабілізаваў» не чатыры словы, а чатырнаццаць...

Не будзе, мабыць, памылкі: цэлы том з двух — лішнія словы...

Неасцярожнае слова. Можна, лічу, і не расказваць, не тлумачыць, што гэта — неасцярожнае слова.

...Жанчына расказвае ў нарысе пра сустрэчу з былою настаўніцаю, якая ведала багата каго са сваіх сучаснікаў-літаратараў, і яны ведалі яе. Цэлая паліца кніжак (і такіх, якіх сёння не знайсці) — з аўтографамі. Жанчыне восемдзесят. Нарысістка піша: «Размаўляю з ёю, гляджу, узіраюся. Бачу, што яна некалі была вабная, прыгожая». Гэтак піша сама жанчына... пра... жанчыну. Піша, што яна, гэта старэнькая і дасведчаная, была некалі... вабная, прыгожая.

Ну, а калі тое, што «калісьці была вабная, прыгожая», прачытае жанчына, пра якую пішуць? Як ёй, «некалі прыгожай», чытаць пра сустрэчу ў яе хаце з тою нарысісткаю?

Часцей, чым у беларускіх тэкстах, сустракаецца вельмі не тое, зусім не тое слова ў перакладах з іншых моў на беларускую.

Кароценькае апавяданне «Традыцыя» ў кнізе Рабіндраната Тагора «Выбранае» (1976 год, с. 233). Чытаем, «Ка́лі (імя) раззлавалася. У суседнім пакоі служанка, напэўна, падумала, што муж падсунуў жонцы штучныя каштоўнасці». Чытаем яшчэ «Ка́лі выкручвае, як бялізну ў пральні, усе нашы спрэчкі і нясе іх да сяброў»...

На невялічкае апавяданне і гэтага замнога. А калі дадаць з перакладу яшчэ такія радкі і спалучэнні слоў: «пароў (што пароў? нашто пароў? чым пароў?) чаю», «пачулі гук удараў» (гук адзін, а ўдараў многа?), «гук яе голасу», «адмова ад прычынення зла», «вада сажалкі... не тушыць полымя пакут радзімы»?..

Выпісаў радкі і ўбачыў, што тут, мабыць, горшае за неасцярожнае слова.

Зусім не тое слова...

Каб перакладаць, трэба, кажуць, ведаць хоць бы дзве мовы, а калі на стале ляжаць падрадкоўнікі — трэба ведаць (засмяешся, чытач)... хоць бы адну мову. Тую, на якую перакладаеш. А перакладчык піша: «пароў чаю» (с. 237), «даруйце мяне» (с. 238), «гук удараў» (с 237), «вада сажалкі». Ёсць жа вада ў сажалцы, вада з сажалкі (вада ў рацэ, вада з ракі, рачная вада, вада са студні, вада ў студні, крынічная вада, вада з крыніцы, вада ў крыніцы...). Нашто і чаму тут «вада сажалкі»? Ці яшчэ: «спрэчка аб нашэнні» (с. 235), «праводзіў святочныя дні» (с. 234)...

«Гук голасу», «падсоўваць штучныя каштоўнасці», «гук удараў», «адмова ад прычынення зла»... Ці ж Тагорава гэта? Не.

А «даруйце мяне», «пароў чаю», «вузы звычаю»? Ці ж гэта па-беларуску? Не.

«Перакрад»...

Прамоўца казаў пра недакладнасць перакладу з беларускай на іншыя мовы і з іншых — на беларускую. Казаў шчыра, зачытваў адзін за адным кавалкі з арыгінала і адпаведныя з перакладаў. Не хапала належнага абагульнення, выказанага коратка, не хапала пэўных рэкамендацый, не хапала ацэнкі... А як жа прамоўца? Што, лічыць ён, трэба?

Раптам зала рагатнула: прамоўца сказаў не пераклад, а *перакрад*. Неспадзявана атрымалася нібы акрэсленне, ацэнка не аднаго і не двух недарэчных, паказаных у дакладзе, выпадкаў з практыкі перакладу.

І ўспомнілася: неяк у адным беларускім зборніку падавалася перакладзеная цытата з вучонай парэміялагічнай працы. Аўтар той працы пісаў, што рускі тэрмін поговорка кніжнага паходжання, што тэрмін «прыдуманы людзьмі кніжнымі». А перакладчык цытаты на беларускую мову напісаў, што тэрмін прымаўка «прыдумалі кніжныя людзі». Атрымаўся — як ні паглядзіш — «перакрад»...

Слова *прымаўка* з даўняй даўніны жыве ў народнай мове, народнае слова. Тэрміна *прымаўка* не прыдумалі кніжныя людзі.

Можна было і забыцца на згаданы выпадак «пе-

ракраду», калі б «перакрадзеная» цытата не пайшла гуляць па старонках. У артыкулах, рэфератах. Неяк сустрэў яе нават у адной кніжцы, потым у другой...

## А КАБ ТАБЕ!..

— Дуб-Дубкоўскі! А завуць...— падаючы шырокую і дужую руку, назваў сябе яшчэ адзін новы знаёмы, яшчэ адзін з тых, хто або гатовы памагчы паляваць на словы, фраземы, прыказкі, прымаўкі, або проста пазнаёміцца, загаварыць.— Сказалі мне, што і кніжкі свае друкуеце. Я не з тутэйшага краю, хоць і не вельмі здалёку. І словы неяк кідаюцца ў вочы... Я проста не зношу іхняга «сакання»: «абуўса», «напіўса»; іхніх кленічаў: «А каб цябе!», «А бадай цябе!», «А ліха на іх!». Усё гэта...— скрывіўшыся і жорсткасцю пачаў, але не сказаў.

Што ж! Мала, чалавеча, ведаеш...

— Што там «каб цябе»?! Раззлаваўся, то так словам краяні, каб аж дым пайшоў! Ці так дай па скабах, каб кожная на тры кавалкі ляцела!

Было што сказаць і расказаць Дубу-Дубкоўскаму, адразу ж прыгадалася і пачутае ў гэтай вёсцы «завязаўся б язык». Ды...

Аж тут нечакана расчыніліся веснічкі з двара, каля якога мы стаялі, і высунуўся, а потым, валюхаючыся, як на хворых, кволых нагах, паціху выйшаў пудоў на дванаццаць — пятнаццаць кабан. За ім ішла гаспадыня. Яна, махаючы тоненькім мяккім дубчыкам, але быццам баючыся дакрануцца да яшчэ бела-ружовай, але амаль гатовай скваркі, вяндліны і каўбасы, паганяла:

— Ідзі ж, гультае́ча, ідзі. А каб табе хвост у сала ўрос! Ідзі. Каб табе салам вочы пазаплывалі!

Я слухаў, што і як гаворыць жанчына. А мой знаёмы перакінуў усю ўвагу на яшчэ жывую тушу і пачаў, здаецца, разбіраць яе, здаецца, яму пахла

ўжо падсмажанымі перабітымі на кавалкі рабрынамі.

Пачатую Дуб-Дубкоўскім размову не хацелася весці. І я сказаў, што хачу зайсці ў краму, каб купіць пітва. Але ў краме ніякай «культурнай» вадзіцы не было, і сам Дуб-Дубкоўскі прапанаваў зайсці да яго суседзяў старых Ма́руса і Ма́русіхі і напіцца. І мы зайшлі. Са смакам пілі бярозавік — халодны, з вашчынаю, хлебнаю падсмажанаю скарынкаю і нейкім лістком. А калі падзякавалі і адыходзілі, гаспадыня на развітанне:

— Ідзе́це здаровенькія! Пе́це, прыходзьце й пе́це. Каб вам пілоса, е́ласа й шчэ хацеласа!

Дзякую вам, старэнькая Ма́русіха! Вы і сёння, ведаю, поіце людзей бярозавікам, сустракаеце ласкавым словам і кажаце ім ваша «каб...». Пачуйце і ад мяне: каб вам яшчэ многа гадоў смачна спалася і лёгка ўставалася!

На развітанне Дуб-Дубкоўскі падаў руку. Запомнілася яна, шырокая, валасатая і з рабаціннем.

## І ЗАВЯЛА ПЕСНЮ МАМА

На ўроку літаратуры, калі я вучыўся ў пятым класе, настаўнік гаварыў пра вусную народную паэзію; спаслаўшыся на аднаго вучонага (памяць не зберагла яго імя), прадыктаваў, каб запісалі прыкладна такую фразу: «Фальклор — гэта адгалоскі праклятай мінуўшчыны». Потым запісвалі мы радкі: калі нараджалася ў сям'і дзіця, гэта было няшчасцем у сям'і, горам у бацькоў.

У мяне было пяцёра братоў. І я поўнасцю аддаўся вырашэнню задачы: ці ўсе мы, браты і дзве сястры, ці толькі хто-небудзь з нас, можа — я, сталі горам, бядою матцы, бацьку, сям'і? Кормяць, абуваюць, апранаюць, у нядзелю сітніцаю частуюць, каго на дзве, каго на больш зім аддавалі ў школу.

І раптам на занятках у школе...

Карцела, рупіла, непакоіла, трывожыла і мучыла.

А неяк той самай зімою, увечары, да нас сышліся на вячоркі суседкі (хто прадзе кужаль, хто воўну, хто тросціць ніткі, хто з маткоў робіць клубкі). Спявалі песні. У адной — сям'я дзякуе богу, што маці «яшчэ сынка прывяла». І — як у нас кажуць — *завяла* гэту песню мая мама.

Далікатная рэч — народнае слова, народная песня. Каб гаварыць пра яе, трэба ведаць яе, разумець яе. Трэба, каб і гаварылі пра яе далікатна.

# 6

## *Яно б гарэла, каб не карэла.*

Докшыцкі раён,
вёскі Янкі і Пустаселле

### САМОМУ САБЕ

Хутаранец убачыў недалёка ад сваёй сядзібы: у канаве ляжаў чалавек. Хутаранец паклікаў зяця, дачку, забралі параненага на хутар. Гэта быў салдат. Забралі, думалі, варажылі: бою тут не было, то што ж здарылася? Двойчы абстрэльвалі немцы з гармат поле і пералескі. Можа, тады і параніла? Перавязалі, чым і як маглі, раны. Дачка збегала да доктара і да аптэкаркі ў мястэчка. Не вельмі разжывешся: тады, на пачатку вайны, параненых везлі і везлі. Але ж прынесла ёду, крыху перакісу, бінту. Прамылі і перавязалі раны. Даглядалі. Тры-чатыры разы на дзень сырадою са скібкаю хлеба і з мёдам, тры-чатыры разы на дзень гарачага варыва, і лепшала чалавеку. Загаварыў, а праз месяц крыху павесялеў, хоць да правунку-папраўкі яшчэ было няблізка. Ды нечаканыя загады і пагрозы. На слупах пры дарозе і ледзь не на кожных варотах блізкіх ад хутара вёсак немцы расклейвалі загад, злева надрукаваны па-нямецку, справа — па-беларуску: усе, хто даў прытулак акружэнцам, «павінны за дваццаць чатыры гадзіны замальдавацца ў валаснога старшыні і ў нямецкага каменданта».

Ніхто з хутаранцавай, як і з іншых сямей, што прытулілі параненых ці знясіленых акружэнцаў, не кінуўся бегчы ў валасць або да каменданта. Ды на пачатку восені сорак першага даляцела і да хутара: у блізкай вёсцы дабілі параненага салдата, тады ж застрэлілі і гаспадара, што прывёз з хмызняку і лячыў параненага. Чулі: узялі людзі ў сем'і прыпісні-коў (так сталі зваць акружэнцаў), жылі яны азіраючыся, неспакойна, а пранюхвалі акупанты — забіралі, звозілі ў лагер палонных — на смерць.

Хутаранец з жонкаю, ужо старыя людзі, іх дачка з зяцем і ўнучка, што бралася на дзеўку, занепакоіліся, затрывожыліся. Аддаць? Падабралі, пашкадавалі, прыгледзелі, памерці не далі і аддаць? Усёй сям'ёй два дні і дзве ночы працавалі, не разгінаючыся і потам абліваючыся, рабілі зямлянку, а з зямлянкі два выхады.

Толькі позняю восенню, праз добрых месяцаў пяць, абапіраючыся на гаспадарова плячо, салдат заходзіў у хату. Але не ўдзень, а прыцемкам; чалавеку цяжка было дачакацца да ночы: пяць месяцаў схаваны ад паветра і, хоць нячастага, сонца, ад людзей, хворы такі...

Разам вячэралі. Штовечар — цэлыя месяцы — па́рылі ў цёплай вадзе (з соллю, з гарчыцаю, з часнаком) перабітыя ногі. Грэлі над толькі што згатаванаю і стоўчанаю ў цабэрку неабіранаю бульбаю. Маўклівы і зусім неперабарлівы: як зробяць яму — так і добра; і ніякае просьбы яго ці пажадання, каб нешта інакш, каб лепей яму зрабілі. Салдату потым давалі прымерваць, ці добра, ці якраз нешта з гаспадаровага ці з зяцевага адзення, з абутку. Паранены — чалавек маўклівы, ды гэта першы на хутары гэтак скалечаны чалавек, то і не прыглядаліся да яго: яму балела — ім балела. Здзіўляла і, як няўцямнае, заставалася ў сям'і: ён усім казаў «ты». І старым — дзядулю, бабулі, і прыкметна старэйшым за салдата — іх дзецям. Старая, не крыўдуючы і не жалячыся, ці то пыталася ў старога, ці то разважала сама сабе, каб і ён чуў:

— Мо з адзіноцтва й хавання? Без людзей. Ці, можа, з няшчасця, з ранаў? І на мяне «маць», і на Стэфу нашу «маць». На ўсіх «ты» й «ты»... Спыта́ясь-

ся — расказвае. А ў самога, каб сам сабою — то як бы і распытвацца ў нас няма чаго.

Стары нічога не адказаў ні першы, ні другі раз.

Пажаліўшыся, старая не раз суцяшала сама сябе, потым супакойвала і дзядулю:

— Гэтак паранены... І не думала, што жыць будзе, што хадзіць стане. Мо з адзіноцтва? Няблізкі ж... Нібы нікога ў яго з радні, нібы анікагенькі. Але каб ён нейкі ўважнейшы быў... Ці з хавання? Гэтулькі памучыўся...

Паранены Іосіф, перахрышчаны ў сям'і на Юзіка, набіраўся моцы-мацунку. Толькі не як у казцы, а марудна. Часам знаходзіў сам сабе занятак, нейкую справу, але толькі часам. Хоць іх на гаспадарцы, ды яшчэ на хутары, нескончоная чарга; адно зробіш — другое наспела, на новае час прыйшоў, и то, як кажуць, і пара перапаравала,— без канца! Юзік сам зрабіў, хоць і, як тут кажуць, нявыштукаваныя драбіны — лесвіцу; прыгледзеўся, як, спяшаючыся, гаспадар каваў жорны, а праз нейкі час узяўся (гаспадары ніякай працы не давалі, нават ніколі не намякнулі: мелі невялікую, але стройную гаспадарку, усё як ёсць рабілі самі, спрытна і належным чынам) і паціху накаваў жорны, што можна было змалоць зерне, хоць і павольна, але мякка, як у млыне. Утрох — бацька, зяць і Юзік — нагнулі палазоў на двое саней, на падса́нкі; без падсанкаў цяжка з лесу прывезці калоду, а лесу, як пачалася вайна, ніхто не пільнуе; пры самых дарогах немцы выразаюць лес рукамі палонных, а далей ад дарогі можна нарэзаць і навезці. Хвоя, дуб, ясень — колькі хочаш, ніхто нічога не скажа. Праўда, людзі не спяшаліся спілоўваць і звозіць лес сабе, на дармаўшчыну: «Да нас быў тут лес і пасля нас няхай не звядзецца. Не трэба, каб звёўся. Час такі кручаны, ці выжывеш. Рот разяўляць на лес?»

Пачатак зімы быў прыпознены, але дружны. І Юзік, хоць не штораніцы, браўся раскідаць шуфлем снег — рабіў сцежку; калі ўзнімаліся ў двары снежныя гурбы, ён тым самым шуфлем пачынаў зносіць снег у садок, на агарод, але, мабыць, не спраўляўся; гаспадары шкадавалі хворага і падмянялі, забраўшы з рук шуфель.

Не ўсё рабіў Юзік на звычны хутаранцаў лад: мабыць, не ўсё яму ўмелася, не на ўсё быў належны спрыт, не ўсё разумеў. Ды тут — таксама на сямейны лад — ведалі: трэба нешта і змоўчваць, трэба нечага і не ўбачыць. І заставалася тое самае, Юзікава «ты» хоць на каго, хоць да каго; не прывыкаў, увайшоўшы ў хату, здымаць шапку, а калі і здымаў, то яна клалася і на... стол, з патэльні браў не тую, што бліжэй да яго, а лепшую скварку. Стары аднойчы пачуў, як сцяўшы зубы і з брыдкім словам нокнуў Юзік на каня, а то ўбачыў, як ткнуў, хоць сам яшчэ кульгавы, у персці каню ботам. Ткнуў — і сам войкнуў: забалела, наліўся ятранаю чырванню. Дзядуля ўбачыў, з тыдзень нікому пра гэта ні слова, а неяк зяцю сказаў:

— Лепей бы ён каля быдла не хадзіў... Гэтак... аж мне самому баліць.

Аднойчы ўвечары Юзік расказваў, што ў яго дома прасцей з кабанінаю: заколюць кабана, не пэцкаюцца з крывянкамі, крупянкамі, усякімі там сальцісонамі, кумпякамі. І гэтулькі працы, клопату... Прасцей і лягчэй можна. Каўбаса? Важданіна ўсякая...

Пабольшалі дні. Стала чорная сцежка.

Якраз вялікаднем на хутаранцавых варотах наклеілі паперу. З тых загадаў, якімі страшылі людзей яшчэ з першых месяцаў вайны: «У каго ёсць палонны, павінны замальдаваць у воласці; гаспадар, які хавае палоннага, павінен зайсці ў воласць і распісацца за палоннага; без дазволу каменданта былы савецкі салдат ці афіцэр не мае права пакінуць вёску, хату, дзе жыве». Знаёмая пагроза: расстрэл.

Вісіць паперына на варотах гранатаю. А на хутары звычайная і заўсёдная цішыня. Аж неяк прыходзіць настаўнік. Ціха і толькі аднаму дзеду кажа:

— У вас, мы ведаем, жыве... Як думаеце? Вам можна без яго? Прысягу, мабыць, прымаў. Ці не пайшоў бы, каб разам з хлопцамі, каб з вінтоўкаю. Калі ў яго няма сваёй, то ў нас знойдзецца.

Здзіўлены дзед хацеў быў распытвацца, адкуль і як настаўнік ведае. Усё на хутары так рабілася, усе ў сям'і так рабілі, каб нікому нічога, каб ніхто не

ведаў пра выратаванага. Але дзед убачыў, што роспытаў не трэба: кажа настаўнік жа, тутэйшы чалавек. Тут нарадзіўся, хрысціўся, вучыўся і вучыў гадоў з дзесяць.

— Усё вы, настаўнік, ведаеце.

Падумаўшы, казаў:

— Як па мне, навучыцель, то ці няхай жыве ў нас, ці няхай ідзе з вамі. А каб я сказаў яму ісці? Вінаваты не буду? Ён жа падумае, мабыць, так: падабралі, паратавалі, на ногі паставілі і падказалі, каб яго ў лес забралі. На гаспадарцы хадзілі і ходзім самі, робім самі, што нам трэба. Зяць хоць і бяспалы, але прынаравіўся рабіць на полі, на агародзе, хоць дзе. Зяць не ваяка, самі ведаеце.

Пасля паўзы дадаў:

— Як па мне, хай бы сабе жыў пры нас: накульгвае ж. Толькі я не камандзір яму. Ні бацька, ні родны дзядзька. Дый ня быў яму чужы.

Юзік-Іосіф — радавы ў атрадзе. Наведваецца на хутар. Сустракаюць партызана — як і прынялі тады ў чэрвені 1941 года салдата. А ён з кожным разам усё смялей заходзіць у хату, усё шырэй расчыняе дзверы. Ці адзін, ці не адзін — ён як дома, нібы ў сваёй хаце, нібы гаспадар; як і раней, усім на хутары «ты»; з кожнаю завітанкаю смялей напомніць, каб грамаў улілі. Заметней стала дзядулю, як і бабулі, Юльчыным бацькам, што Юзіку хочацца, каб Юлька, а не хто, падала яму на стол, каб прайшла да веснічкаў з ім, калі ён ідзе з хутара.

На хутары затрывожыліся. Усё болей трывожыліся пасля кожнай новай Юзікавай завітанкі. А потым бабуля сказала неспакойна самому Юзіку, што ён з унучкаю — «як з роўняю». Унучка рослая, а «яшчэ ж дзяўчо, дзіця яна. Ніякая няроўня». Юзік і нібы ўсміхнуўся, і нібы бліснуў вокам на бабулю. Ёкнула ў бабуліных грудзях. І ўжо не хаваючыся ад хутаранцаў, Юзік стараўся загаварыць і неяк непрыкметна чапануць дзяўчо, дачакацца, а не — і сказаць: «Прынясі... вазьмі...»

Прыехаў неяк на хутар і той свой — настаўнік, падпольшчык, што ўсё ведаў і ўжо за камісара ў ат-

радзе. Прысеў, пагаварылі; нарасказваў хутаранцам, што чуваць, дзе і як вайна ідзе.

— Што з гэтым вашым Юзікам? — спытаўся ў гаспадара.— Прырос, прыліп да хутара. Ці вы яго вельмі частуеце, што хоць кожны дзень гатовы ісці да вас? Ці стаў як вельмі родны? Усё патрэба нейкая. Нібы падмагаць вам. І просіцца, настойвае, схадзіць.

— Прывык. Ці ж, чалавеча, ліхотка яму была тут? Агледзелі й дагледзелі, абулі й апранулі. Ня горай, як свайго сына ці ўнука.

Замоўклі. Абодва чагосьці не сказалі. Настаўнік сам заўважыў, падказалі яму: Юзік у лагеры ходзіць азіраючыся, неспакойна.

— Каб вы, настаўнік, неяк яму падказалі... Брыдка... І як жыў у нас, то й тады язык яго не панаску хадзіў. А то прыйшоў надоечы падвыпіўшы, дык такія рэзаў словы, што за ўсе свае сто гадоў наш хутар не чуў такога. Нашто ж лаяцца й лаяць? Рэзне словам, то, здаецца, й бэлькі ў хаце трэскаюцца, здаецца, тынкоўка пасыплецца. А неяк выбегла карова з двара. Дзе мне, нездалёку старому, бегчы за ёю? Ідзе Юзік, а я: «Пераймі, загані ў двор». Схапіў ён хлудзіну, і так перацягнуў, так уцяў бедную скаціліну, што тая ўгнулася і раўнула. Гэтак цяў... Хіба ж яно, быдлё, вінаватая? За што? Рука здаровая. Ды, прабачце, валасатая.

Настаўнік пачуў, адчуў і здагадаўся: нечага не кажа яму стары чалавек, які — усе людцы на багата кіламетраў ад хутара ведаюць — не абгаварыў за жыццё нікога. А то... А ці не гэта самае «нечага не кажа» якраз і ўбачылася? На двор выскачыла дзядулева ўнучка, камісарава вучаніца Юлька. Не пазнаць яе. Цвіце, гатовая ляцець птушкаю, гатовая пайсці ў танок і так пайсці, што вачэй не адарвеш, пакуль не абарвецца музыка.

— Дзень добры, Юля,— адказаў на дзяўчынінa вітанне настаўнік.— А ты падрасла. Не бачыў з паўгода. Чытаць маеш?

Дзед спішана, каб чуў толькі настаўнік-камісар:

— Расьце, цьвіце, а душа баліць. Гэткім кручаным часам... То хапаюць і ў сьвет звозяць, то, глядзі, чорту якому нерагатаму ў вока ўпадзе. У большай маёй дачкі — дзве. Яна й хавала іх, яна й ад

дакторкі паперкі брала, што нездаровыя. А наляцелі, схапілі, ў тую Нямеччыну зьвезьлі. Ні слова, ні беднага пра іх. Час які... І ў студні не схаваясься.

Настаўнік злавіў з дзедавага тону, з дзедавых слоў: боль за дзвюх унучак, а тут неспакойна, трывожна за трэцюю. Гэтыя Юзікавы завітанкі. Нашто яны? І нашто ён тут?

Дзён праз колькі на хутар прыйшоў Юзік. Паголены і падпіты, ён прысеў за стол і, як заўсёды — з непрывычнага ў сям'і:

— Слухай, маць! А маць!

Паляпаў рукою, як цвёрдаю лапаю, па стале, кіўнуў галавою на шафку з посудам: старая здагадаецца.

— Не трэба вам, чалавеча. Недзе была ўжо ў вас чарка. А вы яшчэ. Гэта ж да немцаў як рукою кінуць. Мы на гары, а тады даліна, за ёю пяралесак, а за пяралескам яны стаяць на гары. З тае гары наша гара — не раўнуючы, як на стале. Пяты дзень ужо як сталі, хату ўкапалі, студню зрабілі за сьценамі з калодаў. З горкі бачаць двор наш і ўсё чысьцянька бачаць: хто ходзіць, што робім. Вазьміце з сабою — я загарну і ў торбачку складу. Забяраце, то ў зямлянцы самі пяракусіце й каму дасьце. Хай сабе скварка, вяндліна, слоік капусты, гуркоў, куханаў напяклі, то можна зь дзесяць, а не — хоць і ўсе. Гэта ж каб не было ў нас...

— А-а-а! — перабіў бабулю.

Крутануў, ірвануў. Панесла, паперла яго. Разгневанага, жорсткага. Такога Юзіка бабуля не бачыла яшчэ. Ці ўгаворыш? Ці ўпросіш?

Дзед здагадваўся: ці не настаўнік нешта казаў гэтаму? Сказаў — разумны ж, лю́дскі — добрае і на добрае. А гэты, падпіўшы, чортам засвістаў?

Юзік дамогся свайго, яшчэ выпіў. Асалавелі вочы. Сядзеў без слоў. І калі зусім збаранеў з твару, павольна ўзгробся з лавы. На хутары ён — ужо не Юзік. На імя, сказаў стары настаўніку, перасталі зваць.

— Юля! Юлю схавалі? Паслалі? Дзе? Кажы мне!

Юзік не тое, каб выйшаў, а няўклюдна выбавіў сваё клышаногае цела з хаты. На шырока растапыраных нагах, нібы здзічэлы, ён выйшаў на сярэдзі-

ну двара, валава́та павярнуўся, паўзіраўся мутнымі вачыма на гаспадыню. Потым марудна, як лапамі робата, змайстраванага яшчэ ў дваццатыя ці трыццатыя гады, зняў з пляча неслухмяную самазарадку, падняў яе, прыставіў да пляча і, нават не прыплюшчыўшы вока, бабахнуў раз і другі. Стрэліў туды, дзе стаялі, абнесеныя на добры метр ушыркі валам (два рады бёрнаў і пясок між бёрнаў) немцы, што спрытна і грунтоўна звілі гняздо дзеля засад, вывіжоўвання, нагляду, страху.

Учатырох — з намі і камісар-настаўнік — ехалі па дарозе недалёка ад хутара, калі пачулі тыя стрэлы. Кінуліся, пасаскоквалі з коней, прывязалі іх пад грушамі-дзічкамі (яны двума радамі асланялі сцежку-дарожку са шляху на хутар) і як стой апынуліся на двары. Юзік, раскірэчыўшыся, вешаў сабе на плячо самазарадку, але рэмень спаўзаў, вінтоўка скоўзвалася з пляча, яна нібы не хацела быць у нядобрага гаспадара, нібы цуралася яго. Камісар выхапіў з Юзікавых рук самазарадку, дужы і строгі камісараў ардынарац, нібы ўзяўшы на буксір, перад сабою пёр Юзіка з двара і абяцаў:

— Я табе настраляю! Смалы б ты напіўся!

Хвілін праз колькі пачулі: задудукаў з гарнізона станкач. Ні дзынкання звычайных, ні шпокання разрыўных куль не было. Або яны не даляталі, або кулямётчык адтуль яшчэ не прыстраляўся. А першы нямецкі снарад, прабіўшы дах і столь, разарваўся ў гэтай дарагой хаце дарагіх людзей. Мы кінуліся ратаваць старых, якія пасля Юзікавых стрэлаў паспяшаліся, як толькі маглі, у хату: паперы ж там, усё іх там! Ратаваць, за век свой не раз ратаваліся і ратавалі...

Я даў гэтыя радкі сябру. Ён прачытаў, падумаў, нешта хацеў сказаць. Але толькі паўтарыў вычытаныя ў адной маёй навеле:

— Пачвара яна, вайна. Пачвара, непатрэбніца.

Змоўк. Толькі хвіліны праз дзве спытаўся:

— Ну, а той дзе?

Ужо Няюзіку, яшчэ перад апошнім завітаннем на хутар, стала цесна ў партызанскім лагеры, стала боязна выйсці з партызанскай зямлянкі.

...Ён — адзін з трох, што ехалі на машыне, адступалі на ўсход у чэрвені тысяча дзевяцьсот сорак першага. Сам — за рулём, а побач, у цеснай кабіне, яшчэ два. Абодва параненыя. Прасілі піць, задыхаліся, стагналі цяжкім стогнам. Кіламетраў за пятнаццаць ад хутара-ратава́нца гэты самы спыніўся, вынес з машыны аднаго і другога параненага пад куст. Вынес і... развязаў сабе рукі, каб аднаму збочыць з дарогі.

І назаўсёды збочыў з жыццёвага лю́дскага шляху: прыхаваўся, пакінуўшы двух, пакінуўшы машыну. Пайшоў адзін. Каб непрыкметна. Каб ацалець. Каб толькі самому сабе. Ды быў здагнаны невядома якім і чыім снарадам. І ляжаў каля таго хутара-ратаванца то распластаны, то скурчаны, у прыдарожнай канаве, пакуль не ўбачылі яго людзі. Людзі не пакінулі, уратавалі.

Ды зноў здагнаны. Не ўцёк ад заробленага *самому сабе* лёсу, ад самому сабе «уготованной судьбы»,— гэтакі, што з валасатымі і ў рабацінні рукамі, з нядобрымі словамі, з жорсткаю і ліхою натураю. Яго паклікалі, забралі, але нядоўга ён быў з партызанамі; у атрадзе яму стала цесна, мулка, страшна: ішоў аднаго разу па ваду, сустрэў групу хлопцаў з суседняга атрада, ёкнула сэрца: адзін рыхтык той з двух, якіх вынес з машыны пад куст. Відаць, паратаваў вынесенага параненага нейкі хутаранец, або местачковец, або пасялковец.

Вочы сустрэліся, рукі не парукаліся.

Цесна, мулка, страшна. І кінуўся на той самы хутар, кінуўся на самагонку, пастраляў.

Уцёкаў больш не будзе. І не ад суджанага. Ад заробленага.

## «ДЫМІ»...

З самых школьных гадкоў мне чулася, як мілагучнае, прозвішча, што пісалася так, як і чытаецца: з мяккім пачаткам слова — Зьмітровіч! Мілагучнасць ці немілагучнасць — здаецца, тлума-

чыць не трэба. Я чую мілагучнасць гэтага слова не толькі ад пачатковага мяккага склада, мілагучнасць — ад саміх, веданых тады і ў памяці сёння, хлопцаў-сімпатыкаў Змітровічаў; адзін вывучыўся на добрага доктара, другі — на знаўцу машыны і машын, трэці — на спрытнага і дасведчанага настаўніка, чацвёрты — на пільнага лесніка, пяты — гаспадарны загадчык фермы... І хоць тая частка раёна, дзе з даўняй даўніны жывуць Змітровічы, не пры вялікай дарозе, не абмінуў я сёлета ўлетку Змітровічавых вёсак, з'ехаў з роўнага, як баскетбольная пляцоўка, асфальту і паехаў няроўнаю і пыльнаю (падсушылі сонца, вецер) селавою дарогай. На вёскі паглядзець, і хоць вокам кінуць на палі вакол тых вёсак, і, пашчасці, доля і выпадак, сустрэць кагосьці, з кім незабыўна пагаворыцца, ад каго пабагацееш, а можа каму і сам нешта скажаш: ці каму з тых, каго помню са школы, ці каму з іхніх дзяцей, унукаў. У кожны мой прыезд у гэты край на вочы трапляўся нехта і з тых, хто вучыўся, хадзіў у маіх студэнтах, экзамены здаваў.

Пры сажалцы, на беразе якой няма нават лазовага куста, будуецца хата. На нямецкі вугал, з пакоем — аж два шырокія акны! — на гары́шчы-столі. Падышоў. Ні цесляры, ні сталяры, ні пячнік-ляпіта не прынялі мяне як перашкоду: спыніліся ж, як чуў не раз у Мінску ад дзетак, «Жыгулікі», матор заглушаны, ад машыны ідзе чалавек. «Нешта ж ёсць!» «Нешта будзе?» «А мо правяральшчык-кантралёр які?» «Адкуль цэгла?» «Самі дошак напілавалі ці гатовых падвезлі?» «Плітка на печку? Даўно купілі?»

Мне пашанцавала. Пры будыніне хадзіў, старэйшы за ўсіх, мой знаёмы: разам вучыліся, разы тры ці чатыры пасля вайны бачыліся і пасядзелі; мы адразу пазналі адзін аднаго. Ён тут — сам гаспадар. То верадама ж: як пан-гаспадар стаў, то памагаты ці парабак сеў, як пан-гаспадар сеў, то памагаты ці парабак лёг, як гаспадар лёг... Усе — каб пачуць і разгледзець гэтага гарадскога на «Жыгулях». Ды гаспадар як толькі пазнаў мяне, пахваліўся перад усімі, што гэты гарадскі «на настаўнікаў вучыць і кніжку напісаў, купіў неяк у кнігарні».

Былы аднакашнік кажа мне «вялікі дзякуй і бальшоя спасіба за дачку» (завочна канчала інстытут і факультэт, на якім працую) і, не адводзячы мяне ад людзей «пашаптацца», дадае, што сёлета ўнук... «да цябе паедзе вучыцца, вучыўся лепей за мяне і за сыноў».

Гаварылася. Пазнаю: дачка гаспадарова. Падышла, павіталася, распытвалася, як вучацца сённяшнія студэнты; яны — не стрымалася — «сёння багатыя людзі, апраненыя не горш за выкладчыкаў, а ўлетку зарабляюць ці не больш за выкладчыкаў».

Сам бачу: прывёз перашкоду, стала праца. Але нікому нічога. Толькі гаспадар, ветліва запрасіўшы «на госці», рупіцца, непрыкметна пытаецца ў дачкі:

— Не бачыла Дымі?

— Не хачу я з гэтым вашым Дымі!.. І без Дымі абыдземся...

І, як кажуць, клюнула!.. «Дымі? Хто Дымі? Як гэта Дымі?»

Не чуў, не ведаў. Былі, ёсць на свеце Гюі, Кюі, Паганіні, Тасканіні, Міцубісі. А што за Дымі? Нібы «дым»?.. Нібы ад «дыму»?.. Ёсць рускае Дымов. Чуў і ведаў Дымовіча і Дымовічаў. Настаўніца называе яшчэ разы два і не скланяе таго Дымі, як і Місісіпі, што вычытаеш ці не ва ўсіх, ці амаль ва ўсіх беларускіх граматыках, у правілах арфаграфіі.

Асцерагаючыся, каб жа не навязаць свае ўвагі, не збіць натуральнасці ў размове, як бы не заўважыў таго «Дымі», хоць і яно, слова, і ён, невядомы, карцяць мне. Людзі пытаюцца нешта ў мяне. Пытаюцца і самі расказваюць. Я зірнуў на гадзіннік — адразу ўдвух:

— Куды спяшацца? Пагаварэ́мце.

Пячнік-ляпі́та, хударлявы і з дакладным вокам чалавек, вяртаецца да таго, з чаго амаль пачаў мой знаёмы:

— Акзамяны, кажаце. А нашто столькі іх? Паступая хто — пяць акзамянаў! Як на мой невучоны розум, то й прасьцей зрабіць... Пагавары з чалавекам, паглядзі на чалавека — відаць. І без пяці экзамянаў убачыць можна. Я толькі сёмы канчаў, сямігодку... То й самім нам, дзецям, відаць было, які хто. Ну, скажам, пусьці гусянятка на сьметнік — ня

грэ́бцімяцца. То, значыцца, не кураня. Пасадзі кураня пры самай вадзе — не паплыве, не кінулася плысьці, значыцца, й не гусяня, й не качаня... Дзядуля мой, было ў яго трынаццаць унукаў,— дык ён, як пасьміхаючыся, усім акзамяны даваў. Ляжа на печы (казаў: пагрэць старыя плечы), расказвае, а тады — акзамяны. Дасьць малаток і тонкі цьвік, а ты — хоць хто — забі ў столь. Зьбярэ трох. Відаць, які хто ўдача. Папасьмяёмся! І не забыліся, як у каго што выходзіла. Каму, катораму ўнуку, скажа, на што ён варты, што з яго выйдзе, а то — прамаўчыць. Задзёршы галаву, думаеце, вельмі заб'еш тоянькі ў столь? Ці ўсякі заб'е? Ня вельмі. Юзіку — лоўка ён забіваў — сказаў: «Рука й вока добрыя. Будзя толк». То ўгадаў. Мо й вы чыталі пра нашага Юзіка, Ёсіпа Тодаравага? А Грышку Тодараваму што? Табе, Грышка,— казаў,— хіба што за пісарчука, каб гатовая пярапісваць, а лепш, калі пры падводзя.

Та-ак. Забіць цвічок, ды яшчэ тоненькі, ды лежачы на спіне ці седзячы і задзёршы галаву,— экзамен! Цюк-цюк — і відаць. Трэба вока, і мера, і лоўкасць, трэба ўмець, як кажуць, мабілізаваць увагу.

Гаварылася і жартавалася.

Карцеў той Дымі, не выходзіў з галавы. Вельмі ж не на свойскі лад. І... намаляваўся.

Рагочучы, расказваў сам гаспадар:

— Наезьдзіўся і нашвэндаўся адзін іхні Зьмітровіч. Па гарадах, па мястэчках, па вёсках, па сёлах... Але вярнуўся. З гадамі сыскаўся, хоць пад старасць сыскаўся. Яму ўжо ня вельма пераяжджаяцца. Пярапісвалі ўсіх людзей, з савету прыходзіла сакратарка й бібліятэкарка. І ён ім: Не Зьмітровіч я. Я...» І сказаў неяк, бы ён з дыму... Сказаў: «Дымі...» Нарагаталіся: якраз мужчыння́ цэлая куча стаяла. І пайшло: ён не Змітровіч, ён Дымітровіч. Але прыдумалі карацей: «Дымі». Так і кажуць на яго: «Дымі прыходзіў»...

«У Дымі ані роду ані плоду»...

«Дымі сказаў»...

«Дымі сам свае штаны латае»...

## НЕ ПАВЕРЫЎ...

Выдавецтва. Адзін з яго адказных, але не сам гаспадар, спакойна сустрэў аўтара, сына май-го сябра з давайны; аўтараў прыход не выклікаў у таго адказнага ні радасці, ні засмучэння або незадавальнення. Спакойнае «Сядайце». Звычайнае «Што ў вас?»

Аўтар сказаў, што прыйшоў з рукапісам. Трымае яго пад пахаю. Адказны працягнуў руку. Сябар падаў адну і другую, не сказаць каб тоўстыя, але і не худзенькія, папкі. Не спяшаючыся і голасна той прачытаў надпіс на адной, потым на другой. Аўтар збіраўся і рыхтаваўся расказаць, што пасля І. Насовіча, Я. Ляцкага, М. Федароўскага беларускія прыказкі, фраземы, словы амаль не запісваліся і не выдаваліся, што гэта — як грэх; было яшчэ сёе-тое прадуманае і напагатове сказаць, але...

Трымаючы на левай далоні першую папку, на правай — другую, кіраўнік пачаў з нечаканых пытанняў, незразумелых і непатрэбных аўтару на той сустрэчы.

— Кандыдат?

Пытанне здзівіла, але аўтар не паддаўся здзіўленню. Сказаў:

— Так.

Спытаўся той, адкуль і калі аўтар ішоў у кандыдаты.

Быў адказ:

— З настаўнікаў і з вёскі. Пасля вайны.

Спакайней чым спакойна, не кладучы папак на стол, адказны выразна і не спяшаючыся пачаў:

— Вы адукаваны чалавек. Сам сабою пайшоў, напісаў дысертацыю, абараніў. Падумайце і паглядзіце: каму трэба як там недзе каваль у кузні, пастух на пасьбе, стораж на прызбе сказаў? Нашто друкаваць? Навука трэба! Навуковыя кніжкі! А гэта... Баба адна сказала... Другі нехта сказаў... Пастушкі на пашы казалі...

У гэтакага прасіць і прасіцца? Гэтакаму расказваць і даводзіць? Не. Аўтар працягнуў руку і сам узяў папкі. Нават не збіраючыся асэнсаваць таго, што і ад каго пачуў, зусім не лагодным тонам сказаў

6 Зак. 2103

(потым сіліўся ўспомніць: ці вычытанае або пачутае, ці такое, што самому ў галаву некалі або ў тую хвіліну прыйшло): «Аўтары кніжак і даследчыкі-збіральнікі гэтакага людскога і людскага перажывалі даўней, перажывуць і сёння, а здарыцца — і заўтра ўсякіх прывыдавецкіх невыдаўцоў. Шкада, што наткнуўся на...»

Развітацца ў кабінеце аўтару не было... з кім. А з кабінетам — не трэба. Кабінет жа сам сабою сляпы, глухі, без нервовай сістэмы.

Аўтару непрыемна было і з таго, што першы раз у жыцці ён так гаварыў з чалавекам; сказаў нібы з прысудам: «Ці вам пра кніжкі гаварыць?»

Выходзіў. Шкада рабілася самога сябе: «На якое ліха было нешта казаць яму, гэтакаму? Хіба лёгка будзе выдыхаць гэтакае?»

У скверы каля тэатра Янкі Купалы малады кніжнік чакаў мяне; назначаная хвіліна прайшла, а мяне не было, пазніўся. Добра і хвала богу, што чакалася — гэтак не заўсёды бывае — спакойна: едзе на Палессе, на Дакольку (здзівіла, неяк расказаў сябар, што далёкая ад Літвы беларуская рэчка Даколька мае літоўскае імя: дагіліс — шчыгол, шчыглік), надвор'е як трэба, мяккае і не вельмі парнае, з нязыркім сонцам. Аўтар хадзіў, спыняўся. І раптам адчуў: нехта як назірае ці сочыць за ім. Кінуў вокам у адзін-другі бок і пазнаў таго, каму ў выдавецтва прыносіў папкі, тыя дзве папкі, якія браліся ў кабінеце на рукі, чыталіся надпісы, а на тое, што ў папках, гэты пазнаны нават не зірнуў, нават папак не развязваў. Даваў тады нейкае тлумачэнне. Нібы не ў наш час. Нібы не ў родным сваім горадзе.

Той падышоў да сябра. З прабачэннем (аўтар яго не чакаў) пытаецца:

— Ці не вы гэта?

Назваў прозвішча. Зазіраючы ў вочы, адказны казаў, пытаўся з просьбаю:

— Я ўжо не там. Рашэнне было... Вы толькі адно мне скажыце, толькі праўду: дзе і каму расказвалі? Ці хадзілі пасля таго, як прыходзілі?.. Скажыце мне, прашу вас, толькі папраўдзе: вы жалаваліся?

Нібы сярпом па голым целе. Апрача ўсяго, не проста нялю́дская назола са словамі «праўду», «папраўдзе», «жалавацца». Ды з паўторам «толькі».

Гэта — на другой у жыцці, таксама зусім не патрэбнай, сустрэчы-размове. Аўтар спытаўся:

— Пра гэта можна было і лепей было б не гаварыць. Але... А як вам? Па-мужчынску?

І сказаў, што ні аднаму знаёмаму, нават і аднаму сябру не сказаў пра тыя дзве, што і не развязваліся ў кабінеце, папкі. Нікому не сказаў пра «Каму трэба?». Нават у сям'і. Не мог расказаць гэтакага дома.

«Адстаўлены» ці «выстаўлены» не верыў аўтару. Відаць было па вачах, чулася з яго пытанняў, што не толькі не верыў, а і не паверыць: не можа паверыць. Хоць на судзе, хоць на споведзі. Ведае сябе,— з гэтым жыў, жыве і, відаць, жыць збіраецца, хоць яму ўжо хіба толькі... дажываць.

«Адстаўлены» пайшоў сваёю дарогай.

Аўтар чакаў. Яго затрывожыла, хоць і небалюча, тая сустрэча ў выдавецтве...

Мабыць, сам лёс прыслаў іншую, лю́дскую сустрэчу з адным, а потым з другім чалавекам, і была ў аўтара надзея: кніжку надрукуюць, не будуць валаводаў валаводзіць і нават хораша зробяць.

Думалася другое. Тут, у скверы, аўтар сказаў усё як на духу; сапраўды нікому не расказваў: і як трымаліся папкі над шырозным голым сталом, і што гаварылася, і як гаварылася. А гэты непатрэбны ні на сёння, ні пасля «знаёмец» не паверыў, што нікому не «жалаваўся» і не жаліўся; «знаёмец» сказаў, што калі яго адстаўлялі з пасады, то гаварылі падобнымі на аўтаравы — тады ў кабінеце — словамі; бачылася, што гэты былы жыве «вераю»: няможна, калі толькі што здарылася, не пахадзіць па ўстановах і не паскардзіцца, не «высветліць», не «пажалавацца» і не пажаліцца. З такім набыткам і стылем дайшоў ён да сваёй — як на яго гады, на яго пасівелыя скроні, на яго сляды гадоў на твары — сталасці.

Абмінула жыццёвая навука верыць.

Засопшыся, я падбег з прабачэннем да маладога кніжніка.

Ён расказаў мне пра дзве сустрэчы...

6*

І — Даколька! Пяцёра нас. Спакусіў чатырох гэты самы аўтар.

Рух і шчыраванне. Не канкурэнцыя і не спаборніцтва, але і... каб клюнула. Каб не горш, як у каго з пяці.

Вечар надыходзіць. Налоўлена драбязы: плотачкі, яльчыкі, яжгіры, ляшчоўкі-пляскýшкі, або сухýшы, верхаводкі, ментузкі. На юшку. І яна згатаваная. Адзін з нас — каб пасярбаць гарачай, але чацвёра ўгаварылі: не псуй юшкі, астудзі, тады і язык, здаецца, пойдзе разам з юшкаю, тады — смаката.

Цішыню разарваў матор, цемру прарэзалі фары. Недалёка стала «Победа». З яе выйшаў... «Ці не ён? — усё адно як затрывожыўшыся, сказаў мне той самы наш кніжнік.— Ці не былы выдавец?» Аўтар узіраецца і пазнае: «Той самы». А гэты «той самы» выняў з машыны вуды, прыставіў да куста, лазіў разоў пяць у машыну, калупаўся ў багажніку...

Нам што? Сталі — стойце сабе.

Нам юшку астудзіць, і хлеба накроіць, і...

Сцямнела. Чулі: раз і другі нехта падкрадаўся да нас, але не падышоў, не прывітаў словам, не сказаў звычайнага, абавязковага ў рыбакоў, што начуюць пры вогнішчы, прывычнага жарту пра дым густы і кацялок пусты, не было кінь стрэльбу й вуду, кажа хлеб, то я ў цябе на стале буду... Чулі: нехта яшчэ раз падыходзіў. А ў нас — вячэра і ціхая гамана, кароценькія жарты, скупыя ўспаміны. І шкадаванне: нехта забыўся ўзяць макухі, нехта схапіў з шафы не муку, а крухмал...

Каля «Победы» было ціха.

Ноч брала сваё. Цішэла, спакайнела ў нас. Нехта ўжо і сказаў: «Каб не заспаць...» Вогнішча не пылала, толькі дамірґвала. Нашто яно? Цяплынь такая. І калі ўжо маладзейшыя зусім заціхлі, наш «рыбацкі староста», самы лоўкі, спрактыкаваны рыбак, крануў мяне за плячо: — Не спіцё? На «Победе» ці не хапáлы нейкія? Прыслухаймася.

Мы ўсталі ўдвух. Машыны не відаць. Не чуваць, каб хто каля яе хадзіў.

Падняліся і ўсе. Паварочвалі галовамі, прыслухоўваліся. Улавіў адзін:

— На вадзе. Не чуеце?

Яшчэ паслухалі і рушылі сваім немалым гуртам (пяць мужчын, няхай сабе і... паплавочнікаў) туды, дзе ціха, як павукі, снавалі тыя два з «Победы». Падышлі да рэчкі, без каманды разанулі цемру ліхтарамі. Абодва з «Победы» — на гумовых лодках і якраз выбіралі з вады трыгубіцу. У таго, што вымаў з машыны вуды,— у таго самага, што некалі трымаў на далонях папкі,— на каленях ляжаў ублытаны ў сетку лешч. Шырокі, як неначальнікава, папка.

Чацвёра не зводзілі ліхтарыкаў з лодак, лодачнікаў. Пяты двойчы слізгануў святлом па «Победе», убачыў перад маторам яе нумар, назваў яго так, каб чулі і тыя два.

Пяцёра нас — без калі ласка...— папрасілі іх, тых двух, каб разам з лодкамі, ляшчамі і трыгубіцамі плылі да нашага берага.

Летняя ноч як зайцаў хвост. Блізка світанне. Сну ўжо ні ў кога з нас няма, наўрад ці будзе.

— Як там у цябе ў тваіх «кайстрах»? — пытаюся ў кніжніка.— *Як* людзі кажуць пра таго, хто не паверыў і не паверыць?

— Злодзей жа няйме веры, што, не манячы і не крадучы, не пражывеш.

— Яшчэ неяк... Казаў жа мне аднойчы.

— Як? Злодзей веры не дасць, што не ўкрадзеш — не пражывеш, не абкруціш — цябе абкруцяць.

— Ну, а Хомка? Нам Хомку давай. Расказваў — я не забыўся — на Вяллí-Віліі.

Двое з нас у адно слова:

— Расказвай. Перабілі ж трубíлы гэтыя сон.

Чацвёрты:

— Трубíлы? Ну, брат, і баксануў! У нас — дык кажуць трубло́, трублы́. Жарэ сваё і не сваё, шмат і што папала, што толькі трапіцца...

Успомнілася, расказвалася пра «не паверыць», пра словы і пра тое, што за словамі, што з імі — са словамі. Было і пра Хомку: Які Хомка, такая жонка; Як Хомка, так і жонка; І Хомка, й жонка — абоя рабоя: мянушка-ацэнка Хомку-няверніку. Няма ў жывой мове ні «Хамы, які не верыць» або «Фамы,

які не верыць»; няма ні Хамы, ні Фамы, «якія няверны», ні Хамы, ні Фамы «няверуючага» — гэтакага перакладзенага ці... «перакрадзенага» з царкоўнаславянскай.

Прыгадвалася евангельская легенда. Апостал Хама не паверыў, калі пачуў пра Хрыста, пра яго раны і здзекі з яго. Хама... На Беларусі, дарэчы, побач з імем Хама было даўно і нядаўна, ёсць і сёння Тамаш; тое самае: што Хама, што Фама, што Тамаш. Ад Тамаша і прозвішчы: Тамашэвіч, Тамашэўскі, Тамашкевіч, Тамашук, Тамашык. Хама той, з евангельскай легенды, не хацеў, не мог паверыць і не паверыў, а сказаў: пакуль сам не ўбачыць Хрыстовых ран, не памацае іх сваімі пальцамі, не дасць веры, як бы яму і што яму ні казалі б. Ацэнка Хамы — на царкоўнаславянскай мове — не памерла. Засталося ў рускай Фома неверующий. Біблія — як мана́, але з яе засталіся Юда — здраднік, прадажнік; срэбранікі — плата за здраду, горкая асіна, што назаўсёды вінаватая, таму, не сціхаючы, калышацца ліст на ёй. І няверпік — або тое самае! — Хомка-няверпік. Хіба толькі аднаслоўнае *нявернік* — прасцейшае, карацейшае, зручнейшае.

Наш пяты, сам «рыбацкі старо́ста»:

— Расказваеш. А каб напісаў у кнізе? Каб ведаў не толькі ты? Гэта не якое там прыдумлянне!

І ўсе падняліся сустрэць яшчэ адзін чысты світанак, яшчэ адзін чысты ўсход сонца.

## «ВЕЛЬМІ НАВАТ...»

У канверце — два лісткі. На адным — надрукаваны тэкст. На другім — неспакойна, але хораша і далікатна выказаная і напісаная (літарка ў літарку) просьба да кафедры беларускага мовазнаўства. Просьба сказаць слова: настаўніку прапанавала яго «школьнае начальства» напісаць пераказ «вельмі добрага выхаваўчага тэксту», а ён, настаўнік, пакуль што «не прыняў падказкі, парады».

Вось ён, тэкст, без паправак:

БЕЛЫ БУСЕЛ

Белы бусел — маўклівая птушка. Ён можа толькі ціха сіпець. Адыдзеш убок, і ўжо нічога не чуеш. І тым не менш у вёсках, дзе на дахах дамоў пасяліліся буслы, іх вельмі нават чуваць. Будучы практычна безгалосыя, птушкі кампенсуюць гэты недахоп з дапамогай сваёй дзюбы. Выгібаючы шыю назад, падцягваючы галаву амаль да самай спіны, а потым зноў выпростваючы шыю, яны выдаюць хуткае сухое трашчанне, чутнае на ўсю вёску.

Месцамі існуе павер'е, што калі буслу перашкодзіць гняздзіцца на даху дома, птушка можа «адпомсціць» гаспадару: яна быццам бы прыносіць у дзюбе галавешку і падпальвае дах дома. На самай справе ўсё адбываецца, відаць, вось як. У гнёздах буслоў не так ужо рэдка можна знайсці абвугленыя пруткі, кавалачкі напаўспаленых сучкоў і трэсак. Усё гэта птушка падбірае на лузе, дзе рыбакі або пастухі распальваюць касцёр. Калі галавешка не зусім пагасла, агонь можа быць раздзьмуты на гняздзе ветрам. Вось і атрымліваецца, што бусел падпальвае сваё гняздо.

Класік напісаў гэту старонку? Пачатковец? Я не адкажу. Бо не трэба. Не дзеля сакрэту, не дзеля таямніцы. Каб ні імя, ні гонар, ні ганараванне не перашкаджалі і не перашкодзілі чытачу, як і мне, прачытаць надрукаванае ў беларускай газеце.

Казаць пра ўвесь тэкст? Не. Лепей, відаць, узяць сказ за сказам.

Выпісваю — па чарзе — і пытаюся ў аўтара (можа — у перакладчыка?), у самога сябе, у чытача.

Сказ першы: «Белы бусел — *маўклівая* птушка». (Тут і далей графічнае выдзяленне слоў маё.— *Ф. Я.*)

Калі мы — равеснікі мае і я — чулі бусла, то спявалі ці дэкламавалі хорам-чародкаю:

Бусел — *клекатýн*,
Узяў бабу (бусліху — *Ф. Я.*) за каўтýн.

Спяваў ці раз за лета і кожны з нас. Сольна:

Бусел — *клекатун,*
Узяў бабу за каўтун...

Спявалі ці дэкламавалі:

Бусел клé — кле,
Твая маці ў пекле...

Спявалі ці дэкламавалі:

Бусел, бусел —
*Клекатун.*
А чаму ты
*Не маўчун?*

Сталыя вяскоўцы спявалі з журбою: бусел клякоча (клéкча) іншы раз з вечара, а то і сярод ночкі:

— Чаго, бусліку, клякó-очаш?
— Ці ты спатачкі ня хó-очаш?
— Ці мо дзеткам трýдна?
— Ці самому нýдна?

Ці чуў *самога* бусла *сам* аўтар «Белага бусла»?

Другі сказ. «Ён можа толькі сіпець».

«Толькі сіпець»? Ды можа *не толькі* сіпець. Часам нават ночкаю клякоча-клéкча, выштукоўвае сваё «кле-кле».

Трэці сказ: «Адыдзеш убок і ўжо нічога не чуеш».

Бусел не на адзіноце. Бусел на дрэве, на будынку. А побач — дрэвы, дрэўцы, будынкі, гароды, сады, палі... І шпакі, і жаўранкі, і сітаўкі-пліскі, і зязюлькі... У самой буслянцы дзесяткі верабейкаў-«кватарантаў». Недалёка і бусел на суседняй буслянцы. І не-не — яго, *буслава,* клекатанне.

Сказ чацвёрты: «І тым не менш у вёсках, дзе на дахах дамоў пасяліліся буслы, іх *вельмі нават* чуваць».

Бусел «пасяліўся». На цаліну прыехаў? Можа і наваселле справіў? Можа і ўлазіны «прымачы́ў»?

«Нятое» ў замалёўцы «пасяліўся».

У тым самым сказе чытаем: *«нават вельмі».* Абодва словы беларускія? Абодва. Абодва ўжывальныя,

жывыя, зразумелыя. Але ці добра пры *«тым не менш» — «вельмі нават»* (чуваць)?

Яшчэ: па-беларуску *хата* відаць, *песня* чуваць, *яны* чуваць, *яны* відаць. А тут — «іх чуваць»...

Сказ пяты: «Будучы практычна безгалосыя, птушкі кампенсуюць гэты недахоп з дапамогай сваёй дзюбы».

Не будзем вяртацца да «безгалосасці». Другое тут, а то і трэцяе, чацвёртае...

А ці мала ў жывёльным, птушыным свеце безгалосых? То — з недахопамі?

А *«практычна безгалосыя»* (птушкі)?

*А «будучы практычна* безгалосыя»?

А гэта *«кампенсацыя* недахопу» «з *дапамогай дзюбы»*? Тады і «рохкае з дапамогаю лыча? Тады і «бляе з дапамогаю языка»? Тады іграе вальс Штраўса «з дапамогай сваёй скрыпкі»?..

Зразумелае, відавочнае — і цёмнае з «дапамогамі».

Не выпісваю ўсяго чарговага сказа: доўгі ён. Выпішу толькі «Яны (буслы) выдаюць хуткае *сухое трашчанне». «Выдаванне»*? Што гэта? Якое «трашчанне»? У аўтара яно «сухое»... Няўжо аўтар (перакладчык?) не чуў мілай песні нашай дарагой Канстанцыі, яе «Люблю наш край...»:

Буслоў на гнёздах *клекатанне*
І спеў жаўраначка люблю...

Не трэба, мабыць, выдавання, не трэба, мабыць, буславага ні сухога, ні іншага трашчання.

Аж стаміла мяне чытанне, хоць і кароткай, публікацыі. Назаву яшчэ толькі сёе-тое: «месцамі існуе (павер'е)», «у гнёздах буслоў» (у *буслянках* жа! у *буславых гнёздах*!), «не так ужо рэдка можна знайсці», «*напаўспаленыя* (сучкі, трэскі)», «*распальваць* касцёр», «*агонь можа быць* раздзьмуты»...

Не пацешуся і з бусла на маёй радзіме — на маёй Кляценшчыне. Былі там ажно тры буслянкі: дзве на правым беразе ракі, адна — на левым, і адляталі штовосень у вырай тры *буславы* сям'і. Сёння ў Клетным няма і аднае буслянкі. Мне расказвалі, аднойчы

сам убачыў: кіламетры за два ад вёскі хадзіў па чорна-карычневым і сухім, як порах, тарфянішчы адзінокі бусел. Маўклівы. Адзін. З неадзінокіх і з немаўклівых.

І што скажаш настаўніку?

## А ЦІ БУДЗЕ КАМУ?

Іду паўз Дом кнігі на Машэраўскім праспекце. Насустрач шалыга́е, рашуча трымае курс на гэты Дом добра апранены яшчэ нядаўні студэнт.

— Дзень добры! — прывітаў словам, сунуў руку і адразу ж:

— Іду ваяваць. Наступаць буду! Здаў кніжку, нарысы. Трынаццаць аркушаў. То само выдавецкае начальства, то рэцэнзент знайшоўся... То яшчэ нейкай халеры шукалі... І не выдаюць.

Я не маю чаго сказаць: не ведаю кніжкі, мала ведаю яе аўтара. Ён не пытаецца ў мяне нічога, а дадае:

— Іду. Не я буду — выдадуць!

І зноў не чакае майго слова. Ды яго і няма ў мяне... Дый няма як яго ўставіць: сам гаворыць, сам наступае, размахвае рукамі.

— Не вырвеш — не зробіш. А напісаў — то й выдадуць.

Што ні старонкі рукапіснай, ні старонкі надрукаванай гэтага недавыхаванца не чытаў і не бачыў, мабыць, не страта. Толькі неспакойна зрабілася мне: адкуль столькі рашучасці, права наступаць, вырываць?

Нарысіст крутнуўся неяк нібы на пятачку. І пайшоў у шырока расчыненыя дзверы Дома кнігі.

...Як добра, што такія шырокія і высокія дзверы ў Доме кнігі. Добра, што так шырока яны расчыняюцца. На́пята, як кажуць на беларускім сярэднім Прыдняпроўі. А ці будзе каму за тымі шырокімі дзвярыма расказаць, паказаць, што пачынаць трэба не з вырывання?

## НА АДПАЧЫНКУ

Добрая неспадзяванка: першы, каго ўбачыў я каля санаторыя, быў мой аднакашнік, разам вучыліся, разам гадоў за сорак таму назад пачыналі на хлеб зарабляць. Як толькі сустрэліся, ён расказаў, што прыехаў на тры дні раней за мяне і таксама быў прыемна ўражаны: ён сустрэў, выйшаўшы з аўтобуса, свайго былога студэнта (гадоў яму трыццаць пяць); вучыўся хлопец ахвотна, цяпер — намеснік дырэктара; усе тры дні ўважлівы да свайго настаўніка, карэктны, далікатны; з ім — яго прыветлівая маладзіца; так што ўтраіх за адным сталом снедаюць, палуднуюць, вячэраюць (падвячоркаваць пагадзіліся не хадзіць), утраіх гуляюць уранку, і ўдзень, і ўвечары.

Дні выдаліся такія, якіх на адпачынку чакаюць усе людзі: сонца, цяплынь, мяккія ночы. Купайся ў возеры хоць цэлыя суткі; можна абветрыцца, падсмажвацца і рудзець (або, як кажуць, загараць) — нібы ў Ялце.

Але так было нядоўга. Вецер і хмары нібы прагналі сонца; ночкі чатыры запар ішоў роўны дождж, цёплы і густы, не раз дружна прыпускаў ён удзень. І добра нагрэтая зямля быццам высыпала з сябе незлічоныя чароды лісічак і маслякоў, сыраежак і ваўнянак. Заварушыліся санаторнікі. Хто збірае грыбы і з нізкім паклонам нясе іх самому кухару, хто, налоўчаны, узяўся сушыць або смажыць і «заціскаць» у слоікі. Бачыць гэта мой аднакашнік і шкадуе: збіраў бы грыбкі, спрыт на гэта мае, але што і куды з імі? Кухары ўжо сталі адмахвацца ад грыбовікаў: грыбы грыбамі, а ў кухара — меню, рацыён.

Сябар, калі сустрэліся перад снеданнем, успомніў свайго вучня з жонкаю. Яна як яна, а ён — сам казаў — любіць хадзіць па лясных дарогах дожджыкам, у сырое надвор'е. І хадзіў бы. Толькі шкада адзення і абутку: усё новае і нятаннае. А калі селі за стол снедаць, сябраў былы студэнт, нібы раячыся, нібы калегіяльна, пачынае разважаць, але адразу вырашае проста і катэгарычна:

— Падумаем і вырашым. Снедаю — і званю. Званю загадчыку канцылярыі. З месяц як для нашай

спартыўнай моладзі прывезлі ў склад новыя касцюмы, здаецца, імпартныя, добрыя і прыгожыя, памеры ўсялякія. Мне трэба пяцьдзесят другі размер і чацвёрты рост. Табе, жоначка, сорак восьмы і трэці. Кеды ў складзе ёсць, з паўсотні пар неабуваных; дзве,— звяртаючыся да жонкі,— на нашу з табою долю. Што ж бы яшчэ? Падказвайце, каб не забыцца... «Волга» ж будзе ісці. Што, скажы...

— Як што? — перабіла жонка.— А калі гэты самы загадчык раззвоніць, вынесуць на людскія языкі, то што тады? Давай так: купім білеты, пад'едзем самі дахаты,— другі ж тыдзень у нашу кватэру і муха не залятала, кватэра адна, без нікога. Ёсць у нас кеды, ёсць у нас свае касцюмы і тапачкі-балéткі на гімнастыку хадзіць. Свае ж. Жывём,— звяртаючыся да мужавага настаўніка,— пакуль што ўдвух, самі сабою.

— Сваё? Дзівачка. Але добра, што падказала: няхай прывязуць балеткі, на гімнастыку хадзіць... Званю!

Неўзабаве адной раніцаю да намесніка прыносілася са службы «Волга».

Больш я ні разу не бачыў, каб ішлі трое: настаўнік і былы яго студэнт — сённяшні дырэктараў намеснік — з жонкаю. Настаўнік снедаў, палуднаваў, вячэраў за іншым сталом.

Стройныя і энергічныя намеснік і намеснічыха хадзілі па дарожках і сцежках у новых элегантных спартыўных касцюмах і прыгожых кедах. Намеснік колькі дзён не зрываў нашытай на світэры яркай этыкеткі беларускай трыкатажнай фабрыкі. Ці не па нейкі выйгрышны паказ: «Сваё, наша, а не якое прывознае!»?

## СУСТРЭЧЫ

Я ведаў яго, прыносіў яму разы тры падпісаць паперы. Але гэта — такое звычайнае, як вітацца з любым знаёмым, як насіць шапку ў мокрую восень, а пальчаткі ці рукавіцы ўзімку.

Ды потым былі іншыя сустрэчы. Ад іх, гэтых сустрэч, я не пабагацеў, не падужэў. Але ў дзённік мой яны трапілі, жывеш жа сярод людзей, з людзьмі; бываюць цуды на свеце — запішы; бываюць і здарэнні, справы, як кажуць, дзівосы на смецці...— часам і гэтакае запішы.

На сходзе разбіралі Чырняева. Яго слухалі, у яго пыталіся. Пацiскалі плячыма. Служыў ва ўстанове, ужо немалады, але двойчы ці тройчы ездзіў на курорт з сакратаркай установы, ездзіў «курорціць» тайком, хаваючыся. Установе ўжо ён, Чырняеў, непатрэбны, яго панізілі, перавялі. Сход пачуў, даведаўся: «па дарозе» ў гэту новую ўстанову ён пакінуў жонку. Рванула нервы сходу чырняеўскае «набыў новую сям'ю». Суседка, што сядзела побач са мною, за адным сталом, не сцярпела: «Людзі кажуць, што жонка — не рукаво, не адпораш. А тут...» — І дадала: «То ж людзі кажуць».

На тым сходзе я ўбачыў Чырняева не за шырокім сталом і не пры двух тэлефонах. Не такога важнога, а неяк паменшалага. Такога, які, здаецца, ужо будзе ўсяго толькі дажываць.

Была сустрэча далекавата ад сталіцы, у невялікім мястэчку над Бярозаю — Шацілкавічы. Ехаў я праз гэта мястэчка, убачыў кніжны кіёск і спыніўся. Купляў кніжку. З-за кіёска нібы вышмыгнулі дзве постаці разам; адначасова пачулася «добры дзень!» і «дзень добры!». Два настаўнікі, абодва мае былыя студэнты, вучаць дзяцей тут, у Шацілкавічах.

— А трэці? Чаму без яго? — знянацку, як і ўспомніў таго трэцяга, спытаўся я ў хлопцаў.

— О! Пайшоў! Падаўся далей. Мы ўжо дзетак — па сынку! — гадуем. Прыраслі ці не назаўсёды, а Юзік, вы ж памятаеце, кніжнік і пакуль яшчэ сам сабою, адзін. Дысертацыю канчае, пісаць пачаў яшчэ тут, у нашых Шацілкавічах.

Небагата было маіх пытанняў, як жывецца хлопцам, і хлопцавых, як жывецца мне. Амаль адразу перайшлі да таго новага ў школе, што замяніў іхняга трэцяга, ужо дысертанта. Прыехаў на Юзікава месца

новы — Чырняеў. Прачуў ён, гэты самы, што Юзік едзе дапісваць дысертацыю, і прыехаў. Прыехаў разам з нейчым званком ці адразу пасля нейчага званка, стаў намеснікам дырэктара школы; пайшла чутка (ці не сам ён, новы, пусціў?), што яго, мабыць, дырэктарам зробяць. Узяўся ён расказваць, каб адразу ж ведалі яго: зробіць шмат што новае, чаго не было ў школе. Ходзіць (праз тыдзень заняткі ў школе пачынаюцца), распытвае, расказвае, «падказвае» і падбівае бацькоў: «Не трэба дзецям столькі навук і прадметаў. Дайце заяўку, і зменшу на цэлы прадмет ці два, мо ў якім класе на тры, у якім на чатыры ўрокі на тыдні меней будзе, і экзаменаў дзіцяці на адзін меней. Авантурызм? Ды гэта ж якраз Юзікаў прадмет, нашага Юзіка! Прадмет, што сем год, як і сам Юзік, быў сумленнем школы. («Можна,— кажа гэты негадзівец,— сёння жыць без слоў хата і свята, без збажыны і гаю, без сенажаці і бусла, без гэтых і шмат якіх слоў могуць жыць дзеці на свеце».)

Назвалі прозвішча, расказалі, які ён з выгляду. Той самы Чырняеў.

Хлопцам балела, ім хацелася паказаць мне Чырняева тут, на нізе, у далёкім ад сталіцы мястэчку. Толькі навошта ён мне?

Была потым сустрэча з Чырняевым зноў у Мінску, каля паштамта. Учатырох мы, калегі, ішлі з працы і амаль сутыкнуліся на рагу праспекта і вуліцы Валадарскага: з набітаю нечым сеткаю і з нямала цяганым і валочаным, некалі дарагім партфелем ішоў Чырняеў, а побач — жанчына, маладзейшая за яго, досыць стройная, з дагледжанымі валасамі. Мы не перайшлі ім дарогі, і выйшла так, што ішлі следам за гэтаю ці то знаёмаю, ці незнаёмаю параю. Ішлі паціху, вялі сваю гутарку, хоць і ўспаміналі, хто ён; не абышлося і без таго, што нехта з нас кінуў, як ішоў Чырняеў па службе з прыступкі на прыступку ўніз. Каля кнігарні «Падпісныя выданні», дзе тратуар прыкметна шырэйшы і вальнейшы ад людзей, мімаволі прыцішылі хаду: мы бачылі, што адставаў Чырняеў ад маладзіцы. Ішоў неяк дрыпаючы, няроўным і аслабленым крокам. У клубах Чырняеў нібы пашырэў, а плечы яго павузелі,

заваструлiся. Маладзіца — на нашых вачах — павярнулася і, вырачаўшыся на Чырняева, кінула:

— Валачыся!

Чырняеў тэпаў, даганяючы жонку. Некалі вазіў жа (тады — каханку), хаваючыся ад жонкі і сыноў, ад калег-службоўцаў, на курорты, курорціў.

Чырняеў адыходзіў ад нас і ад таго будынка, дзе ён яшчэ год восем-дзесяць назад сядзеў у кабінеце, калі плечы былі яшчэ шырокія. Чырняеў адыходзіў ад установы, адыходзіў ад нас. Адыходзіў, бачылася, гэты непатрэбнік і ад Шацілкавіцкай школы, дзе і дагэтуль настаўнічаюць мае хлопцы.

## МАЕ ЎЖО ЎСЕ ПРАЙШЛІ

У невялічкім мястэчку жывуць два вельмі падобныя адзін да аднаго мужчыны. Абодва простыя і, як кажуць, прыстойныя. У кожнага свая служба. Адзін — настаўнік, другі — доктар.

Першы, настаўнік, сабраўся ў дарогу, выйшаў на вуліцу, зірнуў налева, зірнуў направа. Бачыць: справа едзе фурманка, на возе сядзіць толькі адзін чалавек, знаёмы з твару местачковец. Не спыняючы каня, местачковец спытаўся:

— Вы на станцыю? На аўтобус?

Настаўнік не паспеў нават павярнуць да фурманкі, як дзядзька, другі раз зірнуўшы на настаўніка, мурукнуў сабе самому... Настаўнік... пачуў апошнія словы:

— То ня доктар. Мае ўжо ўсе прайшлі школу...

Настаўнік застаўся.

Дзядзька — ніякі не просты, а грунтоўна і ці не назаўсёды прыпісаваны чалавек; ён нокнуў на каня, быццам настаўніка тут і не было. Паехаў.

## СКАЖА — НЕ АДКАЖА

— Гразь-гразь, чаму ты не гарыш?
Яна маўчыць. А скажа — не адкажа.
— Ну, чаму яна не гарыць?
— Яна б гарэла, каб не карэла. Яна скарэла.

## «ЛАЗАРА ПЯЯЦЬ»

Улетку тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года групка партызанскіх разведчыкаў ішла на заданне з-пад Мінска на Случчыну. Мела тая разведка адказныя клопаты і задачы, якія ведалі толькі самі разведчыкі ды тыя, хто пасылаў іх.

Збіраючыся ісці на слуцкую бязлесіцу, хлопцы яшчэ пад Мінскам думалі, прыкідвалі, як рабіць перадышкі, як дняваць — давядзецца ж! — не толькі ў лесе. Вакол Слуцка, на Случчыне, палі́ і палі́. Ночы кароткія, то ад змяркання да світання не вельмі пройдзеш. Пракіда́юцца рэдкія хмызнякі, трапляюцца забалочаныя і з лазою на берагах невялікія пе́лі. Ды гэтыя хмызнякі і пелі не прытулак, у іх ці не горш, чым на полі ў збажыне,— жыта на слуцкіх прасторах заўсёды, у любы год — сцяна сцяною.

Кожны разведчык мае свой, на сябе, запас вады, хлеба, сала, цыбулі. На асцярожнасць і руплівасць разведчыкаў не вучы́ць; адзін — ён за камандзіра — ужо двойчы прайшоў з-пад Мінска пад Слуцк і за Слуцк, абодва разы лёгка і, як трэба, добра схадзілася.

Немцы і ўласаўцы, што амаль не азіраючыся ездзяць па гэтым чыстаполлі і пастрэльваюць удзень і ўночы, нават не падумаюць, што не дзесьці далёка ў лесе, а побач, на раўніне ў пашні́ (гэтак называюць тут засеяныя збожжам палеткі), да самага змяркання будуць мець перадышку партызанскія разведчыкі. Хлопцы нават паўтарылі самі сабе: жыта толькі адкрасоўвае, яшчэ ані не схілілася, палоць ні жыта

лі пшаніцы не трэба, то ніякай працы на пшанічным і жытнёвым полі няма.

І сярод жыта, такога, што барану прыста́ў — не абва́ліць, раніца спыніла разведчыкаў.

Два на варце — два спяць; хто з двух — ціхенька, як дзеці, а хто — храпе, нібы карчы дзярэ. Гэтакага — будзіць! Бо тым двум, якія не спяць, здаецца, што храп могуць пачуць не толькі ў досыць блізкай вёсцы з дзіўнаю і загадкаваю назваю Гушкавічы, мо і далей, у суседніх вёсках, на дарозе, па якой едуць нямецкія машыны, снуюць на шырокіх і высокіх фу́рах, як хатах, нямецкія тылавікі.

Марудна цягнуўся дзень. Разведчыкі — было ж калі! — выспаліся і наляжаліся, з'елі выдзеленае на дзень і нагаварыліся. Ні адна душа не пацешыла разведчыкаў і не насцярожыла,— за доўгі дзень ніхто каля іх не праходзіў. А калі знізілася сонца і звярнула, кажуць на Случчыне, на вечар, пачулі: нехта бяжыць; ляжыш на зямлі — лепей чуваць. Тухканне набліжалася, потым прыціхла. Пачулася няхітрая песенька на матыў танца, які на Беларусі называюць дзе — «Лысы», дзе — «Падыспанец», дзе — «Падыспан», дзе — «Аспань»: А чаму ж я лысы, лысенькі застаўся? А таму што...

Разораю ішоў хлопец. Разведчыкам — не варухніся. Каб не спалохаць. Каб, знянацку ўбачыўшы незнаёмых людзей са зброяй, не кінуўся ўцякаць, не нарабіў гвалту. Абышлося як трэба. Праўда, першыя хвіліны сустрэчы і размовы хлопцу было неспакойна: нечакана ўбачыў незнаёмых чатырох з аўтаматамі.

Ішоў ён, каб нанач згарнуць пракосы, скласці падсушаную траву ў копы; учора бацька скасіў пелькругловіну на цэлы воз сена, уночы можа пайсці дождж.

Разведчыкі распытваліся ў хлопца, хто і чый ён, куды паслалі яго і чаго. Асмялелы і жвавы, ён ахвотна пайшоў на расказванне: пра сваю вёску Гушкавічы, пра тое, дзе яшчэ паблізу, акапаўшыся, усю вайну стаяць немцы; пра вечарынкі і пра самагонку, «яна трэба й адкупляцца ад га́да якога». Расказваў і лічыў, «колькі тут перакруцілася ўсякіх»: былі немцы, аўстрыйцы, іспанцы, «былі шчэ й шчэ нейкія». Былі паліцаі, і стаяла рота «гэтых самых уласаўцаў,

што паміж сабою грызліся, як сабакі». Апошнім часам — «за трыццаць немцаў, з дзесяць паліцаяў, узвод уласаўцаў. А ўчора афіцэры пазганялі ўсіх у машыны, і ўсіх некуды павезлі. Засталося мо з дваццаць. Пеканýць бы ім самы раз».

Пыталіся разведчыкі, колькі хлопцаў у вёсцы, колькі з іх і куды пайшлі, колькі звезлі ў Германію, хто ў лясных салдатах, хто «на прытворных дакументах хварэе», каб не пагналі акопаў капаць; дзе гуляюць вечарынкі...

Хлопец («Я ж першы раз партызанаў сустрэў!») расказваў, стараўся. Расказваў, а мы бачылі: ён вельмі лю́дскі з людзьмі. Толькі з адным гушкаўцам была якаясьці нечака́нка,— пра яго хлопец пачаў з іншаю, нібы не сваёю меркаю. І разведчыкаў зацікавіў той, што нібы птушка не з гушкаўскага, а з ліха ведае якога гняздзечка.

— Лішка завецца. Вучыўся добра, але вельмі круціўся каля дырэктара, каля настаўнікаў, лічыў, што ён лепшы і разумнейшы ў школе над усімі хлопцамі і дзевачка́мі. Перад вайною казалі, што сталіцу перабяруць з Мінска ў Магілёў. Лішка, як толькі прачуў, вершык напісаў: «Зарудуем Магілёў, набудуем шмат дамоў...» Адзін смех той вершык. Хіба вершык?

Юнак расказваў:

— Ужо з месяц будзе, як да нас у Гушкавічы прыязджалі нейкія на машыне, але не германцы й не ўласаўцы, цывільныя. Пахадзілі, на могілкі зайшлі. Адзін з наезджых пазнаў Лішку — знекуль ведаліся ж. Стаў той з Лішкам збоку, гаварылі. Старасту да іх прывялі. А паехалі тыя — адразу пачула вёска: капліцу хочуць паставіць (царкву няма за што), у капліцы — звон на званіцы. Дзён праз колькі зноў нейкія прыехалі. Пазвалі Лішку й старасту. Стаяць на вуліцы. Тады адзін прыезджы, нетутэйшы ўзяў лісток і чытаў. Ці не Лішкавае: «Змайструем капліцу, паставім званіцу».

Хлопец недачытаў «вершыка», бо разведчык, што быў на варце, пада́ў знак змоўкнуць: нехта другі падыходзіў да хлопцаў тою самаю сцежкаю-разораю, якою нядаўна прыйшоў юнак, што гаворыць з разведчыкамі.

Двум разведчыкам і юнаку сказалі адпаўзці і не варушыцца, чакаць. А той, што набліжаўся, павярнуў направа і пайшоў другою сцежкаю. Разведчыкі, упэўненыя, што чалавек іх не ўбачыў, не сталі спыняць яго. Няхай ідзе сабе. Гаваркі і шчыры хлопец, калі яму сказалі крыху падняцца і, не вытыркаючыся, пазнаць, хто прайшоў блізка, зірнуў і ўсміхнуўся:

— Той самы Лішка. Хлопцы нашы жартуюць і шуткуюць з яго вершыкаў. Кажуць: «Лішка лазара пяе». У нас жывуць бежанцы, сям'я цэлая з-за Магілёва аднекуль. Там як прыжарылі нашы немцам — тыя адступілі, людзей з сабою прыгналі. Дык ёсць у прыгнанай бежанцавай сям'і хлопец Пятрук. І кажа Пятрук: «Грышка-Лішка лазара пяець». Не пяе, а пяець.

— А што за Грышка-Лішка?

— У Петрука ў таго, з-за Магілёва, быў сусед Грышка. Акурат на Лішку падобны. І пайшло. Усе давай казаць: «Лішка-Грышка лазара пяець».

— А куды, думаеш, ён ішоў?

— Сцежкаю на хутар,— сказаў і паказаў рукою.— Малако на хутар носіць. У хутаранскіх, сваякі яго, каровы няма.

Разведчыкі падняліся, каб ісці ў свой бок, хлопец — у свой, дахаты.

Праз пяць дзён разведчыкі зноў былі недалёка ад Гушкавіч, днявалі на той самай падслуцкай роўнядзі, але на другой мясціне, недалёка ад пелі-кругловіны з кустоўем на яе берагах і на яе куп'істай сярэдзіне.

Трэба ж было: партызаны ўбачылі таго хлопца, які тады прайшоў каля іх без слова.

Яго чорна-сінія, як смоль, валасы і смуглявы з бляскам твар выманьвалі пытанне:

— Ты з Гушкавіч?

— З Гушкавіч.

— А родам?

— І родам.

— А бацькі?

— І бацькі гушкаўскія.

Пра вёску, пра людзей хлопцы ведалі сёе-тое з ранейшай сустрэчы ў жыце. Распытвалі і сёння. Трэба і распытаць, і паказаць, што яны, разведчыкі, ве-

даюць вёску. Ці не набытая разведчыцкая цікаўнасць? Ці не ўменне, каб не толькі глядзець, а і бачыць больш, чым бачаць неразведчыкі? Трэба, відаць, пакінуць свой, нібы непрыкметны, след: былі ж! ведаюць!

Хлопец скупа адказваў на пытанні і заставаўся ўвесь час насцярожаны, ані не такі, як той, што жвавы і даверлівы, таварыскі і гаваркі, што быў рады сустрэчы ў жыце, што быў гатовы ісці разам з разведчыкамі. А гэты? Ці проста збаяўся, ці баязлівец?

— Таго Грышку-Лішку з Гушкавіч, што вершык пра капліцу ды пра званіцу склаў, ці ведаеш? З аднае вокны і дзверы выбіваў, а пра другую вершык пісаў...

Юнак заморгаў вачыма. Пад стра́хам ці як пад прымусам, хоць ніхто яго не страшыў і ні на што не прымушаў, нібы выціснуў:

— Не ведаю.

Яго рукі сталі як лішнія, ім быццам не было месца. Хлопец неяк паменшаў, адразу нібы завастрыўся яго твар.

Разведчыкі павінны былі ісці сваёй дарогай, адыходзіць адсюль трэба было без гэтага сведкі. Калі змяркалася, разышліся. Хлопец не ўрэзаўся б гэтак у памяць, каб адзін з групы, калі разведчыкі заставаліся ўжо адны, не сказаў, а потым не паўтарыў: як толькі ўспомнілі вершыкі пра капліцу і пра званіцу, хлопец перамяніўся ў твары, спалохаўся; ідучы, паўтаралі пра валасы з нібы падсіненаю чарнатою, пра тыя раўчукі ўніз ад краёў губ, што быццам не ў юнака, а ў немаладой і помслівай кабеты.

У ліпені 1944 года разведчыкі развітваліся, разыходзіліся, раз'язджаліся. Кожнаму былі свае новыя заняткі, кожнага чакала нялёгкае. Не на дзень, бачылі і разумелі, не на месяц. Нехта — на фронт, нехта браўся за школу, нехта — за сувязь, за тэлефанізацыю, нехта — у дарожнікі, каб войску спрытней было гнаць тых няпрошаных на захад. Кожнаму свая справа ў невыме́рных і незлічоных тады клопатах.

Развіталіся хлопцы і давалі адзін аднаму слова: дзе хто будзе — далёка ці блізка, падрасце па службе ці будзе радавы — не маўчаць, падаваць вестку, адклікацца на просьбу. Запісвалі адрасы і давалі слова сустракацца, пераведвацца, бачыцца. Развіталіся і ніяк не думалі, што занятыя будуць не меней, чым у разведцы, што нават узяць паперу, ручку і напісаць каму старонячку не будзе калі. Здавалася, некалькі пакаленняў, потам абліваючыся, потам умываючыся, будуць рабіць, рабіць, рабіць...

І ўсё ж. Першы — другому, другі — трэцяму... Так і ведалі, дзе хто. Камандзір той групкі, што хадзіла з Міншчыны на Случчыну (хлопцы пачулі: людзі кажуць не так, як у газетах, на карце,— Слу́цак, а не Слуцк), застаўся разведчыкам і мірным часам, служба яго — цікавіцца лёсам людзей. Камандзіроўка закінула яго туды, дзе Гушкавічы, дзе суседнія іншыя вёскі. І напісаў ён з камандзіроўкі свайму памочніку, пытаецца, як жывецца, як служыцца. Расказаў у лісце, што чуў пра сваіх хлопцаў не толькі з групкі, якая днявала на Случчыне, а і пра іншых,— у разведцы ж было за трыццаць смельчакоў. Адвітаўся, як і ў вайну, адным словам «Бывай». А потым, успомніўшы, дапісаў:

«А ці не забыўся на таго хлопца, з якім, ты сам казаў, можна хоць куды? У жыце мы яго бачылі. За настаўніка, дома, у сваёй жа школе, хоць сам і за дзесяты не здаў. Які хлопец! Ён у школе, і ў школе, і ў школе. Яго рукамі, і дзядоўскімі, і дзіцячымі парты робяцца. Я заходзіў у школу-сямігодку. Падабраліся так: у гада́х настаўнік, жонка настаўнікава, дзве дзяўчыны і ён. Я ўспомніў хлопцу і таго, другога з Гушкавіч, яго мы першы раз толькі ўбачылі, а другі раз пагаварылі. Пытаюся: «А той гушкаўскі? Той, што ў жыце? Памятаеш?» — «Дык гэта вы былі? Са мною вы гаварылі? Вы тады ўчатырох пераднявалі, а тым га́дам не спалася не адну ноч. Такога перапуду далі! Пад самым носам ды ўдзень! Людзі нашы надзівіцца не маглі,— расказваў, шчыруючы і нібы молячыся на разведчыкаў за смеласць.— Пра таго, пытаецеся, Лішку? Што пра яго гаварыць? Так і кажуць пра яго: «Лішка лазара пяе або Грышка-Лішка лазара пяець». Хоць вершыкаў і не майструе. Вы-

майстраваўся». Я спытаўся, як жа ён ходзіць сярод людзей, як дыхае з людзьмі тым самым паветрам, той, што «лазара пяяў»?..— «Людзі былі ўзяліся за яго. А ён хацеў падацца — думаеце куды? — у настаўнікі. Не ўзялі. Тады наткнуўся на нямецкую міну, прыглушыла яго. Так і ходзіць. Людзі махнулі на яго рукою: ліха з табою! Кажуць, што ён ведаў, дзе, адступаючы, немцы мінаў нападсоўвалі, ведаць ведаў, а нікому не сказаў. А з капліцаю? Стаяла ў нас пры дарозе. То ён перад вайною вокны выбіваў, дзверы ламаў. Вельмі стараўся!..»

7

*Не забывайся, чалавеча, запісаць,—*
*людзям будзе,*
*сам багацейшы станеш.*

Віленскі раён,
вёска Адамчукі

## У БРАТОЎ — ЯК У БРАТОЎ

За палямі, за лясамі, за гарамі, за граніцамі ёсць Славакія. Некага можа здзівіць: чаму «за граніцамі»? А паглядзім на карту, зірнём па карце ад Мінска на паўднёвы захад: на лініі Мінск — Браціслава вока перасячэ граніцу СССР — Польшча, потым Польшча — Славакія, а калі дакладна — Славацкая Сацыялістычная Рэспубліка. Чэшская Сацыялістычная Рэспубліка і Славацкая Сацыялістычная Рэспубліка — дзве сястры адной сямейкі, адной дзяржавы Чэхаславакіі. На шчасце, як і трэба, дзве гэтыя граніцы ад Мінска да Браціславы мірныя.

Ужо не раз можна было сабрацца, пакінуць на нейкі час пісьмовы стол і службу, паехаць пабачыць Славакію і Чэхію, пабачыць, паслухаць і пабагацець на ўражанні і думкі. І ўсё ніяк не збяруся: то карэктура падыдзе, то нешта пачаў пісаць або дапісваю, то лекцыі, канферэнцыі, саветы, то доктарава парада пашанавацца: дарога ж, нязвычныя клопаты і турбацыя, могуць падвесці «апартуністы» (гэтак празваны экстрасісталы). І не сабраўся. Шкадую, але не ўздыхаю: як ёсць — так ёсць; мабыць, ёсць каму і без мяне ездзіць, глядзець, слухаць.

Меў запросіны і з Германіі, каб паехаць, паслухаць і нешта сказаць на семінары, на лекцыях. Але паслізнулася здароўе. Раны вайны. Пра іх успомніў я ў кнізе «Беларуская фразеалогія» і ў артыкуле.

І з Фінляндыяй. Я «мераў» там снег, а яго было на метр і паўтара, «чуў» там на сорак і сорак пяць градусаў мароз; бачыў тады, у тысяча дзевяцьсот трыццаць дзевятым — тысяча дзевяцьсот саракавым годзе, хутары, але без будынкаў (іх знесла вайна), бачыў толькі нейкім дзівам-цудам ацалелыя на асобных былых хутарах лазні, дагледжаныя, утульныя, з умела пафарбаванымі лаўкамі, столікамі і вешалкамі ў се́нечках. На адным хутары каля склепа ўбачыў параненага ката. Не бачыў ні вароны, ні сініцы: ці іх вынішчыў агонь вайны, ці ён зрабіў іх беспрытульнікамі і непатрэбнікамі недзе не дома, недзе далей ад фронту, незадоўга да іх недалёкай смерці (птушыны век кароткі). Ведаў: нямецкія фашысты тэрмінова падкідвалі туды, у Фінляндыю, зброю, сілы знішчэння.

Трэба пабыць у Фінляндыі сёння. І там, ведаю, не хочуць вайны, і там яе не трэба. З таго тысяча дзевяцьсот саракавога нашу ў целе асколкі, рана даўно зарубцавалася, а не загаілася і не забылася. Трэба было паглядзець на сённяшнія карэльскія і фінскія лясы, убачыць фінаў і як яны жывуць. Што? Нібы з сумам разважаю? Не. Бо — сказаць проста — не трэба сумаваць: многа чаго не бачана, не пачута, не прачытана. І многа чаго не зрабіў сваімі ж рукамі, не зрабіў таго, што мог зрабіць, што прынялі б паліцы ў бібліятэках.

## І ўсё ж!

*І ўсё ж!* Ёсць беларускае слова ТРЭБА. Яно і славацкае — треба, яно і чэшскае — тшеба. Яно кліча і абавязвае ўспомніць. Напісаць хоць колькі слоў. Людзям трэба мір і мірная праца. Людзям трэба сяброўства і дружба. Трэба ў імя заўтрага ведаць учарашняе і сённяшняе. Трэба сесці і пагаварыць. Успомніць і падумаць.

## З таго ўчарашняга

...У тысяча дзевяцьсот сорак трэцім годзе славакі і чэхі, прабыўшы першыя двое сутак разам з намі, беларускімі партызанамі, дзівіліся: двое сутак — а я вітаўся з імі, яшчэ нават не занесенымі ў спісы атрада «Грозны», па-славацку, па-чэшску: «добрага ранку» («добры ранак», «добрай раніцы»), «дзень добры» («добры дзень»), «добры вечар» («добрага вечара»). Нават пыталіся, калі і ад каго вучыўся. Цешыліся, што на гэта беларусу, як і славаку, чэху, вучыцца не трэба; з даўняй даўніны беларусы віталі, вітаюць сустрэчнага «добрым вечарам», «добраю раніцаю», «добрым днём».

Трынаццаць славакаў і чэхаў сталі партызанамі атрада. Прыйшлі яны да нас са зброяй і з прыпасамі. Прыйшлі з рызыкаю: а што будзе з іх роднымі, блізкімі і суседзямі там, у Славакіі, у Чэхіі? Што зробяць з імі нямецкія фашысты і іх паслугачы? Былі адвага, рашучасць, рызыка, быў вялікі клопат усяго чалавецтва: змагчы дзікія, нялюдскія сілы, ачысціць Еўропу ад фашызму.

...З першай сустрэчы ўсе трынаццаць у атрадзе сталі Сваімі. Усё ім было даверана. Адны сталі мінёрамі-падрыўнікамі, другія стралкамі ў ротах, нехта, не памятаю імя і прозвішча, прыйшоўся даспадобы карміцелю атрада — атраднаму старшыню Сарокіну; яшчэ адзін зірнуў у зямлянку, дзе папраўлялі зброю, збіралі з дэталяў кулямёты, аўтаматы, дараблялі ложы, ставілі мушкі...— і прырос да атрадных збройнікаў, людзей з рукамі ўмельцаў.

Кожнаму знайшлося сваё месца, свая служба ў «Грозным». Кожнаму была павага і ацэнка за дзівосна сумленнае служэнне перамозе.

Партызанам — зіма ці лета, раніца ці вечар — да прыгоды не тры годы: ці партызаны разведвалі, дзе і як падпільнаваць акупантаў, ці няпрошаныя акупанты ўрываліся або цішком прабіраліся ў партызанскую зону, каб пажывіцца — забраць статак, выпаліць вёску, нахапаць і паслаць на заводы ў Нямеччыну людзей.

Так здарылася, што асеннім днём таго тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга ўсе, без выключэння, трынаццаць славакаў і чэхаў прынялі ўдзел у няроўным баі з акупантамі.

У мястэчку Ра́дашкавічы, кіламетраў за пятнаццаць ад нашай, партызанскай базы, адпачываў перад пасылкаю на фронт нямецкі батальён. Захацелася падкарміць дадатковым пайком заўтрашніх франтавікоў, і батальён тым асеннім змрочным днём быў пасланы, як чарговая экспедыцыя рабаўнікоў і паляўнічых, на вёскі, на мірных людзей. Акупанты ціха ішлі далінаю паўз раку Удра, пранікалі ў наш раён, набліжаліся да пасёлка Даўбарова. Напярэдадні ледзь не палова атрада выйшла на заданне пад Мінск. І пякла балючая трывога: будуць спалены вёскі, будуць ахвяры, не хапае сілы пакараць няпрошаных. Але выйшла інакш. Добра ведаючы мясцовасць, лоўка манеўруючы, наша меншасць карала іх, шматлікіх. Нешматлікія партызаны не бараніліся — абаранялі! Абаранялі свае вёскі, сваіх людзей, сваю святую зямлю. Сама ўзгоркавая і лясістая мясцовасць — здаецца, яна *сама* — пасылала смерць прышэльцам-чужынцам. Нямала засталося іх на берагах Удры. Тых, што ішлі рабаваць, паліць, вылоўліваць людзей.

Пры поўным зборы атрада начальнік штаба, што кіраваў боем на Удры, расказваў пра ўчарашні дзень і ацэньваў, хто як паводзіў сябе ў схватцы няроўных сіл. Героем названы быў славак Штэфан — Сцяпан: паранены, ён не пакінуў сяброў-атрадцаў, пакуль не былі выгнаны з раёна карнікі. І сёння мне прыемна і добра ўспомніць, якой высокай ацэнкі і прызнання заслужылі тады славакі і чэхі з атрада «Грозны».

Мне, спадзяюся, даравана будзе: многа ўжо напісалі ў кніжках, не меней напаказвалі на кінастужках, нарасказвалі па радыё, на сустрэчах у клубах пра бойкі і змаганне, і я ў гэтым лісце, на наступных старонках, буду расказваць не пра баі, а пра дабрыню, вартасць і шчырасць добрых людзей у суровых умовах, калі ішла смяртэльная схватка Чалавека з шайта́наваю сілаю.

Яну Босаку, славацкаму хлопцу, тады было дваццаць — дваццаць адзін год. Высокі і статны, з разумнымі вачыма, ён, здаецца, усё і дакладна бачыў, фатаграфаваў памяццю. Я здзівіўся, калі пачуў ад яго, што ён — зваршчык, рабочы. І не здзівіўся, калі пачуў просьбу забраць у штабе і перадаць яму гільзы... Снарадныя гільзы, адабраныя разам з гарматаю ад немцаў каля вёскі Буцькі. Вольнаю ціхаю гадзінаю, паміж баявымі паходамі і аперацыямі, Янавы рукі не ведалі адпачынку. А яны, Янавы рукі,— залатыя. Як многа чаго ўмелі яны рабіць і рабіць адмыслова, рабіць у цеснай і цёмнай зямлянцы, дзе не было ні станкоў, ні прыстасаванняў, ні нават прымітыўнага начыння. Ян Босак у працы — мастак. І мастакаваў. У мяне засталася змайстраваная і выштукаваная ў зямлянцы Янавымі рукамі непаўторная памятка: са снараднай гільзы запальнічка. З аднаго боку на ёй па акружнасці выгравіравана: каму, калі і ад каго гэты памятны знак, у цэнтры — герб СССР. Запальнічка гэта — бадай самая каштоўная з усіх маіх рэчаў: яна адзіная ў прыродзе, яна мая, змайстраваў і выштукаваў яе незабыўны прыгожы і чалавечны Ян, юны славак. Той Ян, што ваяваў, папраўляў зброю і зрабіў гасцінец — прыгожы сімвал з прыгожым сэнсам. Зрабіў далёка ад роднай зямлі, у цёмнай і сырой зямлянцы. Падараваў сімвал Цеплыні, Святла.

## Яшчэ з таго ўчарашняга

Едзем аўтобусам на сустрэчу партызан-штурмаўцаў. Едзем туды, дзе ў вайну гаспадарыла партызанская брыгада «Штурмавая». Побач са мною Наталка — сёння медыцынская сястра, а ў атрадзе — падрыўніца, шостая ў дыверсійнай групе, што спецыялізавалася «падкідваць гасцінцы» акупантам на чыгунцы. Наталка ўжо трыццаць год камандуе сястрынскім корпусам у адной вялікай мінскай бальніцы. Расказвае мне пра сваіх сыноў і ўнукаў. А я, гледзячы на яе, бачу маладзіцу, спрытную і лёгкую. Бачу — і дзіўлюся.

Толькі... каму ж, як не ёй, доўга жыць, спрытна ўставаць і лёгка хадзіць!

— А на Гонзу забыліся? Такі шчыры хлопец. Чысты, як дзіця. Добры, мяккі. Гэтакі верны.

І ўспомніла...

— Недалёка ад Вілейкі мецiліся паставіць пад рэйкі міну. Патрулі — немцы і ўласаўцы — усю ноч свяцілі ракетамі і пражэктарамі. Усю ноч пастрэльвалі. Лічылі, прыслухоўваючыся і азіраючыся, шпалы. Раніца пачынаецца, міна не пастаўлена. Ноч жа летняя, кароткая. А камандзір групы адно: «Не я буду, калі сёння не рванём; не мы будзем, калі не пусцім з рэек хоць паравоз, калі не ўвесь поезд». Хацелася, але не выйшла, толькі самі ледзь у пастку не трапілі. Абнюхалі нас. Не вельмі смелячыся, патрулі за намі і за намі, за намі і за намі, пакуль мы не адарваліся ад іх. Падсілкаваліся і прылеглі, адпачываем. Сонца паднялося. Гонза зняў з сябе кіцель, кашулю: «Пазагараць, кажа, як некалі дома». Славак ён ці чэх — забылася ўжо. А што Гонза зваць — то не забуду. Не забыць яго, не забыць тае раніцы... Трэба ж было: ці яны, немцы, па слядах нашых, ці як — натрапілі на нас, ланцугом ішлі па лесе. Мы — што ж тут зробіш? — дай божа ногі! Гонза не паспеў ні кашулі, ні кіцеля надзець і сунуў іх сабе пад паху. Беглі, а перад намі рэчка ды ў густым зарасніку, што не прадзерціся. А прадзерціся трэба: нас мала, іх разы ў тры ці чатыры больш. Які там бой? У нас тры вінтоўкі і тры аўтаматы, а немцы без кулямётаў не выходзілі. Даганяюць нас, і блізка ўжо. Гонза быў пярэдні і раптам павярнуўся ўжо ў рэчцы, ступіў назад крок, другі, прысеў.

— Гонза! Ты што? Што з табою?

Гонза, не падымаючыся:

— Бяжыце! Крыжычак...

Сказаў гэтыя словы, яшчэ паўзіраўся ў рэчку, нешта схапіў амаль з-пад ног, падняўся, кінуўся ад бяды.

І не раз тады, у вайну, мы ўспаміналі тую рэчку, той талісман. *Зберагалі* Гонзу і яго талісман, што абарваўся, зачапіўшыся за галіну, калі Гонза скочыў у рэчку.

...А як было? За якую хвіліну да таго, як нямецкія акупанты схапілі Гонзу дома, каб звезці на ўсход, была на адно імгненне сустрэча Гонзы з яго

дзяўчынаю. Толькі і паспела каханая надзець Гонзу талісман на ланцужку. Толькі і сказалі адно аднаму: прісагам са (літаральна прысягаемся; тое, што клянуся, клянёмся).

Расказвала Наташа. Прыгадваў чутае, вядомае мне.

Бачыў, разумеў: Наташа, шчыраверная сяброўка і жонка, матка і бабуля, не магла не сказаць, што́ за талісман, які той Гонза. Кожны раз Наташа паўтарала, расказваючы, словы, якія сказаў Гонза, калі яго дакаралі, што ён мог загінуць тады, шукаючы ў рэчцы (на шчасце, мелкай і празрыстай, з пясчаным, як высыпаным, дном)... шукаючы талісман — крыжык на тонкім срэбным ланцужку. Кожны раз Наташа паўтарала Гонзавы словы: «Мне хіба можна было вярнуцца без крыжыка? А *як бы я жыў*?»

Калі мы сустракаліся тады, у вайну, з Гонзам і перакідваліся адным-другім словам, не абыходзілі талісмана. Гонза казаў на славацкі лад, па-славацку (з мяккімі р, ж, ч): кріжік, кріжічек. Пытаўся ў мяне: «А па-беларуску?» Я прамаўляў яму: крыжык, крыжычак. Ён зазіраў мне ў вочы, казаў: «У братоў як у братоў». Успомнілі арабскае, якое ведае свет,— талісман. Гонза вымаўляў яго нязменна па-славацку: та́лізман. Нехта трэці, што чуў нашу гаворку, аднойчы прачытаў Пушкінавы радкі: «...Сохрани мой талисман, В нем таинственная сила, Он тебе любовью дан».

І тады, і сёння (праз цалюткую трэць стагоддзя) аднолькава кажу сам сабе: у Гонзавым талісмане, у тым яго крыжыку не было таямнічай сілы,— у самога Гонзы была людская, чалавечая сіла чалавечнасці, вернасць; было тое, што назаўсёды запомніла, што расказвае і будзе расказваць Наташа беларусам пра славакаў і чэхаў, пра іх Гонзу. Пра тое выразнае і кожнаму зразумелае яго слова *«Як бы я жыў?»*.

### У сённяшніх славацкіх кніжках

Пад свята — 31 снежня 1974 года — я незабыўна сустрэўся са славакам Эдуардам Гашынцам і... з паэтыкаю беларускай народнай прыказкі.

Адначасова. Разгарнуў тым днём славацкі часопіс «Ромбаід. У свеце кніжак» (славацкі штомесячнік пра кніжную культуру, яго дзесяты нумар за 1974 год) — і Новы, 1975, год сустракаў з гэтаю цікаваю кнігаю літаратурных навін, разнастайных літаратурных інфармацый, меркаванняў, размоў на творчыя тэмы. У першым артыкуле (да саракагоддзя Першага з'езда пісьменнікаў СССР) славацкаму чытачу лаканічна расказваецца пра Першы з'езд пісьменнікаў СССР, ролю Максіма Горкага ў арганізацыі і правядзенні з'езда, месца вялікага пісьменніка ў савецкай літаратуры. У артыкуле ўбачыў імёны нашых Янкі Купалы, Якуба Коласа. Чытаў размову пра наватарства і традыцыі ў літаратурнай творчасці, пра новыя і няновыя пераклады польскіх пісьменнікаў на славацкую мову (1945—1971 гг.), знаёміўся з надрукаванымі новымі вершамі і старонкамі прозы маладых славацкіх пачаткоўцаў. У кнізе гэтай прачытаў — паўтаруся — і пра народную прыказку, артыкул пра паэтыку *беларускай* народнай *прыказкі.* Эдуард Гашынец — мне добра ўбачылася — любіць народнае слова, народны афарызм, гэты мініяцюрны твор, яго мудрасць, і прастату, і складанасць. Дасведчанасць аўтара публікацыі, арыгінальнасць ілюстрацыі прыкладамі, увага да беларускага слова незнаёмага чалавека — дарагі мне гасцінец пад Новы год. Я напісаў Эдуарду Гашынцу радкі ўдзячнасці. З таго і пайшла перапіска. Пайшлі бандэролі: кнігі, брашуры, газеты — з Мінска ў Браціславу, з Браціславы ў Мінск. Азнаямленне з артыкулам сталася, такім чынам, пачаткам маіх неадзінкавых філалагічных сустрэч са славакам, са славацкай філалогіяй. Сустрэч праз кнігу, газету, праз пытанні і адказы са Славакіяй.

А потым, праз год, я сустрэўся з Эдуардам Гашынцам у кнізе, арыгінальна выдадзенай і як бы несвяточнай і неўрачыстай,— «Кісуцке Новэ Мэсто 1325—1975»: гэтаму гораду, як славакі кажуць, «мэсту», у 1975 годзе споўнілася 650 год. Дарэчы, само слова *мэсто* не чужое нам, беларусам: прыгадаем усім вядомае на Беларусі слова *мястэчка* — гэта невялікі горад, гарадок; мястэчкі густа рассыпаны з даўных давён па Беларусі: і Ракаў, і Любча, і Іўе, і

Турэц, і Цімкавічы, і Глуск, і Парычы, і Плешчаніцы, і Даўгінава, і... Многа іх. Дый такое: сучасны горад Барысаў на наш старажытны лад гэта Борисово мѣсто, з гісторыі ведаем: старажытныя мѣсто Городьно і городь Городьнъ, городъ Мѣньскъ і мѣсто Мѣньско.

У кніжцы знойдзеш гістарычную даведку пра горад і яго жыццё, пра яго людзей і яго культуру; усё сціпла і хораша ілюстравана. Ёсць у кнізе і старонкі пра падпольную барацьбу кісучан з нямецка-фашысцкімі акупантамі, пра ўдзел кісучан у Славацкім паўстанні, што разнеслася гераічнаю славаю па ўсім свеце яшчэ тады, калі славакі ў тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртым годзе (тады яшчэ былі няблізка ад Славакіі сілы вызвалення яе ад гітлераўскіх парадкаў) падняліся на барацьбу з няроўнымі сіламі. На гэтых старонках я сустрэўся — другі ўжо раз у друку — з імем прафесара Эдуарда Гашынца. Аўтар раздзела «Кісуцке Новэ Мэсто ў барацьбе супраць капіталізму і фашызму» (с. 36—40) Яраслаў Адзінакі піша пра юных падпольшчыкаў-славакаў; на старонцы трыццаць восьмай *другім у спісе*, пры няпоўным пераліку антыфашыстаў, згадвае юнага тады Эдуарда Гашынца.

Трэцяя сустрэча з Эдуардам Гашынцам — гэта сустрэча з яго працаю па гісторыі рамёстваў, рамесніцкай тэрміналогіі; старонкі працы надрукаваны ў славацкім краязнаўчым зборніку (1972). Аўтар з любасцю піша пра свой родны гарадок, тое Кісуцке Новэ Мэсто, дзе ён нарадзіўся, дзе доўга, атрымаўшы адукацыю, працаваў, дзе працаваў многа і плённа, з творчым неспакоем і ў розных галінах — філалогія, этнаграфія, педагогіка. У напісанай з веданнем і любоўю працы аўтар на гістарычнай аснове даследуе ганчарства ў сябе на радзіме, апісвае ганчарныя вырабы, іх формы і эстэтычную каштоўнасць як здабыткаў народнай культуры, падае адпаведны тэрміналагічны слоўнічак; расказвае пра *ковацтва* (параўнаем: славацкае *ковач* і беларускае *каваль*), апісвае кавальскія вырабы, іх формы, прыводзіць замалёўкі вырабаў, інструментаў і таксама далучае тэрміналагічны кавальскі слоўнічак. Тэрміналагічныя слоўнікі і «нарэчові тэксты» (тэксты, запісаныя

ад саміх умельцаў, іх маналогі пра сваю працу, вытворчыя працэсы) — таксама каштоўны набытак, патрэбны славацкай лінгвістыцы, славістыцы.

## Неадкладна і хораша

Эдуард Гашынец неадкладна адклікаецца на кнігі, што выдаюцца ў Мінску, пра нашу партызанскую барацьбу ў гады апошняй сусветнай вайны. Ён выкарыстоўвае вельмі зручныя і эфектныя формы расказваць славакам пра такія кніжкі. У «Рочанцы 1977» (*рочанка* ад агульнаславянскага слова *рок* — год; рочанка — каляндар) знаёміць славацкага чытача з унікальнаю, адзінаю ў сваім родзе, у сусветнай літаратуры кнігаю «Я з вогненнай вёскі...» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка. Пасля інфармацыі пра выданне кнігі і сціслых звестак пра Беларусь-партызанку, пра гераізм беларускага народа ў барацьбе з фашызмам Эдуард Гашынец прыводзіць у календары, вялікага фармату і цікавага зместу кнізе, кароткія выказванні пра яе, надрукаваныя ў нас, у Мінску. У рамачцы, замест падзагалоўка, па-беларуску і па-славацку падае радкі: «2 мільёны 230 тысяч. Загінуў кожны чацвёрты»...

Прафесар паказвае, якая гэта арыгінальная і непаўторная кніга, як трэба яна чалавецтву ў імя чалавечнасці, як вучыць даражыць мірам, адстойваць яго кожным словам, кожным крокам, кожным рухам кожнага чалавека на зямлі. А потым ідуць урыўкі з кнігі «Я з вогненнай вёскі...», перакладзеныя Эдуардам Гашынцам з беларускай на славацкую мову, і сціслыя каментарыі перакладчыка да гэтых урыўкаў.

У той самай «Рочанцы 1977» ён знаёміць чытачоў, сваю Славакію з кнігаю Героя Савецкага Саюза Станіслава Ваўпшасава «Партызанская хроніка».

Эдуард Гашынец знаходзіць час не толькі прачытаць дасланыя з Беларусі часопісы, газеты,— ён прачытае і напіша, што вартае пераймання, што выклікае думку і падае нітачку, па якой можна ісці да знаходкі. Знаходзіць гэты руплівы і няўрымслівы чалавек, метадыст, філолаг шлях, каб дапамагчы сла-

вацкаму настаўніку пачуць параду, прачытаную ў беларускіх выданнях.

Славацкай газеце «Настаўніцкія навіны» (славацкае *нóвіны*), што выдаецца ў Браціславе міністэрствам школьства (міністэрствам асветы), Эдуард Гашынец прапануе надрукаваць артыкул з нашай «Настаўніцкай газеты» (1978, № 49) «Слова — твая зброя». Ён сам зрабіў пераклад артыкула на славацкую мову, але падаў і надрукаваў артыкул з крыху зменёным загалоўкам; зрабіў гэта перакладчык, я перакананы, не дзеля таго, каб нешта паправіць, зрабіў гэта з улікам асаблівасцей славацкай практычнай мовы, з улікам неабходнасці падкрэсліць накіраванасць артыкула, самае істотнае ў яго змесце. Назву артыкула «Слова — твая зброя» Эдуард Гашынец змяніў на «Жывое слова — настаўнікава зброя». Я ўпэўнены, што аўтар артыкула і рэдакцыя беларускай і славацкай «Настаўніцкай газеты» не будуць пакрыўджаны, калі прачытаюць арыгінал і славацкі пераклад. Не выклікае пярэчання і тое, што пад загалоўкам «Жывое слова — настаўнікава зброя» перакладчык падае падзагаловак «Функцыя мовы ў педагагічным працэсе».

У выданні «Люд» (9 верасня 1976 г.) Эдуард Гашынец адгукнуўся на першы беларускі зборнік-штогадовік «Далягляды» (1975 г.) — замежныя творы на беларускай мове, беларускія перакладчыцкія справы, беларуская літаратура за межамі Беларусі. У водгуку натуральна знайшлося слова асаблівай увагі перакладам (Пятрусь Макаль) славацкіх паэтаў Я. Костры, А. Плаўкі, І. Мігалкавіча, В. Мігаліка, М. Валека, Ш. Жарага, Я. Смрэка, П. Койша, перакладам (Сяргей Панізнік) чэшскіх паэтаў В. Нэзвала, Е. Горы, С. Нэймана, Д. Шайнэра.

Мой сябар з братняй Славакіі Эдуард Гашынец, якога я так і не бачыў, а толькі чытаў, піша мне *па-беларуску*. Піша не радЫ ў гадЫ, а як руплівы і старанны чалавек, у якога ў працы ўзнікаюць ідэі, пытанні, пажаданні, які заўсёды мае нешта сказаць у сувязі са сваёю працаю, які можа даслаць сваю чарговую публікацыю. Не раз было і гэтак: даве-

даецца са славацкага друку пра выданне новай беларускай кніжкі — і напомніць, што гэтай кніжкі не мае; трэба даслаць: гэта не толькі прыемная місія, а і прыгожы абавязак.

Атрымае наш славацкі сябар беларускую кніжку, часопіс — абавязкова знойдзе слова, знойдзе фразу пра дасланае. Знойдзе час неадкладна падзякаваць.

Прывяду мясцінкі з Гашынцавых пісьмаў.

> «...Часопісы «Народная асвета» і ўсе «Настаўніцкія газеты» я атрымаў у належным стане. ...цікавыя артыкулы на розныя тэмы: павышэнне ролі настаўніка (Народная асвета, 1978, № 6), лінгвістычны аналіз на ўроках (Народная асвета, 1978, № 5), раяцца беларусаведы (Настаўніцкая газета, 1978, № 54), настаўнікава зброя (Настаўніцкая газета, 1978, № 49), з'езд настаўнікаў Беларускай ССР... (Настаўніцкая газета, 1978, № 57)».

Чытаеш паштоўку ці ліст або прыпіску на кнізе і не прамінеш падумаць, падзівіцца: прафесар і шукае, і знаходзіць выразнае слова, піша не штампамі, не моваю халодных інфармацый:

> «...Мой 1975 быў не лепшы. Вельмі не хапала здароўя. Навуковая праца мазалёвая. Не крэпіць» (7 лютага 1976).
>
> «...Цяпер адчуваю сябе лепш. На ўсе хваробы ёсць спасобы» (14 жніўня 1976).

Чалавек высокай адукацыі і дасведчанасці ўмее любіць не толькі сваё, уласнае, роднае. З любоўю і пашанаю ён умее ставіцца да суседскага, да твайго — ці блізкага, ці далёкага.

## Галоўны з галоўных прадметаў

Эдуард Гашынец — супрацоўнік навукова-даследчага Інстытута педагогікі ў Браціславе, аўтар і сааўтар шматлікіх прац па праблемах методыкі і навуковых асноў вывучэння славацкай мовы ў агульнаадукацыйнай славацкай школе, сааўтар эксперыментальных навучальных дапаможнікаў для вучняў, метадычных распрацовак для настаўнікаў.

Не ставячы за мэту разгледзець друкаваную прадукцыю Эдуарда Гашынца, лічу сваім прыемным

абавязкам коратка спыніцца перш за ўсё на яго кнізе пра славацкую мову як прадмет вывучэння і як мову навучання ў сістэме камуністычнага выхавання вучняў IV—IX класаў агульнаадукацыйных славацкіх школ (Браціслава, 1973, 76 стар.). У кнізе аўтар асвятляе камунікатыўную і гнасеалагічную функцыю моўнага знака, падае марксісцкае разуменне мовы як грамадскай з'явы, як сродку зносін паміж людзьмі, непарыўную сувязь і адзінства мовы і мыслення. Аўтар акрэслівае — як цэнтральнае — месца роднай мовы ў сістэме вывучэння прадметаў у VI—IX класах агульнаадукацыйнай школы, раскрывае ролю роднага, матчынага слова ў адукацыі школьнікаў, засваенні імі выпрацаванай агульначалавечай культуры. Родная мова — сродак і шлях забеспячэння камуністычнага выхавання дзяцей, іх разумовага, ідэйна-палітычнага, маральнага выхавання калектывізму, сацыялістычнага гуманізму, пралетарскага інтэрнацыяналізму, сацыялістычных адносін да працы, пашаны да новага ладу жыцця, пашаны і любові да свае Радзімы, яе здабыткаў культуры. Аўтар адводзіць асаблівае месца праблеме (і шляхам яе вырашэння) засваення літаратурнай, узорнай мовы, праблеме вывучэння ў школе стылістыкі, авалодання стылістычнымі сродкамі мовы. Справядліва і з поўным правам аўтар ацэньвае як горш чым застарэлую такую пастаноўку выкладання (вывучэння) роднай мовы, калі амаль уся ўвага аддаецца правапісу, граматычнай характарыстыцы мовы і пунктуацыі.

Родная мова — *галоўны* з *галоўных* навучальных прадметаў у школе. Гэта паказвае і сцвярджае прафесар. Яна, родная мова,— акно ў свет, у пазнанне яго, у авалоданне выпрацаванай чалавецтвам культурай, здабыткамі навукі, у пазнанне людскога шчасця, святаў барацьбы і перамог чалавецтва, усталявання хараства і гуманізму на зямлі. Без роднай мовы няма школы, няма народнай адукацыі для народа. Роднае слова павінна весці новыя пакаленні славакаў, як і беларусаў, як і чэхаў, да новых культурных заваёў, да пазнання новых вышынь і даляў.

## Гасцінец — кафедры

На пачатку 1978 года кафедра беларускага моваэнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута атрымала з Браціславы пасылку — цэлую серыю навучальных эксперыментальных кніг («Славацкая мова. Эксперыментальныя тэксты») адпаведна для 5, 6, 7, 8 класаў агульнаадукацыйнай славацкай школы. Падрыхтаваны і выдадзены гэтыя эксперыментальныя дапаможнікі навукова-даследчым інстытутам педагогікі ў Браціславе, напісаны навукоўцамі, метадыстамі, педагогамі. У ліку аўтараў Эдуард Гашынец, Марыя Бертакава, Марыя Жакава, Антаня Красланава, Марыя Ліскава, Жэльміра Тарцалава, Ева Часнакава, Аміля Чэхава. Першым не выпадкова паказаны ініцыятыўны кіраўнік усіх чатырох аўтарскіх калектываў, іх арганізатар прафесар Эдуард Гашынец; ён — і сааўтар усіх гэтых дапаможнікаў. На дапаможніку для восьмага класа адзначана, што Эдуард Гашынец не толькі аўтар і кіраўнік калектыву, ён арганізатар-каардынатар выдання, карэктар і нават тэхнічны рэдактар.

Атрыманая пасылка — дарагі гасцінец нашай кафедры, форма пераклічкі і абмену вопытам. Наша каферда працяглы час працуе і на школу, не толькі вучыць і выхоўвае будучых настаўнікаў, а і стварае падручнікі і дапаможнікі для студэнтаў, настаўнікаў, стварае школьныя падручнікі і мае пэўныя поспехі: з дзевяці падручнікаў беларускай мовы, па якіх вучыцца сёння школа Беларускай ССР, шэсць створаны пры ўдзеле кафедры мовазнаўства — яе супрацоўнікаў. Дасланыя з Браціславы кнігі прыняты ў нас цёпла і з удзячнасцю: нам трэба бачыць, ведаць, а як у суседзяў, у нашых сяброў, а як шукаюць сябры і што знаходзяць, каб павысіць узровень выкладання роднай мовы, каб зрабіць урокі роднай мовы незаменнымі ўрокамі навучання, урокамі патрыятычнага і грамадзянскага выхавання.

Падкрэслю — гэта адзначана ў кнізе «Пра славацкую мову» (Браціслава, 1974, 104 стар.), у рэцэнзіях і артыкулах, надрукаваных у перыядычных славацкіх выданнях,— што Эдуард Гашынец і калектывы, з якімі супрацоўнічае прафесар, чэрпаюць

здабыткі і з савецкай тэорыі і практыкі навучання, тэорыі і практыкі вывучэння роднай мовы ў школе.

У часопісе «Адзіная школа» (1978, № 2, Браціслава) надрукаваны артыкул Эдуарда Гашынца «Эксперыментальная праверка новай праграмы па славацкай мове ў пятым класе». Аўтар артыкула арганізаваў, на працягу двух навучальных гадоў у розных раёнах Славакіі, эксперыментальную праверку створанай ім новай праграмы вывучэння мовы; выяўлена, што праца па новай праграме дае больш эфектыўныя вынікі ўплыву вывучэння граматыкі на моўную культуру вучняў, на разуменне вучнямі мовы як сістэмы, разумення вучнямі граматычных катэгорый, на развіццё цікавасці вучняў да славацкай мовы як прадмета навучання.

Стварэнне эксперыментальных падручнікаў, дапаможнікаў і праграм па роднай мове, іх выпрабаванне на практыцы — неабходная ўмова далейшага ўдасканалення выкладання любога прадмета, а тым больш — роднай мовы. Вопыт славацкіх сяброў варты не толькі ўхвалення, а і творчага пераймання.

Сёння, здаецца, ужо няма чаго весці дыскусію адносна акрэслення слоўнікавага мінімуму для вучняў, трэба падаваць у дапаможніку пералік тых слоў, якія абавязкова павінны быць засвоены вучнямі за навучальны год. У гэтых адносінах бясспрэчна варты ўвагі эксперыментальны навучальны дапаможнік для другога класа агульнаадукацыйнай школы, створаны Эдуардам Гашынцам; у дапаможніку падаюцца арфаэпічны і арфаграфічны слоўнічкі і слоўнікавы мінімум, пра які ўжо згадвалася. Метадысту, педагогу няма патрэбы сёння ўвязвацца ў неістотную для практыкі вывучэння мовы спрэчку, чым лічыць (суфіксам або канчаткам) -чы ў інфінітывах тыпу легчы, стрыгчы, сцерагчы; у неістотную спрэчку, што такое -ся ў зваротных дзеясловах тыпу клянуся, умываюся (суфікс, постфікс або часціца).

Мне імпануе сур'ёзнасць стаўлення славацкіх калегаў да вывучэння роднай мовы — і прадмета вывучэння, і мовы навучання ў роднай школе.

Дапісваюцца мае радкі. *Сёння.*
Перад вачыма даўняе, учарашняе.

Пра яго прачытаем і ў кніжцы «Агні партызанскай дружбы» (Браціслава, «Асвета», 1961) і ў кніжцы «Агні партызанскай дружбы» (Мінск, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1962); пяцьдзесят партызанаў з Беларусі, Славакіі расказваюць у гэтых кніжках пра сумесную барацьбу з нямецкімі акупантамі, пра вялікую і назаўсёды дружбу між народамі, народжаную ў баях з чорнымі сіламі — фашызмам. Прачытаем у кнізе «Вечны агонь» (Мінск, 1978)...

Сёння яшчэ паспею аднесці на пошту гэты ліст — паклон Яну, Штэфану, Гонзу, іх міламу краю Славакіі. Яны, як і іншыя славакі, чэхі, што былі з беларускімі партызанамі, успомняць сяброў, сяброўства; прыгадаюцца ім і паходы, і цяжкасці, і страты — назаўсёды — блізкіх і дарагіх.

Сёння яшчэ паспею аднесці на пошту пасылку Вам, славацкаму кніжніку, нязменна руплівацу і працавітаму Эдуарду Гашынцу. Гэта — кніжка пра маё роднае, беларускае слова, пра маю родную Беларусь. Гэта і кніжка «Вечны агонь». Яе радкі раскажуць пра Яна Налепку, Эміля Баліша, Юзафа Ваўру, Штэфана Длугаша, Францішка Ліптака, Яна Рыхтарыка, Войцэха Фібіха, Войцэха Шатара, Юзафа Булку, іншых славакаў і чэхаў — сыноў Чэхаславакіі. Гэта і перакладзеныя на беларускую мову сучасныя славацкія вершы. Гэта і чарговыя нумары беларускіх «Настаўніцкай газеты» і «Народнай асветы».

Будуць новыя жыццёвыя клопаты і прыемныя творчыя трывогі. Будзе радасць працы на роднай ніве. Будзе ўвага Славаччыне. І *заўтра, паслязаўтра, заўсёды.*

Будзе памяць сэрца.

Дзеля роднага. Дзеля супольнасці, садружнасці.

## СКАЗАЛІ, СПЫТАЛІСЯ...
## РАДКІ З ДЗЁННІКА

На сустрэчы ў рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» сказалі і пацікавіліся... Не, ці не падробка? Не сказалі, не пацікавіліся, а сказала, пацікавілася Валя Трыгубовіч, супрацоўніца рэдакцыі газеты; Валя, бачу з яе публікацый, ведае наша мастацтва, нашу культуру, родную гісторыю.

— Хачу сказаць і спытаць ў вас. Калі чытаеш вашы публікацыі, не толькі літаратурныя, а нават лексікалагічныя, фразеалагічныя, уражвае: як шмат часу вы — з людзьмі, на людзях. Ці не прыгадалі б вы сваіх, дарагіх і вам, сустрэч, непасрэдных і ў перапісцы, за нейкі пэўны час, напрыклад, за месяц, за дэкаду, за пяцідзёнку.

З людзьмі і на людзях? Пяты дзесятак жыву на настаўніцкім хлебе. Не люблю, нават не магу «набірацца сілы» ў вясёлых і багатых дамах адпачынку і санаторыях. Таму, прыкладам, пяць ліпеняў — каля Свіцязі, на Нава́градчыне (як там кажуць, як у Коласавых, Брылёвых і іншых аўтараў кніжках); шэсць ліпеняў на Палессі, па-над Прыпяццю, пяць ліпеняў і два паўжніўні — каля Шчары... Як правіла, у сям'і ды такой, дзе ўсе ў руху, дзе ніхто не любіць валяцца і смажыцца на сонцы... Гэта — першае. А другое? Прыгадаць сустрэчы?

Будзе лепей, мабыць, узяць старонкі з дзённіка, не з памяці.

Тыдзень маіх дзённікавых запісаў. Адзін за адным — ад панядзелка да панядзелка — дзянькі таго тыдня. Зразумела, не ўсё з пачутага за той тыдзень трапіла ў запіскі.

Былая студэнтка А. Б., настаўніца роднай мовы ў школе, напісала мне, што «ў яе ўжо і трэці сынок», «дала яму на́ймя (слова наймя — з Палесся) Антось, а заву Антосік». Два «большанькія дужыя, рухавыя няўрымсты такія», «адзін — Юрась, другі — Алесь».

Колькі ж, дарагуся, у цябе яго, матчынага, клопату! Колькі ж у цябе іх, матчыных клопатаў, тры-

вог! А можа не раз і слёз. Нескачоная і нязмерная праца. Толькі ж праца — шчаслівая. Праца і ласка. Ласка, і ўцеха, і радасць. Дай, доля, табе, маладзенькая мама, менш трывог, дзянькоў без слязы.

Мне ўспомніўся паляк Міхал Федароўскі. Вялікі ён і дарагі Беларусі, беларусам. Вялікі ён і дарагі Польшчы, палякам. У свае немаладыя гады, ходзячы і ездзячы па Беларусі, Федароўскі любаваўся беларускімі набыткамі, знаходкамі ў словах, фраземах, прыказках, вітаннях, зычэннях, прыгаворках, жартах, песнях, казках... Дзівіўся Федароўскі і з такога мілага яму: беларусы нарадзілі далікатныя і мілагучныя Міхась, Антось, Адась, Юрась, Алесь, Карусь, Пятрусь... У маладой мамы, якой няма калі сумаваць (але, піша мне, што і сумуе: «Год, калі не болей, не буду вучыць у школе»), ажно тройца: Юрась, Алесь, Антось.

Сустрэліся ў Мінску і дома ў мяне з былым партызанам Нуры Галімавым. У вайну ён камандзір у партызанскім млыне, хлебапёк і смелы стралок. Стары ўжо чалавек. Завітаў з далёкай Татарыі пабачыць Беларусь. Паўтараў мне, што ён немалады і што я... не павінен спазніцца: прасіў Нуры, каб мы ўбачыліся ў яго дома, каб яго, белага-белага дзядулю, пабачыў я ў сям'і — з сынамі і дочкамі, з нявесткамі і зяцямі, з унукамі і сваякамі. Казаў: «Беларус карміль мне — карміль, рана лечыль — лечыль, беларус мне любіль — любіль, зямля твая хадзіль — хадзіль. Ты партызан — я партызан. Прыедзеш — будзеш болшы за той мула. Грамата ў мне мала-мала, а душа не такі, як грамата мой. Заві ўвесь атрад — усе будуць госць».

Лявон Падгайскі быў мой студэнт і аспірант. Кандыдат філалагічных навук, ён стаў на гэтым тыдні доктарам педагагічных навук. Ведаю яго, як сябе. Сірата з маленства, басаногі ў вайну і пасля вайны. Падрос — вучыўся, вывучыўся. І нястомны ён у працы. Высокі і стройны, асілак у плячах, у руках, у хадзе. Бацька, як на сёння, вялікай сям'і: чатыры сыны. Былы мой вучань — калега, паплечнік, супольнік. Радуюся, дарага: вучоны Лявон Падгайскі не це-

шыцца тым, што́ ўжо зрабіў, не цешыцца тым, што́ напісаў і надрукаваў (у мяне на паліцы яго дзевяць кніжак!). Лявон жыве тым, што́ робіць, жыве тым, што́ зробіць, што́ мяркуе зрабіць. А працоўнае, творчае поле яго дарагое. Яно, поле,— яго, і маё, і наша: беларусістыка, вывучэнне мовы ў школе, інстытуце.

З Ушацкага раёна (з-пад самай, як даўно і сёння кажуць там Ву́шачы) прыйшоў пакет, у ім — нізка народных фразем, сярод іх і такія, што ніколі нідзе не друкаваліся. Прыслала ўчарашняя студэнтачка. І аддае, дорыць мне (яна не ведае, што не кваплюся на тое гатовае, што нехта знайшоў і запісаў). Прыслала мне прыгожы клопат. Трэба адказаць добрым клопатам — надрукаваць старонкі, пазначыць пад імі, хто калі і дзе назнаходзіў, з любоўю назапісваў.

Алік Свірскі — вучань яшчэ з давайны, з даваеннай сямігодкі, асірацелы ў вайну і самы маладзенькі з двухсот дваццаці ў партызанскім атрадзе. Палкоўнікам звольніўся ён у запас з арміі, атрымаў пенсію. І прыехаў на гэтым тыдні «дадому-дахаты, на Беларусь». Знайшлася добрая і цікавая служба. Сядзелі. Расказваў шмат. У мяне за сталом, «не ў тэлефон»...

Падпісаў і падараваў мне свой першы зборнік вершаў дацэнт Мікола Мішчанчук, нядаўні студэнт. Што? Навуковец — і паэзія? А чаму ж! У добры час, хлопча!

Прыйшоў ліст. Просты і непаўторны, цёплы і жыццядайны. Антон Янкоўскі, дзядуля, селянін з-пад самай Вільні, напісаў мне ажно шэсць старонак. Там і радкі, у якіх згадвае пра Грамаду і грамадаўцаў, пра страты ў вялікай падпольнай барацьбе дарагіх людзей. «А ўчорай, сядзелі на маёй лаўца,— піша на падвіленскім дыялекце,— расказавалі самі сабе... І наплакаліся, наплакаліся». Якая ж фраза! Дзіва і боль, боль і дзіва. Роднае ты маё слова! Узяў Янкоўскі цябе адно, толькі адно, але паўторанае слоўца, а перад ім — часціцу і... Чытач, чалавек з

добраю душою і неабавязкова з вучонасцю і навукаю, знойдзе ў гэтым сказе не проста *наплакаліся*. Большае, нязмеранае і нязмернае. З інтанацыяй. Ды такая інтанацыя, што словамі не вельмі перакажаш. Дзядулю восемдзесят, а ў яго двары, на сядзібе (бачыў на свае вочы, бачыцца сёння) — як на стале. Ды хіба толькі двор, сядзіба? У дзядулевых шафах і скрыньках сотні і сотні старонак, на якіх запісаў селянін Янкоўскі пра антыпанскую падпольную барацьбу, запісаў беларускія песні роднай і не адной суседняй вёскі, дзіцячыя гульні, прыпеўкі, успаміны, назвы палёў, лясоў, далін, узгоркаў; запісаў пра перамены і змены ў жыцці. Запісаў і пра халеру, што гадоў сто пяцьдзесят назад там касіла людзей (во яны адкуль у беларускай мове тыя кленічы: «Каб іх халера, тых валацуг!» «Каб на іх халера найшла!»). Нашым часам халеры не было ні пад Полацкам, ні пад Мінскам, ні пад Вільняю, ні пад Лідаю. А некалі ж налятала, накідвалася, касіла. Напісаў дзядуля пра халеру і іншую, «яшчэ ня зьлéчаную на зямлі сёння» — гарэлку...

На самым пачатку адказу на пытанне мне пашанцавала: проста знайшоў адказ у дзённіку і выпісаў з яго радкі. А выпісаў — жахнуўся, спынілася вока, застыла рука. Былі і іншыя тыдні, мае тыдні. Было на адным зусім-зусім другое, не такое, як у толькі што выпісаных радках.

Адзін пачаўся з напамінку мне: зноў трэба ў бальніцу. На тым тыдні і гора. Не адгоніш. Не паправіш... Не стала Лявона Падгайскага. Аніхто не вінаваты, толькі выпадак. Трагічная смерць на вадзе. Быў адзін-адным на возеры. Няма Лявона, закаханага, улюбёнага, апантанага: кожны дзень, кожную хвіліну і ўсё жыццё — толькі роднаму, Беларусі.

У нечаканых і бязлітасных выпадках, пры цяжкай страце, кажуць: «Што ж... Чаго не бывае ў жыцці? Здараецца. Нічога не зробіш...»

Так, нічога не зробіш.

Толькі душа гэтага «што ж...» не прымае, не прыме.

Ёсць перамагальнае, наймагутнейшае чалавечнае, грамадзянскае: трэба ж. Трэба жыць. Трэба праца-

ваць. Дзеля роднага сённяшняга, дзеля роднага заўтрашняга. Дзеля Радзімы.

З гэтым жыў, працаваў Лявон. І пакінуў след. Не наслядзіў.

## ЯШЧЭ РАДКІ З ДЗЁННІКА

Вычытаў у артыкуле, а потым убачыў у хораша і кваліфікавана паказанай этнаграфічнай экспазіцыі надпісы-выразы «Грабёнка для збірання ягад» (чатыры словы ды пры «дзяжурным», спісаным «для») і «Грэбень для (зноў... «для») чарніц». Гэты «грэбень» знайшлі (вялікі, як там кажуць, дзякуй!) там, дзе трэба было знайсці і адпаведнае слова, а не цэлы «заварот» ажно з чатырох слоў. Дарэчы, не грабуць жа, не зграбаюць чарніц. Чарніцы на Палессі бяруць, збіраюць; там, на Палессі, ёсць гэты самы «нягрэбень», там ёсць — бралка. Замяняць слова бралку грэбенем ці грабёнкаю «для збірання» або «для зграбання» — усё адно што пасылаць першакласніка, каб ён пісаў не за сталом, не на стале, а на «прыстасаванні з дошак на чатырох ножках». Усё адно што вучыць, каб школьнік пісаў на «прыстасаванні для (!) пісьма, яды і інш». Усё адно што — замест «зірні ў акно» — сказалі б дзіцяці «зірні ў праём у сцяне будыніны для (праём... для...) святла і паветра». Цурацца свайго слова, як і закідаць яго ў «засек абмежаванняў»,— не толькі нядбальства і не толькі ачарсцвеласць ці абыякавасць.

На Палессі сустрэў слова *ганараваць.* Дыялектнае слова. Паходзіць з латыні (вядома, што латынь на Беларусі ў старажытнасці вывучалася ў школах, у беларускую мову шмат якія словы з латыні ўліліся непасрэдна). Ганараваць — выказваць высокую і шчырую пашану (параўн.: у рускай мове «глубокое почтение», «выражать почтение», дзе «почтение» — запазычанае стараславянскае слова). Расказвалі мне недалёка ад Капаткевіч, у Навасёлках, як тутэйшыя людзі «ганаравалі гасцей» са Славакіі: паказвалі

гаспадарку, палі і сенажаці, расказвалі, як ваявалі з немцамі, як змянілася пасля вайны жыццё; вазілі купацца ў чыстай і багатай Прыпяці, частавалі і спявалі ў клубе песні, «далі гасцям з сабою» выштукаваныя бочачкі грыбоў... Гэта слова я праверыў, як кажуць, на людзях: называў у гутарках, размовах, у лістах, нават у друку. І пачуў не адно добрае слова ад добрых людзей на гэта слова. Ніхто не спытаўся ў мяне, што гэта за слова? што яно абазначае? замест якога слова ўжываю? Там, на Палессі, пачуў і ганараваныя — тыя, каго ганаравалі, тыя, прыняць каго мелі за гонар, за прыгожы і мілы клопат; там пачуў і выслоўе людзей будзеш ганараваць, то й людзі цябе ганараваць будуць, людзей ганаравацьмеш, то й людзі цябе ганаравацьмуць.

Ні палохацца, ні адгароджвацца ад слоў. Смялей браць такія, як бралка, ганараваць, уводзіць іх і ў тэксты, і ў лексікаграфічныя працы.

Пачастунак з маленькаю чаркаю (яна абыходзіла па чарзе за сталом усіх, каго частавалі, усіх, хто частаваўся)... Чарка такая ставілася толькі тады, калі завітваў госць, калі завітвалі госці. «Сядзелі,— расказвалі мне,— перакусвалі і чаркавалі. Гаварылі во етак, як у нас сёні (сёння). Сядуць, бувало, й без гаму, й без крыку чаркуюць. Вельмі страмілі й саромілі, калі нехта, выпіваючы чарку, закідваў голаў і высушваў чарку...»

## З-ПАД ВЯЗЫНКІ...

Базар у асенні чацвер тысяча дзевяцьсот сорак восьмага года. Вазы́, вазы́, вазы́. З кабанамі, падсвінакамі, гусямі і курамі, качкамі... З каровамі, бычкамі, цялушкамі, авечкамі... З мяхамі капусты, бульбы... І *як* толькі яны, гэтыя вазы, з'ехаліся, стоўпіліся, збіліся тут? Адзін жа пры адным. Праходзіш паміж вазоў, то сцеражыся: не кожны конь, але адзін з трох-чатырох страшыць — утульвае вушы, хмыліцца!.. Ірване, чаго добрага, за плячо

зубамі, а не — за вуха. Ні заявы не падасі, ні пратакола не напішуць.

Іду паміж падвод не адзін, са мной малады дасціпны ўкраініст з Кіева. Хоча пачуць вядомую і яму, пачутую ў вайну, ра́дашкаўскую гаворку (дарэчы, там і казалі і кажуць: ра́дашкаўскі чалавек, ра́дашкаўская школа, ра́дашкаўскае поле, ра́дашкаўская больніца; там пачуў я: прыйшлі ў Ра́дашкавічы — і з Ра́дашкавіч не рады).

Пры адным возе два мужчыны, дзве жанчыны. Здагадваемся, а потым і пазнаём: дзве пары. Жанчына, звяртаючыся да мужчыны і жанчыны, а не да свайго чалавека:

— Дзякуй! Вялікі вам дзякуй, сусядочкі, што й наша ўсё прывезьлі на базар. То ня трэба больш каня вашага мучыць: дахаты мы зь йім, Паўлюком, пешкі. Пеша. Няўломкі!

А яе Паўлюк, хітра пазіраючы на жонку, рупіцца, відаць, спадзяецца на выйгрыш і... сабе; думае, мабыць, не толькі пра падзякаванне суседзям:

— Ці вялікі дзякуй, ці малы — адным тваім дзя́куям, жонка... ня тоя. Трэба — грошы заплаціць. Падзя́каванне тваё — слова. Што зь яго, дзякавання?

Мой госць адразу ж:

— Вы ўчулы? «Дзякуй!» Як мылогу́чно! Це ж від вас я почуў мілагучна. Якый він ваш, білоруськый дзякуй! Тількы, пэрэпрошаю, у мэнэ дзекання твэрдовато якось.

І адразу перапытваецца ў Паўлюка:

— Шчо-шчо, будь ласка, сказалы? Як вы, оцэ, сказалы?

— Ці вялікі, кажу, дзякуй, ці малы, а за дзякуй і кухана не купіш. Тваім дзякуем не адбыць? Трэба, кажуць, грошы заплаціць.

Праз добрыя дваццаць пяць гадоў, таксама не адзін, я зноў у Ра́дашкавічах. Толькі ж не на базары: базараў у гэтым мястэчку ўжо не робяць: кругом — і блізка, і далёка — магазіны, або, як тут вечна казалі і кажуць, лаўкі, крамы; ва ўсе бакі — дый у сам Мінск — ад Радашкавіч нясуцца спрытныя і частыя аўтобусы.

Сустрэлі на гэты раз добра знаёмую мне жанчыну, бабулю ўжо. У маладыя гады, як і Паўліна Мя-

дзёлка, амаль у адзін і той час, была яна Паўлінкаю ў Купалавай «Паўлінцы». Выступала ў Менску, як тады казалі, пісалі, і ў Ра́дашкавічах, і дзесьці яшчэ. Як жывога бачыць сёння бабуля самога Купалу, маладога і сталага. Ведае не адну мову, а ніколі,— барані божа! — не цураецца роднай радашкаўска-вязынскай гаворкі, любіць яе і падкрэслівае, з чыстым і высокім гонарам, што ў Купалы (размаўляла не раз жа!) «была гаворка тая самая й такая самая, што ў Вязынцы і ў Ра́дашкавічах. Ад нашых Радашкавіч да Вязынкі, ад Радашкавіч да Вяллі й таго Вя́ля, што ўмеў шпурнуць камень ад Вяллі да Дубровы,— блізка. Я ўсюды тут — дома. Крыніцы якія, ручаі і рэчкі! — казала мне аднойчы, паўтарыла і на гэты раз. Як і тады, шкадуе — ніхто ня сьпіша крыніц нашых. Іх ня зьлічыш — так шмат! — ад Вязынкі да Радашкавіч, ад Шаршуноў да Сычавіч, ад Дакшня́н да Удры́!.. А кожная — не той самы салавей, не тая самая жаўраначка, не той самы чмялёк... Колькі іх! А іх жа памёнее...»

Распытваліся ў гэтай жанчыны пра Антося Лявіцкага-Ядвігіна, што служыў у Радашкавіцкай аптэцы, пра тую гімназію, у якой вучыўся Максім Танк, пра Уласа, Рака-Міхайлоўскага, Скварчэўскага... Дзякуем жанчыне за яе добрую памяць на ўсё добрае, за тое, што жанчына так расказвае пра даўняе, што было і 50, і 60, і нават больш гадоў назад, нібы толькі ўчора, заўчора і пазаўчора. Кажа і яна свой «вялікі дзякуй, што не забыліся на мяне».

І калі ўжо намерыліся адвітацца з жанчынаю, яна падказвае ды такое, што, здавалася, мы не маем права адвітвацца, што мы няўдакі і пустадомкі: не дадумаліся ж самі.

— А каб хтось не адзін і не два, каб узяліся ды сьпісалі ўсе чысьцянька вакол Вязынкі, Радашкавіч, Сычавіч... усе крыніцы ў журнал. А каб узяўся хто з магнітафонам, каб з добрым вухам, ды каб хтось з такім вокам, што найлепей бачыць, і з апаратам, што кіно здымаюць... Пазнаходзілі б усе да аднае крыніцы, сьпісалі б у журнал, паназдымалі, празапісвалі галасоў — крынічных і што над крыніцамі. І я, хоць ня верую ў бога, памалілася б на такіх людзей. І ў мае гады хадзілася б лягчэй. ...То леты

сухія, то канаў напракопвалася, дык і мéняе крыніц і крынічак, а ў іншых спеў перамяніўся, а найболей — паслабеў.

Ці ж толькі падказка?

Ці ж не горкі папрок і дакор яе, дарагое дачкі зямлі тае? Не «гавары-гавары», не гаварыльня ці пісаніна, а дакладнае заданне. І рукі ёсць, і вочы бачаць, і вушы чуюць, і журналаў-гросбухаў, апаратаў — колькі хочаш. Зрабі. «Не пазьнéмся й не спазьнéмцеся»,— словы яе— «тае прыгожае», «у гадах немаладзенькіх» дачкі з-пад самых Рáдашкавіч...

## ГЛЕДЗЯЧЫ НА СВІСЛАЧ

Свіслач. У памяці яна засела з маленства, калі яшчэ вучыўся чытаць і пісаць. Замацавалася на пачатку трыццатых гадоў, калі хлапчуком прыязджаў у Мінск, шукаў сцежкі-дарожкі ў жыццё, нават здаў экзамены і крыху вучыўся ў архітэктурным тэхнікуме. Спачатку ўбачыў адну Свіслач — істужку і слова над ёю. На карце, намаляванай рукою майго першага настаўніка. Тая карта — на ўсю шырокую і высокую сцяну ў класе-абозні, дзе вучылася ўся школа, усе разам чатыры, як тады казалі, групы: першая, другая, трэцяя, чацвёртая. Гэтакай вялікай карты Беларусі я больш нідзе не бачыў. Пасля таго, як спачатку разгледзеў на карце адну рэчку Свіслач, нібы глядзелі на мяне і не зводзілі з мяне сваіх воч іншыя беларускія Свіслачы.

Гучныя, звонкія, дарагія-мілыя з дзіцячых гадоў беларускія Свіслачы. Гэтакімі рабіла іх ці не само слова *Свіслач.*

Не Свіслач, а Свіслачы!

І толькі згаданая мінская Свіслач, што віецца, як там кажуць, з-пад Заслаўя, амаль з самай мяжы Заслаўшчыны і Валожыншчыны.

І Свіслач Нёманава; яна таксама істужкаю віецца, але не на паўднёвы ўсход, як мінская, а спачатку на захад, потым, нібы ачомаўшыся, павярнула і бяжыць, туліцца, лашчыцца да самога бацькі Нёмана.

Свіслачы — гэта і мястэчкі, вёскі; на Гродзеншчыне, напрыклад, тая, што каля Лашы, з якой выйшаў у вялікі свет беларусістыкі волат, гонар Беларусі і славянскага свету акадэмік Карскі; Свіслач таксама мястэчка, што між гарадоў Беласток і Гродна, пры гэтай Свіслачы мой настаўнік намаляваў на карце смелага, з дарагім гонарам дзецюка ў суконнай свіце, светлай і ледзь не белай,— такія шылі з саматканага сукна і ў маёй вёсцы. Мястэчка Свіслач, што ў Асіповіцкім раёне, дзе рака Свіслач нібы паднялася ўгору — на поўнач, паднялася вышэй ад Асіповіч, тады сумнага мне імя, якое нагадвала таго, хто асіп, хто сіпаты, сіплы, сіпка...

Свіслачы...

Пакуль што бачыў не ўсе беларускія Свіслачы. Адну ж, мінскую, маю першую, даўно бачыў і штодзень бачу. Апошнім часам на вачах яна добра кладзецца, нібы ў ложак. Але не спіць. Яна прыняла і прымае ваду з Вяллі (не «з Віліі», а з Вяллі спрадвечна казалі і кажуць скрозь у вёсках, мястэчках, гарадах, блізкіх і далейшых, што стаяць над гэтаю крыштальна чыстаю, як з расы, хуткаплыннаю ракою, якая, мабыць, і сёння расказвае пра самога Беларускага Вяля...).

Глядзеў на Свіслач у Мінску ў 1931, у 1932, у 1933...

Пасля не адной бачанай на палескай роўнядзі рэчкі ўражвала, здзіўляла: магутная ж, хоць і нешырокая рака! Двойчы бачыў: бушавала, віравала, круціла і булькатала Свіслач, і несла яна дошкі, веснічкі, ахапкі сена і травы, скрынкі, нават услон, жардзіны, частаколіны... Ратавалі мінчукі, бачыў на свае вочы, «цыркачоў» — мядзведзікаў, сабак, малпаў і малпачак, якім пагражала Свіслач, збіралася падхапіць, адбіць плынню ад берага і панесці...

Потым, юнаком ужо, настаўнічаў на Міншчыне; тады абышоў рэчкі, ручаіні, што, вызвоньваючы і пераздоньваючыся, нясуцца і ўліваюцца ў Свіслач. Ручаі, раўчукі, рэчкі, незлічоныя крыніцы з незлічоных і яшчэ не апісаных узгоркаў і ўзгорачкаў, курганоў і такіх берагоў, што і двух метраў не знахо-

дзіў аднолькавых,— над Свіслаччу, над яе прытокамі і прыточкамі.

Бачыў на Свіслачы дзве паводкі — веснавую і (дзіва ты маё дзіўнае!) летнюю, пасля навальнічных дажджоў, як кажуць, уліваў-ліўняў.

Бачыў Свіслач з 1936-га ледзь не ўсе гады. Разоў колькі — поўную.

Не раз спыняўся каля Сямкова, Дубровы, Кіршоў, Лашáнаў, Пятрышкаў, Цнянкі, Зáцані, Паперні, Лéкараўкі, Камкоў, Шаршýн, Юзафова, Лагойска. Перад зусім-зусім не падобнымі адзін да аднаго ўзгоркамі па-над Свіслаччу, па-над яе прытокамі Цна, Ратамка, Чарнушка, Вяча... Зямля ж тут не песчуга, а суглінкі і ці не лёсавыя пляцоўкі. Калі хлыне дождж, Свіслач, яе прытокі адразу незвычайныя, зусім іншыя. Яны ўжо не празрыстыя, не крыштальныя, а мутныя, нібы з рэдкага аўсянага кісялю. А кісель гэты — дабро. Дабро з дабра! Калі б чалавек прыдумаў і змайстраваў такую цадзілку, такое сіта, якое збірала б сцэдкі, то яны, гэтыя сцэдкі, замянілі б хімікаты, якія хоць і павышаюць ураджай бульбы, ячменю, пшаніцы, але тут жа падкарочваюць лік і век пчолкам, і ці не тускнеюць ад хімікатаў канюшынныя і іншыя кветкі на полі, у лузе, у агародчыках, садках.

Неяк пасля вайны, гады праз тры, я спыніўся на драўляным, нібы рухомым, як паром, мосце над Svіслаччу, дзе канчалася вуліца Горкага і пачыналася вуліца Няміга. Справа, калі ісці з вуліцы Горкага па мосце да Нямігі-вуліцы, на беразе тады відаць былі (ды яшчэ і нядаўна) густыя, нібы шырачэзныя вазы́ на падпорках,— самі вербы. Неяк ацалелі. Жылі, доўга трымаліся і шырэлі. Ды адна пры адной!

Зусім немалады чалавек, нахіліўшыся на парэнчу, узіраўся ў ваду. Меў я вольную часіну. Спыніўся. Што бачыць стары? Стары бачыць, а я? Рыба! Ды немалая! Прыгледзеўся: такія непрыкметныя рыбіны, якіх можа ўбачыць толькі налоўчанае вока. Чарадою стаяць супраць вады. Стаяць нібы застылыя ці прыпнутыя, на прывязі. Пёрцы — хвасты і плаўнікі — не чырвоныя, як у язёў, а цемнаватыя і зверху амаль невідочныя.

Стары, што стаяў побач, нібы самому сабе казаў:

— Штук дванаццаць. І ладныя, не драбяза. Не якая драбнота. Як нядоўгія тапарышчы.

— А што за рыба? — пытаюся ў старога.— Гэтай рыбы я не толькі не лавіў, не бачыў.

— Хіба не былі на Нёмане? Гле́ні. А там,— паказвае мне,— бачыце? Там меншыя, там гленчукі́. І яны чародкаю. Гле́ні любяць Нёман. Яны й на кілё, й на два, а не — й на чатыры-пяць кіляў трапляюцца. Прыедзьце. Вазьме́це і прыедзьце. То зловім. Калі хочаце, то й каля мае хаты, каля самае хаты. Можна ня ехаць далёка. Пад вокнамі ў мяне Сэрвач, яна ў Нёман бяжыць, то стуль і падыходзяць у Сэрвач глені. Нягуста іх, а злавіць можна. Глень — о-о-о! Глень — добрая рыба! Завуць яе й галавач, галавень. Я гадоў трыццаць плыты сплаўляў, шмат дзе быў. Дык чуў.

Тады, год за трыццаць назад, пазнаёміўся я на мосце, на Свіслачы, са старым загадчыкам млына з рэчкі Сэрвач; у вайну дзед партызаніў, сын яго — начальнік атраднага штаба, абодва ў Налібоцкай пушчы добрыя два гады...

З часам пабыў я на Сэрвачы, у Крынках, і на Нёмане — ад Ярэмічаў аж пад Шчорсы. Лавілі. І я злавіў. На пагляд і паспытаннейка. Глені траляліся толькі часам, а то — гленчукі, «не даўжэйшыя за відэльцы», «як нядоўгі нож».

У Свіслачы бачыў я *чароды* галаўнёў-гленяў і гленчукоў.

Свіслач наша, мінская, пашырэла. Мясцінамі, думаецца, ці не залішне.

Свіслач забіраюць у бетон.

Пабольшала за першыя пасля вайны гады і пяцігодкі труб, што неслі ў Свіслач ваду і з ёю які-небудзь мазут ці што іншае, падобнае і горшае. І ці таму, што часу не было, ці проста не хацелася або не мог бачыць мут і мазут у Свіслачы,— не адзін год нават не спыняўся на беразе, каб паглядзець на яе, ненаглядніцу яшчэ з майго маленства і юнацтва. Цэлыя дзесяткі гадоў на Свіслачы не плёскалася рыба, не разыходзіліся правільныя, нібы пад цыркуль, кругі...

Апошнім часам, дзякаваць людзям, стала менш труб, што нясуць і выпускаюць з-пад берагоў бруд і ўсякае кепства ў Свіслач. Цешыць: такія страшныя трубы на падыходзе Свіслачы да высокіх і гучных назваў «Юбілейная», «Палац спорту» засталіся ўжо толькі адзінкавыя.

Доўга мянялася Свіслач.

І мяняецца Свіслач.

Нягуста-пахмурным і мяккім днём я не толькі спыніўся над Свіслаччу. Улетку 1978 года асобныя мясціны на Свіслачы сталі нібы пунктамі абавязкова прыпынку. Там, дзе пры Свіслачы стаіць беларуская Хата — гасцінны дом-музей, які ведае ўвесь свет, бачыў я рыбакоў. Яны стаялі нібы ланцугом, як чаплі на тых лугавых берагах над Прыпяццю, дзе над ёй няма вёсак. Стаяць рыбакі, закідваюць і перазакідваюць вуды. «Падсяваюць» — кашы падсыпаюць, прыманьваюць рыбу. Мой знаёмы, на гады ўжо дзядуля, а на выгляд яшчэ лоўкі дзядзька, падсек рыбіну і павольна, умела падводзіць яе да берага. Па тым, як гнецца вудаўё, як наструнілася жылка-леска, як трымціць на ёй, ужо над вадой, паплавок, відаць, што цягне ніштаватую рыбіну. Пры цёмным (не як бывала ў Свіслачы...) дне і цемнаватай (не як бывала ў Свіслачы...) вадзе ці не карась? Рыбак спрытна і ўмела, без памылкі падводзіць пад рыбіну сетачок — і з сетачка тырчыць шырокі хвост. Але не карасёў. Сам лешч! Фунты на тры.

— О! Брат Свіслач!!! Завёўся і жывеш лешч? Малайчына ты, Свіслач! Не толькі бяжыш, але ажываеш. Не, ты ажыла! Падчысцілася: меней труб стала выходзіць з-пад тваіх берагоў. Асвежаная, ці не зноў будзе як свянцоная твая вада! Лешч? Рыбны шляхетны кароль. Не любіць ён ціхіх і мурзатых рэчак з гнілым дном і гнілымі берагамі, не прызнае забруджаных сажалак і стаўкоў. Лешч не хоча, не зносіць вады-каламуці. Не-не!

Свіслачы нашай на вачах і прыкметна вяртаецца празрыстасць, хоць свіслацкага дна, пясчанага, як з золата, яшчэ няма. А мо з часам, а мо зусім неўзабаве будуць зноў несці ёй сцюдзёнасць незлічоныя крыніцы; веру, што зноў пасцелецца яе, свіслацкае, чыстае, дно і стаяць будуць чародкі ладных і мен-

шых гленяў-галаўнёў, а там глядзі — і з чырвонымі пёркамі язёў. Каля Заслаўя і за Заслаўем, дасць бог, зноў стануць у вірах пад карчамі ў засадзе, падпільноўваючы гаркушу, сліжыка, коніка, муху ці іншае такое, што пралятае па-над самаю вадою,— распрыгожыя *стронгі*. Мо зноў паселіцца беларускі *ліпе́нь*, якога ў Расіі называюць шведскім словам — харыус. Ліпе́нь, хоць і зусім нягуста, яшчэ ёсць, яшчэ трапляецца ў Іслачы. Стронгі? Стронгі жылі, нераставалі, пладзіліся ў рэчках, што бягуць, звіняць з Мінскага ўзвышша. Тут гаманілі, журчалі, звінелі, кіпелі бясконцым мноствам крыніцы. Беглі і ў Волму, што выскоквае з-пад Каралёвага Стану, і ў Гайну, і ў Свіслач, і ў Вязынку, Удру, Лужанку і Вушу, Пярэтруць і ў другую Волму, што на Валожыншчыне, у Канатопку, што пад Іляю... Лавіў я ў тых рэчках стронгу.

Крыніцы, крыніцы, крыніцы... І — яшчэ раз — стронгі. Вадзяное наша дзіва, вадзяны наш цуд.

Гадаваліся яны нават у рачулцы, якая бегла ў Астрашыцкае возера паўз шашу Мінск — Лагойск каля вёскі Мар'ялі́ва. Кароценькая рэчка, нейкія два кіламетры ад крыніцы — пачатку рэчкі — да Астрашыцкага возера. Рэчка тая спачатку стала на нейкі час слязінкаю, апошнія ж гады — сухабокаю змрочнаю канаваю, так што па ёй толькі пасля вялікага дажджу або веснавою паводкаю вельмі нядоўга спяшаецца вада, мутная, з хіміяй, з пылам, смеццем, торфам у Астрашыцкае возера. Вада ўжо не крынічная. І не рэчка, паўтаруся, каля Мар'яліва. І не ручаёк, а проста звычайны роў, нібы траншэя з тарфянымі рудымі берагамі. Няма на дне таго ручаёвага, прамытага і чыстага пяску. Няма там вады і на жабу.

Стронгі... Ручай каля Мар'яліва... Не стрымаюся, раскажу.

Годзе ў шасцідзесятым я лавіў плотку ў Вячы. Прыпарыла, нахмарыла, яшчэ не загрукатала над галавою, але без памылкі бачыў, адчуваў, што неўзабаве ўдарыць пярун і лупане навальнічны дождж, улева, або лея. Сама плотка падказвала — яна зусім перастала кляваць. Разумеў: не клюе і не будзе.

І пеша з Вячы аж пад Мар'яліва на ручай, што з вірамі пад карчамі, пад навіслымі беражкамі. Дайшоў да ручая — якраз лінуў дождж. Афіцэрская накідка — то дождж не на цябе. Ды ён і паспакайнеў, хоць ішоў спорны. У руцэ нацэленая вудка. А можа... Праверым шчасце.

Закінуў — не клюнула, а паплавок прапаў, нават аднае секунды не паляжаў на вадзе. Падсякаю і чую: ёсць. Ёсць, ды, добра чую, не мая. Стронга кінулася, ірванула пад другі бераг. Кавалак жылкі і паплавок паляцелі ўгору...

У запасе — мацнейшая, чым на плотку, жылка, у запасе большы кручок.

І ў мяне восем іх, *стронгаў*, нібы рэактыўных, пружыністых і неапісальнай прыгажосці.

Жывыя, з мазаікай каляровых крапінак.

Сціхаў дождж. У рэчцы, бачу, памутнела вада. На такіх ручаях, рэчках гэта — не супраць рыбака: яшчэ абавязкова клюне стронга. Аж тут падыходзіць рыбак, таксама з накінутаю наапашкі палаткаю. Ён гупаў нагамі, плюхаў па лужынах, а тады загрукатаў словамі.

Дождж сціхаў. Стронгі? Як і не было іх. А той павітаўся, дыхнуў, нібы комінам тытунёвай фабрыкі, дастаў з торбы мерку, памераў мае стронгі — кожная большая 37-мі сантыметраў, кожная меншая 33-х. Якраз па чатыры большых і меншых.

Не ведаў я тады, што каля вёскі Мар'яліва было маё развітанне з ручаём, тады было і маё развітанне са стронгаю.

І ніколі, добра ведаю, не будзе тут, каля Мар'яліва, кампенсацыі.

Свіслач...

Сёлета дзіва маё добрае было яшчэ ярчэйшае, чым тады, калі ў сетачку́, у руцэ майго знаёмага, варушыўся шырокі ляшчовы хвост. Там, дзе мост-грэбля, з якой падае ўніз вада Камсамольскага возера, там, дзе зноў ідзе, як і бывала, чыстая Свіслач, па адным ці па два падымаліся на быстрыні і, хвасянуўшы хвастамі, порстка знікалі яльцы, або стаўбуны, якія хочацца і нават цягне назваць цяплей, мякчэй — гэтак, як звалі мае равеснікі і я ў маленстве:

я́льчыкі, стаўбункі́. Далікатныя і вельмі спрытныя гэтыя рыбкі, растуць невялікія: калі ялец-стаўбунок на дваццаць пяць сантыметраў, то гэта ўжо ўга які! Ну і яльчык! Такія гадаваліся і жывуць не ва ўсіх беларускіх рэчках; у раўнінных і прыбалочаных, скажам, палескіх, ушацкіх, такога не толькі не зловіш, такога і не ўбачыш; ладныя ж — толькі на чыстых-чыстых і шпаркіх рэчках, як тыя, што вакол Мінска: у Іслачы, Дзвінасе, Удры, Вязынцы, Рыбчанцы, Усяжы...

У Свіслачы яльчык? Радасная прымета. Запыніўся ён, шукаючы свайго «пасёлка», і трымаецца чародкаю. Не абы-дзе! Толькі там — дзе хуткая чыстая вада, дзе расчэсвае яна доўгія травінкі-зялінкі. Яльчыка не ўбачыш, дзе з трубы або з-пад варот сцякае ўсё-ўсякае з вадою. Ён не даходзіць з вадою, з цячэннем ад Камсамольскага возера нават да Палаца спорту. Не прыманіш, не прыгоніш!..

...І лешч сёлета пайшоў вышэй, пакінуўшы шырокую вадзяную роўнядзь, што каля Студыі тэлебачання. Пайшоў угору, больш на лю́дскую, хоць і меншую, ваду, пад Камсамольскае возера. І трэцца каля заставак, і цэліцца падскочыць, каб сысці з пашырэлай Свіслачы, і, здаецца, нават бачыцца мне, з поспехам — сваім ратункам.

Марудна ажывае наша Свіслач. Спадзяюся: быць над Свіслаччу ў Мінску і за Мінскам незлічоным вербам, што і да нядаўняга часу хавалі, ратавалі свіслацкую ваду, а ў ёй не калючку і не драбнюткую верхаводку. Зноў гадавацца ў Свіслачы яльчыку, язю, галаўню-гленю, стронзе, ліпеню́... І зловім там плотку з калодку, акуня з каня... Рады я, што сёлета радзей бачыў іншае «дзіва», такое, з якім сутыкнуўся ў 1979: у вялікай гумовай лодцы аж чатыры мужчыны з дзвюма чарпалкамі — так званымі павукамі; гэтыя чатыры, што з пачырванелымі тварамі, з нібы падсіненымі насамі, часам вычэрпвалі са Свіслачы то плотачку, то верхаводку-ўклейку, а то і падлешчыка. Не стрымаўся, азваўся я да тых чатырох у лодцы. А яны, усе чатыры, застаючыся на месцы, не толькі не змаўчалі, а быццам кінуліся, зіркаючы і неяк палыха́ючы, на мяне. Адзін: «Ні запрышчано

павукамі!» Другі: «Правалявай!» Трэці: «А табе што?» Чацвёрты: «Завідкі ўзялі? Зайздрыкі?»

На беразе Свіслачы (гэта каля Палаца спорту, злева ад яго) стаяў тады я не адзін. На «ні запрышчано!», на «правалявай!» чацвёрка тая пачула з майго берага мужчынскія галасы і мужчынскія словы з цвёрдым і неадступным тонам недаравальнасці.

Даплылі тыя чацвёра да другога берага, выбраліся з ракі разам з павуком і з лодкаю, і кожны разы па два-тры воўкам блiснуў на нас.

...Свіслачы, яе вадзе, яе ляшчу, яльчыку, язю не трэба павукоў-чарпалак. Свіслач трэба берагчы ад «павукоўцаў».

Праўда, у майстэрнях — шкада і балюча — вяжуць і вяжуць тыя павукі, іх прадаюць і прадаюць, колькі хочаш, у спартыўных магазінах. Павукі на тую рыбу, якая ўжо была звялася ў Свіслачы, але зноў завялася, або заводзіцца, або завядзецца.

Не трэба «павукоўцаў» і на тую рыбу, якой у адных рэках, абтупаных, вытаўчаных, як ток, паменела, у другіх зводзіцца.

Рыбакі ведаюць: на кожны метр Свіслачы прыпадае не адна, а многа больш малюсенькіх калючакрыбак з калючкаю на спіне. Гэта, як на былую крынічную,— смецце ў Свіслачы: у ёй расплядзілася калючак да незлічонасці, яна з'ядае корм, з'ядае, аб'яднаўшыся з яршом, ікру.

Не трэба гэтай калючкі ў Свіслачы, і не памятаюць ні мінчукі, ні тыя людзі, што жывуць па-над Свіслаччу і яе прытокамі гэтакага нашэсця калючкі на Свіслач.

Чакаю газету. Спадзяюся і веру, што неўзабаве атрымаю тую, у якой прачытаю лаканічнае і простае: у Свіслач нашу не ка́пае і кропля мурзоцця з прыхаваных з-пад берагоў труб, з колішняе прытокі, а сёння з канавы, што цячэ ў Свіслач з-пад велічэзных і велічных, зусім блізкіх ад Свіслачы гасцініц, якія прыгожа і магутна ўскінуліся ў неба насупраць Палаца спорту.

Зрабіць гэта ў сотні разоў прасцей і лягчэй, чым тое, што зрабілі мінчукі, зрабіла сталіца Беларусі: амаль дваццаць пяць кіламетраў ідуць адна за ад-

ною шырокія і глыбокія, чыстыя і прыгожыя, з дагледжанымі зялёнымі берагамі праточныя азярыны. Ад Заслаўя да самага Мінска.

## ПІСЬМО

Выкладчык педінстытута атрымаў пісьмо. На канверце і ў канцы пісьма — Міша Грушнік. Выкладчык прыпамінае, хто такі Міша Грушнік. Былы студэнт? Сваяк?

Адгадку знайшоў у самім лісце.

З гэтым самым выкладчыкам педінстытута прыехалі ў вёску чатыры студэнткі-першакурсніцы. Восень, зіму і вясну вучыліся, а ўлетку будуць збіраць словы, прыказкі, іншае дарагое дабро. Выкладчык спыніўся ў Грушнікаў: добрая кватэра, уважлівыя гаспадыня і гаспадар, спакойны Міша, які толькі што скончыў восьмы клас, збіраецца падацца вучыцца на агранома ці садоўніка. З самай раніцы і да ночы Міша быў пры госцю: пазваніць у горад схадзілі на пошту ўдвух, купацца — Міша ведае рэчку — хадзілі ўдвух, пабачыць, як дзяўчаты запісваюць адказы на праграму — удвух. Дзяўчаты згатавалі палудзень — за сталом сядзелі абодва. Словам, вучоны дзядзька з горада і Міша пасябравалі. Выкладчык пабыў у вёсцы два дні, паказаў дзяўчатам, што і як рабіць, і паехаў у горад чытаць лекцыі завочнікам — у іх экзаменацыйная сесія. На аўтобусным прыпынку перад пасадкаю ў аўтобус і жартам, і напраўду выкладчык казаў хлопцу:

— То глядзі ж. Яны тут новенькія. Як твая мама сказала, «нетутэйшыя, бо не гэтак гавораць».

А пісьмо тое? Вось яно:

«Пры мне Вашы студэнткі распытваліся ў людзей і запісвалі словы. Нядаўна прывезлі мне з Мінска кніжку, у ёй артыкул тых Вашых студэнтак, што ўжо не студэнткі,— што ўжо асістэнткі (так напісалі над артыкулам). Надрукавалі яны, што ў нашай вёсцы кажуць «расказвала аб усім» і «расказвала аба ўсім». А ў нас не кажуць «аб усім», ніхто не скажа

«аба ўсім», гэтак пішуць у нашай раёнцы. У вёсцы не гэтак. Пры мне было, як распытоўваліся і як запісвалі: «Скажыце, бабка, як у вас кажуць: «расказвала яна аба ўсім?», «расказвала яна аб усім?» А ў нас кажуць:

«Што яна табе расказала?»
«Пра што яна табе расказала?»
«Што яна табе чытала?»
«Пра што яна табе чытала?»
«Што яна табе шаптала?»
«Пра каго табе нашаптала?»

Я скончыў садоўніцкі тэхнікум, раблю ў калгасным садзе і нашу з сабою блакнот. І штодзень запісваю, я запісваю хоць што: словы, прыказкі, песні, смешкі, прыпеўкі. Напішыце мне, я Вас надта прашу, ці можна, запісваючы, распытваць: «Як у вас кажуць: быў у полі ці быў на полі, пыталася аб Паўлу ці пра Паўла? Расказвалі аб Ядзі ці пра Ядзю? Мне здаецца, калі трэба праўду запісаць, гэтак пытацца нельга. Бабульцы ж не баліць галава, як ты запішаш і што запішаш. Яна і скажа абы. Дык і тады студэнткам бабка казала (гэта добра памятаю): «Як хто хоча... Як хто ўмее... Хоча так, хоча гэтак... Як сабе хочаце...» І запісалі дзяўчаты і тое і тое. А выйшла, што запісалі, чаго ў нашай вёсцы і няма. Запісалі не тое. Як цяпер думаю, то мне ажно смешна з таго, што пыталіся: «Казаць аб гнаі ці казаць аб гнаю?»...

Я хачу паступіць на завочнае, на мову і літаратуру. Прышліце мне, калі ласка, праграму экзаменаў. У мяне ўжо цэлыя стосы кніжак пра мову. Слоўнікі, граматыкі і артыкулы з часопісаў. Я выразаю і падклейваю. Міша Грушнік».

## СТАРОНКА Ў «МАЛАДОСЦІ»

Паглядзеў змест першага нумара (1979 год) «Маладосці», гартануў старонкі і адразу пачытаў эсэ Аляксея Марачкіна «Зямныя крокі». Піша малады мастак пра Язэпа Драздовіча (1888—

1954 годы). Сённяшні — пра недалёкае дарагое, неацэннае ўчарашняе.

Пра самабытнага і арыгінальнага жывапісца і графіка, этнографа і фалькларыста, лексікографа (слоўнікара!..) Язэпа Драздовіча чытаў я не раз і нямала. А тут? Напрошваюцца (але я стрымаю сябе) ацэначныя выклічнікі.

Чытаюцца «Зямныя крокі» як слова паэта пра другога паэта. Нібы Аляксей Марачкін добры дзесятак гадоў працаваў на ніве паэзіі: сам пісаў вершы ці аналізаваў чыесьці, нібы пісаў і напісаў не адно, не два эсэ. Аляксей Марачкін любіць Язэпа Драздовіча дарагою любоўю і ведае, як і дзе жыў, што рабіў, колькі і як, у імя чаго і каго нястомна і самааддана працаваў Язэп Драздовіч — патрыёт, чалавек высокага грамадзянскага доўгу і абавязку, чалавек высокай культуры.

Эсэ «Зямныя крокі» ўзнікла не таму, што Аляксею Марачкіну трэба было падаць установе... справаздачу: «Калі ласка — і мая друкаваная прадукцыя!..» Аляксей, мастак і выкладчык тэатральна-мастацкага інстытута, напісаў эсэ, прачытаўшы якое, сённяшні юны чытач будзе ведаць, хто і што Язэп Драздовіч. І захоча прачытаць пра Язэпа Драздовіча больш, паглядзець яго працы, падзівіцца, з якім захапленнем працаваў Язэп Драздовіч на роднай ніве.

...Сваю шчырую ацэнку, сваё разуменне асобы і дзейнасці Язэпа Драздовіча Аляксей Марачкін выказвае намінатыўнымі (яны звычайна кароткія) сказамі,— у чытача самі падбяруцца належныя інтанацыі.

Язэп Драздовіч. Дзядзька Язэп. Дзівак і летуценнік... Нястомны падарожнік... Вучоны і творца... Беларускі музей... Мастак Аляксей Марачкін выбраў жывую і зручную форму азнаямлення з жыццёвай і творчай дзейнасцю Язэпа Драздовіча. Аляксей бачыць дзядзьку Язэпа, прапануе адпачыць, каб паглядзець і агледзецца вакол, каб расказаць пра думкі, шляхі-дарогі і сцежкі, пройдзеныя мудрым сынам беларусаў.

Бачу, ідзе ён... Здалёк відаць ягоная высокая, адметная постаць. Прысядзь на прыдарожны камень...

Адпачні...

Так хочацца пачуць з вуснаў тваіх пра жыццё і вандроўкі нялёгкія...

І нетаропка раскрываецца скарб, поўны таямніц і цудаў. Згадваецца слаўнае мінулае роднага краю... Землякі і вяскоўцы звалі яго проста дзядзька Язэп... Нясоладка было яму ў міжваенныя гады. Не меў дзядзька Язэп Драздовіч у акупацыйных белапольскіх умовах ні працы, ні хаты, не было службы, якая давала б сродкі на жыццё.

Ні працы... ні хаты... Жыў дзядзька Язэп, кажучы словамі Янкі Купалы, дома — як не дома...

Многа бачыў і ўбачыў Язэп Драздовіч. Многа з убачанага, пераЖытага, асэнсаванага пакінуў нам. Хоць не меў і аднае творчае камандзіроўкі «з мэтай вывучэння жыцця».

Творы Язэпа Драздовіча адметныя, незвычайныя, іх ніколі не зблытаеш з іншымі.

Чатыры, лічаныя чатыры разы я сустрэў Аляксея Марачкіна. Сімпатыі і сімпатыі, пашана, магчыма,— узаемныя; калі так — я рады: пабагацеў. Першы раз сустрэліся ў Палацы мастацтваў на выстаўцы Пётры Сергіевіча. Ішлі разам ад Палаца да самай... Круглай плошчы. Але я паспеў пачуць, зразумець: Аляксей Марачкін добра ведае Пётру Сергіевіча, яго творчасць. Праз месяц які сышліся на часінку: пазваніў Аляксей, каб сустрэцца, каб падараваць мне даўно выдадзеную і нядаўна знойдзеную беларускую кніжку пра мову. «Каб не звалялася ці не згубілася». Трэці — зноў жа выпадкова — проста на вуліцы. Гледзячы на ілюстрацыю ў кніжцы (у акне кнігарні), я ўспомніў беларускае склютаваць. І ўсе тыя хвіліны гаварылася пра склют, склютаваць, склютаванне, склютаваныя (сцэны) і пра нос... як склют. Гэтых слоў,— шкадуючы, сказаў Аляксей,— не чуў, не ведаў... Добра гаварылася з маладым і здольным, тады здавалася, філолагам. Кароткая была і чацвёртая сустрэча, на

Паркавай магістралі. Аляксей ішоў у сваю майстэрню, запрасіў мяне з сабою. Пабачыў я там яго партрэт яго мамы — несумненны Аляксееў поспех, мілая ўдача.

Нарэшце — першы нумар 1979 года нашай «Маладосці». Яшчэ адна, пятая сустрэча.

Прымаю гэты нумар «Маладосці», як гасцінец ад рэдакцыі.

Як Аляксееў гасцінец.

Як дарагое, шчырае слова пра дарагога Язэпа Драздовіча.

## ГАСЦІНЕЦ З УКРАІНЫ

Ларыса Скрыпнік — доктар філалогіі, загадчыца кафедры з Кіева. Прозвішча гэтага лінгвіста — на першай грунтоўнай кніжцы ўкраінскай фразеалогіі і не на адным томе багатющої, праслаўленай на ўвесь свет савецкай украінскай лексікаграфіі. Спыталася ў мяне Ларыса Скрыпнік, ці бачыў я «Шевченківський словник».

Слоўнік гэты ў мяне на стале.

Два тамы. Больш за *сто трыццаць пяць* аўтарскіх *аркушаў*. *Тысяча* ілюстрацый. Тут, як сёння яго ведаюць,— увесь *Тарас Шаўчэнка*. Тут — усе поспехі і здабыткі шаўчэнказнаўства. Прачытаеш у слоўніку пра ўсіх тых сучаснікаў, хто заўважыў Шаўчэнку, быў сябрам, паплечнікам яго, пра ўсіх, хто перакладаў Шаўчэнкавы вершы, паэмы на іншыя мовы, пра ўсіх, хто даследаваў Шаўчэнкавы творы, іх мову; прачытаеш пра месца Шаўчэнкі ў гісторыі славянскіх літаратур і літаратур свету... Знойдзеш ацэнку Шаўчэнкі ў радках і кніжках гісторыкаў рэвалюцыйнай думкі, гісторыкаў літаратуры, паэтаў, літаратуразнаўцаў, лінгвістаў, мастацтвазнаўцаў, перакладчыкаў, журналістаў...

Усяго не пералічу. Бо — не пералічыць.

Карты мясцін (гарады, мястэчкі, вёскі), дзе хадзіў, ездзіў, працаваў вялікі Кабзар. Як багата мясцін, дзе багата чаго ён бачыў, багата чаго чуў. Ад-

туль, з тых мясцін і дарог,— багацце Шаўчэнкавай мовы, адтуль сюжэты, адтуль афарызмы, адтуль вялікая Шаўчэнкава праўда ў імя радзімы, чалавецтва.

На карце і шлях Тараса-выгнанніка, шлях расправы...

На цэлай палове аркуша расказваецца пра ўшанаванне памяці геніяльнага ўкраінскага паэта, мастака, рэвалюцыйнага дэмакрата.

Медалі і іншыя адзнакі. Яны ўшаноўвалі і ўшаноўваюць Кабзара. Іх шмат. Нядаўнія і даўнія. Падараваныя свету мастакамі і ўмельцамі, знаўцамі Шаўчэнкі ў 1884, 1896, 1911, 1914, 1917, 1939, 1961, 1961, 1967 гадах.

На Украіне пяць дзяржаўных музеяў Шаўчэнкі, У кожным украінскім універсітэце (іх дзевяць), у кожным педагагічным інстытуце (іх дваццаць пяць) ёсць музеі-пакоі, у школах — куткі і выстаўкі пра жыццё і творчасць Шаўчэнкі.

Шаўчэнкавы выданні савецкага часу на Украіне. Іх — 245, агульны тыраж — 13 500 000 экземпляраў; выданняў асобных твораў — 148, тыраж перавышае 1 457 000 экземпляраў.

У двух тамах Шаўчэнкаўскага даведачнага слоўніка надрукаваны артыкулы *пяцісот* аўтараў — такі аўтарскі калектыў.

Знойдзем у слоўніку, напрыклад, артыкул «Беларуская літаратура і Тарас Шаўчэнка», тут і сфатаграфаваныя выданні яго на беларускай мове; артыкул (з партрэтам) пра Максіма Багдановіча — беларускага паэта, перакладчыка, літаратуразнаўца, які пісаў беларускаю, рускаю і ўкраінскаю мовамі. Знойдзем іншыя артыкулы на тэмы Шаўчэнка і Беларусь, беларуская літаратура і Шаўчэнка... Трапілі ў слоўнік Мінск, Бабруйск, Жлобін... Быў у гэтых гарадах Тарас Шаўчэнка (1829 г.), калі ён з абозам ішоў далёка, у Пецярбург.

Бачу: ніхто з тых, хто планаваў і рабіў двухтомны капітальны слоўнік, не сказаў (каб — хавай божа! — не саграшыць, не награшыць) слова «самаокупаемость»...

Маці Украіна *розумам, душою, сэрцам* сказала пра свайго геніяльнага сына Тараса.

Памятаю, хоць не зусім дакладна, адно надрукаванае акрэсленне. Не памятаю, каму яно належыць. Але як толькі разгортваю «Шевченківський словник», абавязкова прыгадваецца сэнс таго аднаго акрэслення: культуру народа, яго сталасць пазнаюць не па тых геніях, якіх нарадзіў гэты народ, а як ставіцца да сваіх, ім народжаных геніяў. Шаўчэнкаўскі слоўнік — і самаацэнка Украіны.

Украінка Ларыса Скрыпнік у вайну была радавым салдатам, малодшым сяржантам, сяржантам, старшым сяржантам. На фронце. Потым — трыццаць гадоў працы і працы: вывучэнне лексікі і фразеалогіі «сладкопевной, ни с чем не сравнимой украинской мовы» (Ул. Салавухін). Дай божа здароўя Вам, мілая Ларыса Скрыпнік — бабуля пяцігодачка Тарасіка, за Ваш неацэнны гасцінец «Шевченківський словник». Няхай шчаслівы будзе Ваш Тарасік — нашчадак геніяльнага ўкраінца Тараса!

## НАСТАЎНІКІ

Калі чалавеку ідзе ўжо сёмы дзесятак, ён не вельмі пахваліцца, што яго памяць становіцца вастрэйшая і ярчэйшая: узрост ёсць узрост; гады і дзесяцігоддзі, сцяжынкі і дарогі, шляхі і гасцінцы, радасці і беды — усё гэта робіць сваё. Але ты, мая памяць, не маеш дазволу забыцца на тых, хто вучыў стаяць цвёрда на зямлі, умець жыць перспектывай і пасумаваць, узрушыцца да слёз ад людскога шчасця і перанесці сваё ці нечае трагічнае.

Адгарну некалькі старонак памяці...

...Звалі мы яго, нашага настаўніка, проста і хараша — дзядзька настаўнік. Гэтак хараша і проста перад Станіславам Бараноўскім здымалі шапкі нашы бацькі, а вучачыся ад бацькоў — і мы, дзеці, падлёткі (наша мілае палескае слова нібы пра тых птушанят, што ўжо ўмеюць і «падлётаць»). Не чуў я ад

майго першага настаўніка пагрозлівых «Сціхніце! Ціха! Не крычыце!».

Аднойчы настаўнік выйшаў са свайго пакойчыка, сеў на ганку. Мы акружылі настаўніка. У яго ў руках была кніжка і два здымкі; на адным — наш настаўнік чытае ў акопе кніжку (гэта яшчэ з першай сусветнай), чытае, мабыць, калі заціхлі гарматы, кулямёты; на другім — пад шырокаю грушаю чытае чырвонаармейцам газету (гэта ўжо з грамадзянскай). І ў той дзень мы, дзеці, гаварылі і думалі пра настаўніка. Думаў і праз добрых пяцьдзесят. І сёння бяру, гартаю запомненую ў руках настаўніка кніжку «Шляхам жыцця», палову якой добра памятаю з далёкага маленства. Памятаю Купалава, яно і Настаўнікава, яно і маё.

Вучыў Станіслаў Бараноўскі адразу ўсе чатыры класы майго дарагога універсітэта, дзе рэктарам і лектарам, сакратаром і бібліятэкарам, бухгалтарам і сталяром быў ён адзін, наш дзядзька настаўнік.

На ўроку чыталі Коласаў верш «На рэчцы зімою». З сарака пяці хвілін урока настаўнік мог адвесці нашаму класу на чытанне найболей 7—8. Сказаў ён, каб мы павольна прачыталі першы раз, а потым, узіраючыся ў радочкі, чыталі другі, трэці раз. Казаў — скупа, коратка,— што ў вершы і мама, і хлопчык, і рэчка...

— Такая тут праўда! Нібы Колас усіх вас ведае і вашых матак ведае. Нібы ведае, як любіце сваю рэчку...

Мы павінны былі навучыцца чытаць верш. Чытаў кожны сам сабе ці, як па-руску кажуць, «про себя». Чацвёртае чытанне — вучнева, а ўсе — клас і настаўнік! — слухалі.

Паслухаў, і былі настаўнікавы папраўкі, пара́ды, падказкі.

— Ну, як ты прачытаў! Хлопчык не кажа, ён — просіць: «Мамачка, галубка! — просіць ён так міла.— Можа б ты на рэчку пагуляць пусціла?»...

Прачытаў настаўнік сам, а мы ўбачылі: не ўмеем чытаць верша. І без клятвы: навучымся, абавязкова навучымся!

— Хіба ж так трэба чытаць словы «трошачкі на рэчцы ў санках паважуся»?

І чытаў:

— «Ну, ідзі пабегай, толькі апраніся. Ды, глядзі, ў палонку, сынку, не ўваліся...»

Я не мог аднойчы даслухаць да канца пара́ды настаўнікам у вялікай зале з кафедры на звышгрунтоўнай аснове, што перад чытаннем «На рэчцы зімою» настаўнік павінен расказаць дзецям, якія вялікія, цудоўныя каткі робяць у наш час; узімку на катках — ні сцюжы, ні марозу, улетку — ахалода... Апісаць, якія канькі выпускаюць сёння на заводах. Давесці дзецям і атрымаць адказы на пытанні: «З чаго, дзеці, бачыце, што ў вершы не пра лета, а пра зіму пішацца?» «Ці любіць хлопчык маму?» «Ці любіць мама хлопчыка?» «Адносна (!..) чаго яна робіць хлопчыку папярэджанне?» Настаўнік павінен выказаць пажаданні дзецям: «Любіце маму» «На рэчцы трэба асцярожна катацца» «Трэба цёпла апранацца»...

Пытаннямі, парадамі «метадыст» гэты нібы растаргоўваў і знішчаў верш. І проста калючы быў вывад: «Хавайце дзетак ад сцюжы і марозу, ад сонца і ветрыку»... Нібы толькі без сонца, без ветру і сцюжы дзеці будуць станавіцца дужымі, мужнымі, добрымі...

На ўсё жыццё з настаўнікавага ўрока запомнілася сыночкава просьба да мамачкі-галубкі... Жвавасць верша, жывое жыццё людзей, дарагая прырода.

Завучыўся ўвесь верш. Ад радкоў «Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому, кліча яго рэчка, цягнуць санкі з дому...» І канчаючы «Ад той песні-казкі трудна адарвацца, і ёй струны сэрца хочуць адклікацца».

...Маім навуковым кіраўніком у аспірантуры быў Віктар Баркоўскі — акадэмік АН СССР, акадэмік АН ЧССР, акадэмік АН ГДР, акадэмік АН ФРГ (Майнц). І не было нават аднаго выпадку, каб ён, дарагі настаўнік, не адгукнуўся, не напісаў мне свайго слова, калі я пасылаў кніжку (маю́ ці маіх беларускіх калег або вучняў), калі настаўнік атрымліваў віншаванні з таго ці іншага выпадку, калі

атрымліваў маё самае просценькае чарговае пісьмо пра тое, як і што раблю я — вучань яго. На атрыманую кніжку або публікацыю ў часопісе ці зборніку заўсёды і без спазнення прыходзіць лаканічнае пісьмо, з якога відаць: акадэмік прачытаў дасланае, ён не пакінуў без увагі майго нават публіцыстычнага артыкула.

Выйшла з друку другая частка маёй гістарычнай граматыкі беларускай мовы. Я адаслаў настаўніку. Прайшоў тыдзень — прыйшло пісьмо, напісанае, як заўсёды, энергічным почыркам. Настаўнік ацэньваў кніжку, рабіў падказкі на заўтрашнюю працу. Было і другое. У бібліяграфіі да гэтай кніжкі я прапусціў імя нашага вялікага вучонага і грамадзяніна, аўтара капітальнай — з сямі кніг — працы «Беларусы» акадэміка Я. Ф. Карскага. Я знайшоў свой рукапіс, у ім — бібліяграфію, там кніжка Я. Ф. Карскага ёсць. Недарэчная выпадковасць. Але ні ў пісьме акадэміку, ні ў душы я не меў права нешта тлумачыць: памылка.

Настаўніку ўжо за восемдзесят. Але і сёння, як і дваццаць — трыццаць гадоў назад, не бывае яго просьбы прабачыць, што ён забыўся, што ў яго слабее памяць. У яго працы, у яго стаўленні да вучня — неадступнае: увага. Ён не адкладзе з адказам на запытанне, не адкладзе на наступны дзень параду ці папраўку.

Аднойчы я быў на вечары супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН СССР. Пасля ўрачыстасці пачалася мастацкая частка. І слухалі: спяваў адну за адной беларускія народныя песні, спяваў арыю з класічнай оперы наш дарагі зямляк, акадэмік.

Год з дваццаць таму назад Баркоўскі чытаў у Мінску лекцыю пра акадэміка Я. Ф. Карскага. Не мог я не сказаць настаўніку і пра тую ўвагу, з якой аўдыторыя лавіла кожную лектараву фразу, не сказаць пра ўвагу, з якой аўдыторыя прымала і погляды самога вучонага, і аналіз неперспектыўных меркаванняў некаторых даследчыкаў. Сказаў тады Віктару Іванавічу і... што, па-мойму, можна было чытаць эканомней: здаецца, ён не беражэ лектаравага інструмента — голасу, горла. Акадэмік тлумачыў: у маладыя гады ён меў шчасце заняцца не

толькі адукацыяй, а і пастаноўкаю голасу ў выдатных спецыялістаў. Дадаў:

— Я ж чытаў лекцыю дома, у Мінску! Чытаў тое, чаго яшчэ ніякай аўдыторыі не чытаў.

Няма сёння ў славянскім мовазнаўстве другога вучонага, хто зрабіў бы і робіць столькі ў вывучэнні гістарычнага сінтаксісу ўсходнеславянскіх моў. Няма другога такога, як нястомны і вялікі сінтаксіст нашага часу акадэмік Віктар Баркоўскі. Я меў шчасце вучыцца ў яго працаваць.

...У мястэчку Ра́дашкавічы жыве настаўніца Ксеня Раманоўская. Яна была маёй калежанкай, а цяпер на пенсіі. Перайшла ўжо ў восьмы... дзесятак гадкоў.

Не раз са згоды настаўніцы, а раз-другі і без яе згоды гартаў сорак сшыткаў сарака вучняў Ксені Раманоўскай. Гартаў і чытаў сшыткі, учытваўся ў іх старонкі. Учытваўся, і дзівіўся, і здзіўляўся: са старонак вучнёўскіх сшыткаў бачыліся дасведчанасць, неспакой, клопат настаўніцы пра сваіх вучняў — заўтрашніх гаспадароў зямлі, жыцця. Са сшыткаў бачыліся дысцыпліна, вывучка, прывітая дзецям Ксеняй Раманоўскай. Ведаю, калі яна выпускала свой, тады не трэці, а чацвёрты, клас, усе настаўнікі пятых — дзесятых класаў, не хаваючыся, казалі: як добра было б стаць класным кіраўніком пяцікласнікаў — выхаванцаў нязменна строгай, працавітай, умелай настаўніцы.

Яе выхаванцы ведаюць грыбы. Яны — грыбнікі, ягаднікі. Яны даглядалі і даглядаюць сады. Іх, выхаванцаў, і сёння багата ў Ра́дашкавічах.

Было ж... У школу — гадоў праз пяць пасля вайны — прыехаў малады, але з вельмі падарваным здароўем настаўнік. І кожную раніцу, на ўсходзе сонца, падаіўшы карову, спяшаючыся, каб не астыў сырадой, Ксеня Георгіеўна несла і падавала настаўніку збанок у акно. Лячыла без рэцэптаў. Лячыла ўвагаю, лячыла душою. Той настаўнік працуе і сёння, вучыць, піша, друкуе кніжкі. І не злічы́ць, колькі разоў — не за год! — успамінае ён памяццю чалавека і чалавечнасці Настаўніцу Ксеню Раманоўскую, што ратавала настаўніка, як не ўсякая матка ратуе сына.

## ХІТРА, МУДРА...

Хітра, мудра, невялікім коштам — афарызм. Родны ён, наш, беларускі. Ні пераказваць, ні пераказаць. Ні папраўляць, ні перарабляць. Хто чуе — той пачуе. А не чуе — не... «жаваць».

Як і... не вучыць гусака кукарэкаць.

Як і... не вучыць цецерука кукаваць.

Як і... не шукаць умеенкі ў таго мудрага, што пайшоў беразак (бярэзнік) бяліць; як і не чакаць кемлівасці ад таго, хто дровы ў лес возіць і ваду ў студню носіць...

Чалавек бядуе сваю бяду. Цяжка яму. І нібы на свеце толькі адзін ён бядотнік, гарэтнік, няшчаснік. А выйдзе на людзі, пабачыць людзей, пачуе людзей і ці падумае, ці падкажуць:

Пад кожнай крышай свая мы́ша (сваé мы́шы)...

Чым абыякі, то лепей ніякі...

Ніхто не зробіць горш табе, як сам сабе...

Хітра, мудра невялікім коштам.

Хітра, мудра і вялікім коштам.

## СПЯВАЛА...

На юбілейным вечары Тамара Раеўская спявала песню «Усё прайшло, адгаманіла». Зала — пісьменнікі, настаўнікі, журналісты, студэнты — не дыхала. Усе душы ўсіх сабраных на гэтым вечары былі з Тамараю Раеўскаю, з яе песняю. Мая суседка злева разы тры ці чатыры падымала да вачэй хусцінку, выцягнуўся і наструніўся мой сусед справа.

Даспявала артыстка песню — зала, нібы загіпнатызаваная, секунды маўчала. Прысутныя не ўседзелі, падхапіліся. Зала грымела. Тамара раз і другі паўтарыла песню.

А дзён праз пяць тую самую песню спявала «самодзейнасць»... 

і больш ганараваная. Я слухаў, напружваўся, стараўся слухаць. Але не пазнаваў знаёмай песні.

Другая спявачка выконвала песню не раз пасля. Але той песні — Тамарынай і Аркадзевай, Лучанковай,— я ні разу больш не чуў.

## СУМЛЕ́НКА

Спрачаюцца, даказваюць. І ўпікаюць, і дакараюць, і аспрэчваюць. Разбіраюцца, чаму і нашто зрабілі не так як трэба. Тут і аграном, тут і бухгалтарка, тут і яшчэ тры чалавекі. Да гэтага невялікага гурту падыходзіць лёгкая і спрытная маладзіца (гадкоў ёй ці не сорак). Уся не скліканая тут нарада павярнулася, чакае і сустракае шостую. Бухгалтарка пачала першая:

— Хіба ты, Сумле́нка, нам скажы. Разбярыся, парай. Пачуй, як і што выходзіць...

Расказвалі, раіліся. Спакойна казала, асцярожна і падумаўшы раіла гэта шостая.

А Сумленка — не пасада, не званне «дыпломнае». Сумленка — не імя, не прозвішча. Ні ў метрыцы так не пісалі, ні ў царкве ці касцёле так не ахрысцілі. Яна — Сумленка! Яна такая з людзьмі, да людзей, дзеля людзей.

І людзі з вёскі далі ёй другое і непаўторнае імя.

Дай божа, Сумленка, каб твайму роду ніколі не было пераводу. І не толькі там, на Палессі, дзе пабачылася, дзе жывеш ты, Сумленка; дзе чуюць цябе, Сумленку; дзе побач жывуць, хораша суседзяць з табою, Сумленкаю.

## І НА СТОЛ ЗБЯРУ

Жанчына прадае каштэлі, салодкія смачныя яблыкі, расказвае:

— У нас гэдакіх каштэляў — мы стаўпецкія, недалёка ад Стоўпцаў,— мо' тоны дзве будзя. Прыедзяця — й на стол зьбяру. І яблыкаў танней прадамо: дома ж, цягаць не трэба будзя.

— Як гэта «зьбераце на стол»?

— Ці сваяк, ці чалавек добры трапіцца, то трэба сабраць на стол: кап чыста заслаць, каб наставіць на стол чаго толькі ёсць. І каб на здароўячка. І каб на ўсё добрая.

## НІ МАТЧЫНА, НІ ЦЕШЧЫНА

Радкі з апавядання. Напісаліся яны нібы з клопатам, каб не так, як ёсць, каб не так, як кажуць:

(Вуліцу) «заботна замасцілі каменем»...

«у плотна замошчаным перавулку» (завулку)...

Аўтар апавядання некалі атрымаў дыплом, адразу асеў у Мінску. На захад ад сталіцы, кіламетраў за сто, жыве аўтарава мама, а на ўсход ад сталіцы, кіламетраў за сто пяцьдзесят,— аўтарава цешча. Добра аўтару, ён «да́чнічае»: адно лета ў маткі, другое — у цешчы.

Мы ўтрох (трэці — той самы аўтар) аднойчы пачулі ад аўтаравай маткі, у яе ж хаце:

— Сёлята й нашу вуліцу забрукавалі. Роўнянька выбрукавалі. А завулак пакінулі так. Хай бы ж і ў завулку брук наслалі. Забрукавалі б.

Пачулі неяк пасля і ад аўтаравай цешчы, у яе ж хаце:

— Найле́пі ка́менкі. Каме́ньчык да каме́ньчыка. Ні гразі, ні бяды. Каменкі — найлепі.

Ні тых «мастоў», ні тых «замошчаў».

Ні ў першай, ні ў другой.

А ён, той аўтар? Не разабраўся я: ці ён не чуў ні маткі, ні цешчы, ці — свет вялікі...— не хацеў чуць ні матчынага, ні цешчынага...

## У РЫЗЕ

У Рызе на багатым, каля вакзала, базары купляю ў жанчыны яблыкі і грушы.

— А рэшты можна даць дробнымі? Ці возьмяцца дробнымі рэшты? У мяне й дваццаткі, й дзясяткі. Даць вам такіх дробных на два рублі?

Пытаюся:

— Вы аж з Беларусі прывезлі сюды прадаваць?

— Не. Мы з Латвіі. І называе свой (шкада, што не ўлавіў) адрас.— Я й нарадзілася тутака. Я й унукаў падгадоўваю. Мая мама, мой татуля адсюлека.

## КАЗАЛА, РАСКАЗВАЛА

— Адрэзанаю лустаю жыла.

— Чаму адрэзаная скібка? (Я ведаў, што ў раёне кажуць і луста і скібка).

— У бацькоў не была сірата. Гаспадара, ці мужа, мела. А ўсю жытку адна, быццам увесь век толькі сама сабою была.

— А чаму так: «адрэзанаю лустаю»?

— Бо што з адрэзанае лусты, ці, хай сабе, скібкі? Як ня ссохня, то зьядуць...

Просценька? Не вельмі.

## «ХВАЛІ, ХВАЛІ...»

— Ён — крытык?

— Не.

— Літаратар — даследчык літаратуры?

— Не.
— То хто ж?
— А той — такі, што «хвалі́, хвалі́, каб больш далі». Пра якую кніжку ні напіша, то яна́ — таленавітая, то яна́ — крок, а то і міля, а то і вярста «на поспех, на вышыню».

## МОЙ ДАРАГІ ПАШКА

У дарозе захварэла мая жонка. Само шчасце людское падаслала на дапамогу Пашку Шаханава, бясстрашнага хлопца з паўночнарускага краю, былога партызанскага разведчыка, з якім не раз хадзілі і ездзілі ў разведку, хадзілі ў бой.

— Я на сваіх руках данясу, трэба будзе, дам сваю кроў, але не аддадзім смерці.

Нельга было не зарыдаць...

Не магу чуць ад тых, хто неяк спагадліва, нібы спагадліва, кажа пра ачарсцвелых на вайне. Суровы быў на вайне мой дарагі Пашка (жыве ён у мястэчку Краснае пад Маладзечнам), а не так даўно не дзеля настрою аўдыторыі, а дзеля жыцця ён зноў быў гатовы аддаць частку ці ўсяго самога сябе.

Пасля вайны я працаваў у навучальнай установе і сябраваў з двума франтавікамі. У мяне падапечнаю была адна навучэнка, ціхая і спакойная дзяўчына, вучылася не надта, але дайшла да апошняга курса. У калектыў прыходзіць малады педагог. Неяк утраіх мы расказалі новаму калегу трагедыю сям'і гэтай дзяўчынкі, усёй яе радні: 27 самых родных і блізкіх сваякоў знішчылі фашысты. Засталася без радні. Новы калега, з прыгожым гальштукам, добра дагледжаны малады чалавек, незадоўга да выпускных экзаменаў і раз і другі пагрозліва напамінае дзяўчыне: «На апеку не спадзявайся! Веды паказаць трэба».

Чэрстваcць?

Не, гэта — горшае за чэрстваcць.

І як жа можна такому жыць, і радавацца, і цешыцца з жыцця? Можна жыць, можна працаваць і нават мець нейкі поспех, але не на радасць ні сабе, ні людзям, не на радасць ні людзям, ні сабе. Спадзяюся, што ніхто не ўспрыме гэтага абзаца, як абагульненне пра нашу змену, пра маладых. У нашай рэчаіснасці гэтакі — «чужеродное тело».

Чэрвеньскім надвячоркам утрох мы ішлі з паседжання. Як часам бывае ў блізкіх людзей, ішлі моўчкі, усім хацелася падумаць, памаўчаць. І парушэнне нашай маўчанкі было нераптоўнае.

— Такога ў сапёрную групу я не ўзяў бы,— сказаў адзін.

— І ў разведку такіх не бяруць. Такія, кажуць, з разведкі не вяртаюцца,— дапоўніў і думку і ацэнку другі.

## «ЦІХА Ў НАС, ЦЯНЁК»

Пасля лекцыі спяшаюся дахаты. Насустрач — жанчына. Гледзячы ў вочы, вітаецца, спрытна і коратка расказвае. Яна ўсё, як толькі змагла, прадумала.

— Я Галіна мама. І я слухала залетась на курсах дзве вашыя лекцыі. Трэба ж: Галя мая падкачала, не здала. Але, даю вам слова, яна пастараецца. Сама вазьмуся за яе! Паверце, прашу вас.

Кажучы, жанчына выціскае на секунду «слязу на спагаду». Але хутка і спрытна пачынае «новы этап пошукаў»:

— Вы (ведаю я, ведае й муж мой, а ён старшыня) ездзіце ў школы. Любіце рыбаліць на рэчках, на азёрах, у стаўка́х. А мы ж пры саменькім возеры. І рэчка блізка. Улетку вы — анікуды, а каб да нас. У майго ж старшыні дзве капронавыя сеці, адна 70, а другая 60 метраў. З трыгубіцамі ён — як з пяром. Паўхаты аддадзім вам на ўсё лецейка. Ціха ў нас, цянёк. Наша хата, наш сад, мабыць, за любы курорт

смачнейшыя. А рыбы!.. Якой толькі рыбы няма ў нас!

— Вы настаўніца? — пытаюся.

Спытаўся. Але мне ад гэтай старшыніхі адказу не трэба.

## БОЛЬ, ВЯЛІКІ БОЛЬ

«Няшчасная я ды страдная. За што ж ты, бог (калі ты ёсць бог), гэтак пакараў мяне? Нашто ж ты гэтак зрабіў? Пераж<ыла я сыночка свайго, перажыла я ўнучка свайго... Жыць ім на свеце белым, хадзіць ім па свеце. Няхай бы я раней на той свет пайшла. Няхай бы яны ацалелі. Які ж ты бог?..» — казала і паўтарала старая ці то суседзям, якіх не відаць было мне, ці то сама сабе. Адна яна, адзінокая.

Немцы, перамешаныя з уласаўцамі, ускочылі на світанку ў вёску, пахапалі кабаноў, кароў. Азваўся з узлеску толькі адзін стрэл — загрукалі нямецкія вінтоўкі, задудукалі нямецкія кулямёты, затрашчалі нямецкія аўтаматы.

І хавалі на могілках дваццаць падлеткаў і мужчын. Толькі з аднае вёскі. За адзін світанак «дваццаць душачак»...

Чуў я не раз за вайну і пасля яе балючую скаргу: матка перажыла сыноў, бабуля — унукаў...

## ГАСЦІНЦЫ

Іх — гасцінцы — любяць не толькі дзеці і нявесты... Гасцінцы ад душы, дзеля душы!

І ў газетах чытаем пра гасцінцы. Не раз, не два — як пра абра́зу: нячыстыя рукі, з нячыстых рук, ня-

чыстымі рукамі, у нячыстыя рукі. Чытаем гэтакае — як пра чужое, як пра падкінутае нядобрымі людзьмі, нядобрым светам.

А помніцца і ведаецца, бачыцца і ёсць зусім іншае. Наша. Колішняе, і сённяшняе, і заўтрашняе:

...Госць — нявольнік, ляжа — хоць у пярыну паложыш.

...Гастэла? Беларус Гасціла! Ён адтуль, дзе жылі, дзе жывуць гасцінныя Гасцілы, дзе вёскі, дзе (былі) хутары-сядзібы з назвамі Гасцілаўцы, Гасцілавічы...

...Пяць жніўняў радаваліся і тыя, хто прыязджаў з Мінска, і тыя, хто сустракаў гасцей у невялікай хаце каля Свіцязі.

Чытаю на паштоўцы віншаванне, чытаю пажаданні-зычэнні мне на 1982 год ад настаўніцкай сям'і, двух — немаладой яе, немаладога яго — былых падпольшчыкаў у вайну. Толькі адным сказам.

А далей: «Прыязджайце ў новым годзе, хоць сёння. Пасядзім, паўспамінаем і пачастуем вас малаком, падмарожаным салам».

Знаёмы старшыня калгаса з Гродзеншчыны, сумленны добры гаспадар. Ён прыехаў у сталіцу толькі на адзін дзень. Клопату ў яго — больш як па вушы: установы, установы і ўстановы, базы, базы і базы... А старшыня выкраіў гадзінку, завітаў па чарзе за гэту гадзінку да трох знаёмых мінчукоў. І кожнаму, пераступіўшы парог (прысесці няма калі), падаў загорнутую ў ручнік трэць-трацíну шырокага бохана. Чыста жытняга хлеба. З прасеянае мукі. З хлебнае дзяжы. З поду вясковае варыстае печы. Смачнага і пахкага-пахучага.

Сейбіт, хлебароб. Сейбітаў, хлебаробаў гасцінец.

Настаўніца з Палесся пасылае ў Мінск сына Віцю, з сынам «Вам, мой настаўнік, слоік мёду. Учора першы раз падглядзелі першую сваю пчаліную сямейку — вулей у садзе пад акном. А заўтра Віця едзе ў Ленінград, паступаць. Вялікі дзякуй Вам за кніжку».

Перад самым Майскім святам іду паўз інстытут, дзе працую. Усё адно як нешта пацягнула мяне... Зірнуў угору, на будынак, і ўбачыў: бліснула, адна з усіх, шыба на чацвёртым паверсе, стаіць яна ў раме — як бы абламаная, амаль упоперак. Ні думаць, ні разважаць, штó здарылася, хоць і мільганула: мабыць, не зачынілі акна, вецер ляснуў яго, шыба раскалолася, зрушылася і павісла над тратуарам... А па тратуары адны студэнты ідуць, другія — подбежкам, трэція бягуць, іх — густа.

Я спыніўся, мабілізаваў дзвюх студэнтак, і ўтраіх, паказваючы, прасілі тых, хто праходзіў, абмінаць «падмінную» плошчу пад тою шыбаю. Трэцюю студэнтку паслаў у інстытут, каб знайшла любога мужчыну, які працуе з малатком, з пілою, з гэблікам, і расказала пра шыбу на чацвёртым паверсе. Хвіліны праз тры-чатыры шыба паціху, павольна паехала... Пазнаваў: бралі шыбу ўмелыя, нетаропкія рукі. Можна ісці на лекцыю.

У дзвярах у інстытут мяне сустракае нехта знаёмы. Але хто? Ён падаў руку, назваў — не на канцылярскі лад — маё імя і сказаў, што каманду выканаў.

— Ці не Міша? Адкуль?

— І я ў інстытуце. Сталярýю.

— Даўно?

— Не. Вечарамі, пасля змены.

Пад свята — як гасцінец.

Міша, што некалі ў зямлянцы правяраў і папраўляў партызанскую зброю,— Міша зняў міну. Мы ўбачыліся, абняліся. Праз трыццаць пяць гадоў. Таксама гасцінец.

Гасцінцы, гасціны, гасцяваць, госці-госцейкі...
Гасцілаўцы і Гасцілавічы...
Гасціла і Гасцюта, Гасцята і Гасцюковіч...

Успомніліся і тыя шырокія, роўныя, дагледжаныя і абсаджаныя гасцінцы, што бягуць па беларускай зямлі. Па іх добра ездзіцца. Куды ні прыеду — на ўсёй Беларусі, ці блізка ад Мінска, ці далёка — добра гасцюецца.

## ЗМЕСТ

1

*Адно яно — полымя,*
*а другое — полымца.*
*Адно яно — спапялўе,*
*а другое — памілўе.*

З ананімнай паэмы «Бяда».
Глускі, раён, вёска Клетнае



2

*Добра,*
*калі сусед блізкі,*
*пералаз нізкі.*

Докшыцкі раён,
вёска Янкі

3

*Без людзей*
*ні нараджацца,*
*ні будавацца,*
*ні паміраць.*

Глускі раён,
вёска Барбароў



4

*І слова няма.*

Дзятлаўскі раён,
вёска Трахімавічы



5

*Не частуй*
*мяне ты піўцам,—*
*прывітай*
*ты шчырым слоўцам.*

Скідальскі раён,
вёска Бандары

## 6

*Яно б гарэла,*
*каб не карэла.*

Докшыцкі раён,
вёска Пустаселле



## 7

*Не забывайся, чалавеча,*
*запісаць,—*
*людзям будзе,*
*сам багацейшы станеш.*

Віленскі раён,
вёска Адамчукі

**Янкоўскі Ф.**

Я 60 І за гарою пакланюся: Апавяданні, абразкі, нарысы.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 238 с.

У пер.: 1 р.

У кнігу ўвайшлі творы, напісаныя аўтарам у апошні час.

Кожнае апавяданне, кожны абразок сагрэты любоўю да чалавека, да роднага слова, да роднай зямлі.

Я $\frac{4702120200-072}{М\ 302(05)-82}$ 32—82

ББК 84 Бел 7

Бел 2

*Федор Михайлович*
*ЯНКОВСКИЙ*

И ЗА ГОРОЮ ПОКЛОНЮСЬ

*Рассказы, зарисовки, очерки*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар* Е. А. Пяршай
*Мастак* Ю. К. Зайцаў
*Мастацкі рэдактар* М. Я. Янчук
*Тэхнічныя рэдактары* Т. М. Сокал, Л. М. Шлапо
*Карэктар* Т. В. Трубач

ІБ № 1586

Здадзена ў набор 04.11.81. Падп. да друку 09.04.82. АТ 06531. Фармат 84×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,50. Ум. фарб.-адб. 11,7. Ул.-выд. арк. 11,47. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2103. Цана 1 р. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.